# ПРАДМОВА

Гэтая кніжка пра Антона Шукелойця, пра падзеі ў ягоным жыцьці, здарэньні, сьведкам якіх ён быў і пра якія расказаў у нясьпешнай гаворцы. Апавяданьні запісваліся мной з перапынкамі з кастрычніка 2001 года па верасень 2003-га. Цяпер Антону Шукелойцю 88 гадоў, якія ён пражыў, пасьвяціўшыся Беларусі.

Антона Шукелойця, кіраўніка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на эміграцыі, ведаюць усе, і ва ўсіх ён карыстаецца нязьменнай павагай. Ягоныя паводзіны ў беларускім грамадзтве за мяжой ёсьць эталон беларускага народнага шляхецтва — пастава простая, дабразычлівая і разумная.

Некалі ў Ашмянах, за праваслаўнымі могілкамі на ўскраіне поля, дзе былі пахаваныя паўстанцы 1863 года, стаяў крыж. Там, на лавачцы ля крыжа, часта зьбіраліся гімназісты, марылі пра будучыню і натхняліся гераізмам народнай гісторыі. Сярод гімназістаў быў малады Антось Шукелойць. У гэтую якраз пару ён улучыўся ў палітыку і потым сам сабе скажа, што жыць трэба — для Беларусі.

Знаёмы матыў, паэтычна асэнсаваны Ларысай Геніюш. Бо гэта матыў эпохі, сьветапогляд Адраджэньня, погляд цэлага беларускага пакаленьня. Выбітага, выстраленага, згноенага ў турмах ГУЛАГу.

Тыя, што перажылі навалу, выратаваліся і апынуліся ў эміграцыі, стварылі за мяжой беларускую літаратуру — ідэёвы грунт нацыянальнага Адраджэньня, зьберагглі беларускую культуру, мову і веру, сфармавалі палітычныя арганізацыі і сцьвердзілі беларускую незалежніцкую палітыку.

Але нашая гутарка тут — пакуль што не пра эміграцыю, а пра тую, ужо далёкую пару, якую цяпер мала хто памятае. Антон Шукелойць разважае пра падзеі 1930-1940-х гадоў, якія гэтак перакручаныя, сфальшаваныя і замоўчаныя вечнымі ворагамі Беларусі. А. Шукелойць быў назіральнікам і непасрэдным удзельнікам палітычных плыняў і падзеяў нядаўняй беларускай гісторыі. Яго і паслухаем.

***Зянон Пазьняк***

# УСТУП. УСПАМІН ПРА ПЕРАКЛАДЧЫКА «ПАРСІВАЛЯ»

***З. Пазьняк:*** — Напачатку адыйдзем трохі ад храналёгіі і пагаворым пра зьявы малавядомыя, але цікавыя для падзеяў літаратуры. Ці маглі б Вы расказаць пра ***Леаніда Галяка***, які ў 1947-м годзе пераклаў *„Парсіваля”.*

***А. Шукелойць:*** — Гэта мой прыяцель з часоў нямецкай акупацыі, мы разам жылі, займалі адзін дом, карысталіся адным сталом. Гэта значыць утрымоўвалі адну гаспадыню, якая нам варыла абед тады, калі мы дзень праводзілі на працы. Хто такі Галяк? Па паходжаньню іхная сям'я зь Лідчыны. Бацька ягоны быў чыноўнікам, па-мойму, на пошце. І потым ён так і застаўся за польскіх часоў, працаваў ў Вільні на пошце.

У яго было двое дзяцей. Гэта Леанід Галяк і ягоная малодшая сястра, якая пасьля выйшла замуж за нямецкага афіцэра і выехала, недзе жыве цяпер ў Амэрыцы, у паўдзённых штатах.

Галяк вучыўся ў беларускай гімназіі ў Вільні, хаця пасьля (з увагі на тое, што беларуская гімназія ня мела дзяржаўных правоў) ён перайшоў у польскую гімназію Зыгмунта Аўгуста, яе закончыў і паступіў на ўнівэрсітэт на юрыдычны факультэт. Будучы на ўнівэрсітэце, ён належыў да ***Беларускага Студэнцкага Саюзу***, але недзе, здаецца, у 1933-м годзе група студэнтаў Беларускага Студэнцкага Саюзу з такімі ***Кастусём Глінскім*** і ***Яўгенам Бартулём*** на чале вырашылі ўтварыць карпарацыю Скарыны. І вось Галяк быў разам з Глінскім. Карпарацыя Скарыны праіснавала нешта тры гады і была потым ўнівэрсітэтам *„*разьвязаная*”*. Аб гэтай арганізацыі трэба б было гаварыць асобна.

Пры гэтай нагодзе хачу сказаць, што ***Радаслаў Астроўскі*** (тады дырэктар беларускай гімназіі) зрабіў такі крок у час працэсу Грамады, што яны пайшлі на супрацоўніцтва з палякамі. Але не дарма, ня так, як цяпер некаторыя там, на Беларусі, ідуць. За гэта палякі паабяцалі прымаць нашых юрыстых пасьля сканчэньня ўнівэрсітэту на дзяржаўныя працы, гэта значыць у суды, у адміністрацыю, адвакатуру і гэтак далей. І вось, карыстаючы з гэтай магчымасьці, група студэнтаў (чалавек, можа, з дваццаць, у аснаўным юрысты, каторыя канчалі ўнівэрсітэт) выйшлі зь Беларускага Студэнцкага Саюзу (ці, можа, іх выкінулі, бо яны хацелі быць і там, і там) і ўтварылі гэтую арганізацыю Скарыны, якая была падтрыманая польскім урадам. На чале гэтай арганізацыі стаяў, як я ўжо казаў, Кастусь Глінскі. Ён потым быў суддзёй, трапіў, здаецца, у ссылку і з арміяй ***Андэрса***, выехаў. Памёр у Англіі. У Англіі ён быў у нашай грамадзе.

Глінскі паходзіў зь вельмі багатай гаспадарскай сям'і, па-мойму, з Браслаўшчыны. А Яўген Бартуль, гэта другая асоба, ён паэт, вельмі здольны быў чалавек, паходзіў з Латгаліі (зь беларускіх Інфлянтаў), так, як наш ***Францішак Бартуль***, нават ягоны, відаць, нейкі далёкі сваяк.

Тады Галяк, скончыўшы ўнівэрсітэт, адбыў трохгадовую практыку ў судзе і мог бы быць прызначаны суддзёй, але ён хацеў быць адвакатам. І дзеля гэтага потым дамовіўся з адным зь віленскіх адвакатаў. Трэба было йшчэ пару гадоў адбыць так званай адвакацкай аплікантуры. Так што Галяк — адзін з найбольш адукаваных нашых юрыстаў, якія былі ў час нямецкай акупацыі. Ён хацеў мець вольную прафэсію, і таму йшчэ трэба было йсьці на аплікантуру да нейкага адваката, што ён і зрабіў.

У акупаваны немцамі Менск ён зьявіўся ў сувязі з тым, што Астроўскі ўзначаліў галоўную адміністрацыю Менскай акругі (наогул, Беларусі ў той час). Ягоныя людзі (гэтыя ягоныя знаёмыя, цэлы шэраг юрыстых) прыехалі ў Менск працаваць у сваіх прафэсіях.

У Менску Галяк быў суддзёй Акруговага суду. Вельмі высока цэнены як суддзя, і калі немцы думалі ўтварыць юрыдычны інстытут (бо ім патрэбныя былі юрысты для мяйсцовых судоў), то якраз Галяка ў 1944-м годзе прызначылі рэктарам інстытуту. У друку ўжо была абвестка

пра набор студэнтаў у гэты інстытут. Аднак Менск неўзабаве занялі расейцы.

Пасьля гэтага Галяк выехаў (мы выехалі разам) на эміграцыю, толькі што я быў апынуўся ў амэрыканскай зоне, а ён у ангельскай, у беларускім лягеры Ватэнштэт.

У лягеры была беларуская гімназія. Ён там, магчыма, нешта выкладаў у гімназіі. Наагул, ён быў чалавек вельмі шырокага дыяпазону ведаў. Добра валодаў нямецкай мовай, у яго былі грунтоўныя веды ў фізіцы, у хіміі, у розных дзялянках, што ня вельмі зьвязаныя былі зь юрыдычнай адукацыяй.


(рэпрадукцыя)

***Леанід Галяк***

***З. Пазьняк:*** — Ці цікавіўся Галяк літаратурай?

***А. Шукелойць:*** — Дакладна ня ведама. Перакладамі ў Ватэнштэце займаліся ў асноўным ***В. Тумаш, Хв. Ільяшэвіч*** і ***Л. Галяк***. Перакладалі *Свіфта («Гулівера»)* і іншых пісьменьнікаў. У Л. Галяка была думка з Тумашам перакласьці Біблію на беларускую мову. І яны нейкія часткі Бібліі пераклалі.

Прыехаўшы сюды, у Нью-Ёрк, яны гэтую задумку далей працягвалі. Навязалі кантакт з выдатным нашым баптысцкім дзеячом ***Данілам Яськом***, таму што патрэбны быў для перакладу *Бібліі* нехта, хто б ведаў добра габрэйскую мову. І сярод баптыстых быў такі выдатны знаток усходніх моваў, гэта валыняк ***Марцінкоўскі***. Ён быў прафэсарам ці дацэнтам Пецярбургскага ўнівэрсітэту. Марцінкоўскі згадзіўся быў узначаліць пераклад Бібліі. Але ў гэтым часе доктар ***Янка Станкевіч*** зьвязаўся таксама зь іншай групай бабтыстых, і тыя яму дапамаглі. Адным словам, забралі ад Галяка і Тумаша гэтую справу і даручылі Янку Станкевічу. Такая вось была канкурэнцыя.

Што датычыць палітычнай арыентацыі, то Галяк належыў да Рады БНР ад самага пачатку.

***З. Пазьняк:*** — Ці ведалі вы што пра пераклад *„Парсіваля”*, які Галяк зрабіў у 1947-м годзе?

***А. Шукелойць:*** — Я бачыў гэты пераклад *„Парсіваля”*, і нават, здаецца, маю яго. Гэта ён зрабіў у Ватэнштэце. Там вельмі шмат што перакладалі, зь нямецкай мовы і на нямецкую мову. Рознае. Група такая была, што добра ведалі мову. І Тумаш нямецкую мову добра ведаў. Ён перакладаў Багдановіча.

***З. Пазьняк:*** — Галяк з Тумашам былі ў добрых адносінах?

***А. Шукелойць:*** — У добрых адносінах. Мы прыехалі сюды ў Амэрыку, то якраз у Галяка затрымаліся: я, Тумаш і Адамовіч.

***З. Пазьняк:*** — Што вы скажаце пра палітычныя погляды Галяка?

***А. Шукелойць:*** — Палітычных поглядаў ён быў усё ж правых. Не сацыялістычнага кірунку. У часы нямецкай акупацыі ён адыграў актыўную ролю у аднаўленьні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, вельмі актыўную. Юрыдычныя асновы — гэта ўсе ён рыхтаваў разам з яшчэ адным суддзём.

***З. Пазьняк:*** — Ён па паходжаньні быў з каталікоў ці з праваслаўных?

***А. Шукелойць:*** — Го-о, гэта вельмі цікава. Ён па паходжаньні быў праваслаўны. У сям'і ягонай былі і каталікі. Галякі паходзяць з шляхты. Гэта шляхта. Ён расказваў мне пра сваю бабку (любіў расказваць часта), пра каталічку. Дзед быў праваслаўны, і хацеў навярнуць гэтую сваю жонку на праваслаўе. Яна не давалася. Урэшце захварэла. Хварэе гэтак, і прыехаў да яе сьвятар праваслаўны і такой царкоўна-славянскай мовай кажа: *„Слушай, да ты бы отреклася б от этой католической ересі.”*

А яна, кажа, толькі на ложку, як ляжала, задком да яго павярнулася — і ўсё, на гэтым скончылася.

Так што Галяк паходзіў з такой мяшанай сям'і, хаця сам лічыўся праваслаўным.

Памёр Галяк у Нью-Ёрку. Ягоная жонка йшчэ жыве.

***З. Пазьняк:*** — Я знайшоў ягоны пераклад „Парсіваля" ў беларускай Кірыла-Тураўскай царкве ў Брукліне на Атлянтык-эвеню. Дагэтуль я ня ведаў нават пра існаваньне такога перакладу. Мяне ўразіў сам факт, што палітык, здавалася б, далёкі ад літаратуры, пераклаў вялікі твор эўрапейскага пісьменства, які зьвязаны з кантэкстам эўрапейскай культуры. Праўда, Івонка Сурвіла* мне казала, што былі сярод беларусаў потым закіды, асабліва што да мовы ягонага перакладу. І яно не без падставы. Цяпер я ўзяў на сябе грэх пры паўторным выданьні крыху паправіць мову перакладчыка (інакш нельга было).

Але другое, што мяне ўразіла — гэта тое, што пераклад *„Парсіваля"*, фактычна, ніяк не адлюстраваўся ў беларускай культуры. Праца Леаніда Галяка правалілася, нібы ў багну. Нібы яе не было. (Хоць, як мне вядома, кніжкі раздавалі тады па беларускіх школах у Нямеччыне.)

Гэта найбольш мяне падштурхнула выдаць ягоны пераклад *„Парсіваля"* цяпер у *„Беларускіх Ведамасьцях"*, каб, так бы мовячы, паправіць няшчасьце гісторыі і ўвесьці *„Парсіваля"* ва ўжытак беларускай літаратуры [1].

Наклад атрымаўся невялікі (дзесьці каля паўтары тысячы асобнікаў) і амаль увесь ён *„паехаў"* на Беларусь. Пры гэтым, улічваючы цяперашнія цяжкасьці, створаныя для беларускай культуры, я разаслаў пераклад індывідуальна ста сямідзесяці асобам творчай і навуковай эліты: беларускім пісьменьнікам, паэтам, літаратурным крытыкам, навукоўцам, журналістам, мастакам і г.д.

Я быў перакананы, што з-за савецкай цэнзуры, ад якой раней цярпела ўся наша культура, мала хто зь іх да гэтага мог прачытаць *„Парсіваля"* – твор рамантычны, сьветлы, аптымістычны і павучальны, у якім адлюстраваны сэнс духоўных шуканьняў чалавека.

Мінуў год. Штыль. Поўная абсалютная цішыня. Нідзе ні літары, ні слоўца, ні гуку. Гэта (ужо ў трэці раз) мяне ўразіла найбольш. Ня ведаю, ці тут адбіваецца цяперашні бядотны стан беларускай літаратуры, ці стан беларускага духу, але факт ёсьць факт: *„Парсіваль"* для беларусаў не існуе. І таму невясёлыя меркаваньні прыходзяць у галаву.

Леанід Галяк быў, на маю думку, высокай беларускай асобай, ён меў узровень думаньня, калі ўзяўся за пераклад *„Парсіваля"* і ведаў, што павінен рабіць.

***А. Шукелойць:*** — Безумоўна, гэта была постаць. У іншых умовах ён бы мог шмат больш зрабіць для Беларусі.


(Фота З. Пазьняка)

***Антон Шукелойць***

Пра Галяка яшчэ памятаю такі факт. Калі ён скончыў аплікантуру і стараўся пайсьці ў суд, то акруговы суддзя ў Вільні, Крычынскі, з паходжаньня татарын, яму кажа, што ты, маўляў, зьмяні сваю нацыянальнасьць. „Пішашся беларусам, ну хто цябе прыме, — кажа. — Вось мы ж татары, мусульмане, а лічымся палякамі — і ўсюды на высокіх становішчах."

Але Галяк не пайшоў на гэта.

***З. Пазьняк:*** — Тыповая прыкмета акупацыі. Беларусы на сваёй зямлі не маглі займаць пасады.

***А. Шукелойць:*** — Тады былі такія паняцьці. Улада была не беларуская. ■

* Выданьне перакладу Л. Галяка ў Ватэнштэце зрабіў Янка Сурвіла.

# ЮНАЦТВА. ЗАБРАНЫ КРАЙ

***З. Пазьняк:*** — Пачнем канцэптуальна: год нараджэньня, дзяцінства, месца, бацькі, як усё разьвівалася.

***А. Шукелойць:*** — Так што нарадзіўся я па старым стылі 6-га ліпеня (па новым — 19 ліпеня) 1915 года ў *вёсцы Якелеўшчына*. Гэта маленькая вёсачка была, тры ўчасткі зямлі, на якіх граф музыкаў тады мала было, а вясельлі былі доўгія, так што дзед мой у хаце праводзіў толькі прыблізна два дні ў тыдні. А так ён як выйшаў граць, то ў пятніцу ўжо паехаў вечарам. Суботу, нядзелю, панядзелак граў. Потым аўторак — да маладой і вяртаўся толькі ўжо зноў у сераду і чацьвер. Граў без канца. Нават бацька расказваў,



***Бацька Антона Шукелойця (таксама Антон) і маці Бенедыкта ля старой прадзедаўскай хаты, пабудаванай яшчэ ў XVIII стагоддзі. Здымак пэрыяду 1-й Сусьветнай вайны.***

***Чапскі*** гэтых людзей пасадзіў чамусьці ў садзе. У мяйсцовасьці гэтай адзін з агароднікаў рыхтаваў прышчэпы дрэваў. Называўся ён Якей, таму і мясцовасьць гэтая, і вёска потым ягонае імя мела — Якелеўшчына. Гэта ад Ашмянаў, калі па простай лініі лічыць, дык 8 кілёмэтраў, ад Жупранаў — 2.

Дзяды мае былі музыканты. Дзед мой непасрэдна — *Базыль Шукелойць*, іграў на скрыпцы. Два ягоныя браты, Юрка і Язэп, igралі на цымбалах і на басэтлі. З расказу майго бацькі, што ў гэтай хаце музыка не пераставала і на Вялікі пост. Бо на Вялікі пост (гэта ж у тыя часы вельмі сурова прытрымліваліся пастоў) ксяндзы прысылалі дзеду майму розных сьляпых, каб іх вучыў іграць, каб яны маглі потым скрыпкай зарабіць сабе на кавалак хлеба.

Бацька мой, таксама Антось, па лініі музыкаў не пайшоў. І скончыў такую дырэктарскую школу, чатырохгадовую, якая давала яму даволі добрую асьвету, як ён казаў. І з цэлымі лікамі, і з дробамі ўмеў матэматыку рабіць. У войска

пайшоў у артылерыю. Там яго прынялі зноў у нейкую вайсковую школу і яшчэ падцягнулі. У войску ён быў 7 гадоў, бо якраз настала вайна Расеі зь Японіяй, так што адваяваў вайну, йшчэ крыж Георгіеўскі атрымаў. І ўсё, дахаты ён не вярнуўся.

Ягоны сябра ***Казімір Мінцэвіч*** з такой жа вёсачкі (ад нас недалёка), што называлася ўжо *Засьценкам* (сам ён быў арганісты, вывучыўся на арганістага, таксама саматугам нейкім), уладзіўся ў Петраградзе. Спачатку там пры нейкай краме мясной, а потым ажаніўся з гаспадыняй гэтай крамы і стаў уласьнікам мясной фабрычкі. Ён запрасіў майго бацьку ў Петраград, і разам яны разгарнулі гэты бізнэс. Мелі, апрача гэтай фабрычкі ў Петраградзе на вуглу Гарохавай і Садовай вуліцаў, яшчэ чатыры крамы. І так дажылі яны аж да 1-й Сусьветнай вайны, калі майго бацьку зноў паклікалі ў войска. У Петраград ён ужо не вярнуўся.

Жаніўся ён яшчэ ў Петраградзе. Жонка ягоная (мая маці) з Браслаўшчыны *Пецюкевічанка*, ***Бенедыкта Пецюкевіч***, далёкая сваячка гэтага ведамага беларускага дзеяча ў Беласточчыне ***Мар'яна Пецюкевіча***, паходзіла з той самай вёскі *Цяцеркі*. Іхная цэлая сям'я маладых (там два браты, тры сястры) былі тады ў Петраградзе.

Беларуская сьведамасьць маіх бацькоў паходзіць з Петраграду. У нас наагул ня пішацца аб тым, што ў Петраградзе, апрача *прафэсара* ***Шыпілы,*** ягоных вучняў, ксяндзоў гэтых беларускіх, акадэмікаў і такіх асобаў, як ***Тарашкевіч*** і ***Янка Купала***, там жа ж была маса беларуская, маса работнікаў на розных фабрыках, маса жанчын, якія працавалі на розных працах. Петраград — гэта быў ня толькі для беларускай інтэлігенцыі такім цэнтральным месцам, але таксама для беларускіх працоўных масаў. І вось там у выніку гэтых вечароў розных, сустрэчаў, тэатру *Буйніцкага*, і выступленьняў *Купалы* ды *Шыпілы*, набіралі людзі сьведамасьці і вярталіся на Беларусь ужо сьведамымі беларусамі. Многія зь іх — сьведамымі дзеячамі, якія потым прымалі ўдзел у адраджэньні заходняй Беларусі.

# Пачаткі

***А. Шукелойць:*** — Цяпер навука. Цікавы выпадак хацеў бы расказаць, як мне першы раз у галаву асела беларускасьць. Гэта выбары ў Віленскі Сойм, Соймік ці Сойм, які прыняў рашэньне аб ліквідацыі сярэдняй Літвы і далучэньні да Польшчы. І вось мой бацька і дзядзька паехалі ў Куцевічы (гэта мейсца нашае гміны) на такі мітынг у гэтай справе. Беларусы тады стаялі на пазыцыі байкоту выбараў. Байкатавалі. Тады ў Барунах быў адзін зь ведмых беларускіх дзеячоў, *ксёндз* ***Міхал Пятроўскі*** такі. І вось гэты ксёндз Пятроўскі, выступаючы, кажа: *„*Слухайце, у нас, дай Бог, каб каровы штогод цяліліся, якога тут уцяленьня гэтыя палякі хочуць ад нас*"*. А гэта справа йшла аб *„*вцеленіі*"**** Віленшчыны да Польшчы. Ну, у нас усе рассьмяяліся, і мне гэта так села ў галаву.

Другая беларушчына такая, што мне засела ў сьведамасьці, гэта я, можа, гады чатыры меў. Да нас з суседняй вёсачкі прыходзіла заўсёды на нядзелю дачка аднаго з братоў бацькі, які загінуў у выпадку ў лесе. Яна ўжо пайшла ў школу, у польскую, зразумела. Ну і навучылася нейкага вершыка, прыйшла і ўсё дзеду хацела пахваліцца, што ўмее польскі верш. І пачынае гаварыць. А дзед мой: *„*У маёй хаце ня пшыкаць! Тут трэба гаварыць папросту.*"* Так што мы ўсе абселі. На польскай мове у хаце нас больш ужо ніхто ня чуў.

Пачаў я вучыцца. Сарганізавалі дырэктарскую школку. На дырэктара прасілі такога Талочку, што закончыў у Ашмяне гарадзкое вучылішча. Вось ён там нас вучыў такім старым спосабам, значыць. Пацеры спачатку трэба было гаварыць, пасьля пераходзілі на лемантар чытаць. Пісалі праўдзівымі пёрамі. Гэта значыць, трэба было навучыцца пяро гэтае гусінае завастрыць. Такія пачаткі мае былі ў гэтай дырэктарскай школе.

Затым я пайшоў ужо ў Жупраны ў пачатковую польскую школу. Дырэктарская школка таксама, фактычна, была польская. Па-польску вучылі чытаць, а астатняе ўсё йшло па-беларуску: гутарка дырэктарская, прыклады і г.д.

---

*  Wcielenie — уключэньне, далучэньне, інкарпарацыя (*польск.*)

У Жупранах я трапіў у першы кляс. Тут быў ужо польскі настаўнік ***Ян Сташынскі***, які скончыў сэмінарыю. Ён з намі пачаў спачатку на скрыпцы граць, кантраляваў, які ў нас слых, якія здольнасьці музычныя. Пасьля мы ляпілі з гліны. Так ён пачынаў гэтую асьвету, згодна з тагачаснай польскай пачатковай мэтодыкай.

***З. Пазьняк:*** — У якім годзе гэта было?

***А. Шукелойць:*** — У дырэктарскую школку я пайшоў у 1923-м годзе, а ў польскую — ў 24-м.

Дык вось гэты настаўнік Ян доўга мяне там у першым клясе не трымаў і перавёў у другі кляс. Так што я за першы год скончыў два клясы. Пасьля ў трэці кляс перайшоў. Там другі настаўнік быў, эмігрант, паходзіў з Полаччыны, ***Антон Чарнэцкі***. Там я ізноў да паўгоду быў у трэцім клясе, потым перавялі мяне ў чацьвёрты. Так што я за два гады закончыў чатыры клясы пачатковай школы.

З гэтых школьных часоў йшчэ на адну рэч хачу зьвярнуць увагу, яна са мной таксама жыла доўгія гады. Гэта калі я быў у першым клясе, недзе пад зіму ўжо, позьняй восеньню, памерла графіня. Яна з дому была *Радзівілянка*. І вось школа вырашыла сарганізаваць хор, і ў гэты хор гэты самы настаўнік мой, Ян, паклікаў мяне. Так што я ад першай клясы пачатковай школы і аж да заканчэньня ўнівэрсітэту быў у хоры. (Пазьней у Шырмы.)

***З. Пазьняк:*** — Дык кажаце, графіня была з дому Радзівілаў?

***А. Шукелойць:*** — Ага, графіня ***Чапская*** з дому ***Радзівілаў***. *У Жупранах* іхны касьцёл пабудаваны графам ***Чапскім***, і там яны й пахаваныя.

Цяпер, як я трапіў у гімназію. Вырашыў я ісьці, як бацькі вырашылі, у 5-ы кляс пачатковай школы. А потым пайду ў настаўніцкую сэмінарыю, буду настаўнікам. І ўжо дагаварыліся. Восень прыйшла, і я рыхтуюся ў гэты 5 кляс. Дапамагаю бацьку гараць: ваджу коней, а бацька ходзе за плугам. Пагода прыгожая. Аднае суботы бацька падсунуў плуг пад корань (бо гаралі ў лесе пасеку, якую бацька вырабляў) і зламаў нарог. Вырашыў пайсьці ў Жупраны да каваля, каб гэты нарог паправіць і дакончыць работу да нядзелі. А мяне пакінуў коней пасьціць. Тым часам бацька, выйшаўшы на дарогу, спаткаў чалавека. Інтэлігентны спадар едзе маленькай павозачкай, і ў яго папсавалася кола. Ён зьлез і мучыцца каля гэтага ваза. Бацька падышоў, яму дапамог і ў гэтым часе разгаварыўся. Аказываецца, што гэты чалавек — заступнік дырэктара гімназіі, прафэсар ***Аляксандар Сікорскі***, які едзе з Ашмяны да сваіх бацькоў у Смаргоні. Там ягоны бацька фэльчар.


Do spraw szkolnych

z roku 1915

Wyciąg metryczny

z księgi chrzstów Żupranskiego rzym. katol. parafjalnego kościoła, Dieccezji Wileńskiej.

Roku 1915 miesiąca lipca dnia 12 ochrzczono niemówlę imieniem Antoni, urodzone roku tysiąc dziewięćset piętnastego (1915) miesiąca ... dnia szóstego (6) ... małżonków ślubnych Antoniego i Benedykty z Piciukiewiczów Szukielojciów we wsi Jakielowszczyznie

Wiarogodność powyższego wyciągu podpisem i odciskiem kościelnej pieczęci stwierdzam

w Żuprany dnia 26 sierpnia roku 1926

Proboszcz Kościoła Żupranskiego

№ 531

***Вынятак мэтрычнага запісу з кнігі хрышчэньняў Жупранскага касьцёла.***

Ну і бацька расказаў, што вось мае такога сына, які скончыў 4 клясы за два гады. Гэты заступнік дырэктара кажа: „Нашто яго трымаць у пачатковай школе? Аддавайце да нас у гімназію, йшчэ ёсьць пара мейсцаў. Вось у гэтым годзе, едзь, адразу ў панядзелак.*”* Ну і так напісаў ён запіску да дырэктара, а бацька, вярнуўшыся да коней, кажа мне: „Распрагай, трэба рыхтавацца ў гімназію.*”*

Ну й так мы. Гэта ж субота, у нядзелю трэба было мэтрыкі выбраць, дакуманты, фатаграфіі — усё. У панядзелак я паехаў у гімназію з запіскай, адразу на дадатковы іспыт. Здаў гэты іспыт, прынялі мяне ў гімназію ў 26-м годзе. І так я стаў вучнем польскай дзяржаўнай гімназіі ў Ашмяне і закончыў яе ў 1935 годзе.

# Гімназія

***З. Пазьняк:*** — Адносна гімназіі маю некалькі пытаньняў. Які ідэйны і палітычны ўплыў зрабіла гімназія на вашую асобу? Якая была там атмасфэра? Чаму яна спрыяла, хто былі гімназісты і пэдагогі, якая там была вучоба, што за жыцьцё, якое цяпер нам мала вядомае?

***А. Шукелойць:*** — Гэта была польская дзяржаўная гімназія гуманістычнага тыпу (гэта значыць, з лацінай і мовамі). Дырэктарам гімназіі быў мяйсцовы ашмянскі шляхціц такі з Цялешышак — невялікай ваколіцы шляхецкай — ***Антон Лакуцьеўскі***. Відаць, здольны чалавек быў, закончыў Пецярбургскі ўнівэрсітэт, матэматычна-фізічны факультэт. Ён жа быў выбраны маршалкам Віленскага Сойму, які далучыў Віленшчыну да Польшчы. Вось такое ягонае палітычнае крэда.

Бацька і дзядзькі мае, якія палітыкай займаліся ў тыя бурныя часы Першай Сусьветнай вайны і рэвалюцыі, ведалі яго зь ягоных выступленьняў як паляка і польскага патрыёта.

Людзі шляхецкага паходжаньня гэтакага ўзроўню, ці нават вышэйшага, многія лічылі сябе беларусамі, у тым ліку і чалавек, які зрабіў найбольшы ўплыў на мяне і на маё палітычнае крэда. Гэта ***Аляксандар Барановіч***, шляхціц, таксама з гэрбам. Бацька ягоны быў кіраўніком (маршалкам) шляхты Ашмяншчыны (гэта *„прэдвадзіцель дваранства”*, па-руску). Ён быў юрыст, закончыў Віленскую гімназію разам недзе там з Фэліксам Дзяржынскім. У гэтым часе належыў да гэтай самай партыі (гэта значыць, яшчэ *Літоўскай сацыялістычнай партыі*, на чале якой стаяў *Тамашэвіч*). Гэта йшчэ часы былі перад тым, як утварылася ППС і расейская сацыял-дэмакратыя. (Гэта такі ў мяне, як сказаць, ускок, бо пра гімназію я не забыўся.)

***З. Пазьняк:*** — Таксама раскажыце пра структуру гімназіі, сацыяльны і нацыянальны склад гімназістаў.

***А. Шукелойць:*** — Першыя гады ў гімназіі — гэта значыць 1-ы, 2-і, 3-і клясы — былі вельмі цяжкія, бо ж трэба было добра апанаваць польскую мову. Польская мова была для мяне чужой: у хаце беларуская мова, усюды беларуская мова. І вось тут польскую мову трэба было добра ведаць. І таму першыя тры гады даліся мне ў знакі. Кватараваў я ў беднай такой сям’і, у знаёмых бацькі з часоў нямецкай акупацыі, тады, калі бацька загадваў вялікім маёнткам Латавічы графа Чапскага. А ягоным памагатым быў там адзін такі работнік. Дык вось я ў іх уладзіўся жыць першыя гады, у такой беднай хаце, дзе нас усё ж аж трох вучняў жыло ў адным пакоі. І гаспадыня гэта варыла нам такую сьціплую сялянскую яду.

Чацьвёрты кляс гімназіі — гэта ўжо, ведаеце, пэрыяд дасьпяваньня чалавека. Тут прыходзіла лаціна, апрача французскай і нямецкай моваў, якія ў гімназіі вывучалі. Яна вельмі шмат давала ня толькі як мова, але й як гісторыя старыны, як азначэньне клясычнай культуры. Потым прыходзіў 5-ы кляс, ізноў з лацінай, зь літаратурай сусьветнай і польскай. У 5-м клясе вучням дазвалялася ўступаць у розныя арганізацыі, якія былі ў гімназіі. І там, сярод гэтых арганізацыяў, у нас была вельмі цікавая. Гэта „Кола філярэтаў”, на ўзор вось тых знакамітых філярэтаў Віленскага ўнівэрсітэту. Кожную нядзелю вучні зьбіраліся, нехта з вучняў чытаў рэфэрат, дыскусія была. Гэтае *Кола філярэтаў* дапамагала, дапаўняла выхаваньне вучняў гімназіі.

Настаўнікі, якія таксама прымалі ўдзел у *Коле філярэтаў*, часта выступалі з дакладамі. Былі апрача гэтага розныя сэкцыі, сэкцыя прыгожай мовы, якую вёў ксёндз, бо ж тады гучнамоўцаў не было, — трэба было ўмець валодаць голасам, каб выступаць, і горлам валодаць. І тыя, што мелі намеры і думалі выступаць, яны гэтай тэхніцы вучыліся. У *Коле філярэтаў* вучыў нас гэтаму ксёндз ***Грамс***. Выдатны прамоўца, патрапіў у вялікім касьцёле гаварыць, а чуць ягоную мову было ўсюды.

З гэтага *Кола філярэтаў* выходзілі ўжо людзі палітычна падрыхтаваныя. Сярод іх з нашай гімназіі выйшаў адзін з найвыдатнейшых вучняў, найвыбітнейшы з палітычных дзеячоў Віленскага ўнівэрсітэту — ***Гэнрык Дэмбіньскі***, левага кірунку чалавек, які ў час народных фронтаў



(Фота А. Сталярова)

*Ашмяны, цэнтар. 2002 год.*

прымкнуў да бальшавікоў. Здабыў вялікаю асьвету, быў доктар права, здаецца, ці не ў Італію вучыцца езьдзіў. Яго забілі немцы ў час акупацыі у першых недзе месяцах ў Ганцавічах.

***З. Пазьняк:*** — Ці былі якія-небудзь непаразуменьні паміж гімназістамі адносна нацыянальнай арыентацыі, адносна ідэёвасьці, адносна ацэнкі нейкіх падзеяў маральнага ці палітычнага кшталту? Ці былі спрэчкі, дыскусіі, канфлікты?

***А. Шукелойць:*** — Я мушу сказаць, што на працягу ўсяго майго бываньня ў гімназіі ніхто мне не зьвярнуў увагу, ніколі не сказаў, што якой я нацыянальнасьці ці якога я паходжаньня. Фактычна, польская гімназія з'арыентаваная была на шляхту, яна рыхтавала людзей аднолькавага ўзроўню, абапіралася на гэтую спаланізаваную шляхту.

***З. Пазьняк:*** — Ці гаварылі беларусы са шляхты ў гімназіі па-беларуску, значыцца, у сьценах гімназіі?

***А. Шукелойць:*** — Тыя, што пачуваліся беларусамі, так. А потым мы, ужо група цэлая, недзе ў 6-м, 7-м клясе гаварылі па-беларуску між сабой.

***З. Пазьняк:*** — А калі чулі гэта пэдагогі альбо людзі, з'арыентаваныя на польскія шавіністычныя ідэі, ці не выяўлялі яны якога-небудзь незадавальненьня, ці рабілі якія-небудзь заўвагі?

***А. Шукелойць:*** — Не было такіх заўвагаў, але адносна нашага палітычнага становішча ў гімназіі — гэта я буду гаварыць асобна.

Вось у гэтым самым *Коле філярэтаў* у выніку дыскусіяў, рэфэратаў, абмену думак, ужо выяўляліся погляды вучняў. І, скажам, недзе ў 6-м, 7-м клясе ўжо былі вучні акрэсьленага палітычнага пагляду. У асноўным вызначаліся, гэта выразна, на сацыялістычны кірунак. Я мушу сказаць, што ў Польшчы сацыялістычны кірунак — гэта ППС, гэта не камуністычны кірунак, а патрыятычны, які ў вялікай меры прычыніўся да здабыцьця незалежнасьці Польшчы. Так што кірунак сацыялістычны выразна вылучаўся. І таксама кірунак такі нацыяналістычны, з'арыентаваны з каталіцкім касьцёлам і каталіцкім клерам. Гэтыя два кірункі вельмі выразна ўжо выяўляліся. У старэйшых клясах ужо хлопцы выказвалі свае думкі, грамадзкія сімпатыі і бралі нават ўдзел у палітычным руху (нелегальна).

Што да нас, беларусаў, то група такая выявілася

ў нашым клясе, чалавек пяць. Гэта ***Барановіча*** сын, я, такі ***Шчэпановіч*** быў (сын гаспадара вялікага фальварку), йшчэ пара асобаў, якія выразна сталі на грунт беларускага змаганьня за незалежнасьць Беларусі, навязалі кантакт з Вільняй і зь віленскімі арганізацыямі.

Першая такая мая паездка ў Вільню была ў Беларускі музэй (гэта ў сувязі з тым, што мы хацелі арганізаваць угодкі Слуцкага паўстаньня).

***З. Пазьняк:*** — У гімназіі хацелі арганізаваць?

***А. Шукелойць:*** — Не, ужо навонкі з сваёй моладдзю, не ў гімназіі. Я шмат чытаў, цікавіўся, пастараўся ўвайсьці ў добрыя дачыненьні з настаўнікам польскай мовы. А ён сам некалі быў актарам. Я някепска дэклямаваў, так што ў яго добрую меў рэпутацыю. Улез у бібліятэку гімназіяльную, бо ён быў кіраўніком бібліятэкі і там заўсёды некалькі вучняў яму ў помач было. Гэта дало мне магчымасьць карыстацца ня толькі звычайнай той лектурай для вучняў, а таксама той, што ў бібліятэцы была (ад восьмай тысячы там уверх настаўніцкая бібліятэка). І там я ўжо тады чытаў і Маркса, і Розэнбэрга, і гэтых, анархістых усялякіх, і іншых. На гэнай аснове выробляліся мае пагляды.

***З. Пазьняк:*** — Якая літаратура ў гімназіі вас найбольш цікавіла? Якую вы найбольш чыталі?

***А. Шукелойць:*** — Па-першае, зь літаратуры польскай, мастацкай, то, безумоўна, галоўную ўвагу маю прыцягваў ***Стэфан Жэромскі***. Пра Жэромскага я некалькі рэфэратаў рабіў. А потым чытаў ***Шышкова*** таксама. Менш прыцягвала паэзія, скажам, XIX стагоддзя. Але Жэромскі зрабіў, думаю, найбольшы ўплыў.

***З. Пазьняк:*** — А палітычная, філясофская літаратура якога накірунку больш цікавіла?

***А. Шукелойць:*** — Усе левыя кірункі, пачынаючы ад анархістаў. Бакуніна чытаў, Маркса „Капітал" прачытаў у 5-м клясе гімназіі недзе, першы том яго, бо там гэтая эканамічная частка мяне мала цікавіла.

***З. Пазьняк:*** — Я уважаю, што сацыялістычныя перакананьні ў вас ужо складваліся ў гімназіі. Што найбольш паўплывала на такі накірунак вашых перакананьняў у той час?

***А. Шукелойць:*** — Безумоўна, што Барановіч, у якога мы часта бывалі. Вельмі цікавы чалавек. Мова ў яго беларуская была вельмі добрая, ён меў дом у Ашмяне і вялікі пляц. У час таргоў шляхта зьязджалася, усе гэта ў яго там затрымліваліся. Ён даставаў беларускую літаратуру, асабліва Багдановіча, а потым Арсеньневу, і чытаў. Во, калі ласка вам, кажа, беларуская літаратура, у параўнаньні да польскай, нічым не ўступае.

***З. Пазьняк:*** — А сам ён належыў да якой партыі?

***А. Шукелойць:*** — Ён быў сацыялісты, як я ўжо казаў, у гэтай *Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі*. Сядзеў. Адбыў ссылку яшчэ перад 1905 годам. А потым у Ашмяншчыне ён ведамы быў, з увагі за свайго бацьку, як чырвоны шляхціц.

***З. Пазьняк:*** — Якія, вы ўважаеце, стасункі былі паміж сацыялізмам і нацыянальна-вызвольным рухам, нацыянальна-вызвольнымі ідэямі? Бо ў расейскім кшталце (у бальшавіцкім) сацыялізм і нацыянальныя рухі амаль не сумяшчаюцца.

***А. Шукелойць:*** — Я прыйшоў у палітыку сьведамым, стаяў на аснове таго, што становішча беларускага народа такое цяжкое, што варта для яго вызваленьня пасьвяціць жыццё. І дзеля гэтага, чытаючы пра ўсе гэтыя кірункі палітычнага руху, для мяне найбліжэйшы быў сялянскі сацыялізм. І ён меў, паводле нас, традыцыю. Гэта Каліноўскі, браты Луцкевічы, Грамада і гэтак далей. І нашая эсэраўшчына, якая была вельмі актыўнай у 1-ю Сусьветную вайну. Фактычна, ўсе гэтыя рухі рэвалюцыйныя, усе паўстаньні былі эсэраўскага кірунку. Ён мне найбольш імпанаваў. І таму, скончыўшы гімназію, мы прышлі адразу да групы доктара ***Міколы Чарнэцкага*** ў Вільні, які выдаваў часапіс *Золак*. І зь ім засталіся.

У нас усіх (у гэтай групы беларусаў 5 чалавек з аднаго клясу) былі пэўныя непаразуменьні з польскай палітычнай паліцыяй. Першы такі выпадак — гэта польскі перапіс насельніцтва ў 1930, здаецца, годзе. Я тады быў вучнем 5-га кляса. І нас з клясу ўжо некалькі хлопцаў зарганізавалі да перапісу. Адбылі мы курс перапісчыкаў. Я гэты курс здаў на „выдатна" і мне далі раён, недалёка Ашмяны.

У гэтым раёне запісалася 90% беларусаў. Асабліва цікава было ў шляхоцкім фальварку такога пана Окрасо (ён, па-мойму, нейкага ня польскага і не беларускага паходжаньня), але жонка ягоная мясцовая беларуска, шляхцянка. Яе якраз не было. Фальварак даволі вялікі. Ён кажа: „Што вы будзеце хадзіць па гэтых чвараках. Гэта ўсё беларусы." Ён іх усіх запісаў (чалавек сто-сто пяцьдзесят) беларусамі. Але пабачыў, што я троха спалохаўся, кажа: „Няхай стараста да мяне прыдзе, я яму скажу, якой нацыянальнасьці гэтыя людзі."

***З. Пазьняк:*** — Чаму ён назваў іх „чваракамі"?

***А. Шукелойць:*** — Таму што гэтыя парабкі ягоныя жылі ў такіх спэцыяльных дамох, якія ва ўсіх маёнтках называліся „чваракі". Там чатыры кватэры былі для чатырох парабкоў з сем'ямі. Дык вось ён сабраў гэтых людзей да сябе, каб я бачыў іх, а потым запісаў іх усіх беларусамі.

Тады пачаў думаць і кажа так: „Вы запішыце мяне палякам, жонку (яна мясцовая шляхцянка) — беларускай. І дзяцей таксама."

Гэтыя дакуманты пайшлі ў староства. Там чыноўнік нейкі перагляну ў. А загадана было запісваць так: каталік, гаворыш пацеры па-польску — паляк. Мова ня важная. Ня мае значэньня, на якой ты мове гаворыш. Гэта была афіцыйная польская ўстаноўка. Яна прадоўжваецца, дарэчы, і цяпер у нас, у заходняй Беларусі. Там жа некаторыя польскія ксяндзы кажуць: „Як ты гаворыш пацеры па-польску, значыць паляк."

Нават, ведаеце, гэты ваш консул польскі ў Горадні, што сядзіць, ён такой самай старамоднай думкі. Тут ёсьць у мяне артыкул з польскай газэты, дзе пра гэтага консула акурат пішуць.

Адным словам, пабачылі, ў старостве мае лісты перапісу і перарабілі так, як „трэба" (у іх гэта было проста). Мне нічога не сказалі, але дырэктару сказалі. І вось аднога разу дырэктар прышоў у наш кляс. Прафэсар захварэў, і ён яго замяняў. Пераглядае журнал усіх дзяцей і кажа: „Ведаеце што, я маю непрыемнасьць з старостам. Паслаў, здаецца, самых інтэлігентных хлопцаў з вашага кляса на перапіс, а стараста мне кажа: „Ты што за дурняў мне прыслаў?"

І ўсё. А дырэктар у мой бок не глядзіць, там, дзе я сяджу. Мне не прыйшло ў галаву, што гэта гутарка йдзе пра мяне. А думаў я наадварот, што гэта нехта ня даў сабе рады.

Калі ўжо прышлі бальшавікі ў 1939-м годзе, я працаваў настаўнікам гімназіі гэтай самай, што скончыў. І вось выбары ў першы Часовы савет Ашмяны. Мяне выбіраюць і выбіраюць аднаго з чыноўнікаў гэтага староства, які быў камуністам з 20-х гадоў, але так ціха сядзеў. Знаёмімся пасьля




(Фота З. Пазьняка)

***Умоўная (сымвалічная) магіла братоў Луцкевічаў на Росах у Вільні.***

выбараў гэтых. Афіцыйная частка скончылася. Ён падходзе да мяне. Я падаю руку, называю сваё прозьвішча, ён гаворыць: „Товажышу, знам вас ешчэ учнем гімназіі, паправялэм ваш сьпісовы тэн аркуш, — кажа. — Староста жуціў на стол і кажа: „Відзеце, яке гадзіны выховуён се в нашых школах?"

Вось тады я зразумеў, што дырэктар, калі казаў, што ён паслаў добрых хлопцаў на перапіс, а стараста яму зьвярнуў увагу, што дурняў папрысылаў, то гэта ён меў на ўвазе гэты мамэнт.

***З. Пазьняк:*** — Але ў іх праблемаў не было: перапісалі па-свойму і ўсё?

***А. Шукелойць:*** — І ўсё. І нічога не гаварылі, бо ім не выпадала падымаць справу пра беларускае на беларускай тэрыторыі. А то зараз паслы (йшчэ

беларускія тады ў Сойме былі) падоймуць пытаньне. Так што гэта ўсё ціха было.

***З. Пазьняк:*** — Маглі і перапіс не праводзіць, самі напісаць, і ўсё. Лішні клопат.

***А. Шукелойць:*** — Ага. Ну, але ж перапіс.

Другі выпадак — 1933 год, па-мойму, выбары мяйсцовых уладаў. (У Ашмянскі гарадзкі Савет.) Мы, вучні, гэтых нашых старшых беларусаў падштурхнулі: трэба, кажам, стварыць лісту на выбары.



***Іван Луцкевіч, 1905 г.***

Гэтыя старыя кажуць, што нічога ня будзе, ну але калі вы маеце вялікую ахвоту, то рабеце. І вось стварылі лісту мяйсцовых рамесьнікаў, сялянаў і рабочых. Ліста пайшла.

Цяпер зьбіраем мы подпісы на гэтую лісту, бо трэба там, каб сто зь нечым было, ці што. Вучні пайшлі. Гэты Шчэпановіч, самы багаты з нашых хлопцаў, таксама лісту ўзяў. А ён сярэдні вучань быў, слабейшы, дык ён з гэтымі вартаўнікамі гімназіі быў у добрых дачыненьнях, бо яму трэба было заўсёды паглядзець, як ягоная праца выйшла, можа паправіць нешта трэба, ці што. Ён ім грошай даваў, гарэлку. Словам, ён упісаў у гэтую лісту двух вартаўнікоў з гімназіі. Потым яшчэ там недзе нейкіх знайшоў. Словам, людзей такіх паўпісваў, што ня трэба было. Стварылі лісту, падалі, і ўсё ў парадку. Тады паліцыя і гэты палітычны аддзел староства ўзяўся пераглядаць, што гэта за ліста і скуль бяруцца гэтыя людзі. Пачалі апытваць, знайшлі, што вартаўнікі гімназіі падпісалі. Стараста выклікаў дырэктара. І так дырэктар меў бяду, што рабіць з гэтым усім?

Словам, усё пачало валіцца. Зь лісты паздымалі подпісы — ужо не хапае.

Тады мы пачалі шукаць паправы. Я пайшоў да жыдоўскай арганізацыі, каб зь імі разам яшчэ злучыцца. Прыходжу, там іхны начальнік трымае падобныя лісты. Быў такі ***Саладуха***, кравец. Я прыходжу ў такім вучнёўскім мундзіры і прадстаўляюся, што я прадстаўнік гэтай групы, што лісту беларускую выставіла. Нам цяперака яе валяць, дык мы хацелі б разам з вамі.

Гэты жыд паглядзеў на мяне і кажа: „Слухай, я цябе ведаю, бацька з табой прыходзіў кожнага году ўвосень і шыў касьцюм вучнёўскі ў гімназію, а тут раптам ты — палітычны дзеяч такога кірунку? Нешта несамавітае.”

Ну й словам, гэта вось першая палітычная місія была для мяне з гэтымі жыдамі. Нічога ня выйшла ўсяроўна. Праваліліся.

***З. Пазьняк:*** — Жыды не падтрымалі?

***А. Шукелойць:*** — Не падтрымалі, так, але і іх, і нас правалілі ўсяроўна, а лісту зьліквідавалі.

Але аб гэтым зноў — маўчок, нічога абсалютна, дырэктар нічога нам не сказаў.

***З. Пазьняк:*** — І ўлады маўчалі, лісту правалілі і маўчалі?

***А. Шукелойць:*** — Маўчалі. Але выйшла іншая справа. Даволі новай тады была. Гэта Рэмарк „На Заходзе без зьмян”, калі вы памятаеце?

***З. Пазьняк:*** — Так, „На заходнім фронце без пераменаў”.

***А. Шукелойць:*** — Але. Потым падобны яшчэ раман „Далоў вайну!” і інш. Пачалі зьяўляцца гэтыя пацыфістычныя раманы. І мы, іх начытаўшыся, карыстаючы з таго, што на клясную працу давалася 2 гадзіны і можна было пісаць любую тэму (там тры тэмы былі), бралі гэтыя вольныя тэмы і шырылі там, ведаеце, свае погляды.

Тым часам палякі пачалі тварыць так званы „эканамічны цэнтар" у сярэдзіне Польшчы. Апрача гэтага вырашылі разбудоўваць Гдыню (порт).

Мы пачалі пісаць: „Нашто грошы выдаваць на выбудову гэтага порту? Польшча і так ёсьць слабая дзяржава. Лепш грошы даць сельскай гаспадарцы, узьняць сельскую гаспадарку і гэтак далей. І вось атрымліваем гэтыя працы, а там напісана „добра", альбо „вельмі добра", а на баку — брат, чырвоным сьпісана — „палітычны погляд няправільны". І тады паклікалі нашых бацькоў. (Гэта была падстава паклікаць бацькоў і сказаць, што вось ім нехта ўпраўляе мазгі, і яны выступаюць з антыдзяржаўнымі поглядамі, адкрыта выказваюць антыдзяржаўныя думкі ў зададзеных працах.)

Дырэктар сказаў бацькам: „Слухайце, могуць нашую гімназію зачыніць за такія погляды. Бо вось ужо там той Дэмбіньскі выйшаў, аказаўся камуністам, а тут, брат ты мой, цэлая група расьце. І таму вы ім скажыце, што погляды іхныя палітычныя мы паважаем (гэта іхная справа — як скончаць гімназію). Але тут, у гімназіі, яны мусяць пісаць працу так, як вымагае школа. І ўсё. Бо йнакш, — кажа, — наша гімназія ўжо й так ледзь трывае. Бо павыпускалі усялякіх галаварэзаў."

Ну і бацькі тады нас паклікалі... Нам паставілі „тройкі" за паводзіны. Але не на гэтым канец. Прыходзе 8-ы кляс. Я якраз восеняй захварэў, так што ў выніку прастуды вока адно пачало сьлепнуць. Мяне паслалі ў Вільню ў клініку ўнівэрсітэцкую, там зрабілі апэрацыю. Я даволі шмат прапусьціў гадзінаў. Але я быў сярэднім вучнем.

Затое во гэтыя некаторыя мае сябры, напрыклад, ***Барановіч***, вельмі добра вучыліся. Тым часам прыходзе канец году 8-га клясу (1934 год). Раптам нас не дапускаюць да „матуры". Нешта, 9 чалавек, сярод гэтых — пяць нас, беларусаў. Неяк усіх зьдзівіла, асабліва мяне. Я думаю: якога ж прадмету я не дабраў? Лаціну — я адзін з лепшых, найлепш дэклямую лацінскія вершы, польскую мову — таксама, гісторыю — ня можна затрымаць з гісторыі. У чым справа? Можа, я сярэдні вучань з матэматыкі, і матэматык, во гэты самы прафэсар, які намовіў бацьку, каб аддаць мяне ў гімназію, Сікорскі. Я да Сікорскага адразу. „Пане прафэсожэ, які я мам стопень з матэматыкі?"

— А які мысліш?

— Я мысьле, жэ „двуя", бо да матуры не дапушчаён.

— А кто тобе поведзял, — прафэсар кажа, — жэ я тобе „двуя" поставілэм? Ты ж пшэцеж не заслугуеш?


(выкадроўка)

***Аляксандар Барановіч. 1938 г.***

Значыць, не з матэматыкі „двойку" паставілі. Я пайшоў да дырэктара. Пытаю дырэктара: „Я хацеў бы ведаць, па чым я атрымаў „двойку", што мяне не дапусьцілі да матуры?"

А дырэктар кажа: „Ты зашмат гадзінаў прапусьціў. Усё, сядзі другі год."

***З. Пазьняк:*** — Дык гімназіста нават не папярэджвалі, за што яму ставяць „двойкі", яны што, ніякіх правоў ня мелі?

***А. Шукелойць:*** — Не дапусьцілі, і ўсё. Значыць, пяць чалавек. Словам, нас пяцёх гэтых во, што ў выбарах прымалі актыўны ўдзел, вырашылі пакараць гэтакім спосабам: пакінуць на другі год і здаваць матуру ўжо ў наступным годзе.

Але зноў, ніхто нічога не сказаў, што гэта была палітычная справа. Ціха. Толькі потым гэты самы Барановіч, бацька, *„чырвоны шляхціч”*, нам растлумачыў: *„Слухайце, гэта невялікае йшчэ пакараньне, — кажа, — пакінулі вас йшчэ на адзін год. Маглі пасадзіць у турму і, — кажа, — выпусьціць з воўчым білетам”.*

Вось такія гісторыі з палітыкай былі ў гімназіі.

Затое на другі год мы ўжо нармальна здалі матуру, і першы раз дырэктар гімназіі, гэты самы ***Антон Лакуцьеўскі***, прывітаў нас: *„В тым року выпушчамы пеньцю бялорусінув з еднай нашай клясы, і я жычэ ім усяго найлепшага і думаю, што яны будуць супрацоўнічаць з польскім урадам… і гэтак далей — на карысьць нашай дзяржавы.”*

А гэты Аляксандар Барановіч таксама з прамовай выступіў, падзякваў за навуку і апеку на працягу нашага бываньня ў гімназіі і заявіў, што мы — беларусы. Так што першы раз пяць чалавек выходзіла з такім шумам.

***З. Пазьняк:*** — Што яшчэ можна сказаць пра дырэктара гімназіі?

***А. Шукелойць:*** — Дырэктар гімназіі, як я ўжо гаварыў, гэта такі шляхціч з ваколіцы Цялешышкі (вельмі цікавы назоў такі сьмешны, таму нашыя бацькі сьмяяліся зь яго). Ён быў пілсудчык, такога сацыялістычна-лібэральнага кірунку. І думаю, што, мусіць, быў масонам. Таму што ў нас у гімназіі вельмі высока цаніўся арганізатар польскай масанэрыі ***Валер’ян Лукасінскі***, маёр, які падрыхтаваў паўстаньне 1831-га году ў Варшаве. Вельмі цікавая, моцная фігура. Яго засудзілі на ссылку, прыкулі да тачкі. Ён, здаецца, трыццаць гадоў быў на ссылцы. І там памёр. Дырэктар якраз скаўцкаю арганізацыю назваў ягоным імем. Віленская масонская лёжа мела такі лібэральны дух мяйсцовай інтэлігенцыі; ейным кіраўнікам нейкі час быў рэктар Віленскага ўнівэрсітэту, таксама шляхціц зь Лідчыны ***Вітальд Станевіч***. Вельмі прыхільны да беларусаў, між іншым. Так што думаю, што і нас гэты Лакуцьеўскі паважаў. (Я ніякай крыўды да яго ня маю, абсалютна і да нікога, бо гэта не ён шкодзіў, а староства — палітычная агентура ў Ашмяне).

***З. Пазьняк:*** — Між іншым, сын Вітальда Станевіча ***Рэсцітут Станевіч*** цяпер у Познані ўзначальвае *„Коло мілосьнікув Літвы”*. Вельмі прыхільны да беларусаў чалавек. Я быў двойчы ў Познані па ягоным запрашэньні, выступаў там у асяроддзі людзей, поўных сантымэнтаў да Беларусі. І вось касьцёл у Познані маліўся тады за Беларусь. Пан Рэсцітут адмысловую малітву разам з ксяндзамі склаў.

А ўпершыню, яшчэ ў 1997 г., была запрошана мая жонка Галіна, выступала там з дакладам пра Беларусь. Цікава назіраць людзей, якія падыходзяць, бяруцца за гузік і кажуць, што *„Беларусь – гэта Літва, а „вы” ёсьць ліцьвіны, і мова беларуская ёсьць ліцьвінская, прошэ пана”*, што *„тэрас на Літве жондзі Жмудзь”* і г.д.

Так што Віленшчына ў Польшчы жыве. Існуе як бы ў двух культурах – польскай і беларускай. (Напрыклад, такія вядомыя асобы, як ***Тадэвуш Канвіцкі***, ***Чэслаў Сэнюх***.)

***А. Шукелойць:*** — Вельмі, між іншым, цікавая тэма. Добра б было да яе потым вярнуцца. Але скончу пра гімназію.

Настаўнікам гімназіі быў такі ***Ётка Наркевіч***. Вядомая асоба. Ён быў рэвалюцыянер, належыў да польскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Летуве, гэта значыць у Коўне. Яны думалі зрабіць паўстаньне, чатырох чалавек. Там іх раскрылі і засудзілі на сьмерць. Сярод іх гэты Ётка Наркевіч. Ён мясцовы шляхціц, але ведамае такое прозьвішча у беларускай рэвалюцыйнай гісторыі.

***З. Пазьняк:*** — І што яны хацелі зрабіць?

***А. Шукелойць:*** — Далучыць Летуву да Польшчы.

***З. Пазьняк:*** — І за гэта засудзілі на сьмерць, за змову чатырох і нерэальныя намеры?

***А. Шукелойць:*** — Змову раскрылі і засудзілі. Тады палякі праз Лігу Нацыяў іх выцягнулі зь Летувы. Дык вось гэты Наркевіч быў настаўнікам гімнастыкі ў нас. Мяне ён недалюбліваў з увагі на прозьвішча, і вечна гэтае прозьвішча перакручваў на летувіскі лад. Але, калі трэба было недзе выступаць спартоўцам у Вільні, то ён тады ўжо мяне клікаў: *„Слухай, ты паедзеш у групе саколаў* (гэта польская гімнастычная арганізацыя Сокал такая). Пайдзі да краўца, ён табе прымерае касьцюм (бо там яны мелі чырвоныя кашулі і зялёную такую марынарку). ■

# ВІЛЬНЯ. ЗМАГАРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ

## *Віленскі ўнівэрсітэт*

***З. Пазьняк:*** — Цяперака пра Віленскі ўнівэрсітэт. Таксама пра асяроддзе, атмасфэру, палітычнае жыцьцё ў Вільні ў той час.

***А. Шукелойць:*** — Скончыўшы гімназію, я ня меў магчымасьці траціць ані аднаго году, бо з маёй *„апініяй”*, пратэрмінаваўшы адзін год пасьля сканчэньня гімназіі, я не атрымаў бы пасьведчаньня аб маральнасьці, аб палітычнай надзейнасьці. І дзеля гэтага я мусіў адразу паступаць на ўнівэрсітэт, хаця ў нас становішча ў доме было вельмі цяжкое. Якраз у гэтым годзе памёр мой бацька, незадоўга перад матурай.

***З. Пазьняк:*** — Колькі ў вас было зямлі ў сям'і?

***А. Шукелойць:*** — Недзе каля 20-ці гактараў усіх разам, зь лесам і пашай. Я мусіў ісьці адразу на ўнівэрсітэт. Мае гэтыя палітычныя настаўнікі хацелі, каб я йшоў на юрыдычны факультэт і рыхтаваўся на прафэсійнага палітыка ці прафэсійнага рэвалюцыянера. Але мяне неяк туды не цягнула, і я пайшоў на гуманітарны, гуманістычны факультэт, на аддзел філялёгіі, з думкай, што я буду вывучаць этналёгію.

Калі я вучыўся ў гімназіі (недзе ў 7-м клясе), ведамы прафэсар Кракаўскага унівэрсітэту ***Казімір Мушынскі*** рассылаў апытальнікі, ня памятаю, у справе нейкага народнага сьвята, і гэты апытальнік мой яму вельмі спадабаўся. Ён напісаў ліст, што заклікае мяне на ўнівэрсітэт, каб быць ягоным студэнтам. Дык вось, паколькі Мушынскі з Кракава пераязджаў у Вільню ў 1935-м годзе, каб прыняць тут катэдру этнаграфіі-этналёгіі, дык я вырашыў запісацца на гуманітарны факультэт, і да гэтага прафэсара Мушынскага. Паколькі адзін сэмэстар яго не было, дык я пайшоў на славянскую філялёгію да прафэсара ***Эрвіна Кашмідара***. Гэта быў немец, спэцыяльна запрошаны Віленскім унівэрсітэтам зь Нямеччыны, вялікі прыяцель беларусаў. Ён быў куратарам (гэта значыць, апекуном) Беларускага Студэнцкага Саюзу і Таварыства Прыяцеляў-беларусаведы.

Такім парадкам я знайшоўся на ўнівэрсітэце. У справе кватэры і жыльля, і нейкай магчымасьці ўтрымацца мне адразу парадзілі зьвярнуцца да ***ксяндза Адама Станкевіча***, які шмат дапамагаў студэнтам. Станкевіч уладзіў мяне, паслаў да ***Яна Пазьняка*** — рэдактара газэты *„Крыніца”*.

Яны жылі тады ў доме на *Завальнай,1*; займалі цэлы паверх (партэр дому). І там ў вялікай залі жылі студэнты. Гэта значыць, былі тапчаны пры сьценах такія з дошчак, прыгожа зробленыя. На тапчанох гэтых сядзелі людзі ў час розных там імпрэзаў, канцэртаў і сходаў. А ўноч, на вечар, зьяўляліся туды студэнты, даставалі з гэтых тапчаноў свае пасьцелі, раскладалі і там спалі. Гэтак там, у залі на *Завальнай,1*, у гэны час спала каля дзесяці студэнтаў-беларусаў.

***Старонка з польскага вайсковага білету А. Шукелойця.***

Гаспадаром гэтага ўсяго парадку быў Ян Пазьняк. Фактычна, тут была цэнтраля ***Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі***. (Перад

гэтым яна была на вуліцы *Людвісарскай, 9*, дзе знаходзілася *„Крыніца”*, друкарня і жылі тады Пазьнякі. Гэты дом захаваўся.)

Дом на Завальнай,1 быў уласнасьцю, здаецца, парафіі касьцёлу, што знаходзіўся на Завальнай вуліцы. Гэта — кальвінаў.

На партэры былі два вялікія памешканьні. З аднэй стараны была вялікая заля (тут месьціўся Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры); меншая заля аддавалася для Беларускага Студэнцкага Саюзу. Было памешканьне для рэдактара „Крыніцы”, і там жа — рэдакцыя „Крыніцы” — гэта Яна Пазьняка.

З другога боку (гэта як бы вялікая хата, другі канец) была друкарня імя Скарыны. Там таксама знаходзіліся рэдакцыі „Шляху моладзі”, „Калосься”. Была таксама кнігарня, а фактычна гэта быў кніжны склад, адкуль высылаліся на правінцыю беларускія кнігі.

З гэтых студэнтаў яшчэ (сярод нас, жывых) ёсьць доктар ***Мацьвей*** *(Мітрафан)* ***Смаршчок*** (паэт ***Бярозка***), якога ўсе ведаюць на эміграцыі з увагі на ягоную актыўнасьць і асабліва грашовую дапамогу розным выданьням і розным праектам. Так што ў гэтым памешканьні на *Завальнай,1* я прабыў два гады. Дом гэты цяпер не існуе. Там пляц і нейкі помнік, па-мойму, летувіскаму паэту.

Вечарам заўсёды, пасьля таго, як мы, студэнты, ўжо вярнуліся ў гэтую залю, Ян Пазьняк заканчваў працу ў рэдакцыйным сваім кабінэце, прыходзіў да нас і любіў расказваць цікавыя анэкдоты пра палітычных дзеячоў.

Ян Пазьняк, як ведама, быў сябрам Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі і, тым больш, займаў кіруючае становішча ў гэтай партыі, і таму ягоныя анэкдоты тычыліся пераважна розных дзеячоў сацыялістычнага кірунку. Вось адзін з такіх анэкдотаў, што я хачу расказаць, гэта — як выдатнага нашага дзеяча, ведамага ***Канстанціна Езавітава***, за адну ноч сацыялістычны ўрад ў Менску паднёс з паручніка да палкоўніка.

Як ведама, Езавітаў прыняў актыўны ўдзел у стварэньні Рады БНР, быў заслужаным афіцэрам. Вельмі прыгожы ягоны нарыс ёсьць, як ён выгнаў бальшавікоў зь Менску ў 1918 годзе. Ну і паколькі такі высоказаслужаны чалавек, то вось гэты першы ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі вырашыў яго падняць да генэрала. Ноч цэлую сядзелі, згодна з вымогамі ваеннага Статуту, заўсёды падымалі яго на адзін чын вышэй, тады казалі тост і выпівалі. (Як ведама, сацыялісты, асабліва эсэры, любілі выпіць.) Так вялі яго паступова: штабс-капітан, капітан, маёр, падпалкоўнік, палкоўнік. Ужо пачало сьвітаць. Давялі яго да палкоўніка, выпілі. Гарэлкі болей не было — скончылася, і Езавітаў застаўся палкоўнікам. Генэралам ужо яго не маглі менаваць: не хапіла гарэлкі. І сонца ўзыйшло, разьвіднела.


(выкадроўка)

***Прафэсар Эрвін Кашмідар***

Вось такога тыпу анэкдоты пра кожнага з гэтых палітычных дзеячоў (асабліва ***Тамаша Грыба***, ***Мамоньку*** (быў такі), ***Палуту Бадунову***) любіў расказваць Ян Пазьняк.

У гэтым часе, калі я быў студэнтам (з 1935-га па 1939-ы год), ужо бальшыня ці ўсе палітычныя арганізацыі беларускія былі амаль што зьліквідаваныя. Ужо не было „Грамады”, ані тых іншых арганізацыяў левага кірунку, з выняткам толькі (у падпольлі была) КПЗБ. І тая ў нейкім часе была зачынена па распараджэньні Сталіна. Адзінай арганізацыяй у гэтым часе ў заходняй



*Ян Пазьняк. 1938 г. (фотаграфіка). Замардаваны рускімі бальшавікамі ў 1939 г. Верагодна – у Курапатах.*

Беларусі (сапраўды дзеючай, на паверхні) — гэта была Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя з сваімі рознымі падарганізацыямі, як напрыклад, Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры. Там было таксама беларускае выдавецтва. Словам, Ян Пазьняк у тым часе быў старшынём Хадэцыі. Таму што недзе (думаю, можа ў 1926-м ці ў каторым годзе) была забарона біскупа Ялбжыкоўскага, што ксяндзы каталіцкія ня могуць належыць да палітычных партыяў. Ці гэта адносілася да польскіх палітычных партыяў, я ня ведаю. Але на аснове гэтага распараджэньня, беларускія ксяндзы мусілі выступіць зь Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі.

Так што ў гэтым часе Ян Пазьняк быў старшынём цэлай гэтай групы арганізацыяў, зьвязаных зь Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыяй — Хадэцыяй, у скарочаньні.

Да Хадэцыі, апрача Інстытуту, належыў і друкаваны орган Хадэцыі *„Крыніца"* ці *„Беларуская крыніца",* таксама часопіс моладзі *„Шлях моладзі".* У заходняй Беларусі палякі не далі дазволу сарганізаваць арганізацыю моладзі. І таму арганізацыяў моладзі не было. Затое вось гэты „Шлях моладзі" поўніў такую функцыю нібы цэнтралі моладзі, бяз розьніцы палітычных перакананьняў. Там зьмяшчалі свае артыкулы, вершы, прозу, паэты розных кірункаў.

Другой такой арганізацыяй была каапэратыўная Самапомач, выходзіў часапіс. І потым яшчэ ў гэтым часе да Хадэцыі належыла і *„Калосьсе"* — літаратурна-мастацкі часапіс. Усе гэтыя часапісы, якія былі ў падпарадкаваньні Хадэцыі, вызначаліся тым, што выходзілі стала, без перабояў (і *„Крыніца",* і *„Шлях моладзі",* і *„Калосьсе"*).

У гэтым часе ціск быў даволі моцны, вельмі частыя былі канфіскаты „Крыніцы", а пасьля канфіскацыяў заўсёды быў суд. Гэтых судоў набралася на Яна Пазьняка так шмат, што ў канцы, здаецца, яго ці ні пасадзілі, ня памятаю.

***З. Пазьняк:*** — На ім вісела 35 судовых справаў.

***А. Шукелойць:*** — І на ягонае мейсца прышоў малады, толькі што закончыўшы ўнівэрсітэт ***Адам Дасюкевіч***, інжэнер аграноміі. Дарэчы, сваяк ксяндза Станкевіча. За часоў нямецкай акупацыі быў расстраляны немцамі недзе ў Вялейшчыне, там, дзе ён поўніў функцыю, здаецца, старшыні раёну.

Другой асобай, што ў Вільні была з групы Хадэцыі — гэта таксама інжэнер-аграном ***Адольф Клімовіч***, які займаўся гаспадарчымі справамі, каапэратывамі, выдаваў гаспадарчы часопіс.

Трэцяй асобай — магістар права ***Янка Шутовіч***, які быў рэдактарам „Калосься".

Апрача гэтага ў Вільні Хадэцыя мела шмат маладых людзей сярод студэнтаў Беларускага Студэнцкага Саюзу. Быў у нейкім часе старшынём Беларускага Студэнцкага Саюзу ***Адам Дасюкевіч***.

За маіх часоў адзін раз Хадэцыя (па-мойму, у 1937-м годзе) рабіла вялікі Зьезд. Аднак паліцыя даведалася, і гэты Зьезд разагналі. Ён меў адбыцца ў вялікай залі на Завальнай,1. Але потым сабраліся пасьля разгону дэлегаты з правінцыі і адбылі свой зьезд. На гэтым зьезьдзе адбылася зьмена назову: Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя зьмяніла назоў на Беларускае Народнае Аб'еднаньне. І ў гэтым часе ад БХД адкалолася правая частка з ксяндзом ***Гадлеўскім*** і ***Шкялёнкам*** і сарганізавалі новы часапіс „Беларускі Фронт".

***З. Пазьняк:*** — І партыю „Беларускі Народны Фронт".

***А. Шукелойць:*** — Трэба сказаць яшчэ, што недзе ў 38-м годзе ўсе гэтыя арганізацыі былі зачыненыя.

Цяпер яшчэ аб жыцьці Яна Пазьняка. Вось у гэтым доме, у якім ён быў гаспадаром і ў якім знаходзіліся гэтыя арганізацыі, ён меў і сваю кватэру. Кватэра была вельмі сьціплая. Гэта адзін пакой — ягоная рэдакцыя, даволі вузкі, у канцы дома. Другі пакой большы — гэта спальня. І йшчэ быў трэці пакой.

Апрача гэтага была вялікая кухня, зь якой карысталіся і Пазьнякі, і мы, усе студэнты, што жылі ў вялікай залі (дзе стаялі па баках гэтыя дзераўляныя, прыгожа зробленыя тапчаны). У залі (я ўжо казаў) нешта жыло каля дзесяці студэнтаў і двух студэнтаў такіх старэйшых і ўжо заслужаных для Хадэцыі, жыло ў памешканьні

Пазьняка. Гэта быў абсальвэнт медыцыны, пазьней доктар ***Язэп Малецкі*** і другі ***Станіслаў Нарушэвіч***. Малецкі і Нарушэвіч апынуліся на эміграцыі, выехалі ў Аўстралію. Доктар Малецкі ўжо там памёр, а Нарушэвіч, здаецца, яшчэ жыве.

Пазьнякі мелі трое дзяцей. Гэта старшы сын Стась, Станіслаў, тады меў гадоў 14 ці 15, хадзіў у беларускую гімназію. Малодшай ад яго на некалькі гадоў была дачка Галіна, і трэці друкарня, быў яшчэ адзін пакой, што адпаведнік таго першага памешканьня, кухні, дзе жыло яшчэ чатырох, здаецца, студэнтаў. Між іншымі там быў студэнт права ***Вацлаў Пануцэвіч***, ведамы дзеяч на эміграцыі.

Пазьнякі жылі вельмі сьціпла. Ян Пазьняк працаваў цэлы дзень, бо ж усю гэтую карэспандэнцыю трэба было чытаць, рэдагаваць, рабіць карэктуру.



***Янка Пазьняк, ягоная жонка Марыя і малодшая дачка Галіна ў рэдакцыі „Беларускай Крыніцы". Вільня, сярэдзіна 1930-х гг.***

наймалодшы хлопчык Ясь, хадзіў у пачатковую школу. Нехта з гэтых дзяцей (ня памятаю, магчыма, Галіна), спалі ў кухні. Так што Пазьняковае памешканьне цалкам было акупаванае праз студэнтаў — усюды былі студэнты.

Пасьля Зьезду Хадэцыі і тых назіраньняў паліцыі нас, студэнтаў, з гэтай залі выкінулі. Мы мусілі разыйсьціся, шукаць прыватных памешканьняў па горадзе.

***З. Пазьняк:*** — Паліцыя патрабавала?

***А. Шукелойць:*** — Так, паліцыя забараніла. Толькі ў другім памешканьні, дзе месьцілася „Крыніца" выходзіла раз на тыдзень, рэгулярна, працы было шмат. Так што скончыўшы працу вечарам, ён часта, я ўжо казаў, выходзіў на вялікую залю, для адпачынку іграў на піяніне, бо Ян Пазьняк па сваей першай прафэсіі быў арганісты. Тады часта вёў з намі розныя гутаркі, дыскусіі. І так вечарам разыходзіліся ізноў.

Стась — гэта ваш бацька — нараніцы адным з першых уставаў і кіпяціў ваду, гэта значыць гарбату. Кожны з нас прыносіў нешта там, што ён меў, пераважна нейкія сухары, што студэнты-палешукі мелі цэлымі мяхамі (прывозілі заўсёды). Найлепшым такім сьнеданьнем гэта

быў смачны хлеб (з такой пякарні ***Турана***) з маслам. Гэта самае вялікае было дасягненьне, калі яно было штодня. Прытым многія з нас мелі магчымасьць карыстацца з студэнцкай сталоўкі. А там на сталах стаяла дастаткова хлеба. Так што заўсёды йшчэ, зьеўшы абед, пару лустаў гэтага хлеба забіралі з сабой.

Вось такія цяжкія ўмовы былі. Бальшыня студэнтаў працавала фізічна, асабліва першыя гады. Пасьля альбо атрымоўвалі стыпэндыі, альбо ўладжваліся пры ўнівэрсітэце недзе асістэнтамі.

З гэтай групы, дзе я жыў тады, быў яшчэ доктар Смаршчок, які на трэцім годзе быў пакліканы асістэнтам пры катэдры фізіалёгіі, а таксама другі студэнт медыцыны Махонька, які таксама працаваў пры ўнівэрсітэце. Я перайшоў на працу ў музэй пасьля другога году. І вось так людзі разыходзіліся.

Абое Пазьнякі былі людзьмі музыкальнымі. Я ўжо гаварыў, што сам Ян Пазьняк па першай сваей прафэсіі быў арганістым. Ён меў закончаную тады ў Вільні музычную адукацыю. Была адзіная такая добрая прафэсійная школа арганістых імя ***Монтвіла***. (Вядомы філянтроп і мецэнат — *З.П.*).Так, ведамы віленскі грамадзкі дзеяч. Так што ён гэтую школу заснаваў. Яна выпускала пасьля 4-х гадоў (па-мойму) арганістых, якія валодалі добра і арганамі, і патрафілі арганізаваць хор.

Пры Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры быў хор, які належыў да Хадэцыі. У нядзелю заўсёды, пасьля службы Божай у касьцёле сьвятога Мікалая, зьбіралася вялікая грамада беларусаў, што жылі ў Вільні, і тут заўсёды была падрыхтаваная нейкая праграма. Чыталі невялікі рэфэрат, былі дэклямацыі, і потым сьпяваў хор. Пры Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры быў таксама нейкі час драматычны гурток. Гэта раней, я яго ўжо не застаў. На правінцыі яны (хадэкі) мелі некалькі прыватных беларускіх школаў.

Жонка Пазьняка Марыся (Марыя) належыла да студэнцкага хору, якім кіраваў ***Шырма***. Да апошняга часу (да 1939-га году), на колькі я памятаю, яна была сталай сьпявачкай у хоры.

***З. Пазьняк:*** — У хоры сьпявала яшчэ малодшая сястра Яна Пазьняка Вікторыя.



(Фота 1920-х гг.)

***Кастусь Езавітаў***

***А. Шукелойць:*** — Апрача гэтага, Ян Пазьняк у нядзелю заўсёды ў касьцёле іграў на арганах і таксама кіраваў музычнай часткай у час каталіцкай Божай службы, якую правіў пераважна ксёндз Адам Станкевіч у касьцёле сьвятога Мікалая. Гэта адзіны касьцёл (здаецца, найстарэйшы касьцёл у Вільні), які належыў да летувісаў і ў якім беларусы таксама мелі права на Божую службу ў нядзелю.

***З. Пазьняк:*** — У беларускай мове была служба?

***А. Шукелойць:*** — Служба была ў лацінскай мове, але ўсе так званыя дадатковыя набажэнствы былі ў беларускай мове.

Апрача гэтага ксёндз Станкевіч заўсёды вясной арганізоўваў беларускую пілігрымку ў Кальварыю. На гэтую пілігрымку прыходзілі людзі (беларусы-каталікі) таксама з правінцыі, адусюль. Тады адбывалася заўсёды вялікая каталіцкая беларуская дэманстрацыя ў горадзе Вільні. Бывала некалькі сьвятароў: ксёндз Адам Станкевіч, ксёндз Гадлеўскі, ксёндз Шутовіч часта прыязджаў ксёндз ***Татарыновіч***, з правінцыі звычайна ксяндзы былі. Апрача таго йшчэ таксама быў ксёндз ***Глякоўскі***, які стала жыў у Вільні і правіў службу пры касьцеле сьвятога Яна (гэта той унівэрсітэцкі касьцёл).

***З. Пазьняк:*** — А ці памятаеце ў гэтым асяроддзі ***Максіма Танка***? Ці зьяўляўся ён там?

***А. Шукелойць:*** — Максім Танк быў (дзіўна, што зусім інакш пішуць пра Танка). Танк з дзеячамі Хадэцыі быў у вельмі добрых дачыненьнях. Па-першае, ён амаль кожны вечар прыходзіў на зборкі Беларускага Студэнцкага Саюзу на Завальнай,1. І вечарамі студэнты заўсёды туды прыходзілі. Па-другое, Танк належыў да часапісу *„Калосьсе”*. Там заўсёды друкавалі вершы Танка.



***Прафэсар Казімір Мушынскі (справа) у час этнаграфічнай экспэдыцыі са студэнтамі па Беларусі.***

Я цяпер знаходжу фатаграфіі Танка з рознымі дзеячамі (вось, напрыклад, з Станіславам Станкевічам) і прашу, каб перафатаграфавалі ня толькі фота, але і адварот. Там заўсёды вельмі такія патрыятычныя прысьвячэньні Танкавыя.

Таму ня дзіва, што карыстаючы з тых пераменаў на Беларусі, якія Танка засталі ўжо зусім хворым, ён папрасіў, каб пахавалі яго пад *Бел-Чырвона-Белым Сьцягам*.

Аднойчы, дарэчы ўспомніць пры гэтай нагодзе, што ўдзень неяк я быў вольны і сядзеў у зале Беларускага Студэнцкага Саюзу, аж прышоў Танк. Мы зь ім даўжэйшы час гаварылі, а потым я сказаў, што вось мой далёкі сваяк Мар’ян Пецюкевіч працуе загадчыкам аддзелу саветыкі ў

бібліятэцы Ўрублеўскіх і што я гатовы яго зь ім пазнаёміць, каб ён меў магчымасьць карыстацца з той мастацкай літаратуры, якая выходзіць у БССР. Я яго завёў у бібліятэку і пазнаёміў з Пецюкевічам.

Яшчэ я хачу зьвярнуць увагу (таксама ўсё гэта прамоўчваецца) на патрыятычны настрой Максіма Танка. Танк бываў таксама ў ксяндза ***Германовіча***. Айцец Германовіч у гэтым часе быў настаяцелем Дому марыянаў, што знаходзіўся над Вяльлёй.

***З. Пазьняк:*** — Цяперака вуліца Жыгімонта, 12.

***А. Шукелойць:*** —Тады, магчыма, называлася Зыгмунтоўская. Там якраз два ці тры дамкі такія, у вельмі прыгожым мейсцы, былі купленыя за дар княгіні Магдалены Радзівіл. І там была такая залька вялікая, дзе жылі студэнты-марыяне. Дарэчы, сярод гэтых студэнтаў быў пазьнейшы ведамы дзеяч на эміграцыі біскуп ***Чэслаў Сіповіч***.

Я быў там на адным літаратурным вечары, дзе Танк чытаў свае вершы, а айцец Германовіч быў кіраўніком таго вечару. Так што пра дачыненьні Танка і пра ягоныя сустрэчы зь беларускімі дзеячамі, ня толькі камуністычнымі, стараюцца прамоўчваць.

А наогул Танк меў магутны талент. Вялікія пэрспэктывы. І вось як сталася. Гістарычна яму не пашанцавала. Бальшавізм падрэзаў яму крылы. Ён не разьвіўся, як належыць, як мог бы выявіцца ў іншых варунках.

***З. Пазьняк:*** — Дарэчы, Танк мне добра дапамог у 1967 г., калі праз КГБ мяне другі раз рэпрэсавалі (выключылі з інстытута за „нацыяналізм" пасьля сканчэньня 5-га курсу і не дазволілі абараняць дыплём).Танк дапамагаў змагацца, „замаўляў слова" ў маю абарону. Тады я неаднаразова бываў у яго дома. Памятаю, што нават сфатаграфаваў яго разам з маці (цяпер гэтае фота блукае па друку).

Гэта была своеасаблівая постаць. Максім Танк быў на вяршыні савецкіх уганараваньняў і пры гэтым здолеў захаваць аблічча.

***А. Шукелойць:*** — Так. З гэтым можна пагадзіцца.

Дык вось пра ўнівэрсітэт. Першы сэместр у мяне вельмі цяжкі быў на гэтай філялёгіі, бо я ж царкоўна-славянскай мовы ня ведаў як каталік. А



(выкадроўка)

***Мітрафан (Мацьвей) Смаршчок (Бярозка). 1938 г.***

там мяне адразу вызначылі сакратаром. Гэта значыць, што трэба было сэмінары рыхтаваць і з розных старадрукаў царкоўных лісты для студэнтаў. Так што я мучыўся моцна. Потым прыехаў на наступны сэместар прафэсар Мушынскі, я пры ім застаўся.

Я адразу ж запісаўся ў Беларускі Студэнцкі Саюз (каб у яго ўступіць, былі даволі вострыя вымогі: трэба было мець гарантыю двух сяброў). За мяне загарантавалі Тумаш і Войтэнка (два студэнты медыцыны, потым — ведамыя дзеячы:

*доктар* ***Вітаўт Тумаш*** і *доктар* ***Войтэнка***, які памёр таксама тут, у Амэрыцы, як сьвятар Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай царквы, адзін зь яе арганізатараў. Вучоба мая праходзіла даволі нармальна. На хлеб мусіў зарабляць розна. Вось група наша ўладзілася



***Максім Танк. 1937 г.***

працаваць пры будовах. Адзін з тэхнікаў, відаць беларускага паходжаньня, быў такі, што браў на розныя будовы (дарогі, то зноў нейкае іншае будаўніцтва). Ён любіў паклікаць студэнтаў. З аднэй стараны даць ім добра зарабіць, а з другой — быў задаволены, што студэнты ня п'яніцы, дык яны заўсёды добра выконваюць працу. Так што два першыя гады я працаваў фізічна.

Наступныя два гады я ў характары музэйнага працаўніка працаваў ва ўнівэрсітэцкім Этнаграфічным музэі на Замкавай вуліцы. Заўсёды быў у кантакце з прафэсарам Мушынскім, разам зь ім часта езьдзілі ў падвіленскія вёскі. Яго тады цікавіла праблема літоўска-беларускага памежжа, пераплеценых гэтых вёсак балтыцкамоўных і беларускамоўных, і культура, матэрыяльная і духовая.

## Палітычная дзейнасьць

***З. Пазьняк:*** — Як адбівалася палітычнае жыцьцё Вільні на студэнцкім жыцьці, на ўнівэрсітэце?

***А. Шукелойць:*** — У тыя часы (гэта 1935-39-я гады), паводле афіцыйнай статыстыкі, у Віленскім унівэрсітэце навучалася больш за сто беларусаў. Шмат хто зь іх не належылі да Беларускага Студэнцкага Саюзу.

*Беларускі Студэнцкі Саюз* меў такую рэпутацыю наагул радыкальнай беларускай арганізацыі, і нават левага кірунку (хаця гэта й не была праўда, бо ў Студэнцкім Саюзе былі і нацыяналісты, і хадэкі, і людзі наагул зацікаўленыя навукай, а не палітыкай), але палякі былі стварылі такую для Беларускага Студэнцкага Саюзу агульную думку. Так што Беларускі Студэнцкі Саюз заўсёды стараўся дастаць памешканьне ў нейкіх унівэрсітэцкіх будынках і ніколі не дастаў, ня гледзячы на тое, што, скажам, такі Саюз сацыялістак ці Саюз дэмакратаў левага кірунку (блізкі да анархізму) мелі памешканьне ва ўнівэрсітэцкіх будынках. Мы (Беларускі Студэнцкі Саюз) карысталіся памешканьнем, зноў жа, на *Завальнай,1,* якое давала нам Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя, на чале якой неафіцыйна стаяў ксёндз Станкевіч, а афіцыйна стаяў Ян Пазьняк, які быў гаспадаром гэтага памешканьня. Пра гэта ўжо гаварылася.

У тыя гады (гэта значыць 1935-1939) беларускія арганізацыі амаль усе былі ўжо зачыненыя, альбо зачыняліся. У гэты самы час ужо было цалкам зачыненае ***Таварыства Беларускай Школы***, ***Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры***, зачыняліся беларускія выдавецтвы, вельмі часта беларускія газэты выходзілі зь белымі плямамі (гэта значыць — *„канфіскаты”*). Пасьля *„канфіскатаў”* выклікалі заўсёды рэдактара ў суд. У сувязі з гэтым на долю Беларускага Студэнцкага Саюзу выпала несьці грамадзкую працу. Ня можна было ўжо ладзіць беларускіх канцэртаў (забаронена было), і таму толькі Беларускі Студэнцкі Саюз мог даваць

канцэрты ў вялікіх залях унівэрсітэту, у залі Сьнядэцкага пераважна. Там адбываліся канцэрты беларускага хору пад кіраўніцтвам ***Шырмы***, выступы ***Забэйды-Суміцкага***, там адбываўся літаратурны *Зьезд беларускіх пісьменьнікаў*, арганізаваны Беларускім Студэнцкім Саюзам.

***З. Пазьняк:*** — Ці былі якія выкладчыкі, якія б спрыялі беларушчыне?

***А. Шукелойць:*** — Трэба сказаць, што на Віленскім унівэрсітэце абавязвала (ня ведаю, афіцыйна ці не афіцыйна) так званае „абмежаваньне" для паступленьня беларусаў і іншых няпольскіх нацыянальнасьцяў. Гэта адносілася да беларусаў, што паступалі на медыцыну (на медыцыну магло паступіць толькі 5 чалавек беларусаў). Гэта называлася „нумэрус кляўзус" (на лаціне, ведама). І другое (аб тым ніхто ня піша і не гавораць) — йшчэ быў „нумэрус нулюс". Гэта абазначала, што ніхто ня мог паступіць наагул, калі ён выявіў сябе беларусам (на Багаслоўе, на тэалёгію, напрыклад).

На Багаслоўе не прымалі нікога, хто напісаўся беларусам. Вось як, напрыклад, ***Падлуцэвіч*** (такі ведамы дзеяч), ці як тут у Амэрыцы — ***Пануцэвіч***. Ён два гады быў на тэалёгіі, вельмі добра скончыў філясофію, але выявіў сябе беларусам і пачаў хадзіць па зборках студэнцкіх, гаварыць з гэтымі студэнтамі, хто яны па нацыянальнасьці і г.д. Яго рэктар сэмінарыі паклікаў і кажа: „Ты гэтага рабіць ня можаш. Калі хочаш, мы ня маем для цябе ніякіх засьцярог, пераносься ў Цэнтральную Польшчу і там будзеш мець магчымасьць стаць сьвятаром".

Такім парадкам Пануцэвіч пайшоў да ксяндза Станкевіча пытацца, што яму рабіць.

Ксёндз Станкевіч кажа: „Гэта зьява вельмі часовая, пакідай тэалёгію, пераходзь на нейкі іншы факультэт". Пануцэвіч перайшоў на праўны факультэт і за 4 гады скончыў „права".

Ведама, ён мог бы пайсьці на ўнівэрсітэт у Цэнтральнай Польшчы і там закончыць тэалёгію. І так не аднаго беларуса выставілі з гэтай сэмінарыі, з тэалёгіі. Такі ***Бабок*** быў, таксама ***Гадунец***. Так што за час існаваньня пад Польшчай



(Фота З. Пазьняка)

***Вежа касьцёла сьвятога Яна на ўнівэрсітэце. Вільня. 2001 г.***


(Фота А. Сільвановіча)

*Са сьцягам у руках.*

Віленскага ўнівэрсітэту тэалягічны факультэт ня выпусьціў, фактычна, ніводнага беларуса.

***З. Пазьняк:*** — Калі б такі студэнт тэалёгіі пайшоў бы на цэнтральна-польскі ўнівэрсітэт, то па заканчэньні ён меў бы права вярнуцца на Віленшчыну, ці не?

***А. Шукелойць:*** — Ён мусіў бы працаваць там, бо гэта ўжо такі звычай, што ксяндзы працуюць у той біскупскай дыяцэзіі, у якой атрымалі духоўную адукацыю.

Я, ў кожным разе, ня ведаю ніводнага студэнта-беларуса, які б закончыў у нас тэалёгію ў часы Польшчы. Аб гэтым не гаворыцца, але факт ёсьць фактам. Мала таго, рэктар унівэрсітэту тады, калі я паступаў, быў ***Вітальд Станевіч*** — дробны шляхціц з Лідчыны. Сам эканаміст, і ягоная праца дакторская таксама на тэму гаспадаркі заходняй Беларусі. Ён быў, як я ўжо казаў, вельмі прыхільным чалавекам, зь вялікай прыемнасьцю заўсёды даваў стыпэндыі для беларусаў ці розныя дапамогі. Але пасьля яго былі іншыя рэктары. Недзе ў 1937 годзе выбралі рэктарам ксяндза, такі **Вуйціцкі** з тэалягічнага факультэту. І ён вельмі ж быў варожы да беларусаў. Ён забараніў якраз апошні наш канцэрт хору Шырмы. Сказаў, што *„*вы можаце атрымаць залю Сьнядэцкіх на канцэрт у тым выпадку, калі вам дазволіць паліцыя*”*. Ну, зразумела, што паліцыя дазволіць у гэным часе ўжо не магла. І так наш апошні плянаваны канцэрт хору Шырмы не адбыўся.

***З. Пазьняк:*** — Унівэрсітэт у Вільні меў тады сваю тэрытарыяльную і адміністрацыйную аўтаномію, ці не?

***А. Шукелойць:*** — Унівэрсітэты ў Польшчы мелі аўтаномію тэрытарыяльную і адміністрацыйную. Але з ростам дыктатуры зьмяняліся і дачыненьні да ўнівэрсітэтаў. Абмяжоўвалася аўтаномія ўнівэрсітэтаў. Беларусы на гэтым таксама пацярпелі. Быў загад, што ўнівэрсітэцкія арганізацыі могуць быць толькі тэрытарыяльнага характару. Гэта значыць арганізацыя толькі на гэтым унівэрсітэце. І дзеля гэтага тады Беларускі Студэнцкі Саюз, які быў сябрам Аб’еднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў у Празе (у Чэхіі), мусіў выступіць з гэтага аб’еднаньня.

Так што гэтыя правы паступова ліквідавалі. Але ўсё ж да самага канца йшчэ некаторыя правы заставаліся, і рэктары іх прытрымліваліся. Гэты ж ксёндз Вуйіцкі якраз быў супраць і не выконваў іх.

***З. Пазьняк:*** — Таму ён, відаць, і прапаноўваў, каб зьвярталіся да паліцыі, хаця паліцыя не магла ўмешвацца ва ўнівэрсітэцкія справы?

***А. Шукелойць:*** — Наагул, аб ксяндзы Вуйіцкім як рэктары ўнівэрсітэту палякі стараюцца не гаварыць, таму што ён якраз увёў асобныя лаўкі для габрэйскай моладзі на ўнівэрсітэце. Восеняй заўсёды ўзьнікалі між габрэямі і польскімі нацыяналістамі сваркі, якія адбіваліся на ходзе заняткаў на ўнівэрсітэце. Іншыя рэктары стараліся гэта нейкім спосабам лагодзіць. Быў такі з медыцыны рэктарам выбраны, які ў выніку гэтых сварак зрокся рэктарату. А Вуйіцкі гэты ўвёў асобныя лаўкі. І таму на ўнівэрсітэцкіх аўдыторыях габрэйская моладзь павінна была сядаць зь левага боку, на асобных лаўках.

Супраць гэтага рашуча выступілі Беларускі Студэнцкі Саюз і іншыя ўнівэрсітэцкія арганізацыі, сябры якіх дэманстратыўна сядалі разам з габрэямі ў адных лаўках.

У нас асаблівай рашучасьцю вызначыўся апошні старшыня Беларускага Студэнцкага Саюзу ***Ўсевалад Кароль*** — студэнт медыцыны, які дэманстратыўна заўсёды сядаў у левыя лаўкі з габрэямі. Іх потым шавіністы цягалі за рукавы. Так што вельмі цікавыя выпадкі былі. Матка Караля адзін раз пытае: „Слухайце, хлопцы, скажэце мне, што гэта мой Воўка робя на ўнівэрсітэце, што прыходзя заўсёды з абдзёртымі рукавамі?"

А ён такі таўставаты быў, дык яго як за рукі цягнуць, то ледзь ні сарвуць і рукавы.

***З. Пазьняк:*** — А хто яго цягнуў?

***А. Шукелойць:*** — Ну, гэтыя студэнты, палякі, якія шавіністы. Цягнулі яго зь мейсцаў жыдоўскіх, каб ён там не сядзеў між імі. Але ў нас, у Беларускага Студэнцкага Саюзу, сход быў. Адчыталі рэфэрат на гэтую тэму, і была пастанова, што беларусы маюць падтрымоўваць гэтых габрэяў на ўнівэрсітэце і сядаць у тыя самыя лаўкі.

***З. Пазьняк:*** — Хто яшчэ ва ўнівэрсітэце са студэнцкіх арганізацыяў падтрымаў габрэяў?

***А. Шукелойць:*** — Падтрымалі шмат хто. Гэта Літоўскі Студэнцкі Саюз, Украінскі Студэнцкі Саюз. З польскіх арганізацыяў — Саюз незалежнай сацыялістычнай моладзі, некаторыя йшчэ дэмакратычныя арганізацыі таксама. Але гэта была меншыня, усё ж. Меншыня была супраць. Габрэі мелі вельмі абмежаваныя магчымасьці на ўнівэрсітэце, і асабліва вельмі дрэнна, што шавіністы проста фізічна іх зьбівалі.

***З. Пазьняк:*** — І хто гэтым займаўся?

***А. Шукелойць:*** — Гэта польскія нацыяналістычныя арганізацыі. Такая тады была польская моладзь, розныя арганізацыі шавіністычнага характару.

***З. Пазьняк:*** — Як да гэтага адносіўся рэктар і кіраўніцтва ўнівэрсітэту?

***А. Шукелойць:*** — Розныя рэктары па-рознаму адносіліся. Вельмі нэгатыўна ставіўся да гэтага ***Станевіч***, рэктар ***Якавіцкі*** (Якавіцкі — гэта прозьвішча беларускае, тыповае). Гэта быў прафэсар медыцыны. Ён зрокся ўнівэрсытэту і рэктарства.

Цэлы шэраг прафэсараў былі супраць. Напрыклад, многія прафэсары ў выніку гэтага беспарадку перанесьлі свае лекцыі з аўдыторыяў унівэрсітэту ў свае сэмінары. Скажам, мой прафэсар, ведамы паляк з Кракаўскага ўнівэрсітэту прафэсар этнаграфіі і этналёгіі ***Казімір Мушынскі***. Ён перанёс свае лекцыі ў сэмінар. Такі ведамы прафэсар ***Крыдль***, прафэсар літаратуры — таксама перанёс.

***З. Пазьняк:*** — А там ужо не дзяліліся па лаўках?

***А. Шукелойць:*** — Не, там прафэсар меў большае права, чым у аўдыторыі. Бо гэта ж сэмінар. Гэта ёсьць мейсца, дзе бібліятэка аддадзена прадмету, дзе ёсьць асістэнты, дзе студэнты працуюць, дзе больш вольна можна было захоўвацца. І гэта зачыненае мейсца. Там іншы студэнт ня мае права зайсьці, а толькі той, што зьвязаны прафэсіяй. Былі выпадкі. Адзін габрэй, студэнт з нашага сэмінару, працаваў над магістарскай працай, ***Яўхім Хаес***. Прыгожы мужчына, але з тыпова габрэйскім выглядам. То

яго раз шавіністы моцна пабілі на вуліцы, разьбілі акуляры. Нейкі час не прыходзіў на лекцыі. Прафэсар потым выслаў асістэнтку даведацца, што зь ім. Ён зьявіўся з пабітым тварам. Так што прафэсура была супраць. Ня ўся, але частка дэмакратычнае прафэсуры.

Вельмі нэгатыўна ставіўся таксама прафэсар ***Эрэнкройц***. Але былі вядома і прыхільнікі, такія, як гэты прафэсар Вуйціцкі. Гэтае прозьвішча, я кажу, кампрамэтуе палякаў, цяпер ніхто ня хоча яго ўспамінаць.

Пры Вуйціцкім унівэрсітэцкую аўтаномію паступова (з зьменай ўраду ў кірунку фашызму) ліквідавалі. У канцы да таго дайшло, што студэнтам-беларусам у сьценах унівэрсітэту не дазвалялі сьпяваць па-беларуску.

***З. Пазьняк:*** — Гэта шакуе. Цяперашняя Польшча мае зусім іншы дэмакратычны выгляд.

***А. Шукелойць:*** — Так, вядома. На ўнівэрсітэце былі яшчэ дзьве беларускія арганізацыі. Гэта памянёная ўжо карпарацыя *„Скарынія”,* на чале якой стаяў ***Кастусь Глінскі*** (яна адлучылася ад унівэрсітэту), і другая арганізацыя краязнаўча-навуковага характару — ***Таварыства прыяцеляў „Беларусаведы”*** (так яно па-беларуску называлася). На ўнівэрсітэце былі арганізацыі розных тыпаў. Былі *„зьвёнзкі”* (саюзы) ідэалягічнага пераважна характару: Саюз сацыялістычнай моладзі, Дэмакратычнай моладзі, Беларускі Студэнцкі Саюз. І былі *„колы”* (колы — гэта ёсьць кружкі прафэсійнай моладзі: кола паляністаў, кола гісторыкаў, кола медыкаў). І нашая гэта арганізацыя *Таварыства прыяцеляў „Беларусаведы”* падходзіла ва ўнівэрсітэцкай сістэме пад групу гэтых колаў. Старшынём „кола*” Таварыства прыяцеляў „Беларусаведы”* быў *доктар* ***Станіслаў Станкевіч***, пасьля быў ***Вітаўт Тумаш***, пасьля Тумаша зьмяніў я. Я быў два гады (1937 і 1938-ы). А пасьля мяне зьмяніла (калі я ўжо быў на чацьвертым годзе) студэнтка геаграфіі (прозьвішча не прыпомню).

Пры *Беларускім Студэнцкім Саюзе* таксама яшчэ лічыўся хор Шырмы. Ён, фактычна, мусіў бы быць як самастойная арганізацыя. Але з увагі на тое, што ішоў прасьлед беларусаў польскай паліцыяй, дык яму выгадней было пры ўнівэрсітэце (з увагі на тое, што ўнівэрсітэт яшчэ ўсё ж захоўваў некаторыя традыцыі унівэрсітэцкіх рэспублікаў). І таму хор Шырмы быў пры ўнівэрсітэце. Называўся ён ***Хор Беларускага Студэнцкага Саюзу пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы***. Бальшыня ў хоры былі ўсё ж студэнты, хаця некаторых Шырма прыцягваў (ведамых добрымі галасамі) і зь беларускай гімназіі, нават і зь нейкіх школаў.

Мне вельмі прыемна было (як сябру гэтага хору) прачытаць у адным з артыкулаў (па-мойму, ведамага дасьледніка віленскіх беларускіх арганізацыяў ***Арсена Ліса***), што наш хор Шырмы лічыўся найлепшым хорам. Я, прачытаўшы гэты артыкул, пачаў сабе раздумываць, як гэта сапраўды было. І сапраўды, палякі добрага хору ня мелі, адзіны добры хор такі польскі быў вялікі — гэта хор касьцёлу айцоў Бернардынаў, але ён меў вельмі спэцыфічны характар касьцельнага хору.

***З. Пазьняк:*** — Некалі ў канцы 1960-х гадоў я здымаў фотаальбом *„*Браслаўшчына*”*, зайшоў у браслаўскі шпіталь (каб сфатаграфаваць апэрацыю) і спаткаў там лекара-хірурга Фэрдынанда Ляўшу, які закончыў Віленскі ўнівэрсітэт і быў сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу (дарэчы, бываў у доме Пазьнякоў). Гэты Ляўша казаў мне, што хор Рыгора Шырмы быў тады найлепшым у заходняй Беларусі.

***А. Шукелойць:*** — Ад нас мог быць лепшым хорам — гэта хіба што габрэйскі хор. Яны мелі кансэрваторыю і сваіх здольных музыкаў і сьпевакоў. Наш хор цешыуся вельмі добрай рэпутацыяй у Вільні, выступаў пры розных нагодах, скажам, у Бернардынскім садзе, выступаў у такой вялікай залі на Коньскай вуліцы (заля Віленскай кансэрваторыі). Ён вызначаўся йшчэ тым, што меў багаты рэпэртуар, сьпяваў ня толькі беларускія песьні, але, згодна вымогі, царкоўна-славянскія творы. Вось, скажам, рабілі спэцыяльныя канцэрты калядак. Апрача гэтага ён часта выступаў таксама ў віленскім радыё.

Прыемна было, што беларускае музычнае мастацтва чуе цэлая Польшча, бо тады, калі выступаў хор Беларускага Студэнцкага Саюзу ў віленскім радыё, то гэта перадача йшла на цэлую

Польшчу, ці трансьлявалася іншымі радыёстанцыямі.

***ТБШ*** — гэта старая беларуская арганізацыя, закладзеная йшчэ ў 20-х гадах. Старшынямі яе былі людзі розных палітычных перакананьняў. Быў нейкі час *Тарашкевіч*, быў нейкі час *ксёндз Адам Станкевіч*, здаецца, *Астроўскі*. Словам, у рэзультаце росту *Грамады*, ТБШ (якое ў *Грамадзе* мела сваімі старшынямі такіх выдатных людзей, як Тарашкевіч, ксёндз Станкевіч, ня можна страціць. Зьвярнуліся да Беларускага Студэнцкага Саюзу, і Саюз выслаў групу студэнтаў (гэта ***Шчорс***, ***Войтэнка***, ***Аўген Аніська***). Гэтыя студэнты ўвайшлі ў галоўную ўправу (значыць прынялі ўдзел у выбарах) і аднавілі ТБШ, надалі яму зноў нацыянальны характар, бо яна ўжо мела



***Група студэнтаў гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсітэту (1936—1938 гг.), што належылі да „Беларускага Студэнцкага Саюзу". Зьлева направа 1-ы рад: Валянціна Пашкевіч (Жукоўская), Марыя Мілюць, прафэсар Эрвін Кашмідар, Эма Залкінд (гісторык, габрэйка), доктар Янка Станкевіч (лектар беларускай мовы). 2-гі рад: Антон Шукелойць, Марыя Войтанка, Янка Хвораст (філёляг), Анэля Каткевіч (гісторык), Станіслаў Станкевіч, Мар'ян Пяцюкевіч (этнограф).***

прадстаўляла культурную частку *Грамады*, школьніцтва, перадусім) разраслося несамавіта, і тады, калі ліквідавалі Грамаду, ліквідавалі адначасна і ТБШ. Тады ТБШ зайшло зусім у тупік, асабліва ў 30-я гады. Ня ведаю, бо гэта йшчэ перада мной было (як я паступіў на ўнівэрсітэт), але нехта зь дзеячоў ТБШ, магчыма, нават і Шырма, зьвярнуўся да Беларускага Студэнцкага Саюзу, каб яны ім дапамаглі. Таму ў некага там думка паўстала, што такую заслужаную арганізацыю, якая ў розныя часы такі характар пра-бальшавіцкай арганізацыі. Абнавілі арганізацыю і выбралі на старшыню вельмі такога саліднага адваката ***Стэцкевіча*** (стары дзеяч, яшчэ з „нашаніўскіх" часоў, які карыстаўся павагай усіх беларусаў). Заступнікам старшыні быў ***Тумаш***.

Часта Вітаўту Тумашу закідалі, што ён нібыта быў з бальшавікамі, што ён быў радыкальна левы чалавек. Гэта няпраўда. Ён ніколі ня быў радыкалам. Сакратаром ТБШ, дарэчы, стаў Шырма.

Перамены засьведчылі, што ТБШ нібы працягвае старыя традыцыі беларускай культурніцкай арганізацыі, а з другога боку, што нібы не адарвалася ад *Грамады*; што яно, у параўнаньні зь Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры (створанага хадэкамі), на чале якога стаяў ксёндз Гадлеўскі, ёсьць арганізацыяй такой лявейшай.

Яны пачалі працу сваю вельмі актыўна. Выдалі адмысловы ліст у змаганьні за беларускую школу, які падпісала ТБШ і Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Гэты ліст разышоўся шырока па ўсёй заходняй Беларусі. Зь ім йшлі ў староствы з змаганьнем за беларускае школьніцтва. Гэта апошняя моцная акцыя была дзьвёх заслужаных беларускіх культурніцкіх арганізацыяў. У выніку гэтага ўсяго іх потым палякі абедзьве разам і зачынілі (па-мойму, у 1937 годзе).

Пасьля гэтага на беларускім грунце з культурных навуковых арганізацыяў заставалася ***Беларускае Навуковае Таварыства***, якім кіраваў ***Антон Луцкевіч***, і якое таксама на гвалт палякі хацелі зачыніць. Знакаміты Беларускі Музэй (які належыў да Беларускага Навуковага Таварыства) імкнуліся ўліць у створаны новы Гістарычны музэй у Вільні.

Але ўжо настала вайна, і гэты праект у палякаў не прайшоў. Йшчэ засталіся не зачыненыя (дзякуючы аўтаноміям унівэрсітэтаў) *Беларускі Студэнцкі Саюз* і *Таварыства прыяцеляў „Бларусаведы"*. Пра арганізацыю Таварыства прыяцеляў „Беларусаведы" мала пішуць. А шкада. Яна выдала друкам два цікавыя апытальнікі, адзін ***Мар'яна Пецюкевіча „Этнаграфічны апытальнік"***, а другі доктара ***Янкі Станкевіча „Моўны апытальнік"***. Прытым ейныя архівы былі на ўнівэрсітэце, тэчка нашага *„Коло пшыяцюл белорусознавства"* знаходзілася ў прафэсара ***Кашмідара*** ў ягонай выкладовай залі. І там яна засталася. Цікава, дзе гэты архіў падзеўся? Гэта трэба было б спраўдзіць, таму што там ёсьць адказы, асабліва вельмі прыгожы моўны адказ на апытальнік Янкі Станкевіча, доктара Вітаўта Тумаша (тады студэнта медыцыны) зь вёскі Сьпягліцы ў Вялейскім раёне. Там усе асаблівасьці іхнай мовы. Ёсьць і другія адказы на апытальнікі. Архіў гэны добра б было знайсьці.

*Таварыства прыяцеляў „Беларусаведы"* вяло беларусаведную акцыю сярод студэнтаў. Паколькі абедзьве беларускія гімназіі былі ўжо зачыненыя, то на ўнівэрсітэт беларусы-студэнты прыходзілі з польскіх гімназіяў. З польскіх гімназіяў яны прыходзілі з польскай мовай, гісторыяй і г.д., і толькі з сьведамасьцяй беларускай. І вось каб надаць ім беларускае *„Я"* — трэба было весьці курс „Беларусаведы", у якім за майго старшынства літаратуру вёў ***Антон Луцкевіч***, мову ***Янка Станкевіч***, гісторыю Беларусі ***Шкялёнак*** (гэта малады адвакат ў Вільні, але ён адначасна й добры гісторык; ва ўнівэрсітэце спэцыяльна вывучаў часы Вялікага Княства Літоўскага), курс пра беларускае мастацтва, архітэктуру вёў ***Лявон Дубейкоўскі***. Гэтыя студэнты з польскіх гімназіяў прыходзілі часта зь беларускай мовай сваёй мясцовасьці, дыялектамі, і тут яны здабывалі тады беларускую літаратурную мову, даведваліся, ці правільна асьвятлялі гісторыю Беларусі, усьведамлялі значэньне беларускага мастацтва і г.д.

***З. Пазьняк:*** — Ці ведалі вы ксяндза Адама Станкевіча?

***А. Шукелойць:*** — А як жа, ведаў. Вось жа ў Вільні жыла мая цётка. Гэта родная сястра маёй маці. У яе двое дзяцей (дачка на ўнівэрсітэце была на гісторыі і сын быў на тэалёгіі, вучыўся за ксяндза). Кожнага году ў час гімназійных вакацыяў я прыязджаў у Вільню адведаць гэту маю цётку. Замужам яна была нібы за літоўцам, Сергіевіч прозьвішча. Быццам бы шляхоцкага такога паходжаньня. Гэты дзядзька мяне вельмі любіў і заўсёды ён абводзіў па Вільні, паказваў Вільню. У першую чаргу йшлі мы ў касьцёл сьвятога Мікалая, гэта на службу Божую, дзе служыў ксёндз Адам Станкевіч. Там я і ўбачыў першы раз ксяндза Станкевіча, а пасьля службы пайшоў з гэтым сваім дзядзькам зь ім пазнаёміцца, дзе ён мяне прадставіў, тады йшчэ вучня гімназіі.

Калі я быў студэнтам, жыў на Завальнай,1, часта меў нагоду бачыць ксяндза Станкевіча, які

прыходзіў у рэдакцыю да Яна Пазьняка абмяркаваць розныя публікацыі ды прыносіў свае артыкулы. Ён вельмі свабодна валодаў пяром, і артыкулы ягоныя былі заўсёды цікавыя. Апрача гэтага кожную нядзелю мы ішлі на службу Божую ў касьцёл сьвятога Мікалая, дзе Ян Пазьняк заўсёды іграў на арганах для службы Божай і разам са студэнтамі сьпяваў духоўныя беларускія песьні. Так што з ксяндзом Станкевічам спатыкаліся вельмі часта.

***З. Пазьняк:*** — Ці не прыходзілася зь ім размаўляць, на якую тэму, якое ўражаньне ён рабіў?

***А. Шукелойць:*** — Мне прыходзілася часта бываць у ягоным працоўным кабінэце, там жа, пры касьцёле сьвятога Мікалая. Бо апрача гэтага ён яшчэ ўтрымоўваў вялікую кватэру на Зарэччы, і на Зарэччы там гаспадыняй была такая ***Шутовіч***, ***Шутавічанка***, сястра ксяндза ***Янкі Шутовіча***. Яе звалі Марыся. Другая сястра — Вэрця, па-мойму, была замужам за Клімовічам. Я ня ўпэўнены. Так што я бываў у ксяндза Станкевіча, бачыў яго пры працы. Заўсёды ён у белым такім фартуху быў на сутану надзетым. Аграмадную бібліятэку меў, багатую.

На другой кватэры я таксама ў яго часта бываў. Там у яго таксама пару студэнтаў жыло, з тых дзеячоў хадэцкіх. Былі там, між іншым, *Дасюкевіч* (старшыня Беларускага Студэнцкага Саюзу) і *Ермалковіч* (другі блізкі чалавек, студэнт хадэцкага кірунку). Там заўсёды, як прыязджаў у Вільню, затрымоўваўся ***Міхась Забэйда-Суміцкі*** (у Станкевіча на Зарэччы). І я меў шчасьце якраз першы раз, калі прыехаў Забэйда-Суміцкі, забраць яго і з Зарэчча завезьці на пробу ў залю Апольлё (так званая, у Вільні найпрыгажэйшая заля Апольлё была ў літоўскай гімназіі). Там, хіба ў 1936-м годзе, арганізаваны быў вельмі ж на высокім узроўні канцэрт. Сярод гасьцей на гэтым канцэрце былі паслы Сэйму, украінцы, іншыя госьці. Так што я адвёз Забэйду-Суміцкага, завёў яго ў залю і там у гэтую суботу перад канцэртам ён рабіў першую пробу, першы раз я чуў ягоны голас.

Мы ўжо так былі прывыкшы да ксяндза Станкевіча, бачылі яго кожную нядзелю, чулі ягоныя пропаведзі. Прамовы ягоныя былі моцныя.

Курыя ксяндза Станкевіча выкінула зь Вільні (па-мойму, у 38-м годзе, а можа ў 37-м). Выкінулі яго зь Вільні пад такім меркаваньнем, што Вільня, маўляў, ёсьць блізка мяжы і што яму як такога ўзроўню дзеячу ня можна тут жыць. І перавялі яго ў Слонім.

У Слоніме ён быў прэфэктам у польскай жаночай гімназіі. І вось, рыхтуючы матэрыял да сваёй працы па народным ткацтве, якую прапанаваў мне прафэсар Мушынскі, я езьдзіў па цэлай заходняй Беларусі (гэта значыць Віленска-Наваградзкім ваяводзтвах), заяжджаў спачатку ў ваяводзтва, выбіраў дазвол, потым у староствах выбіраў дазвол і потым шукаў недзе нейкай вёскі ў гміне і там ужо працаваў тады з гэтымі ткалямі на сваю тэму. І там тады я ў нядзелю вырашыў пайсьці на службу Божую, дзе правіў яе ксёндз Станкевіч. На гэтую службу прыходзілі тады (апрача вучнёўскай моладзі) пераважна інтэлігенцыя. Ксёндз меў казаньне, зразумела, на польскай мове. Але на мяне яно зрабіла вельмі моцнае ўражаньне. Станкевіч быў выдатны прамоўца.

Пасьля службы Божай я зайшоў спэцыяльна йшчэ яго адведаў. Там даволі доўга гутарылі пра сітуацыю ў Вільні, пра зьмест маёй працы, пра паездку і інш. Гэта было апошняе маё спатканьне з ксяндзом Станкевічам.

* * *

Недзе, відаць ў 1933-м годзе, мы (група вучняў беларусаў Ашмянскай польскай гімназіі) вырашылі рабіць угодкі паўстаньня Случчыны (Слуцкі Збройны Чын). Паколькі я найлепш Вільню ведаў, дык мяне выправілі туды, каб знайсьці адпаведных матэр'ялаў і фатаграфіяў. Ну й вось я прыйшоў у музэй з гэтым сваім дзядзькам. Ён пазнаёміў мяне з ***Антонам Луцкевічам***. Там быў яшчэ ***Сяргей Бусел*** такі, інжэнер, удзельнік Слуцкага паўстаньня (я вельмі задаволены, што мінулага году выцягнулі гэтае прозьвішча). Быў там ***Краўцоў Макар*** — вельмі моцная фігура, афіцэр, аўтар гімну *„Мы выйдзем шчыльнымі радамі"*. Там было йшчэ, па-мойму, нейкіх пара асобаў, сядзелі у Луцкевіча.



(Фота З. Пазьняка)

*Вільня. 2001 г. Базылянскія муры*

Я кажу, што вось прыехаў, мы задумалі ўславіць угодкі Слуцкага паўстаньня, хацелі б мець партрэт кіраўніка Слуцкага паўстаньня, апрача гэтага — матэр'ялы. Я гляджу, Бусел і Краўцоў Макар пераглянуліся так, усьміхнуліся між сабой. Луцкевіч мне кажа: „Слухай, у нас, у беларусаў, троха інакш, як у палякаў. Гэта вы хацелі б мець партрэт такога Пілсудзкага, а ў нас такога няма. Героем Слуцкага паўстаньня ёсьць Слуцкі народ. Вось як.*"* беларусы і патрыёты, то гэта ня тое, што яны арганізавалі гэтае паўстаньне. Бо паўстаньне Случчыны арганізаваў слуцкі народ. І таму фатаграфіі адпаведнай, як у палякаў Пілсудзкага, няма.

Вось і прыклаў лёду да галавы. Далей кажа: „Вось пазнаёмся, гэта ёсьць афіцэры Слуцкага паўстаньня. А гэты — ***Косьцевіч***, ён быў афіцэрам, а інжэнер Бусел быў старшынёй такой арганізацыі моладзі, што называлася „Папараць-



(Фота З. Пазьняка)

***Вільня. 2001 г. Вулачка***

кветка*"*. Ён, вучань гімназіі, увайшоў як прадстаўнік гэтай моладзі ў Раду Случчыны, і таму ён адзін з гэтых кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня.*"* І кажа далей Луцкевіч: „Шчэ час за малы. Магчыма, што недзе некалі нехта выявіць некага, хто будзе, чый партрэт можна павешаць, ладзячы ўгодкі Слуцкага паўстаньня. А пакуль што палажэньне вось гэтакае.*"* Такім было маё першае спатканьне з Луцкевічам.

І тады пачынае мне тлумачыць, што Случчына, знайшоўшыся ў такім палажэньні (а яна была процiў бальшавікоў настроена) вырашыла падняць паўстаньне. Зрабіла ***Зьезд Случчыны***, і Зьезд Случчыны выбраў старшыню Зьезду Случчыны, гэта ***Васіля Русака***. Чалавек выбраны. Зьезд Случчыны пастанавіў весьці паўстаньне і выбраў ***Раду Случчыны***. І на чале Рады Случчыны стаў ***Пракулевіч***, выбралі Пракулевіча. Чалавек выбраны. Пракулевіч зноў, як выканаўца волі случчакоў, народу, пачаў наймаць афіцэраў, і таму слуцкія афіцэры ўсе, ня гледзячы, што яны

Пра ***Васіля Русака*** самыя случчакі гаварылі, што быццам бы гэта чалавек вельмі мала пісьменны, але ён быў з харызмай, і таму яго

народ Случчыны выбраў на старшыню Зьезду Случчыны. А сам па сабе ён, здаецца, быў ці старшыня нейкай воласьці на Случчыне, ці старшыня, можа, нейкай сельскай грамады. Словам, чалавек зь невялікай асьветай. Але аказаўшыся на эміграцыі, ён такі з добрым сялянскім розумам быў, закончыў сярэднюю асьвету, а потым закончыў агранамічны факультэт (нейкай палітэхнікі) і быў інжэнер і аграном. Жаніўся з чэшкай, яна мела бізнэс і, па-мойму, ці ня толькі краму. Яны ў краме гэтай жылі. Ён меў вельмі прыгожую бібліятэку. Грошай не шкадаваў, купляў кніжкі, апраўляў іх. Тады, калі прыйшлі бальшавікі, яго адразу арыштавалі і ня ведама, ці расстралялі, ці саслалі. Словам, ён выявіўся як прыгожая постаць лідара Случчыны.

***З. Пазьняк:*** — Бальшавікі, кажаце, арыштавалі. Дык гэта маюцца на ўвазе тыя бальшавікі, якія ў 1944-м прышлі?

***А. Шукелойць:*** — Так, у 44-м годзе. Пракулевіч жа (адвакат, па-мойму, юрыст з асьветы) таксама апынўся на эміграцыі (ці ня толькі ў Бэрліне). Потым з часткай дзеячоў БНР вярнуўся ў БССР, і там яго саслалі.



***Ксёндз Адам Станкевіч***

З пункту гледжаньня ***Антона Адамовіча***, ён дзяліў беларускіх герояў заўсёды на дзьве групы: гэта герой чыстай вады і трагічны герой. Трагічныя героі, гэта тыя, што паехалі назад, у БССР да бальшавікоў, будаваць Беларускі Дом, а там іх потым саслалі і расстралялі. Адным з такіх герояў быў ***Сымон Рак-Міхайлоўскі***, які паехаў туды і якога саслалі на Далёкую Поўнач. Адзін украінец зь ім там разам жыў у лягеры. Той украінец потым дзіўным тропам прыехаў на Ўкраіну, а потым аказаўся на эміграцыі (уцёк разам зь немцамі). Ён напісаў успамін, там ён вельмі цікава згадвае пра Рак-Міхайлоўскага, які казаў: „Нам так і трэба. Ня шкодзіць, правільна бальшавікі зрабілі. Так нам і трэба, на гэта мы й заслужылі.”

***З. Пазьняк:*** — Гэта была іронія?

***А. Шукелойць:*** — Так, прызнаньне Рак-Міхайлоўскага.

***З. Пазьняк:*** — Што зрабілі памылку і заслужылі такой кары за свае ілюзіі.

***А. Шукелойць:*** — Так. Другі, аб кім трэба сказаць — гэта ***Сяргей Бусел***. Я маю ў сваім архіве кароценькі ліст, калі яго саслалі на Далёкую Поўнач і ён там піша да сваіх сяброў (даслоўна): „Ня будзем плакаць і ня будзем каяцца за няўмела пастаўлены крок.” Вось як прышлі бальшавікі ў 39-м годзе, то там цэлая група беларускіх дзеячоў у Вільні пайшла зь імі на супрацоўніцтва. Яны думалі, што гэта будзе так, як калісь у БССР, будзе НЭП. Гэты НЭП яны патрапяць выкарыстаць і ў гэтым часе выхаваць беларускую інтэлігенцыю. А там ідзе вайна, чым

вайна скончыцца, — няведама, магчыма, бальшавікоў разаб'юць, а мы будзем мець інтэлігенцыю. Вось гэта крок быў пастаўлены няправільны.

Інжэнер Сяргей Бусел быў вельмі цікавым чалавекам. Ён таксама са Случчыны, скончыў у Празе аграномію. У Вільні ён (вельмі дзіўна) працаваў на габрэйскіх фермах, выхоўваў маладых жыдоўскіх хлопцаў і дзяўчат, што паехалі будаваць Ізраіль. Дзеля таго, што гэтыя фермы і гэтую моладзь, якую ў Польшчы габрэі рыхтавалі на выезд у Палестыну, тады на будову свайго дому вяла арганізацыя Паалей Сыён. Гэта палітычная арганізацыя, якая паўстала на Беларусі, яна была адпаведнікам нашай эсэраўшчыны (гэта значыць, народніцкага такога сацыялізму). І вось Бусел у іх працаваў, рыхтаваў дзяцей на выезд.

***З. Пазьняк:*** — Цікава, як жа яны дазволілі негабрэю выхоўваць сваіх піянэраў?

***А. Шукелойць:*** — Ён вучыў іх земляробчай спэцыяльнасьці.

У час майго старшынства ў *Таварыстве прыяцеляў „Беларусаведы"* я сарганізаваў беларусаведны курс і запрасіў на выкладчыка літаратуры ***Антона Луцкевіча***. Ён у заходняй Беларусі ў тыя часы быў найвыдатнейшым літаратуразнаўцам і літаратурным крытыкам. Хаця ў дачыненьні да Луцкевіча тады беларускае грамадзтва мела вялікія засьцярогі з увагі на тое, што ў час грамадаўскага працэсу Луцкевіч там выказаўся выразна па польскай старане. Пасьля гэтага быў звольнены ён, Астроўскі, Акінчыц, а іншых грамадаўцаў засудзілі на многія гады турмы. Для нас, для тых, што прыходзілі з польскіх гімназіяў, гэтыя сваркі між групамі беларускага грамадзтва ці беларускіх дзеячоў ня мелі значэньня. Мы арыентаваліся ў асноўным на людзей, якія ў дадзеным выпадку былі нам патрэбныя і якія вызначаліся ведай у патрэбных нам кірунках беларусаведы. І таму Луцкевіч у нас быў вельмі паважаным лектарам. Лекцыі ён вёў на ўнівэрсітэце, цэлы курс па беларускай літаратуры, на высокім узроўні, цікавым для ўсіх нас.

***З. Пазьняк:*** — Ці былі яшчэ ў Вас якія асабістыя зь ім кантакты, цікавыя размовы?


(выкадроўка)

***Мікола Чарнэцкі. 1938 г.***

***А. Шукелойць:*** — Неяк восеньню Вільня арганізавала такі тыдзень музэяў. Таму віленчукі і розныя наведвальнікі Вільні ў гэтым часе стараліся адведваць віленскія музэі. Беларусаў у першую чаргу цікавіў *Беларускі Музэй імя Луцкевіча*. І таму студэнты дапамагалі Луцкевічу, былі праваднікамі па залях музэю. Я там таксама бываў, хаця я ў гэтым часе ўжо працаваў у Віленскім этнаграфічным музэі і мусіў адбываць тыя гадзіны, калі наш унівэрсітэцкі музэй быў

адчынены. Цяпер экспанаты, якія я прывозіў зь вёсак, я стараўся перадаць у музэй Луцкевіча. З такіх цікавых экспанатаў была там іконка, вышытая пацеркамі, бісерам вышытая, якую я перадаў. Некаторыя паясы перадаў. Рэчы былі невялікага фармату, але вялікай каштоўнасьці,



*Антон Луцкевіч*

дзеля таго, што музэй хоць быў багаты па колькасьці сваіх калекцыяў, але ня меў магчымасьці ўсё разьмясьціць на тых плошчах у базыльянскіх мурах, якія выдзеліў горад.

Пасьля з Антонам Луцкевічам часта прыходзілася спатыкацца ў музэі, абводзячы людзей, якія прыязджалі ў Вільню. У сэнсе палітычным, як ведама, Луцкевіч быў адным зь лідараў сацыялістычнай Грамады, і ён у такіх сацыялістычных перакананьнях заставаўся да канца.

Я б хацеў яшчэ расказаць адзін жарт, паколькі мы раней гаварылі пра ксяндза Станкевіча. Гэта адзін з тых вечаровых жартаў, якія расказваў Ян Пазьняк вечарам для нас, студэнтаў. Антон Луцкевіч, як ведама, быў масонам і належыў да масонскай лёжы ў Вільні. Адзін раз ён вырашыў зацягнуць у лёжу ксяндза Станкевіча, бо гэта ж выдатны дзеяч, і там, відаць, у лёжы, вельмі хацелі б яго мець. І вось ён ужо дамовіўся зь ім, і яны пайшлі. Але ён ня кажа ксяндзу Станкевічу, куды яны йдуць. Вось, маўляў, ідуць адведаць там некага, ня памятаю ўжо каго, магчыма, што рэктара ўнівэрсітэту Станевіча. Ну і прыйшлі ўжо, і падымаюцца па сходах перад дзьвярыма лёжы. Луцкевіч кажа: „Ведаеш, мы з табой прышлі ў лёжу масонаў". І тут ксёндз Станкевіч даў драла. Адразу, адмовіўся ісьці туды і сыйшоў назад. Так што такая няўдача была Луцкевіча ў ягоным супрацоўніцтве з масонскай лёжай.

***З. Пазьняк:*** — Ці гэта было зьвязана з сацыялізмам?

***А. Шукелойць:*** — Не. Лёжы масонскія былі самы па сабе. І Тарашкевіч належыў да масонскай лёжы; ня ведаю, хто там яшчэ. Але наагул сацыялізм з масонствам не хадзіў у пары. Масонства — гэта такі лібэралізм у шырокім маштабе.

Польскія ўлады стараліся ліквідаваць усе беларускія арганізацыі. Іх, практычна, былі ўжо зьліквідавалі. Заставаўся йшчэ Беларускі музэй у Вільні. Гэты музэй, як я ўжо казаў, яны думалі далучыць да новатворанага гістарычнага музэю горада Вільні, які меў знаходзіцца ў новым будынку. Гэта апошняе, за што Луцкевіч і беларусы змагаліся, каб утрымаць незалежнасьць музэю. Але пачалася вайна, і ўся гэтая справа скончылася.

З прыходам бальшавікоў (я тады ў Вільні ня быў) сабраўся там віленскі беларускі актыў (і ў тым — Луцкевіч), сацыялісты гэтыя розных кірункаў, і вырашылі, што ня ведама, ці гэты бальшавізм тут утрымаецца і як доўга, але трэба выкарыстаць магчымасьці, якія цяпер ёсьць, так, як калісь выкарыстоўвалі ў цэнтральнай Беларусі ў час НЭПу. І таму трэба ісьці

працаваць ў іхныя арганізацыі і там праводзіць сваю работу. Крок памылковы, пра які мы толькі што гаварылі.

І вось Луцкевіч тады, пасьля гэтага ўсяго, на іншым сходзе віленскай інтэлігенцыі выступаў з прывітаньнем бальшавікоў. Гэта было памерлі. Я заўсёды гаварыў, што, відаць, яны загінулі адразу ў Вільні, загінулі, бо ніхто зь іх нідзе не спатыкаўся на гэтых дарогах ссылак ды турмаў.

Тым часам беларусаў там (у Вільні і Менску) нехта пераканаў, што Антон Луцкевіч памёр у



***Група беларускіх эсэраў. 1938 г. Зьлева направа: Аляксандар (Аляксандравіч) Барановіч (студэнт права), інжэнер Сяргей Бусел, Антон Шукелойць, Аўген Аніська (студэнт права, рэдактар „Золаку"), доктар Мікола Чарнэцкі (доктар гісторыі Карлаўскага ўнівэрсітэту ў Празе; пасьля Тамаша Грыба – лідэр беларускіх эсэраў і ідэоляг), доктар Мітрафан (Мацьвей) Смаршчок (на эміграцыі – паэт Анатоль Бярозка; жыве ў ЗША ў штаце Мініапаліс).***

перададзена па радыё. Але потым іх пачалі арыштоўваць. Арыштавалі Луцкевіча, інжэнера Бусла (які ўжо кіраваў сельскай гаспадаркай), тады арыштавалі Яна Пазьняка, сэнатара Вячаслава Багдановіча, Аляксандра Ўласава, словам, цэлы шэраг беларускіх дзеячоў. І сьлед па іх згінуў. Цяпер іх разшукваюць і мяняюць даты, дзе і калі яны 1946-м годзе, і гэтую дату яны напісалі на помніку Луцкевіча на Росах. Цяпер у гэтым годзе нядаўна прышоў ліст тут да сям'і Луцкевічаў, да Яніны Шабуні-Каханоўскай, што быццам бы знайшлі нейкі дакумант, што на ссылцы недзе памёр ён у 1942-м годзе. І ўсё думаюць зьмяніць там гэтую дату на помніку на Росах. Так што лёс яго няведамы.

Пра нашых дзеячоў, што загінулі задарма, я асабіста маю толькі маленькую заметку, тую зацемку ад Сяргея Бусла, дзе ён з горыччу піша пра расплату за ілюзіі і памылкі.

***З. Пазьняк:*** — Яны не з’арыентаваліся, што бальшавікі прышлі, каб іх зьнішчыць.

***А. Шукелойць:*** — Так. Але калі мы ўжо пры тэме аб зьнішчэньнях, якія тварылі бальшавікі, то я раскажу яшчэ пра аднаго моцнага беларуса.

У Вільні быў выдатны дзеяч, надзвычайны прамоўца, можа нават з цывільных прамоўцаў найлепшы, гэта *доктар* ***Франук Грышкевіч***. Ён сам з каталіцкай сям’і. Першыя гады недзе ў гімназіі ён выявіўся як паэт, блізкі быў да хадэцыі. А потым, пасьля вучобы ў Празе і пасьля кантактаў там, ён стаў на адкрыта камуністычную ідэалёгію. Калі ён прыехаў у заходнюю Беларусь, яму вельмі цяжка было: нідзе не працаваў. Праўда ажаніўся з дзяўчынай з выдатнай беларускай сям’і, з дачкой ***Кэпеля***. Гэта такі віленскі беларус, быў апекуном беларускай гімназіі.

Так што мы міма волі знайшліся каля асобы доктара ***Францішка Грышкевіча***. У заходняй Беларусі гэта выдатны дзяяч камуністычнага кірунку, які ў выніку 2-й Сусьветнай вайны і тых пераменаў, якія адбываліся на Беларусі, перайшоў на нацыянальныя пазыцыі. За часы нямецкай акупацыі ён быў дырэктарам аднаўленай беларускай гімназіі ў Вільні. І на гэтай пазыцыі заставаўся да канца. З прыходам бальшавікоў быў арыштаваны і скончыў самагубствам.

***З. Пазьняк:*** — Гэта 1944-ы год?

***А. Шукелойць:*** — Так, 44-ы. Гэта быў усё ж выдатны дзеяч, добры знаток беларускай літаратуры, добры пэдагог, асабліва выдатны прамоўца. Я першы раз чуў ягоную прамову ў нас на сьвяткаваньні 15-х угодкаў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў залі Сьнядэцкіх, дзе ягоны выступ вельмі часта перабівалі апладысмэнтамі прысутныя ў залі. Потым унівэрсітэцкая адміністрацыя папрасіла, каб гэтага прамоўцу не запрашаць на нашыя ўрачыстасьці, бо гэта вельмі „дэмагагічныя”, моцныя антыпольскія выступленьні.

Вось такім я ведаў Грышкевіча. У тыя часы я часта зь ім спатыкаўся, бо я быў у кантакце з тымі, што вучыліся ў Празе, асабліва з доктарам ***Чарнэцкім*** і з гэтым інжэнерам Буслам. Грышкевіч быў клясычным прыкладам таго трагічнага героя, якога акрэсьліў Антон Адамовіч. Супрацоўнічаў з бальшавікамі на 100 працэнтаў, і яны яго — зьліквідавалі. ■



(Фота З. Пазьняка)

***Панарама Вільні. 2001 г.***

# ПЕРШЫЯ САВЕТЫ (1939-1941)

*А. Шукелойць:* — Канец Польшчы і пачатак Беларусі я праседзеў у гумне ў свайго дзядзькі Вінцука ў сваёй вёсцы. Баяўся вылазіць, бо пачуў, што ў Вільні арыштоўваюць і высылаюць у Бярозу Картузкую, у тым ліку і студэнтаў. Для мяне лепш было б абмінуць тыя арышты.

У вёсцы ўжо гаварылі: вось прыдуць бальшавікі. Што яны сабой ўяўляюць? Палякамі людзі былі нastрашаныя, таму гэты мой дзядзька Вінцук, які быў у Першую Сусьветную вайну і ў рэвалюцыю ў Маскве і бачыў іх бліжэй, займаў некаторае становішча там, кажа: „Э, слухай, няма чаго баяцца, гэта ж нашыя людзі прыходзяць!”

Ну вось, прыйшлі бальшавікі. Мы чулі, што ўжо рыхтуюцца іх спатыкаць у Жупранах. Як ужо бальшавікі гэтыя прышлі, я адразу падаўся ў Вільню. Прыехаў у Вільню, каб даведацца, што чуваць і што рабіць. І там мне сказалі, што ўжо розныя гэтыя паседжаньні былі, і што пастанавілі ўключацца ў работу, выкарыстоўваць гэты мамэнт вайны і рабіць беларускую справу. Такая пастанова была беларускай інтэлігенцыі з Луцкевічам, а потым такую ж самую пастанову прыняла і нашая група „Золак”. (Гэта значыць, з гэтых беларускіх сацыялістых, тыпу эсэраў, з доктарам Чарнэцкім на чале.) І на аснове гэтых пастановаў інтэлігенцыя пайшла працаваць перад усім у школьніцтва: трэба было падняць школьніцтва, а потым — згодна з рознымі прафэсіямі людзей, — іншыя дзялянкі жыцьця. (Другой галоўнай дзялянкай была для нас сельская гаспадарка.)

## *На школьнай ніве*

У Вільні я не паказваўся нідзе, нават на сваю кватэру не заехаў (там, дзе я жыў), а спаткаўся з маімі прыяцелямі габрэямі. Гэта ***Якаў Сукержыс***, сын ашмянскага настаўніка, закончыў матэматычна-прыродаведны факультэт, спэцыяліст па тэалёгіі, які быў 6 гадоў настаўнікам габрэйскай сэмінарыі ў Вільні, выдатны пэдагог, з добрым веданьнем беларускай мовы; і другі — гэта ***Яўхім Хаес***, мой калега па этнаграфіі, які працаваў у Габрэйскім Інстытуце ў Вільні. Гэта ў тыя часы была некаранаваная Акадэмія Навук усяго жыдоўства ў сьвеце, таму што Ізраіль у той час йшчэ не існаваў, а былі там невялікія групкі моладзі, якія выкуплялі ад арабаў фермы, арганізоўвалі фабрыкі і будавалі першую сваю сталіцу Тэль-Авіў. Я забраў гэтага другога майго прыяцеля Хаеса (ён камуніст па сваіх перакананьнях, даўжэйшы час, шэсьць гадоў, здаецца, сядзеў у турмах, там спатыкаўся зь беларусамі, беларускую справу добра ведаў).

Вось мы зь ім і прыехалі ў Ашмяны. Так што *Сукержыс* адразу, як прафэсійны настаўнік, пайшоў працаваць у гімназію, сказаў, што ён настаўнік, пераязджае сюды, прыміце яго на работу. Ну і дырэктар (йшчэ польская тады гімназія) яго прыняў.

А з Хаесам мы пачалі арганізоўваць першую беларускую вячэрнюю сярэднюю школу дзеля таго, што ў горадзе тады і ў раёне патрэбныя былі людзі, якія ведалі беларускую мову і канцылярскую працу.

Гэтых дзяўчатаў й хлопцаў, што прышлі працаваць у гарадзкую ўправу, у раённую ўправу (некаторыя зь іх мелі польскія сямігодкі скончыўшы, некаторыя крыху нейкіх іншых школаў ці некалькі клясаў гімназіі) — усіх гэта мы сабралі і арганізавалі вячэрнюю *Першую беларускую сярэднюю школу*. (Гімназія, як я ўжо казаў, была йшчэ польская.) Тады, недзе пасьля нейкага часу, у гімназію пайшоў і я. Паколькі тут усталявалася Беларуская дзяржава, то патрэбная была ў школе беларуская мова.

Тады, калі я прышоў у гімназію, дырэктара гімназіі ўжо не было. Яго бальшавікі арыштавалі, відаць, у тым самым часе прыблізна, як і беларускіх дзеячоў. Было яшчэ чатырох настаўнікаў, што памяталі мяне з Ашмянскай гімназіі. Я пераехаў зь Вільні тады адразу разам з тымі габрэямі, згодна з пастановай, што „разьязджацца і працаваць на арганізаваньне”.

Я прышоў у гэтую гімназію як настаўнік на першы настаўніцкі курс. Калі вырашылі пераводзіць школы на беларускую мову, то паклікалі першую групу настаўнікаў з польскіх школаў. Многія зь іх ведалі беларускую мову, бо йшчэ ў сэмінарыі нейкі час выкладалася беларуская мова. З гэтай групы было чалавек 50 першых настаўнікаў. Я ў тым самым клясе, у якім некалі здаваў іспыт, правёў першую лекцыю беларускай мовы. І потым цэлы час на працягу месяца.


ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫ САЮЗ РАБОТНІКАЎ
ПАЧАТКОВАЙ І СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ
БЕЛАРУСКАЙ ССР

ЧЛЕНСКІ БІЛЕТ
№ 099716

ПРОЗВІШЧА Шукелойць
ІМЯ, ІМЯ ПА БАЦЬКУ Антон Антон.
ГОД НАРАДЖЭННЯ 1915
ПРАФЕСІЯ Настаўнік
ВЫТВОРЧЫ СТАЖ
ГОД УСТУПЛЕННЯ Ў САЮЗ 1939
ГОД УСТУПЛЕННЯ Ў ДАНЫ САЮЗ 1939
ПОДПІС ЧЛЕНА САЮЗА
НАЗВА ПРОФАРГАНІЗАЦЫІ Ашмянскі РК Саюза
ДАТА 27-II-40 г.
ПОДПІС
М. П.

*Савецкі прафсаюзны білет А. Шукелойця.*

Прышлі каляды, калядныя канікулы, і мы паклікалі зноў другую групу настаўнікаў. І так паступова школы пачалі пераходзіць на беларускую мову.

У гэтым часе адбываліся ў горадзе таксама розныя адміністрацыйныя выбары. У выніку першых выбараў я быў выбраны у Гарадзкі Савет. Мне даручылі аддзел асьветы і культуры.

Наступны курс настаўнікаў падрыхтавалі, і пачалася арганізацыя школьніцтва. Тады пасьля калядаў я пайшоў настаўнікам беларускай мовы ў гімназію. (Ужо гімназія стала беларускай сярэдняй школай.) Усе прадметы, з выняткам толькі матэматыкі, якую выкладаў цяпер парасейску той прафэсар, які намовіў майго бацьку, каб аддаць мяне ў гімназію. А так усе прадметы ўжо выкладалі на беларускай мове.

Ішла адбудова школьніцтва. Тады, пасьля Новага году, усюды, па ўсёй заходняй Беларусі, быў загад арганізаваць настаўніцкія 6-месячныя курсы. На гэтыя 6-месячныя курсы вымагалася мінімальная асьвета (польская сямігодка). Паступалі людзі з рознай асьветай: былі толькі з сямігодкай, былі тыя, што мелі пару курсаў унівэрсітэту (так прынамсі ў нас, у Ашмяншчыне было).

Хлопец ці дзяўчына, калі прышлі з закончанай польскай сямігодкай, то ад іх не вымагалася алгебры ведаць, геамэтрыі ці трыганамэтрыі, але арыентавацца ў межах арыфмэтыкі. Перадусім націск быў на мэтодыку, каб умелі выкладаць, вучыць. Гэта вельмі вялікая справа. Так некаму здаецца, што як ён мае вялікую асьвету, дык ён можа вучыць дзяцей, скажам, у пачатковай школе ці сярэдняй. Не, тут трэба ведаць, як вучыць. Націск быў на пэдагогіку, там выкладчыкамі былі найлепшыя пэдагогі з нашага раёну.

Выпусьцілі тады гэты 6-месячны курс хлопцаў і дзяўчат. Да вясны яны здалі іспыты. Некаторыя з тых, што слабейшыя былі, у школу пайсьці не маглі, то іх накіравалі ў бібліятэкі, альбо ў так званыя хаты-чытальні. А ў аснаўным у нас ў Ашмяне, падрыхтавалі, можа, нейкіх больш сотні настаўнікаў новага выпуску гэтых 6-месячных курсаў.

Пачатак 40-га году. Новыя настаўнікі ўжо разышліся па школах. Прафэсійных польскіх настаўнікаў не звальнялі, яны заставаліся. Прайшлі курс беларускай мовы і заставаліся. Сярод іх было вельмі шмат прыхільных да беларускай справы. Як ведама, польскае настаўніцтва міжваеннай Польшчы было левае, і таму для іх праца ў беларускай школе не рабіла вялікай розьніцы. А тыя, што былі афіцэры ці нацыяналісты, то яны паўцякалі.

***З. Пазьняк:*** — Які быў склад польскага настаўніцтва па нацыянальнасьці?

***А. Шукелойць:*** — Па нацыянальнасьці шмат зь іх было палякаў і прысланых з Польшчы. Але былі і беларусы. Былі й такія палякі, што пратрывалі на Беларусі ад пачатку незалежнасьці Польшчы, гэта па 18, 19 гадоў. Так што для іх мова беларуская была ведамая: у вясковых школах яны ж працавалі з нашымі людзьмі.

Цікавыя былі выпадкі ў школьніцтве. З аднаго боку паляк настаўнік з добрым веданьнем пэдагогікі, і з другога — малады гэты 6-месячны настаўнік. Гэты 6-месячны настаўнік у беларускай кнізе ставіў націскі над словамі. У малодшых клясах пачатковай школы апэруецца невялікай колькасьцю слоў. Там, ведаючы пару сот слоў, зусім добра можна весьці лекцыю. Так што школы былі ў добрым выглядзе.

Гэта 1939-1940 навучальны год. У гэтым годзе зрабілі йшчэ адзін вялікі курс настаўнікаў. Тры групы былі. Адна група, што добра ведалі мову (выкладаў нейкі лектар, зь Менску прыехаўшы). Другая група з сярэднім веданьнем мовы. Трэцяя група, што беларускай мовы ня ведалі і якую я вёў, выкладаў беларускую мову па-польску (беларускую граматыку).

Пасьля гэтага мяне паслалі ў Менск, у камуністычны інстытут журналістыкі КІЖ. Там вяліся курсы для савецкай мясцовай адміністрацыі, што ўжо ўключылася ў працу ў заходняй Беларусі. Ну й пасьля месяца, закончыўшы гэты курс, я вярнуўся ўжо пад восень, і тут мне запрапанавалі альбо старшынёй горада Ашмяны, альбо школьным інспэктарам. Ну, зразумела, я пайшоў на школьнага інспэктара.

Яны вельмі хацелі, тым больш, што там у райкоме партыі быў такі прыяцель беларусаў даволі вялікі — ***Галушчанка***. Ён беларус з Гомельшчыны, паляшук. Гэтак я пачаў інспэктарскую працу. Пачаў езьдзіць па школах, глядзець, як уключыліся гэтыя нашыя з 6-месячных курсаў настаўнікі ў аднаўленьне беларускіх школаў.

У выніку ўсяго паўстала шмат новых беларускіх школаў там, дзе яны калісь былі, скажам, асабліва ў Смаргоншчыне, каля Крэва. У Крэве пачаў дзеяць у школьніцтве ***Юльян Саковіч*** (вышаўшы з турмы), пасьля ведамы дзеяч у час нямецкай акупацыі ў Менску. У нас было, здаецца, 99 школаў, 92 школы паводле сьпісу, на якія нам давалі грошы, згодна школьнага бюджэту. У гэтым ліку былі дзьве расейскія школы (адна ў Ашмяне, якую сарганізавалі яшчэ перад тым, як я прыехаў зь Вільні), для адміністрацыі і дзяцей вайскоўцаў. Другую школу сарганізавалі, русафільскага характару людзі ў Гальшанах (гістарычны такі гарадок, мястэчка). І былі дзьве польскія сямігодкі. Адна з гэтых сямігодак улілася ў беларускую гімназію, і такім парадкам стварылася дзесяцігодка (згодна з сістэмай арганізацыі школьніцтва ў СССР). А другая стварылася для тых дзяцей палякаў, якія засталіся ў выніку вайсковых пераменаў. Яшчэ адна польская школа была ў мясцовасьці, між Жупранамі і Смаргонямі, дзе быў лес і неўжытковая зямля, на якую пры Польшчы перавезьлі высяленцаў-палякаў. Гэта тады граф Чапскі даў такую зямлю, бо на пачатку паўставала пытаньне парцэляцыі маёнткаў і вялікіх царкоўных гаспадарак. (Асабліва праваслаўная царква захапіла вялікія землі.) У сувязі з парцэляцыяй гэты граф Чапскі аддаў для ўраду польскага няўдобіцу, а тыя там перавезьлі з Польшчы беднату і пасадзілі яе на гэтую зямлю. Такая ў іх была палітыка.

Гэта бедната там сядзела. Яны нікуды не ўцякалі, нікуды не параязджалі, не належылі да польскіх арганізацыяў (гэтых „патрыятычных”) і г.д. І таму бальшавіцкая ўлада вырашыла даць ім польскую школу (4-хгадовую, па-мойму).

У Ашмянах былі дзьве габрэйскія школы, адна на ідыш, а другая на іўрыце. У выніку савецкіх парадкаў школа з габрэйскай мовай мусіла зьліквідавацца. Зьліквідавалі і стварылі адну школу з мовай ідыш. Дырэктарам школы там быў такі ***Дэулеэз***, а гэты мой калега Яўхім Хаес быў заступнікам.

Вось так выглядала школьніцтва ў гэты час у заходняй Беларусі (першыя два гады). На другім годзе была тэндэнцыя сарганізаваць больш расейскіх школаў, і я вось езьдзіў тады з адным

чыноўнікам былой Вілейскай вобласьці ў стараверскую вёску *Гай*, дзе старавееры катэгарычна адмовіліся ад расейскай школы, папрасілі, каб у іх захавалася беларуская школа.

***З. Пазьняк:*** — Нагадайце гісторыю зь вёскай Гай.

***А. Шукелойць:*** — Мяне выклікалі ў райкам партыі, гэты самы Галушчанка, сакратар, і кажа, што вось тут прыязджае з вобласьці заступнік, здаецца, сакратара партыі, ці што, і хоча паехаць з вамі ў стараверскую вёску, дзе насельніцтва ёсьць расейскае. Мы зь ім паехалі ў гэтую вёску Гай, склікалі там сход. Гэты самы чыноўнік з вобласьці расказаў, што яны маюць магчымасьць, калі хочуць, арганізаваць тут расейскую школу. (Бо ў іх да гэтага часу беларуская школа была). Яны тады выслухалі гэта, адзін зь іх спытаў: „А якая гэта дзяржава?”

Сакратар кажа, што гэта ёсьць Беларусь, БССР. „Ну, як Беларусь, — кажа старавер, — дык мы патрабуем беларускай школы.” І на гэтым скончылася. Партыец з нічым і паехаў.

Выпадак быў такі, што вырашылі ў час канікулаў ўсе школы распусьціць і даць свабоду выбіраць, якую яны хочуць школу (бо ў райкам партыі хадзілі розныя людзі прарасейскага характару, магчыма, жонкі тых афіцэраў НКВД). У Ашмяне адчынілі да гэтага часу жыдоўскую, польскую, беларускую, расейскую школы. І таму, значыць, распусьціць іх. Школьнікі куды яны хочуць — няхай ідуць.

У выніку гэтага найбольш пацярпела жыдоўская школа, таму што многія бацькі рэлігійна настроеных і з'арыентаваных на будучыню габрэяў вырашылі пасылаць дзяцей у расейскую школу. Габрэйская школа вельмі зьменшылася. А наша, беларуская, ўсяроўна моцная была, бо паралельныя былі клясы першыя, а старэйшыя клясы (гэта была гімназія), яны таксама засталіся. Гэты самы Хаес намовіў мяне, і мы пашлі ў райкам партыі на гутарку ў гэтай справе. Там нас прыняў другі сакратар райкаму, па-моему, габрэй, чарнявы такі, гадоў 50 чалавек. Ну і — „В чём дело?”

Гэты Хаес пачынае расказваць, што вось вы загадалі распусьціць школы, у выніку ў нас некаторыя школы, асабліва габрэйская, знаходзяцца ў стане ліквідацыі. А расейская школа пухне.

Ён нас выслухаў, падумаў і кажа: „А вы што, проців рускага языка, языка, на каком пісал Пушкін, пісал Ленін, гаваріт Сталін?” Мы і прыціхлі тады.

Але гэты Хаес кажа: „Слухайце, я камуніст, я адседзеў за камунізм 6 гадоў. Мой сябра сацыяліст таксама. Мы марксізм добра ведаем. Скажыце, дзе ёсьць сказана ў Маркса, ці якога іншага клясіка сацыялізму, што калі ўлада пераходзе ў рукі рабочых, школьніцтва павінна перайсьці на расейскую мову?”

Тады так заціхла ўсё, ціха стала, а той і кажа: „Слушайце, ребята, вы лучше уходіте с тем, с чем вы прішлі”. І на гэтым скончылася. Так мы зь ім і пайшлі.

# Інспэктар

1940-вы год. Вестка прыйшла з Гроўжышак. Паслалі туды дырэктарам такога, што прыехаў з БССР, закончыўшы недзе Аршанскі, ці што, двухгадовы настаўніцкі тэхнікум. Ён любіў гарэлку. Сяляне за яго ўзяліся, распаілі яго, ну і рабілі ўсялякія штукі. Напояць яго, пасадзяць на каня тварам да хваста і ганяюць па выгане. Гэтак выглядаў дырэктар школы. Тады прышла зіма, не назапасілі дроў, сьнегу навяліла, і ў школу зайсьці ня можна, і там холад сабачы. Заняткі затрымалі, школа спыніла дзейнасьць.

Гэты самы Галушчанка выклікае мяне і кажа: „Вось табе заданьне: пусьціць гэтую школу ў рух. Выкарыстоўвай усе магчымасьці, якія можаш. Хочаш, звальняй, каго хочаш сам, хочаш, набірай новых і гэтак далей.

Школа-сямігодка, не працуе ўжо месяц. Да яе ехаць, трэба ж рыхтавацца. Не паедзеш жа так, абы як. І таму я спачатку засеў вывучаць у інспэктараце дакуманты (польскія йшчэ), што гэта была за школа, што там за настаўнікі і гэтак далей. Трэба навесьці „бальшавіцкі парадак”. (Яшчэ як нас выпускалі з КІЖу, то такі **Клімаў Фрол Іванавіч** нам казаў: „Мы вам далі веды,

якія даюць вам магчымасьць навесьці бальшавіцкі парадак на любом проізводстве".) Ну дык з такой сілай ведаў я мусіў ехаць у гэту школу і навесьці парадак. Але жарты малыя, дык я сеў рыхтавацца. Перагледзеў усіх настаўнікаў, пагаварыў з некаторымі сваімі знаёмымі, пайшоў да майго гэтага прыяцеля прафэсара Сікорскага і кажу, што вось такая справа, мяне пасылаюць у тую школу, я мушу зрабіць там парадак. Якая ваша рада?

Ён кажа: „Там ёсьць былы дырэктар гімназіі зь Дзісны. Ён уцёк з Дзісны і там схаваўся, выкладае матэматыку. Гэта мой калега. Калі ты патрафіш угаварыць яго, каб ён узяў гэтую школу, то ўсё будзе ў парадку. Але май на ўвазе, што гэта ёсьць чалавек, які быў дырэктарам гімназіі і ўцёк, схаваўся."

Я яму падзякваў за гэту параду. Прыйшоў час, і я туды прыехаў. Адразу — у сельсавет. Кажу: „Што ж гэта вы так падбалі, што дроў не навазілі і школа затрымалася? Што вы чакаеце, што сюды прыйдзе Польшча зноў, ці што? Вы ж бачаце, што тут няма чаго чакаць, што трэба карыстацца з таго, што тут ёсьць. Так што, братцы вы мае, зьбірайце вы талаку і вязіце дровы ў школу."

Сабралі людзей, раскапалі дарогу ў школу. Людзі бачаць, што нешта каля школы робіцца. Тады навезьлі троха дроў, падпалілі печы, нагрэлася школа. Тады я склікаў гэтых настаўнікаў, а ўжо перад гэтым пагаварыў з гэтым былым дырэктарам польскай гімназіі. (З п'яніцам я не размаўляў нават.) Кажу: „Мне прафэсар Сікорскі казаў, што вы маглі б гэтую школу пусьціць у рух. Знаеце, гэта ж паршывая справа, сьмярдзіць." Ён кажа: „Але ведаеш, маё палажэньне якое, я ж схаваны".

Я склікаў настаўнікаў, сказаў ім, каб яны падрыхтавалі свае пляны, дзе яны затрымаліся ў гэтай школе ў выконваньні школьнай праграмы, і каб паказалі, як яны думаюць усё дагнаць.

Так што ў школе было ўжо цёпла, настаўнікі прышлі, зрабілі першае паседжаньне. Я ім даў заданьні, што яны маюць падрыхтаваць на наступны дзень. Будзем зьбірацца кажнага дня, аж пакуль школу пусьцім у ход. Тады я паклікаў гэтага дырэктара і кажу: „Слухай, што ты тут нарабіў!"

Ён кажа: „Я малады чалавек, яны мяне паставілі на гэтую работу такую, што я зусім да яе не гатовы."

Я кажу: „Далей ты тут быць ня можаш, едзь у Ашмяну. Там зьявіся да Галушчанкі ў райкам партыі, ён табе скажа, што рабіць. А тут я ўжо гэтую школу пушчу."

Настаўнікі падрыхтавалі свае пляны, як яны зьбіраюцца закончыць прадметы. Некаторыя прадметы прыходзілася прыпыніць.

Тут я хачу зрабіць кароткую дэгрэсію. Інспэктарскія мае здольнасьці аказаліся невялікія, але ў час нямецкай акупацыі таксама, як недзе парвалася школа, дык пасылалі, каб навесьці парадак. Дык туды я прыязджаў. У ваенных умовах, каб школа функцыянавала на ўзроўні, прыходзілася затрымаць такія прадметы, як гісторыя, геаграфія. У сё, што ў школе, у кніжках можна вычытаць, прыходзілася апусьціць, а матэматыку, фізіку, хімію, аснаўныя прадметы, на падставе якіх вучань заканчвае сярэднюю школу і мае магчымасьць паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову — пакінуць. Прыходзілася затрымоўваць, з выняткам беларускай мовы, усе гуманітарныя прадметы, а пакідаць толькі матэматычна-фізічныя веды. Такі парадак быў на Палесьсі, у Ганцавіцкім раёне гэтак у пару школах я рабіў у час вайны.

Гэта я такое адступленьне зрабіў, каб паказаць, як трэба ўтрымоўваць узровень адукацыі. А тут тады падрыхтавалі настаўнікі праграму, як яны думаюць канчаць школьны год, калі ня будзе перабояў. Я запэўніў, што перабояў ня будзе. Таксама зьнялі частку прадметаў гуманітарнага характару і пусьцілі школу. Гэты самы дырэктар з Дзісны стаў новым кіраўніком школы.

А я адгэтуль паехаў яшчэ ў іншыя школы, у тым раёне, нешта чатыры школы. Кляўіца там, йшчэ нейкая вёска каля Кляўіцы. Дык я прыехаў у Ашмяну аж пасьля 2-х тыдняў, нешта. А ўжо гэты новы дырэктар быў выкліканы ў Ашмяну, Галушчанка зь ім гаварыў, запэўніў яго. Бо, кажа, гэта школа для нас сьмярдзіць, для іх значыць, для райкама партыі.

Далей каля Клявіцы я заехаў у адну школу, дзе мой калега быў настаўнікам. А там ужо такая пайшла пагалоска, што едзе інспэктар суровы. Дык гэты калега потым, знаеце, мне штуку адкалоў. Дзяцей абуў у анучы і ўсё напаказ гэта сядзіць у школе. Значыць, наведваньне школы 98%. Найвышэйшае, якое можа быць. Мароз, холад, зіма, а дзеці ўсе ў школу ходзяць, але абутыя ў гэтыя анучы. (Ён паказаў: вось ты бачаш, савецкая ўлада да чаго давяла школьніцтва, дзетвару, во, зрабі парадак!)

Я сказаў яму, што ўсе дзеці будуць абутыя. Добра, кажу, што ты тут гэтую школу вядзеш, не спыніў, як той.

Вярнуўся ў Ашмяну. А гэты мой прафэсар Сікорскі кажа пра дырэктара школы, якога я прызначыў, што калі ён там возьмецца, то давядзе да ладу. Словам, канец быў такі, што ў 41-м годзе з пачаткам вайны мяне арыштавалі, а дырэктар школы там застаўся, ня гледзячы на тое, што ён быў дырэктарам польскай школы, што ён уцёк і схаваўся, але ён быў вельмі патрэбнай асобай.

Я тады паехаў йшчэ ў іншыя школы. Вечарам пайшлі мы з маім сябрам *Барановічам* адведаць маю адну сяброўку (там таксама недалёка жыла). Прыязджаем (гэта кілёмэтраў нейкіх шэсьць ад Клявіцы), аж гляджу — сын работніка памежнага НКВД. Гэта тып, якога я ўжо ведаў з Ашмяны. Значыць выглядае, ходзіць па маіх сьлядох.

Паслалі мяне йшчэ адзін раз (школьных інспэктараў было, нешта, трох ці чатырох) у адну школу. Дырэктар прысланы з БССР. Малады чалавек. Школа працавала з перабоямі, поўны балаган у гэтай школе. Дырэктар географ.

Я заходжу ў кляс, зайшоў ззаду, сеў сабе. Ён вядзе лекцыю ў сёмым клясе. (Гэта вельмі цяжкі такі пэрыяд у моладзі.) Мэтодыкі ня ведае, і таму лекцыя ў яго скончылася за 20 мінут (а вымагаецца ж 50). Тады ён апытвае. Адна дзяўчына наперадзе сядзіць. Ён выклікае. Тая дзяўчына не пайшла. Ён кажа: „Устань!” Тая ня ўстала. Тады ён прыходзе да мяне і кажа: „Таварыш інспэктар, вы папрасіце, каб яна выйшла з кляса.”

Я кажу: „Слухай, мяне тут няма, ты вядзеш лекцыю, я тут нічога казаць не магу, потым, пасьля тваёй лекцыі магу гаварыць з табой і зь ёй. А цяпер – не”.

Скончылася лекцыя, я яго паклікаў, кажу: „У цябе слабая справа з мэтодыкай. Ты можа ня ўмееш выкладаць. Ты зьвярніся лепш у райана, каб цябе перавялі ў звычайную школу, не дырэктарам школы, а звычайным настаўнікам, каб ты там меў магчымасьць пахадзіць на лекцыі, паглядзець, як людзі вядуць.” На гэтым скончылася.

Наступны выпадак. У нашай сярэдняй школе адзін раз я йду па калідоры зь лекцыі. Аж ідзе настаўніца хіміі і плача. (Я яе ведаў, яшчэ калі быў вучнем гімназіі.) „Што з вамі? Чаго вы плачаце?”

Яна кажа: „Вось у гэтым клясе такі паршывы вучань ёсьць адзін, сын афіцэра, і ён вырабляе, што хоча, і я зь ім нічога зрабіць не магу.” „Добра, — кажу, — я пастараюся вам дапамагчы.”

Прыходжу на сваю лекцыю беларускай мовы, граматыка. Лекцыя ў асноўным ідзе пры табліцы. Там пішуць. Я стаю ззаду кляса. Гэты вучань сядзіць недзе на другой лаўцы ад табліцы і валяе дурня. Я адзін раз зьвярнуў увагу яму — ён нічога, пакруціўся. Кажу: „Устань!” Ён памаленьку ўстаў. „Выйдзі з кляса, ты перашкаджаеш.”

Стаіць. Я падыйшоў да дзьвярэй, адчыніў, вучня ўзяў за вуха і выкінуў з клясу. (Але я думаў, ну, чорт бяры, кар'ера мая, відаць, скончыцца, але ўсё ж такі я пагляджу. І за вуха ўзяў.) А сам вярнуўся назад, дзьверы зачыніў. Прадаўжаю лекцыю. У клясе ціха, усё замерла.

Канчаецца лекцыя. Я адразу пайшоў да дырэктара (***Бруяк*** прозьвішча) і расказаў гэты выпадак, што настаўніца плакала, бо гэты новы вучань зусім не дысцыплінаваны, зь ім няма як працаваць, таму я яго мусіў выкінуць з кляса.”

Дырэктар паклікаў гэтага афіцэра, усыпаў яму (а гэты дырэктар партыец, зь вялікім стажам партыйным, з 1922 ці 1923 года). Кажа: „Ты што тут сына прысылаеш зусім недысцыплінаванага, гэта ж заходняя Беларусь, мы тут сярод чужога „обшчаства”, чужога грамадзтва жывём. Тут нам трэба паказаць, што мы сабой прадстаўляем!” І гэты афіцэр прыйшоў, мяне перапрасіў.

## „Прайдзёмце з намі”

У Ашмяне (паколькі я там з дзіцячых гадоў) мяне шырока ведалі і работнікі, і рамесьнікі ашмянскія, габрэі ведалі добра. І вось першыя выбары шырокія ў Беларусі. Мяне выставілі кандыдатам у Ашмянскі гарадзкі Савет. Я прайшоў цэлую гэту сістэму савецкіх выбараў. Памятаю маю фатаграфію на ўвесь рост на выбарчым участку, і, зразумела, прайшоў па блёку камуністых і беспартыйных, 98% — „за”. ГАРАНА (Гарадзкога аддзелу народнай асьветы) ў нас у Ашмяне не было, а быў раённы, і таму там я вёў працу па пытаньнях асьветы і культуры (у Гарадзкой Радзе).

Вельмі часта мне прыходзілася выступаць. Пераважна ў таварыстве з выдатнымі прамоўцамі, камісарамі вайсковых адзінак. Я адзіны тады заўсёды выступаў толькі ў беларускай мове. А так вельмі часта выступалі там усё па-расейску. І вось пачатак вайны, нядзеля, здаецца. На пляц ашмянскі сагналі масу народу і вайсковыя адзінкі. Паставілі трыбуну так, што гаварыць трэба было ўдоўж. Гэтак вельмі цяжка гаварыць, бо тады ваш голас ляціць у паветра далёка. Заўсёды звычайна ставілі трыбуну упоперак пляцу так, што як вы гаворыце, то ваш голас адбіваецца ад сьценаў мураваных дамоў. Тады і гаварыць лягчэй, і чуваць добра. А тут вось гэтак зрабілі. Выступаюць розныя выдатнасьці вайсковага рангу (нейкі перада мной выступаў камісар „энскай воінскай часьці”). Потым я па-беларуску ад імя гарадзкой Рады горада Ашмяны. Ляйтматыў майго выступленьня — што гэта пачатак вайны, вайна ідзе далей, чым яна скончыцца — няведама, але тыя здабыткі, якія мы здабылі (гэта беларускае школьніцтва, асьвету) мы ўтрымаем!

***З. Пазьняк:*** — Вы зрабілі „вялікую ідэалягічную памылку”. Тут трэ’ было сказаць: „Победа будзет за намі!”

***А. Шукелойць:*** — Ну, так, „пабеда будзе за намі, враг будзет разьбіт”. *(Сьмяецца.)*

Гаварыць было цяжка, гэта маё найцяжэйшае выступленьне было (бо і трыбуна пастаўлена паршыва). Я злажу з трыбуны, аж да мяне падходзе ў цывільным двух чалавек і адзін кажа: „А ну, галубчык, прайдзёмце з намі”.

А я ўжо бачу, што няма што зь імі па-беларуску, перайшоў на „обшчэпанятны” і гавару: „А в чом дзело?”

І так пачаўся мой арышт. Але ва ўсіх гэтых пэрапетыях я меў вялікае шчасьце.

***З. Пазьняк:*** — Куды яны вас павялі?

***А. Шукелойць:*** — Завялі ў НКВД адразу, усё, арыштавалі. Ужо больш я ня выйшаў. У камэру і на допыты. Там прыпомнілі мой нацыяналізм, і што я ў Студэнцкім Саюзе рабіў.

— А вот у вас евреі ў Беларускім Студэнцкім Саюзе былі ілі нет?

— Былі.

— А вы можете фамілії сказать?

— Так, магу.

І вось так мне ад студэнцкіх часоў пайшла гэтая „справа”. Так і пайшло. Але шчасьце маё ў тым, што гэта ж пачатак вайны. Яны вырашылі турму эвакуаваць і перавезьці ў Вялейку. Я трапіў у групу, якую перавозілі ў Вялейку. А зь Вялейкі — зноў далей, на Ўсход. Ужо Менск гарыць, нас вязуць далей, у Крупкі. А там чамусьці скінулі ў НКВД (у Крупках, горад пад Воршай).

***З. Пазьняк:*** — У Крупкі Вас вялі этапам?

***А. Шукелойць:*** — Завезьлі.

***З. Пазьняк:*** — Цягніком?

***А. Шукелойць:*** — Не, машынай такой, што я думаў, ужо на расстрэл, відаць. Грузавіком. У Крупках замкнулі ў НКВД. А там, ну гэта ж час ішоў, гэта ня так адразу. Па дарозе яшчэ шмат допытаў усялякіх рабілі. ■




*Савецкі ваенны білет А. Шукелойця*

# МЕНСК. НЯМЕЦКАЯ АКУПАЦЫЯ

## Першыя дні вайны

***А. Шукелойць:*** — Тым часам вайна ўжо йшла. Я там апынуўся ў групе афіцэраў, што ўцякалі з фронту. Вось са мной сядзеў адзін маёр, такі, што яго палічылі за шпіёна (так, як і мяне; ужо ня тое, што „нацыяналізм", шпіянаж шыюць). У таго маёра прызналі няправільныя пятліцы. А ён такі, відаць, фарсун, хацеў прыгожа выглядаць, касьцюм вайсковы дастасаваў да сваёй фігуры, кравец прышыў яму пятліцы (не зусім той колер). І вось яго тут зараз жа й пасадзілі, сказалі, што гэта нямецкі шпіён. І ён там даказвае, і я таксама даказваю. Словам, гэта „параша паршывая". І допыты гэтыя цэлы час. Але я моцна трымаўся. Гэты там даказвае, стукнуў кулаком па стале — і я па стале. А ён мне ў морду, па пашчэмках і зламаў ськівіцу. Мяне забралі ў залю тады. Там нас сядзела 4-х чалавек (двух афіцэраў, а трэцці, відаць, ці ня толькі шпіён, сэксот быў, за намі глядзеў).

Так я там праседзеў. Немцы гналі, ўжо далёка пайшлі наперад. Дайшоў такі час, што на вечар нас пакінулі, а НКВД змыўся. Пачалі бамбаваць Крупкі, разбамбілі чыгуначную станцыю і, відаць, нанач рускія ўжо баяліся заставацца. НКВД уцёк. Нам адчынілі дзьверы, і мы ўсе паўцякалі. Хто адчыніў — я ня ведаю, відаць, жанчыны, ці што, бо ж там шмат хто ўцякаў.

***З. Пазьняк:*** — Куды Вы ўцякалі?

***А. Шукелойць:*** — Там плот вялікі быў. Я праз гэты плот скочыў, а тут гэтыя, што ахоўваюць кругом, неяк засталіся, бо ня толькі ўнутры ахоўвалі, але і навонкі. (Яны мелі нейкі свой назоў, ня памятаю, з камсамольцаў створаныя былі атрады аховы.)

— А ты что здесь паніку наводіш? — Як я зачапіўся за гэты плот, пераскокваючы.

***З. Пазьняк:*** — А Вы што кажаце?

***А. Шукелойць:*** — Нічога, скарэй рваць.

***З. Пазьняк:*** — Панікёр, маглі другі раз арыштаваць за „паніку".

***А. Шукелойць:*** — Другі раз ужо расстралялі б. *(Сьмяецца.)*

Ну і так я вырваўся адтуль у такую (між Крупкай і Барысавым) нейкую малочную ферму. Я ў гэтую ферму ўскочыў. Нейкі хлопец, што пільнаваў чыгункі ці што (15-17-ці гадоў), мяне прывёў да сваей маткі і цёткі, і яны мяне засунулі наверх нейкай такой будкі. Бок жа гэты баліць, і шчака баліць. Я назаўтра думаў пайсьці там ў шпіталь.

***З. Пазьняк:*** — А шчака балела, бо сківаца была зламаная?

***А. Шукелойць:*** — Ага.

***З. Пазьняк:*** — А бок чаму балеў?

***А. Шукелойць:*** — А бок — тады энкавэдзіст нагамі біў, нагамі. І цяпер баліць бок гэты. Да сьмерці. Так. Словам, малака там, на ферме, было паддастаткам, хлеба — не, але малака паддастаткам. Так што я гэтае малако піў.

Назаўтра гэтыя жанчыны думалі, што трэба было б мяне ў шпіталь адправіць, да лекара паказаць, каб не памёр. Але пайшлі ў шпіталь, а там толькі адзін фэльдшар, усе лекары ўжо паўцякалі. Фэльдшар кажа: „Як ён жыве, то хай ён у вас будзе. Сюды трапіць, то тут яшчэ заб'юць, бо йшчэ мы чакаем, што будуць бамбаваць Крупкі."

Потым я йшчэ прабыў там, у гэтых жанчынаў можа й тыдзень. А йшчэ савецкая ўлада ўноч прыходзіла. Удзень уцякалі, а ўноч прыходзілі. Йшчэ немцы не прышлі. Немцаў я спаткаў, ўжо даходзячы да Барысава, фактычна, на Беразіне.

Яшчэ перад Барысавым я трапіў у нейкую вёску. Пайшоў пераначаваць. Мяне вельмі добра там прынялі, у хаце паслалі. Я кажу, што ў хаце не хачу (бо ж вашэй поўна ў мяне, у турме набраўся). Я не хацеў у хаце спаць, кажу, што дайце мне недзе на салому ў нейкай стадоле ці нейкай адрынцы. А яны кажуць: „Не, ты заставайся ў хаце. Ты знаеш, што тут у нас. Вось мы ўцяклі з „краснай арміі" і з аружжам." (Ужо паўцякалі, „красная армія" развальвалася. І гэтыя хлопцы з гэтай вёскі і з суседніх вёсак прыйшлі дахаты, як ёсьць: у вайсковай форме, зь вінтоўкамі.) „І вось, — кажуць, — тут йшчэ

бальшавікі кругом, яны могуць напасьці і на вёску, а мы ўжо пільнуем, каб не напалі.”

Так я мусіў праспаць гэтую ноч, а потым пайшоў далей. Па дарозе я начаваў у розных пасёлках. Там вялікі палігон за Крупкамі, прышчэпаўскія пасёлкі былі сарганізаваныя. Дык там і гэтыя пасёлкі пазносілі, але недзе йшчэ вішняк нейкі расьце, недзе грушка нейкая стаіць, нейкая адрынка, часта склеп (заставаліся па гэтых пасёлках). І людзі, што там жылі некалі, некаторыя вярнуліся. Вось так я ў адно гумно трапіў, адрынка такая стаяла. Дзядзька, гадоў 45. Я спытаў, ці можна будзе пераначаваць. Ён кажа: „Добра, пераначуй. Тут курыць ня можна, таму што агонь відаць з самалёта, могуць тады бамбіць. Так што ціха ляжы.”

Мы там зь ім гаворым. Ён хваліць Прышчэпава: „От Прышчэпаў* — гэта быў чалавек! Гэта ня тое, што Купала Сталіну песьні сьпяваў. А Прышчэпаў дзьвінуў лёзунг: „На сьвіньні — да сацыялізму!” І так мы ўсе й працавалі. Сьвіньня на стале мусіць ляжаць у кожнага гаспадара.”

***З. Пазьняк:*** — У 1960-х гадах па дарозе на Івянец вісеў плякат: „Чтобы Родина была сильней, надо вырастить больше свиней“.

***А. Шукелойць:*** — (*Сьмяецца*.) Го-о! Жарты? Сьвіньня – гэта, брат, аказваецца не абы што...

Словам, вайна пайшла далей. У гэтым часе ўжо многія ўцекачы зь Менску, якія ўцяклі ад бомбаў і пажараў, вярталіся ў Менск. І так са мной разам ішла адна сям’я (муж, жонка і двое дзяцей). Дзяўчынка, гадоў 12, хлопчык — гадоў 6-8. Мы разам йшлі ў Менск. Яны нават мяне запрасілі да сябе. Жылі яны у раёне Менску, дзе невялікія хаткі тады былі (калі йсьці цяпер з праспэкту Скарыны па Даўгабродзкай, аж туды, далей за могілкі). Не даходзячы да Менску даведаліся, што ў горадзе сарганізаваны лягер для мужчын. І ўсіх мужчын, якія зьяўляюцца ў раёне Менску, забіраюць у гэты лягер. Таму нас апанаваў страх, што тут мы ўжо й ня вытрываем. Канец. Дзеля гэтага мы вырашылі прачэківаць так, аж даведаліся, што ўжо лягер гэты зьліквідаваны (лягер такі сапраўды быў, ў лягеры памерла шмат людзей. Ня мелі што есьці, ня мелі вады, хаця ён быў над рэчкай.)

Адтуль, з лягеру, быццам, габрэяў ужо ня выпусьцілі. І пачалі арганізоўваць для габрэяў асобнае гета. Гэта мы ўжо даведаліся, ідучы ў Менск. У Менску ішлі па Даўгабродзкай вуліцы. Залатагорскі касьцёл яшчэ гарэў, дым ішоў, попелу поўна. На рагу Даўгабродзкай і Савецкай быў вялікі будынак спэцыялістаў. Ён быў разьбіты, спалены, нічога не засталося. Многія менчане, што там жылі, вярнуліся, пабачылі, што іхных кватэраў няма.

Я зайшоў да тых людзей, маіх спадарожнікаў. Іхная хата ацалела. Гаспадыня менчанка, ён, па-мойму, украінец (словам, веручая сям’я, у хаце іконы ўжо паявіліся, старычкі выцягнулі). Там я ў іх пераначаваў і направіўся на другі канец Менску на Людамонты (гэта праз увесь горад трэба было прайсьці, праз так званыя „татарскія агароды”. Там вуліцы — Саўгасная і Калгасная. І вось там на аднэй з гэтых вуліц жыла сям’я майго знаёмага — ***Пётры Станіслававіча Такарэвіча***.

Гэта быў чалавек левага кірунку, грамадавец, які ў Ашмяне працаваў мулярам. Стары мой знаёмы ў савецкія часы ў Вільні. Ён да прыходу саветаў сядзеў у Лукішках, пасьля вярнуўся ў Ашмяну, у Ашмяне нейкі час працаваў у міліцыі, але потым бальшавікі з’арыентаваліся, што гэта ня іхны чалавек, і яго пасадзілі. Ён сядзеў, нешта, з год у турме ў Ашмяне, перад вайной яго выпусьцілі. І вось ён меў ехаць да сябе ў Менск, да сваёй сям’і. Я меў ягоны адрас і туды накіраваўся.

Акрамя гэтага ў Менску ў мяне ўжо было шмат знаёмых з тых часоў, калі яны ў Ашмяну прыязджалі як розныя савецкія чыноўнікі (інспэктары, суддзя нават быў знаёмы). Апрача гэтага йшчэ з тых часоў, калі я там у Менску быў, меў магчымасьць з многімі людзьмі спаткацца. Так што я ў Менску чуўся нармальна, як у сябе дома, як у Вільні.

* Міністар земляробства БССР у 1920-я гады.

# Нарада ў Антона Адамовіча

Я дайшоў да гэтых людзей. Мяне прынялі вельмі добра, брат ягоны йшчэ адзін быў і сястра малодшая. Так што я там ужо затрымаўся. У іх дзьве каровы былі, я адпачываў там, хадзіў з гэтымі каровамі (пасьвілі іх там, каля таго возера Менскага, штучна выкапанага). Там таксама я знаёміўся з многімі людзьмі.

У канцы пабачыў, што ў Менску паявіліся абвесткі зь беларускай прыгожай мовай і „тарашкевічаўскім” правапісам, і пайшоў у гарадзкую ўправу. Старшынёй гарадзкой Управы там сядзеў мой калега, *доктар **Тумаш***, той, што калісь падпісваў Дэкларацыю *Беларускага Студэнцкага Саюза*. Прышоў я да яго, здаецца, у суботу. Ён быў вельмі заняты і збыў мяне да ***Антона Адамовіча***. Завёў адразу. „Вось тут, — кажа, — ведаеш, ёсьць адзін з лідараў *Узвышша*, Антон Адамовіч”. А *Узвышша* ў заходняй Беларусі вельмі высока цанілася, і асабліва ў колах лібэральна-сацыялістычнай моладзі, і найбольш лідар *Узвышша* — ***Уладзімер Дубоўка***. Яго цяпер там папраўляюць, але ў нас, у заходняй Беларусі, яго высока цанілі камуністы, уважалі, што гэта чалавек на ўзроўні камуністаў-беларусаў




*Антон Адамовіч, красавік 1991 г. Нью-Ёрк*

заходняй Беларусі, камуніст-патрыёт, камуніст-нацыяналіст, нацыянал-камуніст, як казалі. Адамовіч быў адзін з найбліжэйшых супрацоўнікаў Тумаша.

Адамовіч сядзеў у вялікім кабінэце, цэлая заля. Ён быў загадчыкам жыльлёвага аддзелу у гарадзкой Управе (гэта, па-мойму, недзе — унівэрсітэцкі гарадок, у гэтым раёне). Адамовіч мяне прыняў, сказаў, што незадоўга з гэтага жыльлёвага аддзелу адыйдзе.

Як толькі прыйшлі немцы, яны зьвярнуліся з абвесткай, хто можа дапамагчы ўпарадкаваць горад і заняць розныя функцыі, і каб гэта былі спэцыялісты. *„І таму я адным зь першых прышоў, — кажа Адамовіч, — і мне даручылі жыльлёвы аддзел. Цяпер я ўжо перайду ў выдавецтва. А пакуль што сядай. Да мяне зараз прыдуць людзі, некаторыя, напэўна, — вашыя знаёмыя. Прыдзе Родзька, які паінфармуе аб цяперашнім палітычным палажэньні і нашым становішчы".*

Так што я там застаўся чакаць. Пачалі зьбірацца людзі. Прышоў ***Лявон Савёнак***, ***Алесь Матусевіч*** (гэта зь людзей мяйсцовых), прышоў з нашых (заходняй Беларусі) ***Алесь Сінкевіч***, потым суддзя, што з Тумашам разам прыехаў.

Зь Вітаўтам Тумашам прыехаў цэлы шэраг асобаў з Варшавы, ***Арэхва*** (суддзя), напрыклад. І так пачало зьбірацца людзей. Прышоў ***Усевалад Родзька***. Адамовіч пра яго мне коратка ўжо расказаў, што гэта выпускнік Наваградзкай гімназіі, які як афіцэр польскай арміі быў у нямецкім палоне, там беларусы падбалі — яго выпусьцілі. Ён сарганізаваў *Першы штурмовы беларускі Зьвяз*, які перайшоў нямецка-савецкую мяжу йшчэ перад вайной (перад пачаткам вайны) з Польшчы (тады ўжо зь Нямеччыны, бо Польшча была пад акупацыяй), каб зьнішчаць бальшавікоў. Гэта першыя атрады немцы арганізавалі такія. У нас Родзькаў Зьвяз быў, адпаведныя на Ўкраіне былі, падпарадкаваныя іхнаму ОУН (Арганізацыі Ўкраінскіх Нацыяналістаў).

Родзьку я ведаў. Скончыўшы гімназію, прыехалі ў Вільню паступаць на ўнівэрсітэт: ён, ***Барыс Рагуля***, ***Язэп Сажыч***. Але тады закон у Польшчы правялі, што пасьля сканчэньня гімназіі трэба адбываць вайсковую службу. Яны, калі прышлі на ўнівэрсітэт, адведалі Студэнцкі Саюз. Можа, і на ўнівэрсітэт запісаліся, ня ведаю, але, відаць, склалі паперы і пайшлі ў войска. Там тады я пазнаёміўся з гэтым Родзькам.



***У двары старога Менска. 1942 г. Зьезд „Самапомачы". Рада „Самапомачы"***

Родзька выступіў перад грамадой з інфармацыяй, што ўжо месяц, як немцы тут, і вы бачыце (калі ня бачыце, дык пабачыце), што яны для нас ня ёсьць прыяцелямі. (Гэта ў Гарадзкой Управе так сказаў Вячаслаў Родзька ў Адамовіча ў кабінэце на гэтым сходзе). І пачынае расказваць, што робіцца ў Польшчы. „У Польшчы палажэньне такое, што могуць на вуліцы вас застрэліць занішто, альбо схапіць вас і паслаць у фабрыку альбо ў нейкі канцэнтрацыйны лягер. Становішча габрэяў асаблівае, яны ня маюць права хадзіць па тратуарах, а мусяцьісьці вуліцай. Яны маюць спэцыяльныя жоўтыя латкі на вопрадцы.”

Далей Родзька пачаў расказваць аб тым, што іх зьбіраюцца ліквідаваць. „Я бачыў, як у адным мястэчку перад выкапаным ровам стаялі габрэі, і п’яныя немцы з „цэкаэмаў”, ці як гэта называецца, стралялі ў беспарадку і крычалі. І гэтыя габрэі валіліся ў яму. Вось гэтакі абраз. І што нас далей чакае — няведама. У кажным разе мы, беларусы, славяне, частка з нас, будзе магчы ператварыцца (па іхных плянах) у немцаў, анямечыцца, а рэшту нас выкінуць у Сібір. Дзеля гэтага нашае супрацоўніцтва зь імі мусіць мець на ўвазе вось гэтыя весткі, якія я вам тут расказваю. І дзеля гэтага я вас сабраў і пытаюся: „Ці вы думаеце, што варта арганізаваць падпольную арганізацыю?”— гэта Родзька пытаецца. А мы ўсе сядзім, і Адамовіч старшыня за сваім сталом. І пачалася гутарка.

Я гэта коратка пераказваю, а ён прыклады даваў, цытаваў выказваньні аб адносінах немцаў да палякаў, асабліва да габрэяў. „Яны будуць усе зьнішчаныя. Ці варта ствараць такую арганізацыю?”

Тут пачалі людзі выступаць, бо апытваць пачаў. Такі ***Савёнак***, напрыклад, стары палітычны дзеяч (бацька ***Зоры Кіпель***): „Пэўне, — кажа, — трэба, а як жа. Я ведаю гэтую справу.”

Выказалі думку, што трэба арганізаваць падпольле. Усё. Дакуманты ягоныя — гэта дакуманты Абвэры (нямецкай разьведкі), бо ж яна арганізавала выхад праз граніцу Зьвязу ягонага, і цэлае групы людзей, што сьцідалі на парашутах.

На гэтым разышліся. Тумаша там тады не было, але ён аб гэтым усім, вядома ж, ведаў, бо нехта там з прысутных сказаў, што доктар Тумаш запрашае ўсіх нас на абед, і вось цяпер, маўляў, паедзем адсюль да доктара Тумаша. Мы ўсе паехалі на абед.

Тумаш жыў тады на вуліцы, паралельнай да праспэкту Скарыны (відаць, цяперашняя „Карла Маркса”). Гэта была кватэра галоўнакамандуючага Беларускай ваеннай акругай генэрала ***Паўлава***, па-мойму. Яго потым расстралялі бальшавікі. (Сталін даў загад яго расстраляць недзе каля Барысава ці каля Воршы, таму што ён, маўляў жа, не дагледзеў, што вайна пачалася; яго і ягоны штаб, чатырох, здаецца, афіцэраў высокіх расстралялі.) У гэтым доме тады жыў Тумаш і йшчэ два начальнікі паліцыі: ***Зьміцер Касмовіч*** і ***Міхась Вітушка***. Потым яны ўжо пераходзілі на розныя кватэры. Але пакуль што гэта была нямецкая адміністрацыя гораду. І нашыя людзі там таксама напоўлегальна жылі.

Гэтак пачалася падпольная арганізацыя. Родзька гаварыў на гэту тэму з рознымі людзьмі. Гэта было ў 1941-м годзе. Але затое ўжо на Зьезьд (па-мойму, быў Зьезд Самапомачы) зьехалася многа такіх дзеячоў, што выявілі сябе патрыётамі, і тады на памешканьні Саковіча ў 1942-м ужо годзе была арганізаваная *Незалежніцкая партыя*, беларускае падпольле, імя якому надаў Адамовіч — ***Беларуская Незалежніцкая Партыя***.

Назоў гэты — гэта ня ёсьць тое, што пішуць цяпер на Беларусі ўсялякія пісакі, быццам партыя паўстала ў 1939-м годзе і называлася „незалежная партыя”. Гэта зусім іншыя назовы і іншы зьмест. Бо ж „незалежная” — гэта ня ёсьць незалежніцкая. Незалежніцкая ставіць незалежнасьць, а незалежная — значыць ад некага незалежная. Так што ўся гэтая пісаніна ёсьць няправільная. Я як адзін з тых, што быў ад самага пачатку, даю такую інфармацыю, што назоў гэты надаў партыі Адамовіч у выніку дыскусіі. Бо там яшчэ тая левая група з Саковічам (тыя, што прышлі выхаваныя ў бальшавіцкай сістэме з заходняй Беларусі) прапанавалі даць назоў „Грамада”. І ў бюлетэні Партыі (іх выйшла шэсьць нумароў) там гэны другі назоў таксама ёсьць.

Так узьнікла арганізацыя *Беларускай Незалежніцкай Партыі*. Яна вырасла ў магутную справу, дзякуючы афіцэрству, таму што ***Кушаль*** выхаваў сотні беларускіх маладых афіцэраў (такіх, як ***Барыс Рагуля***, ***Сажыч*** і іншыя). Рагуля быў на закладзе Партыі. А Сажыча не было, ён пазьней прыняты.

На ўсіх гэтых паседжаньнях заўсёды быў ***Міхась Рагуля***, інжэнер. Ён найбліжэйшы сябра Родзькі, быў рэдактарам бюлетэня Незалежніцкай Партыі.

У Незалежніцкай Партыі, потым пачаліся розныя сваркі, асабліва на эміграцыі, якія мелі партыйны характар ці арыентацыйны (на Астроўскага ці на Ермачэнку). Яны скончыліся тады, калі выкінулі Рагулю і ***Набагеза***. Тады Партыя перастала быць паважанай для ўсіх, у тым ліку й для мяне. Камандаваў, па-мойму, Зьміцер Касмовіч там і тая група зь ім. Яны ўжо іншы бюлетэнь выдавалі, іншыя арганізацыі пачалі тварыць і гэтак далей. Затое партыя жыла доўгі час на Беларусі, з той групай (так званай „Дальвіц"), якую сьцінулі ў БССР і якая праіснавала да 1957 года. Так што змаганьне ў падпольлі ішло доўга, больш 15-ці гадоў.

На гэтым паседжаньні ў Адамовіча адзін з пунктаў быў пра утварэньне падпольнага руху. Другі пункт быў вельмі важны. Абмяркоўвалі „беларутэнізацыю". Па-першае, самой гарадзкой Управы (у Гарадзкой управе на розных становішчах працавалі расейцы, абвесткі расейскія віселі на расейскай мове; гэтыя абвесткі зьдзіралі); беларутэнізацыю тэатру (тэатр рыхтаваў спэктаклі па-расейску); беларутэнізацыю школьніцтва і гэтак далей. Цэлую сістэму.

Трэцяя пастанова была — гэта справа дапамогі габрэям там, дзе толькі можна. Там тады было гэта пастаноўлена ў выніку выступленьня Родзькі і апісаньня таго рову, перад якім стаяў той немец, напіўшыся, і страляў у беспарадку.

На першым паседжаньні была пастанова: усюды, дзе толькі можна, дапамагаць жыдам. Калі можна, дапамагаць ім пераходзіць на арыйскія дакументы, дапамагаць дзецям, дзе ёсьць толькі можна, выцягваць з гета і гэтак далей. Усе магчымасьці, якія мы можам скарыстаць.

І чацьвёртае — дробязь такая, але немцы хацелі, каб арганізаваць дамы з прастытуткамі. Мы катэгарычна адмовіліся, сказалі, што гэта не ляжыць у інтарэсе беларускай псіхалёгіі. Мы ў гэтым ніякага ўдзелу прымаць ня будзем.

І ў выніку гэтага ўсяго мы адразу прыступілі да выкананьня гэтых пастановаў. Так што гэта ня тое, што толькі задэкляравалі.

Адразу паслалі ў тэатр юрыста, які з тэатрам нічога ня меў супольнага, каб ён там расчысьціў ўсё. Паслалі мяне адразу таксама ў музэй, паслалі Гуцьку (*паэт* ***Гуцька-Дудзіцкі***) на загадчыка школьнага аддзелу Гарадзкой Управы (а там пагналі расейца, такі Прылежаеў быў, прафэсар). Усюды пачалі выконваць гэтыя пастановы, і выконвалі іх так, ня лёгка. Проста прыходзілі, гналі гэтых варожых нам людзей і пераймалі ўсё у свае рукі. Так што гэтакім парадкам. Гуцька гэты брутальна навёў парадак.

***З. Пазьняк:*** — Ці Родзька тлумачыў, чаму неабходна жыдоў абараняць і ім дапамагаць?

***А. Шукелойць:*** — Добра ня памятаю. Але гэтае зьнішчэньне жыдоў рабіла страшэнна нялюдзкае ўражаньне. Страшэнна. Вось прачытайце верш (прыблізна ў гэтым духу Родзькі) у Натальлі Арсеньневай, дзе яна апісвае выпадак зьнішчэньня габрэяў над ровам разгорнутым. За гэны верш Арсеньневу немцы цягалі потым. Яе шмат разоў цягалі, за рознае.

***З. Пазьняк:*** — Вы Арсеньневу добра ведалі, бачыліся зь ёй там у Менску?

***А. Шукелойць:*** — Ну так, супрацоўнічалі, і з Кушалем (яе мужам) таксама.

***З. Пазьняк:*** — На Беларусі мне раней прыходзілася чуць такую плётку, што быццам бы Арсеньнева была расейкай.

***А. Шукелойць:*** — Гэта няпраўда. Цікава сапраўды, адкуль гэта ўзялося, што пачалі казаць, быццам Арсеньнева расейка. Я ў дакуманты не зазіраў, але бацька Арсеньневай быў усё ж, відаць, беларус. Так казалі. Хоць прозьвішча такое ёсьць і ў расейцаў, і сам ён быў дзяржаўным служачым. Маці ж яе была немка. І таму Арсеньнева выдатна ведала нямецкую мову. У сям'і гаварылі па-

беларуску, а матка яшчэ і па-нямецку. Арсеньнева сябе лічыла беларускай, была ёй па духу і ганарылася гэтым. Дастаткова пачытаць яе вершы.

***З. Пазьняк:*** — Вернемся да паседжаньня ў Адамовіча.

***А. Шукелойць:*** — Пасьля гэтага паседжаньня і пасьля абеду ў Тумаша (абед зацягнуўся даволі позна, і я застаўся ў Тумаша начаваць) на наступны дзень у нядзелю Тумаш паехаў адведаць Кушаляў і прывёз Кушаля ў Менск. Адгэтуль пачалася тады беларуская вайсковая справа.

***З. Пазьняк:*** — А Кушалі дзе тады жылі, на Валожыншчыне?

***А. Шукелойць:*** — Так, у Дорах. Вечарам Тумаш прыехаў з Кушалем. Кушаль быў у цывільным адзеньні, у доўгіх вайсковых ботах і такой шэрай спартовай марынарцы.

***З. Пазьняк:*** — Як далей складвалася ваша справа?

***А. Шукелойць:*** — Спачатку даручылі мне (бо гэта вельмі важна было для горада) упарадкаваць архіў ЗАГСу. Таму што шмат людзей ня мела дакумантаў і была вялікая патрэба. Немцы маглі пасадзіць (у лепшым выпадку, у горшым — расстраляць). ЗАГС быў часткова разьбіты. Паколькі ён належыў да НКВД (быў у распараджэньні НКВД), то найбольш пацярпеў, але дакуманты засталіся. Знайшоўся адзін працаўнік, што калісь у ім працаваў, і я ўпарадкаваў гэты ЗАГС. Гэта першая мая работа была. А пасьля пайшоў у музэй.

# Музэй

Пра музэй трэба б было цэлую гісторыю распавесьці. Пра той стан музэю, які быў пры часох савецкай улады і які засталі немцы, нямецкая акупацыя. Гэта быў такі невялікі музэй, арганізаваны па прынцыпу савецкага разуменьня гісторыі. Было 4 разьдзелы. Ён, фактычна, быў дапаможнікам гісторыі Шастакова (я маю гэты падручнік). Ён быў адзіным легальным падручнікам гісторыі, якім карысталіся ў пачатковых, сярэдніх школах і на ўнівэрсітэце. Адзіным прызнаным, які не зьмяняўся. Вось па гэтых прынцыпах быў зьнішчаны колішні Беларускі Дзяржаўны музэй, дырэктарам якога быў ***Вацлаў Ластоўскі*** (пасьля Ластоўскага потым быў Міхайлоўскі). Музэй быў зьнішчаны і пабудаваны на прынцыпах вось гэтакага выкладаньня гісторыі: даклясавае *„обшчэства”* (археалёгія, фактычна), феадалізм (стаялі нейкія рыцары, макеты Радзівіла), капіталізм (фактычна, этнаграфічная частка, там дзе з аднэй стараны вялікія паны, двары і капіталісты, а з другога боку — бедната і эксплуатацыя), і чацьвёрты разьдзел — савецкае будаўніцтва камунізму.

Гэтакія 4 залі былі ў музэі. Найбольшая заля была (Дом мастацтва цяпер) — гэта будаўніцтва сацыялізму.

Калі саветы ліквідавалі Беларускі Дзяржаўны музэй, то тыя экспанаты (асабліва багаты збор іконаў) выкінулі ў прыбудаваны дрывотнік.

***З. Пазьняк:*** — У якім годзе ліквідавалі Дзяржаўны музэй?

***А. Шукелойць:*** — Пасьля 1933-га году пачалі перабудоўваць пад Дом чырвонай арміі ці Дом афіцэраў цяпер. Тут ён быў, гэты музэй. І тады адтуль яго выкінулі, калі пачалі будаваць Дом чырвонай арміі, а музэй перанесьлі ў Юбілейны дом, у той дом, дзе была створана Рада БНР (цяпер Дом мастацтва). А тыя дарагія экспанаты беларускай старыны выкінулі, як я ўжо казаў, ў дрывотнік, што быў між гэтым Юбілейным домам і тым домам, што стаіць цяпер на рагу праспэкта Скарыны і Чырвонаармейскай вуліцы.

***З. Пазьняк:*** — Цяпер там ваенны музэй.

***А. Шукелойць:*** — Што засталося ў гэтым музэі? У ім працавала, нешта, 11 чалавек (значыць, да прыходу немцаў) і дырэктарам яго быў такі ***Гершанок***, партыйны чалавек. І ўсе былі партыйцы, з выняткам аднаго габрэя яшчэ не партыйца (Бэйлін такі), ён там займаўся старыной, не археалёгіяй і не архітэктурай, а, відаць, гэтымі старымі друкамі. Ён быў загадчыкам у музэі так званых *„фондаў”*. Гэтыя ўсе супрацоўнікі (паколькі яны і партыйцы, і бальшыня — габрэі) выехалі. Застаўся толькі

адзін мастак ***Габрыель Віер***. Гэты Габрыель Віер жыў у тым доме спэцыялістых, што на рагу Даўгабродзкай вуліцы і праспэкту Скарыны (будзем гаварыць цяперашняй мовай). Ён з сям'ёй выехаў за горад, калі тут разбамбілі і спалілі ўсё, але потым вярнуўся. Вярнуўся і ў музэі не паказваўся. Яго Тумаш адшукаў.

У музэі было ўсё развалена, дзьверы паламаныя, і нікога няма. І вось прыцягнулі гэтага Габрыеля Віера. Зь ім зноў была бяда. Ён мовы нямецкай ня ведаў, і таму там у яго рабаваў, хто хацеў. Прыходзілі немцы, забіралі, што ім падабалася, прыходзіў такі айцец Фінкоўскі, праваслаўны сьвятар, забіраў старыя друкі, іконы, і гэтак далей. Словам — беспарадак.

Пасьля таго, як я упарадкаваў архіў ЗАГСу, мяне ўжо *Гуцька*, прызначаны тады ж старшынёй аддзелу асьветы і культуры, паслаў загадчыкам музэю. І туды я пайшоў. Зь веданьнем нямецкай мовы, выйшаўшы з турмы, з такімі даволі на той час моцнымі дадзенымі, якія мне дазвалялі свабодна чуцца сярод акупацыйных тых уладаў і сваіх розных царкоўнікаў і інш.

Мастак Віер быў яшчэ Ластоўскім спэцыяльна падрыхтаваны для музэю. Ён сам па паходжаньні малдавец, ведаў дзьве мовы. Дзядзька ягоны калісь быў праваслаўным ігуменам у Менску (памойму, і сьцягнуў яго). Ён спэцыяліст ад царкоўнага мастацтва, маляваў іконы. Паколькі гэты род мастацтва пры савецкай уладзе ня быў у пашане, дык Ластоўскі паслаў яго спэцыяльна на курсы ў Маскву і рыхтаваў яго мастакомкансэрватарам. Гэта і была найвыдатнейшая ягоная спэцыяльнасьць як мастака. Таму ён усе гэтыя іконы XV-га, XVI-га, XVII-га стагоддзяў, што былі выкінутыя зь Беларускага Дзяржаўнага музэю і належылі да розных ведамых беларускіх школаў (Магілёўскай, Віцебскай, Палескай) перавёз ў музэй і рэстаўраваў.

Між іншымі была ікона найбольшае сьвятасьці Менску — гэта ікона Менскай Божай Маці, знаходзілася ў такім дрэнным стане, што Віер забраў яе да сябе ў хату, і там правёў больш году над яе рэстаўрацыяй. Потым яна вярнулася ў Катэдральны Петра-Паўлаўскі Сабор (Жоўтая царква на Ніжнім Рынку). Цяпер гэтая ікона перанесена ў Катэдральны Сабор Сьвятога Духа, які знаходзіцца на пляцы Волі.

Так ён працаваў над гэтымі іконамі ўвесь час, і ўсе іконы былі адрэстаўраваныя.

***З. Пазьняк:*** — Гэта вялікая і ганаровая праца, пра такіх людзей нельга забывацца.

***А. Шукелойць:*** — Так, вядома. Другой работай, якой музэй займаўся, гэта быў перапіс усіх экспанатаў, якія засталіся, і старадрукаў. Сьпісы я рабіў у дзьвюх мовах: беларускай і нямецкай. Мне вельмі прыемна цяпер бачыць, што там некаторыя гэтыя мае сьпісы людзі пазнаходзілі, выкарыстоўваюць іх для працы над беларускай старынай.

Трэцяй працай, якой займаўся музэй, гэта мы рабілі такія прыпадковыя розныя выстаўкі. Скажам, на нейкія ўгодкі нейкага пісьменьніка. На ўгодкі пісьменьніка Кастравіцкага, памятаю, рабілі прыгожую выстаўку. (***Каруся Каганца***, значыць, бо ён, апрача таго што пісьменьнік, быў мастаком, асабліва дробных формаў, выконваў творы пяром і тушам.)

Над выстаўкамі трэба было даўжэй працаваць, рабіліся заўсёды надпісы ў дзьвюх мовах: беларускай і нямецкай.

Потым мы рабілі выстаўкі розных экспанатаў, якія былі ў музэі. Напрыклад, выстаўку старога іканапісу XVI-XVII стагоддзяў (Віцебскай школы, Магілёўскай школы).

Да дырэктара музэю належыла шмат такіх функцыяў, якія ў мірны час выконваюць розныя спэцыяльныя ўстановы. Напрыклад, праблема аднаўленьня цэркваў і касьцёлаў. Заўсёды сьвятары прыходзілі ў музэй, я арганізоўваў часта камісію з мастакоў, вырашалі, што мы маем рабіць у дадзенай царкве ці касьцёле, у якім кірунку трэба весьці аднаўленьне будынка і г.д.

Пару прыкладаў. Быў адноўлены цалкам Чырвоны касьцёл. Ён ня быў у дрэнным стане, бо там месьціўся так званы тэатр „Юнага гледача" нейкі час. Там прышлося шукаць тых абразоў, якія там былі, і я іх знайшоў абодва.

***Чырвоны касьцёл*** пабудаваны ***Эдвардам Вайніловічам*** у гонар сваіх дзяцей (дачкі і сынка, якія памерлі маладымі, утапіліся). Я адшукаў гэтыя абразы. На жаль, у выніку 20-гадовага панаваньня



*Ля Беларускага музэю ў Менску, 1943 г. Зьлева направа: Лявон Луцкевіч, Леанід Кароль (пахаваны ў Вільні), Дзіма Сямёнаў, Антон Шукелойць (дырэктар), вартаўнік музэю Станіслаў Пісьлевіч (перахоўваў беларускія абразы ў дрывотніку, калі бальшавікі выкінулі іх з музэю перад вайной), Усевалад Кароль.*

бальшавіцкай ўлады і насільна ўведзенай антырэлігійнай прапаганды, тыя абразы не маглі вярнуцца на сваё мейсца. Гэта абраз Божай Маці ў мадэрным выкананьні: ўнізе — Менск, краявід Менска з касьцёлам, і гэтых дзяцей двое, што кленчылі перад абразом Божай Маці. (Мне казалі мастакі і іншыя людзі, што бальшавікі вялі антырэлігійную прапаганду, быццам паны робяць сваіх дзяцей сьвятымі.) Гэтыя абразы я перадаў у касьцёл. Яны віселі зь левага боку не як прадмет культу, а як гістарычная вартасьць.

***З. Пазьняк:*** — Дзе вы іх знайшлі?

***— А. Шукелойць:*** — Абразы я знайшоў на паддашшы музэю. З гэтым абразом (зь дзецьмі Вайніловіча) была праблема. Спачатку (за саветамі) яго былі выставілі у музэі. Аднак людзі (быццам бы) прыходзілі і маліліся. І дзеля гэтага яго зьнялі з музэю і зацягнулі на паддашша, а ў залі зрабілі карыкатуру гэтага абраза (што вось у гэтым пэрыядзе капіталізму багачы рабілі сьвятымі сваіх дзяцей і загадвалі маліцца).

***З. Пазьняк:*** — Ці памятаеце прозьвішча мастака, які зрабіў гэтыя абразы?

***А. Шукелойць:*** — На жаль, не. Але, здаецца, у выданьні перад 1-й Сусьветнай вайной „Менскія касьцёлы" (ёсьць такое выданьне, яно выходзіла асобнымі сшыткамі), у адным з сшыткаў ёсьць фатаграфія гэтага абраза і вельмі магчыма, што там ёсьць прозьвішча мастака.

***З. Пазьняк:*** — У касьцёле, як Вы яго аглядалі, ці ні было якіх росьпісаў, фрэсак на сьценах?

***А. Шукелойць:*** — Не, нічога не было, ніякіх фрэсак, хаця пляны фрэсак, пляны расьпісаньня гэнага касьцёлу я таксама знайшоў у музэі. І яго можна было б аднавіць такім, якім ён быў праектаваны.

***З. Пазьняк:*** — Ці пад гэтымі плянамі быў подпіс мастака?

***А. Шукелойць:*** — Ня памятаю, але памятаю колеры: цёмна-чырвоны ці цаглясты, цёмна-зялёны (адпаведны да гэтага колеру). У такім калярыце касьцёл плянавалі расьпісаць. Я думаю, што, магчыма, ён яшчэ ня быў расьпісаны, таму што гэта новы касьцёл, і Першая вайна пачалася. Ня ведаю, ці ўдалося гэты праект зрабіць.

***З. Пазьняк:*** — Гэтыя фрэскі рыхтаваў *беларускі мастак* ***Францішак Бруздовіч***. У 1911 годзе касьцёл павінен быў быць расьпісаны, а мастак памёр у 1912-м. Таму я і пытаю, бо невядома, ці паспеў ён яго расьпісаць. Тое, што Вы знайшлі пляны, гэта вельмі цікава. Але толькі ці ягоныя гэтыя пляны?

***А. Шукелойць:*** — Я мяркую, што гэта былі пляны ягоныя, але неяк мне ня думаецца, ці быў


Bescheinigung

Inhaber dieser Bescheinigung Bürger Schukelaiz Anton ist Leiter Minsker Historischen Museums.

Diese Bescheinigung ist bis zum 1 Januar 1942 wirksam

Leiter der Abteilung der Kultur und Bildungsamt Minsker Stadtverwaltung

/Luzko/

30 XX 1941 г.

388

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ

Прад'яўнік гэтага Антось ШУКЕЛАЙЦЬ зь'яўляецца Загадчыкам Менскага Гістарычнага Музею.

Пасьведчаньне мае моц да І студзеня 1942 г.

ЗАГАДЧЫК АДДЗЕЛУ КУЛЬТУРЫ І АСЬВЕТЫ МЕНСКАЕ ГАРАДЗКОЕ УПРАВЫ /ЛУЦЬКА/

*Пасьведчаньне загадчыка Менскага Гістарычнага Музэю, 1941 г.*

ён расьпісаны. Бо яшчэ ня быў закончаны цалкам. Затое *ксёндз доктар* ***Станіслаў Глякоўскі***, які быў гаспадаром тады гэтага касьцёла, паклікаў зь Вільні свайго прыяцеля мастака ***Пётру Сергіевіча***, і гэты Сергіевіч пры мне маляваў абраз Божай Маці. Што з гэтым абразом сталася, я ня ведаю. Але вельмі цікавая такая разьвязка.

***З. Пазьняк:*** — Станіслаў Глякоўскі тады быў настаяцелем у Чырвоным касьцёле?

***А. Шукелойць:*** — Так.

***З. Пазьняк:*** — Які ягоны лёс, якія дачыненьні зь немцамі?

***А. Шукелойць:*** — Ён вельмі суровы такі каталік быў, трэба сказаць. Зь немцамі ў яго дачыненьні былі дрэнныя. Ён супраць нямецкага нацызму выступаў, востра даволі. Ён загінуў. Я тады таксама быў у тэатры, калі яго арыштавалі. І

зноў жа, цэлы шэраг непраўдзівых вестак ходзіць. Я тады прышоў у тэатр у таварыстве ксяндза Татарыновіча, які быў у цывільнай вопратцы, прыехаўшы наўпрост у Менск як госьць. Наша група (Адамовіч таксама і Савёнак) на гэтую ўрачыстасьць, што адбывалася ў тэатры, спазьніліся і пайшлі на галёрку. І таму мы сядзелі на галёрцы і там усё гэта добра бачылі.



***Касьцёл Сымона і Алены („Чырвоны касьцёл") за часы нямецкай акупацыі.***

Наперадзе (на першай лаўцы) сядзелі сьвятары праваслаўныя, і там жа сядзеў ксёндз Глякоўскі з айцом, што яму дапамагаў, з айцом Мальцам. Калі гралі нямецкі гімн, кажуць, што яны ня ўсталі. Няпраўда. Яны ўсталі, але яны не паднялі рук у прывітаньні гэтым арыйскім. Сьвятары праваслаўныя паднялі, а яны — не (Глякоўскі і Малец). І мы гэта бачылі. Цэлая заля гэтыя рукі падняла, з выняткам нас на галёрцы (там публічка была падпіўшая, вясёлая, там нікому не хадзіла падымаць рукі ўгару). Але яны навідавоку былі. Відаць было, што дэманстратыўна не паднялі рукі.

У лёжах тэатру сядзелі немцы, і таму адразу перад выхадам з тэатру ***Глякоўскага*** і ***Мальца*** арыштавалі. А далей іх лёс быў няведамы. Іх заслалі ў канцэнтрацыйны лягер. (Недзе друкаваліся ў эміграцыйнай прэсе ўспаміны юрыста нашага ***Калодкі*** (ён памёр у Аўстраліі), які ў нейкім часе ў нейкім з гэтых канцэнтрацыйных нямецкіх лягераў разам зь імі быў). Там яны і загінулі.

***З. Пазьняк:*** — У Пётры Сергіевіча ёсьць партрэт ксяндза Глякоўскага, напісаны алейнымі фарбамі.

***А. Шукелойць:*** — Так. Але цікава, дзе гэты ягоны абраз Божай Маці? Ён (такі вялікі абраз) меў быць у правай наве касьцёлу.

***З. Пазьняк:*** — А ці быў ён у касьцёле?

***А. Шукелойць:*** — Па-мойму, вісеў. Бо мы яго бачылі ў 1942-м годзе, калі над ім працаваў Сергіевіч.

Апошнім гаспадаром у гэтым касьцёле быў літоўскі капэлян айцец ***Зянон Ігнатовіч***.

Да маёй кампэтэнцыі належыла таксама гэтае аднаўленьне сьвятыняў. Дык я, як прыклад, падаў Чырвоны касьцёл. Але ня толькі Чырвоны касьцёл. Я мусіў склікаць таксама камісію мастакоў. І мы вырашылі, што зрабіць з Катэдральным касьцёлам Дзевы Марыі, той, што на пляцы Волі. Там вельмі цікавы роспіс быў, з ранейшых часоў. Там, напрыклад, былі розныя абразы, такія калёны намаляваныя, што яны не супадалі з калёнамі касьцёлу. Усё гэта там неяк ламалася. Сам роспіс ня быў дастасаваны (па сучасным разуменьні справы) да унутранай будовы касьцёлу.

***З. Пазьняк:*** — Гэта роспіс баракальны, зроблены йшчэ пры *біскупу* ***Якубу Дадэрку*** ў XVIII ст., і гэтая ўяўнасьць, выяўленьне сутнасьці барочнага мастацтва. У гэтым, дарэчы, цікавасьць ягоная заключалася. Такі самы роспіс з такімі ілюзіямі, але ранейшы, — ў Нясьвіжскім касьцёле. Аднак дасьледчыкі не хвалілі дадэркаўскі роспіс у Менску.

***А. Шукелойць:*** — І таму я склікаў камісію. У ёй быў мой прыяцель і дараднік ***Анатоль Тычына***, вядомы мастак, быў мастак ***Дучыц*** і скульптар ***Міхал Керзін***. Керзін — гэта была вялікая фігура ў Менску, выдатны антыбальшавік. Па ўсіх праблемах, калі трэба было, я заўсёды карыстаўся ягонай дапамогай і парадай.

Мы сабраліся ў гэтым касьцёле, агледзелі яго. Трэба было касьцёл аднаўляць, але мастакі тады

парадзілі, што няхай гэта ўсё застаецца так, як ёсьць. Скончыцца вайна, тады прыедуць сюды і сьвятары, і будуць мастакі-спэцыялісты, якія вырашаць, што з гэтым роспісам рабіць. А пакуль што — мы ўстрымаемся нешта рабіць. Айцец Глякоўскі даў Сергіевічу ў гэтым Катэдральным саборы расьпісаць зь левага боку аўтар левай навы.

Трэці касьцёл — на Залатой Горцы — згарэў, але сьцены засталіся, трымаліся, і перазімавалі зіму, ягоная столь не звалілася, а страха згарэла. Дзеля гэтага мы пайшлі агледзець гэты касьцёл з мастакамі і вырашылі яго закансэрваваць. Гэта значыць, зьвярнуліся адразу да *прафэсара* ***Вацлава Іваноўскага*** (ён тады ўжо быў старшынёй горада, гэта 1942 год), каб ён даў нам матэр'ял пакрыць касьцёл і забіць вокны, што і было зроблена. І такім парадкам касьцёл гэты закансэрвавалі. (Не аднаўлялі яго, там ніякіх службаў не было, попел у сярэдзіне ляжаў.)

Аднаго разу ( я тады жыў напроці Акадэміі Навук у пасёлку Скарынінскім, як называлі), ідучы дахаты, мы з Савёнкам зайшлі паглядзець, што там робіцца. Там было сьцягнутых з вуліцы некалькі трупаў, відаць, гнаных палонных савецкіх. Йсьці ня мог — немцы застрэлілі. Каб на вуліцы не валяўся — зацягнулі ў касьцёл. Так што я назаўтра пайшоў да Іваноўскага, каб ён паслаў людзей трупы гэтыя недзе пахаваць.

У кружку касьцёла на Залатой Горцы (на фасадзе) быў прыгожы барыльеф Божай Маці. Мы яго так і пакінулі, ён застаўся. Затое цяпер ён замазаны, залеплены чамусьці. Гэта пры аднаўленьні касьцёлу трэба было б выявіць.

***З. Пазьняк:*** — У 1960 годзе, калі я ўпершыню ўбачыў касьцёл сьвятога Роха на Залатой Горцы, барэльеф Маці Божай у разетцы („кружку") на фасадзе быў пааббіваны (папсаваны). Пасьля вайны гэта зрабілі, відаць, камсамольцы, альбо іншыя варвары. Пазьней (у 1980-х гадах) рэстаўратары ня сталі яго аднаўляць, а проста заляпілі.

***А. Шукелойць:*** — Шкода, калі так.

***З. Пазьняк:*** — Але гэта можна аднавіць.

***А. Шукелойць:*** —Трэцяя работа — тэатр. Там быў Янка Лімаоўскі, пісьменьнік, які калісь меў дрэнную рэпутацыю, бо ён пасьля ліквідацыі *„Узвышша"* і *„Полымя",* узначаліў пракамуністычную арганізацыю БелАПП (Беларускае аб'яднаньне пралетарскіх пісьменьнікаў). Але наагул пазыцыя доктара Тумаша (які нядоўга быў старшынёй гораду), а потым прафэсара Іваноўскага — гэта прымаць людзей усіх, што прыходзяць да нас працаваць, бяз розьніцы таго,


(выкадроўка)

***Янка Лімановскі, 1944 г.***

што яны калісьці рабілі і іхных палітычных перакананьняў. І дзеля гэтага (ня гледзячы, што Лімаоўскі некалі быў партыйным чалавекам і ўзначальваў такую арганізацыю) яго паслалі ў тэатр, каб ён дбаў за беларускую мову. І ён гэта вельмі салідна выконваў.

Дарэчы, ён шляхецкага паходжаньня, ягонае падвоенае прозьвішча Любіч-Лімаоўскі. Хаця, як расказваў Савёнак, гэты апошні зь ягонага шляхецкага роду быў несамавіты п'яніца, усё прапіў. І потым ягоны сын (гэта значыць бацька гэтага Янкі) быў, здаецца, кавалём. Але ня гледзячы на ўсё, ён паходзіў з такой шляхты саліднай, гэрбавай.


(Фота Г. Куртца)

*Менск, 1941-1943 гг. Бернардынскія муры і гандлёвыя крамы*

Настуная функцыя, якую мне прыходзілася выконваць, — гэта быць лектарам. На курсах афіцэраў быў лектарам, на курсах моладзі, куды я часта ішоў з гэтымі іконамі і гаварыў пра старое беларускае мастацтва, пра розныя віды мастацтва, архітэктуру беларускую, беларускае малярства. Пра ўсё, што бальшавікі выключалі, асабліва пра гісторыю беларускага мастацтва па кнізе ***Міколы Шчакаціхіна***. Кніжку яму не далі дакончыць і яго саслалі, ня гледзячы, што ён нават, здаецца, і не беларускага паходжаньня быў, а расеец.

З гэтай маёй функцыяй быў казус. ***Мікола Абрамчык*** некалі прапанаваў Адамовічу (які чытаў заўсёды лекцыі з гісторыі літаратуры для вайскавікоў), і мне надалі маёрскую годнасьць. Але нашы афіцэры збунтаваліся. Кажуць: „Як можна даваць годнасьці афіцэрскіх чыноў людзям зусім цывільным?”

Ну гэта няпраўдзіва, бо вельмі часта цывільным людзям надаюцца вайсковыя годнасьці. Але Абрамчык хацеў адразу маёра, таму што гэта быццам бы такі ўжо чын, які дае самастойнае руханьне, думаньне, магчымасьць кіраваць і г.д. Так што справа з маёрам правалілася.

Дырэктару музэю прыходзілася таксама йшчэ і розныя іншыя выконваць функцыі, якія ў нармальным грамадзтве, у вольным, у спакойны час выконваюць розныя ўрады, спэцыяльна пакліканыя для аховы помнікаў, архітэктуры, старыны, аховы мастацтва, розных чыннасьцяў і гэтак далей.

Музэй належыў да Гарадзкой Управы, але потым, калі пачала ўстабілізоўвацца ўлада (не ваеннага характару, а цывільнага), вырашылі, што музэем павінен апекавацца і Генэральны Камісарыят.

У час акупацыі Менску Вэрмахтам (гэта значыць вайсковай акупацыі) загадчыкам аддзелу культуры (які знаходзіўся пры войску) ў іх быў гісторык доктар ***Гайнрых Куртц***. Доктар Куртц быў у чорнай вайсковай уніформе у рангу старшага лейтэнанта. (Ён ці ні з танкавых частак быў, бо ў яго такі кароткі мечык вісеў заўсёды пры баку).

***З. Пазьняк:*** — Значыцца, пры ваеннай адміністрацыі ў Менску быў аддзел культуры і Куртц ім кіраваў?

***А. Шукелойць:*** — Так, так. Ён сам быў



*Менск, 1941-1944 гг. Опэрны тэатр (Паводле М. Керзіна — „рэпліка Калізэю").*

гісторыкам. Дарэчы, ён быў выдатны фатограф. У мяне ёсць некалькі здымкаў Менску, дык цяжка ўявіць, што гэта Менск у тыя часы — такія прыгожыя здымкі ягоныя. Ягоныя здымкі даюць у друку, але нідзе не падпісаныя. Здымкі вісельнікаў, напрыклад. Такія страшныя здымкі — гэта, па-мойму, доктара Куртца.

## Кубэ

Адзін раз доктар Куртц зьявіўся да мяне ў музэй і кажа, што ўлада ўжо пераходзіць ў цывільныя нямецкія рукі, і ён перадае свае функцыі. „Галоўнай асобай будзе ***Вільгельм Кубэ***. Гэта інтэлігентны чалавек, пісьменьнік (ёсьць ягоныя драмы), і вы будзеце мець зь ім справы. Ён хоча прыйсьці ў музэй і пазнаёміцца з вамі, так што рыхтуйцеся."

Прызначыў ён час, мы ў музэі, як маглі, падрыхтаваліся, зрабілі пару выставак (чым мы займаемся і гэтак далей). Прыходзе Кубэ. Была, памятаю, восень. Я спаткаў яго ў вестыбюлі музэю. Кубэ, падаючы мне руку, кажа: „О-го, бачыце, дык гэта дырэктар музэю! Я думаў, што як дырэктар музэю, дык гэта з доўгай вялікай сівой барадой, а тут аказваецца малады чалавек. Ну, у нас такія людзі ў музэях не сядзяць, яны на фронце".

Вось гэта першае маё знаёмства з Кубэ было. Я яго абвёў па музэю, паказаў, прадставіў людзей, паказаў, чым мы займаемся, што ў ваенны час роля музэяў такая, да якой яны пакліканы, выконвацца ня можа, што яны перахоўваюць старыну і адначасна робяць выстаўкі. Вось тое і мы робім.

Ён потым разьвітаўся і паехаў (нічога не казаў падчас агляду і пасьля).

Як яму трэба было ехаць за горад, бо ён цікавіўся ваколіцамі, то ён прыязджаў у музэй, забіраў мяне і ехалі. У гэтых ягоных паездках я заўсёды вельмі баяўся езьдзіць, бо ён там са сваім ад'ютантам пойдзе, я сяджу ў машыне (пераважна), альбо, можа, і мяне бярэ йшчэ. А тут і думаеш, што партызаны могуць напасьць і застрэліць яго, і мяне разам.

Так што адзін раз ён недзе на старых могілках знайшоў крыж каменны вялікі. Яму ён вельмі

спадабаўся. Гэта моцна састарэлы камень, але ў ім відаць гэтая форма такога крыжа арыйскага, як ён уважаў. І ён вырашыў гэты крыж перавезьці ў музэй.

Пасьля нейкага часу гэты крыж зьявіўся ў музэі, ён загадаў мне, каб у вестыбюлі музэю была падстаўка і адпаведна быў пакладзены гэты крыж, каб як прыдуць адведваць музэй, адразу бачылі, што гэта за народ беларусы, што гэта Эўропа.

***З. Пазьняк:*** — Гэта ён так сказаў?

***А. Шукелойць:*** — Так, Кубэ казаў, што беларусы — гэта ёсьць арыйскі народ.

***З. Пазьняк:*** — Гэта і бяз Кубэ было вядома. І даўно. Але палітыка тут ні пры чым.

***А. Шукелойць:*** — Ну, так. Я паклікаў зноў мастакоў, абмеркавалі як мае быць гэты крыж пакладзены. Паклалі яго ня так, што крыж стаіць, як на магіле, а паклалі бокам, абаперлі адной часткай крыжа. Так што, каб як нехта ўваходзіў, то адразу бачыў, што гэта Эўропа. Так, як Кубэ й сказаў. Гэтак і ляжаў той камень. Я ўжо далей ня ведаю, што зь ім сталася.

Наагул у Кубэ — гэтага кіраўніка Генэральнага Камісарыяту — была нейкая сімпатыя да беларускага народу. У яго ўзьнікалі непаразуменьні, спрэчкі з другой нямецкай інстытуцыяй, што выконвала акупацыйныя функцыі. Гэта СС і ейны паліцыйны ворган СД, якія ставіліся да беларусаў вельмі варожа. Гэтыя спрэчкі ня раз прымалі такі характар, які, відаць, прычыніўся ў вялікай меры і да ягонага зьнішчэньня.

Становішча немцаў на фронце ставалася штораз больш цяжкае, ваеншчына набірала сілы. І дзеля гэтага, з набліжэньнем фронту, паўставала думка пазбыцца гэтай цывільнай адміністрацыі на Беларусі і пераняць усё ў рукі ваенных. Канфлікты паўтараліся штораз часьцей, узьнікалі проста такія свары паміж СС ці ягоным паліцыйным ворганам СД і Генэральным Камісарыятам у Менску.

І пачаліся даносы, якія даходзілі да нашага ведама таксама (да беларусаў), асабліва праз прафэсара Іваноўскага. (Перад гэтым яшчэ праз Ермачэнку.)

Цікавая гэта наогул справа. Кубэ, які мусіў быць праваднікам нацыянал-сацыялістычнай палітыкі Гітлера, калі пачалі масава расстрэльваць жыдоў, вельмі востра зарэагаваў на гэта. Ён выклікаў да сябе шэфа Менскай СД, не запрасіў яго нават сесьці, і выгаварыў яму свае адмоўныя адносіны за зьнішчэньне габрэяў. Кубэ сказаў шэфу СД, што забойствы жыдоў ёсьць кампрамэтацыя народу, які вырасьціў Гётэ і Шылера і г.д.

Пасьля гэтага Кубэ выказаў сваё абурэньне дзеяньнямі Менскай СД у лісьце да кіраўніка Остлянду *фон* **Лёзэ** (які сядзеў у Рызе).

Тым часам шэф СД напісаў данос на Кубэ самому Гімлеру (шэфу СС).

***З. Пазьняк:*** — Цікава, няўжо Кубэ мог выклікаць шэфа СД і зрабіць яму *„разнос”*? Таемная паліцыя, усё ж. Адпаведнік Гестапа за мяжой Нямеччыны.

***А. Шукелойць:*** — Магчыма, што мог. Прынамсі, той шэф СД у сваім даносе Гімлеру пісаў пра гэта. (Ягоны ліст надрукаваны, здаецца.)

Даносы гэтыя скончыліся тым, што, відаць, СС вырашыла ад Кубэ нейкім чынам пазбыцца. А ён быў у нацыянал-сацыялістычную партыю запрошаны Гітлерам як лідэр аднэй зь нейкіх нямецкіх правых партыяў (ня памятаю ейнага назову, але недзе ў матэрыялах можна знайсьці). Так што гэта ня быў такі тыповы нацыянал-сацыяліст, гітлераўскі *сэнсус-скрыптум*. Гэта была, відаць, правая група нямецкага нацыяналізму, якая потым далучылася да гітлераўскага руху. І таму Кубэ заўсёды быў не зусім уліты ў гэту нямецкую нацыянал-сацыялістычную грамаду. Ці ён сам трымаўся, ці яго трымалі, але выглядаў ён так крыху збоку. І таму яго Гітлер зноў паклікаў, здаецца тады, калі трэба было йсьці на Ўсход і мець на гэта адпаведных людзей. А так ён там у Нямеччыне сядзеў у цяні. (Так, прынамсі, расказвалі немцы, тыя, зь якімі прыходзілася мне спатыкацца, знаёмыя з Генэральнага Камісарыяту.)

Гэты канфлікт давёў да таго, што СС (відаць, пры дапамозе сваёй паліцыі СД) пастанавіла Кубэ зьнішчыць. Ёсьць матэрыялы аб тых даносах розных на Кубэ ў Бэрлін, і нават ёсьць некаторыя

меркаваньні, што яго маглі нават саслаць у канцэнтрацыйны лягер. Але СС настаяла і пастаралася, што ўсё ж такі лепш было б яго зьнішчыць на месцы ягонай працы. Дзеля гэтага скарысталі мамэнт (гэта зьезд моладзі, здаецца), на ўрачыстасьці ў тэатры падклалі бомбу. Але бомба разарвалася пазьней, калі ён ужо сказаў сваю прамову і выйшаў. Бомба зьнішчыла каля 20-ці асобаў моладзі, што былі ў тэатры, у тым ліку тады загінуў старшы сын Натальлі Арсеньневай.

***З. Пазьняк:*** — Бомба была падкладзена на сцэне ці ў партэры? Дзе яна ўзарвалася?

***А. Шукелойць:*** — Яна была падкладзена, памойму, каля сцэны, ці пад сцэнай.

***З. Пазьняк:*** — Але расейцы-бальшавікі ўвесь час казалі, што гэта зрабілі савецкія партызаны, падпольшчыкі.

***А. Шукелойць:*** — Бачыце, у падпольлі там была агентура, існавала пэўнае супрацоўніцтва з падпольнымі арганізацыямі. І ня выключана, што ў выніку нейкіх кантактаў СД ці СС і савецкіх партызанаў, была знайдзеная вось гэтакая форма, каб зьнішчыць Кубэ.

Кубэ і так, і гэтак быў у акружэньні СС. Ягоным ад'ютантам быў афіцэр СС, дом, дзе ён жыў, таксама ахоўваўся СС. Так што выканаць такі акт — гэта не было цяжка для СС (у паразуменьні зь некаторымі „партызанамі").

У Нью-Ёрк часта прыязджаюць беларусы з Польшчы ці зь Беларусі і расказваюць аб тых вялікіх заслугах гэтай жанчыны, што падклала міну пад Кубэ. Я заўсёды ім кажу: „Калі ўзнагародзілі гэтую жанчыну, то чаму не ўзнагародзілі арганізатара гэтай апэрацыі?"

***З. Пазьняк:*** — Вы гаворыце пра Мазанік?

***А. Шукелойць:*** — Мазанік, так. Яе ўзнагародзілі ордэнам там нейкім. А дзе той, што арганізаваў, што паслаў Мазанік? І ніхто ня ведае. Яго ж у гісторыі не ўспамінаюць.

Аказваецца, што гэты чалавек на Захадзе, тут недзе быў, магчыма, што ўжо памёр. А там тады ён, відаць, быў у форме, магчыма, афіцэра партызанскага, той, які слаў Мазанік.

***З. Пазьняк:*** — Вы мяркуеце, што гэта быў чалавек СС?

***А. Шукелойць:*** — СС. Ці ён быў чалавек СС, ці чалавек НКВД, ці нейкай іншай спэцслужбы — гэта ня важна. Але Кубэ зьнішчылі немцы, Кубэ зьнішчыла СС. Гэта ёсьць мая думка. Пэўна ж, трэба было б мець болей дакумантаў і мацней матываваць. Але ўсе падставы існуюць, каб зрабіць менавіта такую выснову.

Лёгіка — гэта вялікая навука, усё ж. І яна таксама па тэй старане. Падумайце сабе, як магла ў дом Кубэ, у памешканьне ўвыйсьці жанчына зь мінай, нікім не кантраляваная. Усё ж заўсёды кантралюецца. Я колькі разоў праходзіў у Генэральны Камісарыят, заўсёды трэба было паказываць, што вы з сабой маеце, ня гледзячы, што вы ня йдзеце недзе далёка, а йдзеце, скажам, у сактатарыят спаткацца зь нейкай перакладчыцай-сяброўкай, ці ідзеце да нейкага загадчыка аддзелу культуры і асьветы зь нейкай справай.

Лягічна немагчыма, каб можна было некантралявана пранесьці. І таму тыя, што стаялі на тых дзьвярах эсэсаўскія службоўцы ва ўніформе, яны прапусьцілі гэтую асобу. Яны маглі нават аб гэтай справе ведаць.

Добра, Кубэ. Але ж ёсьць цэлы шэраг бомбаў, падкладаных нашым беларускім дзеячам, да якіх ніхто не прызнаецца і ніхто ня піша. Напрыклад, ***Антон Адамовіч*** вяртаецца з абеду (Самапомач на былой вуліцы Гаруна, „камсамольскай" цяпер) у рэдакцыю. Адчыняе свой пісьмовы стол, шуфлядку, каб дастаць пяро і бачыць: там пакладзена бомба. Адамовіч адразу робіць востры пратэст, паведамленьне. Усе людзі выходзяць з памяшканьня, выклікаюць паліцыянта. Паліцыянт прыходзіць зь менскай „чорнай" паліцыі (якраз не беларус, а менскі немец), выносіць гэтую бомбу, бомба разрываецца. Гіне паліцыянт. (У ягоных руках разарвалася і яго разарвала на мейсцы, на пляцы перад будынкам.)

Выпадак жа ж, моцны выпадак! Бомба парвала чалавека, была падкладзеная пад аднаго зь лідараў нацыянальнага руху ў тым часе. Маглі аб гэтым жа ж пісаць. Нехта мог бы прызнацца (гэта ж ня сорам бальшавікам прызнацца, што падклалі бомбу Адамовічу, старому антыбальшавіцкаму дзеячу, які тут пры немцах цяпер





Ausweis Nr.: 1494

Der durch nebenstehendes Lichtbild kenntlich gemachte: Schukelajo, Anton (geb 1915)

Wohnung: Ratomskaja 8a, W. 7

ist im Dienstbereich des: Der Generalkommiss... in Minsk

(Dienststelle)

beschäftigt. Alle militärischen und polizeilichen Organe werden gebeten, ihm Schutz und Hilfe angedeihen zu lassen und ihm in der Ausübung seines Berufes bei Absperrung Durchlass zu gewähren.

Minsk den 2. März 1944

(Ort) Der Generalkommiss...

(Dienststelle)

(Im Auftrage:)

Nr. 876 43

*„Аўсвайс” А. Шукелойця, 1944 г.*

стаў загадчыкам аддзелу прэсы). Маглі б прызнацца, але не прызнаюцца. Чаму? Не яны падклалі.

А затое ў Генэральны Камісарыят паклікалі Адамовіча і сказалі назаўтра, каб ён выехаў зь Менску. І Адамовіч ня меў часу нават належна спатыкацца, мусіў адразу выязджаць у Бэрлін. Лёгіка ясная: ён быў шкодны для немцаў у Менску, для наступаючай гэтай СС-СД, шкодны для новых гаспадароў.

***З. Пазьняк:*** — Не змаглі ўзарваць і сказалі: вымятайся.

***А. Шукелойць:*** — Так. Гэта ж вельмі сьмешна, маглі б схаваць гэта, маглі б сказаць сабе: *„*Ну, сядзі, гэты раз не ўдалося, можа, другі раз удасца, ці недзе нейкая машына наедзе на цябе і гэтак далей.*”* Ато не, сказалі: *„*Выносься зь Менску!*”* Лёгіка ясная: ён шкодны для іх чалавек, для той адміністрацыі, што надыходзіла.

Але ж ня толькі гэтая бомба. Пасьля забойства ***Іваноўскага*** старшынёй гораду стаў *інжэнер **Анатоль Комар***. Комар — гэта таксама старая фігура нацдэмаўскага тыпу, быў, здаецца, сакратаром нейкі час у ***Ігнатоўскага***, цікавы інжэнер, заслужаны, шмат вынаходзтваў зрабіў і г.д. Ён ад самага пачатку ў адміністрацыі горада нешта рабіў. Адразу прышоў, як толькі немцы зьвярнуліся і папрасілі дапамагчы ўпарадкаваць горад. Ён прышоў да Тумаша; там я зь ім пазнаёміўся.

Комару бомбу паклалі ў шафу ў ягоным офісе. Адно шчасьце: ягоная асабістая сакратарка агледзела гэта своечасова, і ён захаваўся жывым. І ніхто не прызнаўся. Чаму? Чалавек жа, які працаваў таксама з Гарадзкой управай, з гэтай цывільнай адміністрацыяй.

Тое самае і пра Іваноўскага. Я напісаў успамін аб тым, што яго зьнішчылі немцы. Бальшавікі Іваноўскага маглі зьнішчыць у кожнай хвіліне. Мы жылі побач (дамы былі побач). Ягоны дом стаяў над самым такім натуральным ровам, адхон такі быў. З гэтага адхону выйшаў, кінуў бы бомбу ў вакно — і Іваноўскага ня стала.

***З. Пазьняк:*** — Быў такі кагэбісцкі пісьменьнік Новікаў. Пісаў па-руску, напісаў некалькі кніжак пра Менскае падпольле. У адной з кніжак (у 70-я гады яна выйшла) ён напісаў, што Іваноўскага застрэлілі падпольшчыкі, назваў прозьвішчы, канкрэтна, хто страляў — Камінскі. І нават даў партрэт гэтага Камінскага. Вось вэрсія

бальшавікоў забойства Іваноўскага. Акрамя таго, ёсьць іншы пагляд, згодна якога Іваноўскі супрацоўнічаў з ангельскай разьведкай супраць немцаў, а савецкая і ангельская разьведкі каардынаваліся. Таму Іваноўскага ня рушылі. Але потым узьнік канфлікт паміж савецкай і брытанскай разьведкамі ў Менску, пасьля чаго пачалася сэрыя правалаў і забойстваў з абодвух бакоў. Гэтая вэрсія падтрымлівае меркаваньне, што Іваноўскага забілі бальшавікі.

***А. Шукелойць:*** — Так, я чуў. Бачыце, Іваноўскі свабодна хадзіў і разьязджаў па Менску. І гэты раз ён на сваей такой каламажцы ехаў ня той дарогай, якой ехаў заўсёды. Ён ехаў з пляцу Волі ўніз на Ракаўскую вуліцу да Юбілейнай плошчы, дзе нашыя дамкі былі, дзе мы тады жылі.

У тым мейсцы, дзе яго падстрэлілі, знаходзілася галоўная кватэра і падвал-турма Смаленскай СД, так званай. Смаленская СД — гэта была арганізацыя паліцыйнага характару, створаная ў Смаленску, калі там яшчэ арганізаваў беларускую адміністрацыю ў той усходняй частцы Беларусі Радаслаў Астроўскі. Смаленская СД ў асноўным складалася з былых савецкіх энкавэдыстых. Калі Смаленская СД пераехала ў Менск, гэта быў для менскіх людзей жахлівы страх.

Недалёка ад гэтай Смаленскай СД і быў забіты Іваноўскі. І той, што ў яго страляў (магчыма, як вы кажаце, Камінскі), ён зьнік, ніхто яго не злавіў.

***З. Пазьняк:*** — Іх двох было, і двох уцякло.

***А. Шукелойць:*** — Так. І таму гэта адразу было падазроным. Вялікае падазрэньне йшчэ адно ва ўсім гэтым. Шмат такіх ёсьць фактаў, якія можна было б лягічна прадыскутаваць. Іваноўскі быў пратэстантам кальвінскага кірунку, і як пратэстант ён мусіў быў быць пахаваны на вельмі прыгожых у Менску пратэстанцкіх могілках.

Тым часам яго хавала Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква зь вялікай помпай на каталіцкіх могілках, на Кальварыі.

***З. Пазьняк:*** — Чым Вы гэта тлумачыце?

***А. Шукелойць:*** — Апрача гэтага — йшчэ адна дэталь. Айцец Зянон Ігнатовіч са мной быў у прыяцельскіх дачыненьнях. Я ў яго заўсёды бываў на ягоных імянінах (недзе ўвосень, памойму), у ягонай кампаніі. Мяне заўсёды дзівіла ягоная вострая пазыцыя як каталіцкага сьвятара, вельмі вострая; і адначасна ён быў капэлянам летувіскага батальёну, які меў у асноўным заданьне — змагацца з партызанамі, і ахоўваць розныя аб’екты (лягеры, скажам, і г.д.). Ксёндз Зянон, як даведаўся, што забілі Іваноўскага, то чамусьці яму як афіцэру прыйшло ў галаву, што яго могуць паклікаць хаваць на каталіцкіх могілках. І таму ён тады адразу (гэта ня толькі з гэтай нагоды, йшчэ іншая нагода была: яму не хацелася хаваць пратэстанта на каталіцкіх могілках і з каталіцкім абрадам) вырваўся зь Менску (уцякаў недзе да сваіх жаўнераў) і па дарозе заехаў да мяне ў музэй і кажа: „Калі будуць шукаць мяне, скажы, што мяне ў Менску няма. Забілі Іваноўскага, могуць сказаць мне хаваць. А я не магу, бо ён пратэстант і там разьвёўся з жонкай, меў розныя такія справы.”

Гэта яшчэ таксама сьведчыць аб тым, чаму з такой вялікай помпай хавалі Іваноўскага і на каталіцкіх могілках, і праваслаўныя сьвятары — пратэстанта, і з удзелам архіепіскапа, цэлай сьвітай. Так што ёсьць над чым задумацца.

***З. Пазьняк:*** — Сапраўды, шмат загадак. Між іншым, я размаўляў са сьведкам пахаваньня Іваноўскага доктарам ***Вітаўтам Кіпелем***. Ён мне сказаў, што Іваноўскага хаваў увесь Менск. Было вельмі шмат людзей, тысяч дзесяць. Бо Іваноўскі, як асоба і кіраўнік, карыстаўся вельмі вялікай павагай у горадзе.

***А. Шукелойць:*** — Так, людзей было вельмі шмат. Я ж кажу, хавалі зь вялікай помпай.

***З. Пазьняк:*** — Магіла Іваноўскага была потым зраўняная на Кальварыі з зямлёй. Я ведаў, дзе ён пахаваны і ў пачатку 90-х гадоў пераказаў пра гэтае месца некаторым фронтаўцам. Што там цяпер — невядома. Але памяць пра беларускага змагара ўжо не загіне.

Аднак, вернемся тым часам да Кубэ.

***А. Шукелойць:*** — Пра Кубэ я магу гаварыць толькі ў параўнаньні з тым, што было перад гэтым, і што было пасьля яго. Перад гэтым (гэта кароткі час ваеннай акупацыі, Вэрмахту) пачалі стварацца першыя беларускія арганізацыі,

адміністрацыя, але для Вэрмахту было не цікава займацца беларускай праблемай. Іх цікавіла войска, фронт. І дзеля гэтага былі розныя цяжкія выпадкі, якія ўзьніклі ў час вэрмахтаўскай акупацыі (а гэта асабліва адчувалася ў заходняй Беларусі, дзе перабралі ўладу адміністрацыі і паліцыі палякі і пачалі расстрэльваць ня толькі беларускіх дзеячоў, але проста сьведамае беларускае насельніцтва, праваслаўнае сьвятарства, настаўнікаў. Забівалі бяскарна. І гэта, я кажу, асабліва не цікавіла Вэрмахт. Іх цікавілі справы на фронце, і ўсё.

Затое часы Вільгельма Кубэ — гэта часы ўсталяванай цывільнай улады. Яны маюць зусім іншы характар. Па-першае, быў арганізаваны доктарам Тумашам і прыехаўшым з Варшавы старым дзеячом доктарам медыцыны ***Антановічам*** *Чырвоны Крыж*, які працягваў колішнія традыцыі з 1-й Сусьветнай вайны (яшчэ таго *Чырвонага Крыжа*) і выконваў функцыю, выключна як арганізацыі дапамаговай (як Міжнародны Чырвоны Крыж). Праўда, тады ў Менску было шмат працы: Менск быў разьбіты, у руінах, разьбітыя дамы, маса трупаў; перад горадам стаяла задача абароны ад розных хваробаў. І вось гэтай справай і займаўся доктар Тумаш. На гэта яго нават былі змабілізавалі ў Лодзі, дзе ён працаваў лекарам. Гэта значыць, на кароткі час, каб запабегчы хваробам у Менску і іншых гарадах.

Пасьля навядзеньня парадку ён адышоў і паехаў зноў на сваю работу ў Лодзь. Антановіч быў вельмі салідны чалавек. У выніку сваёй выдатнай працы ў барацьбе з хваробамі ён сам захварэў, спаралізавала яму адзін бок. Да канца 1944-га года ён надалей быў у Менску і выконваў абавязкі, здаецца, паліцыйнага лекара, але езьдзіў у крэсьле.Такая была ягоная роля. І потым ён ехаў разам з намі на эміграцыю і вылез недзе ў Варшаве, здаецца.

Калі прышла цывільная нямецкая адміністрацыя зь Вільгэльмам Кубэ на чале, *Чырвоны Крыж* быў заменены *Самапомачай. Самапомач* узначаліў доктар медыцыны, стары беларускі дзеяч — ***Іван Ермачэнка*** (прыехаў з Прагі). Гэта, дарэчы, дзеяч Рады БНР, ён быў прадстаўніком БНР у Турцыі і ў Сярэднеазіяцкіх краінах.

У гэтым часе ўжо зьехалася паважная група беларускіх дзеячоў. Шмат зь іх павыходзіла з турмаў, у тым ліку маладыя людзі, хоць бы нават і пазьней ведамы ў нас дзеяч доктар ***Барыс Рагуля***. Людзі, якіх гналі ў Чэрвень і якія па дарозе нейкім спосабам патрафілі ўнікнуць сьмерці (расстрэлаў НКВД каля Чэрвеня).

***З. Пазьняк:*** — Гэта маецца на ўвазе той вядомы этап, які гналі зь Вялейскай турмы?

***А. Шукелойць:*** — Ня толькі зь Вялейскай, але і зь Менскай турмы, і розных іншых турмаў па дарозе.

У гэты час арганізавалася і ўзмацнілася *Самапомач*, дзякуючы актыву, які тады ўжо сабраўся ў Менску. Сюды, дзеля арганізацыі вайсковага школьніцтва, прыехаў ***Францішак Кушаль***. Тут жа знаходзіўся *ксёндз* ***Вінцэнт Гадлеўскі*** — выдатны стары беларускі дзеяч, які пакінуў напоўлегальна Бэрлін. Там ён працаваў на радыё і прыехаў паглядзець, што робіцца на Беларусі. Моладзь папрасіла яго застацца ў Менску, паколькі гэта быў ведамы немцам палітык, зь нямецкім ухілам яшчэ з часоў Першай Сусьветнай вайны і Рады БНР, з часоў ураду Скірмунта, калі была высланая тэлеграма кайзэру Вільгельму, якую (падобна) Вінцэнт Гадлеўскі рэдагаваў.

У паліцыю, якая вымагала грунтоўнай рэарганізацыі, прышоў малады ведамы дзеяч з заходняй Беларусі ***Юльян Саковіч***, сын багатага гаспадара (ягоны фальварак знаходзіцца недалёка Крэва — Балдыры), грамадавец левага кірунку, выхаваны ў падпольных камуністычных арганізацыях. Быў студэнтам Віленскага унівэрсітэту (вывучаў аграномію), сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу. Быў арыштаваны, праседзеў у польскіх турмах, здаецца, каля 11 гадоў. Ня гледзячы на гэта, быў чалавекам незламаным, і ў гэтым часе ён цалкам пераключыўся на працу беларускіх вайсковых падпольных арганізацыяў.

Пры гэтай нагодзе я дазволю сабе зрабіць кароткую дэгрэсію. Калі Астроўскі, які тады кіраваў Менскай акругай Беларусі (йшчэ немцы


(выкадроўка)

***Вінцэнт Гадлеўскі***

не былі далёка на Ўсходзе), прадстаўляў Юльяна Саковіча (гэта ягоны вучань з гімназіі) на начальніка Менскай паліцыі, то немцы пытаюць: *„*Так, але ж ён ня мае ніякай вайсковай, а тым больш, палітычнай адукацыі.*"* Астроўскі ў адказ ім кажа: *„*Так, але ён мае вялікую палітычную асьвету: 11 гадоў польскіх турмаў, якія яго не зламалі. Вось вы і будзеце мець чалавека гэтакай духовай сілы.*"*

У выніку таго нелегальнага паседжаньня ў офісе Адамовіча, беларуская адміністрацыя пераняла пастаноўленыя тады пазыцыі (гэта значыць, тэатр і г.д.). Пачалі *„*беларутэнізацыю*"*. Тыя розныя абвесткі, якія былі ў расейскай мове, моладзь пачала зрываць, каб іх і знаку не было, пра што я ўжо казаў. Гэта быў пачатак таго, што ўзьнікала пры Кубэ.

Ад самага пачатку Кубэ выказаў прыхільнасьць да беларускага народу і да ягоных патрэбаў. Дарэчы, у 1942 г. у нямецкай газэце *„*Minsker Zeitung*"* быў надрукаваны вельмі прыхільны (нават патрыятычны) верш, прысьвечаны Беларусі [2]. Пад тэкстам стаяў подпіс *„Karl Kurz"*. Значыць – „кароткі". Тады думалі, што гэта літаратурны псэўданім Кубэ. Кубэ, як вядома, быў пісьменьнікам. Адну зь ягоных драмаў рыхтаваў тады беларускі тэатр.

Спэктакль, аднак, не пасьпелі паставіць, бо Кубэ забілі, і прыйшлі іншыя кіраўнікі (фон

Годбэрг не дазволіў бы спэктаклю). Пастаноўка мела быць з нагоды нейкіх угодкаў Кубэ, і падрыхтоўку яе трымалі таму ў сакрэце.

***З. Пазьняк:*** — Хто пераклаў потым верш на беларускую мову?

***А. Шукелойць:*** — Верш быў надрукаваны ў беларускім перакладзе ў беларускай газэце (назвы газэты ня памятаю), якая выдавалася ў Беластоку, здаецца, у 1942 годзе. Ейным рэдактарам быў паэт ***Хведар Ільяшэвіч***. Я спытаў у ***Арсеньневай***, ці не яна зрабіла пераклад? Арсеньнева адмовілася. ***Сяднёў*** адмовіўся. Я паказаў пераклад ***Антону Адамовічу*** і падкінуў яму думку пра ***Міхася Васілька***, нават вершы яму Васількова прадэклямаваў. Адамовіч пагадзіўся, што перакладчыкам, праўдападобна, мог быць Васілёк (які, дарэчы, добра ведаў нямецкую мову).

***З. Пазьняк:*** — А ці ня мог бы сам Хведар Ільяшэвіч перакласьці?

***А. Шукелойць:*** — Непадобна. Хаця пэўна, што ён быў здольны гэта зрабіць. Але калі паўстала пытаньне пра аўтара перакладу, Ільяшэвіч ужо ня жыў, і не было ў каго спытацца.

Дык вось, якая ў гэтым была мэта Кубэ, што ён адышоў ад генэральнай лініі нямецкага фашызму — цяжка сказаць.

***З. Пазьняк:*** — Цікавы факт. Але, калі прааналізаваць тэкст нямецкага верша, то відаць, што ён у аснове сваёй не адыходзіў ад пэўных накірункаў нямецкай прапаганды ў акупаванай Беларусі. Шчасьлівую будучыню нашай краіны аўтар зьвязваў зь Нямеччынай.

*„Мы з Райху вам ахвотна дапаможам праць нітку шчасьця, Каб таксама гэтая краіна, Такая далёкая Бацькаўшчына, Спадзяючыся на Нямеччыну і на сваю зорку, Магла здабыць хлеб і радасьць.”* Гэта падрадкоўнік апошняга слупка. І гэта пісалася на фоне той злачыннай справы і вынішчэньня, што рабіла нямецкая ваеншчына на Беларусі за часы акупацыі.

***А. Шукелойць:*** — Прапаганда – так. Безумоўна. Але што цікава — тут гаворыцца пра Беларусь як пра *„краіну”* і *„Бацькаўшчыну”*, што яна спадзяецца і на Нямеччыну, і на *„сваю зорку”*. І што *„мы з Райху „* (*„wir aus dem Reich”*) *„вам ахвотна дапаможам”*. Гэта, ведаеце, вельмі далёка адыходзіла ня толькі ад нямецкай акупацыйнай палітыкі Вэрмахту, але і ад нямецкай прапаганды.

Магчыма, што Кубэ, чуючыся так пэўна на Беларусі, думаў, што ў гэтай новай Эўропе, аб якой немцы гаварылі і якую плянавалі будаваць, зойме пазыцыю, скажам, нейкага такога тыпу князя ў Беларусі. Былі ў яго, відаць, такія думкі. Прынамсі, беларуская інтэлігенцыя так аб ім думала.

У сувязі з гэтым, магчыма, у яго і былі сантымэнты да беларусаў, і ён даваў вялікія магчымасьці тварэньня.

Што ў гэтыя часы адбылося? Па-першае, *Самапомач* пашырылася ў сваёй дзейнасьці. Яна стала ня толькі дапамаговай арганізацыяй, што зьбірае там вопратку і яду па вёсках і давозіць у гарады, асабліва ў Менск, але ў першую чаргу (дзякуючы Ермачэнку, які як беларус, зразумела, ставіўся прыхільна і пераконваў у гэтым Кубэ), сарганізавалі так званую *Самаахову*, корпус *Самааховы*. Гэта была першая вайсковая адзінка такога агульнабеларускага маштабу. І ў сувязі з гэтым Кушаль выхаваў (навучыў) тры групы афіцэраў. На гэтыя афіцэрскія курсы прышлі афіцэры розных гадоў, розных кірункаў. Былі афіцэры старой царскай арміі, савецкай чырвонай арміі, асабліва шмат польскіх падхоронжых (гэта хлопцаў, што закончылі афіцэрскую школу рэзэрвы) і былі польскія афіцэры ці падафіцэры прафэсійнай школы і прафэсійнай службы. Тым падафіцэрам пасьля перашкаленьня надалі афіцэрскія званьні.

Вышкаленыя гэтыя афіцэры карысталіся беларускімі вайсковымі камандамі, зразумела, на падставе нямецкіх вымогаў і падручнікаў. Каманды былі ў беларускай мове, выдадзеныя і зрэдагаваныя афіцэрам сталай службы польскай арміі ***Мікулам***. Гэты Мікула быў потым пры адступленьні камандзірам нашай афіцэрскай школы на заходнім фронце, тады, калі афіцэрская школа перайшла да французкага супраціўленьня. Немцы яго арыштавалі, і ён недзе загінуў (альбо ў лягеры, альбо расстралялі). Маёр Мікула. На стале ў мяне ляжыць гэты ягоны падручнік.

Беларускія афіцэры пачалі арганізоўваць гэтую *Самаабарону*, і арганізацыя ішла вельмі ўдала.

Пераканаў нехта там немцаў, што гэта будзе адзінка поўнасьцю падпарадкаваная нямецкім патрэбам. Яны дапамаглі зброяй, але потым зарыентаваліся, што гэта адзінка вельмі ж самастойная, выказвае вельмі незалежныя тэндэнцыі, пачаліся канфлікты між нямецкімі афіцэрамі і беларусамі. Немцы вырашылі яе зьліквідаваць. І такім парадкам ужо змабілізаваных у гэтыя батальёны ці пакліканых дабраахвотнікамі хлопцаў прышлося распусьціць. Але засталіся афіцэры. Ня ўсюды гэтыя аддзелы распусьцілі, залежыла ў вялікай меры ад мяйсцовага нямецкага гаспадарчага кіраўніка акругі (гэта значыць вобласьці альбо раёну).

Так што гэта першае, што адбылося пры Кубэ (вайсковая ўдача).

Другой ўдачай было тое, што Саковіч арганізаваў паліцыю. Паліцыя ў Менску спачатку (як і ўсюды ў такіх пераваротах) складалася пераважна з тых элемэнтаў, што выйшлі з турмы. Сярод іх вельмі шмат заўсёды бывае крымінальнага элемэнту. І гэтага крымінальнага элемэнту шмат было ў перашай той паліцыі, арганізаванай немцамі.

Саковіч сьцягнуў у паліцыю з заходняй Беларусі маладых настаўнікаў, пераважна тых, аб якіх мы гаварылі (з 6-месячных настаўніцкіх курсаў), і арганізаваў у Менску вельмі прыстойную паліцыю. Гэта была надзвычайная, добрая паліцыя, асабліва цывільная частка гэтай паліцыі. На чале цывільнай часткі паліцыі стаяў ***Ігар Шчорс***. Нядаўна тут на эміграцыі памёр.

***Саковіч*** і ***Кушаль*** адыгралі вялікую ролю ў арганізацыі гэтых вайсковых адзінак. Цяпер што да паліцыі йшчэ. Кушаль адразу, у паразуменьні з рэдакцыяй *„Менскай Газэты"*, куды прыходзіла беларуская інтэлігенцыя, асабліва журналісты, пісьменьнікі, асобы, што валодалі пяром, папрасіў рэдакцыю, і яны адпусьцілі брата ***Язэпа Пушчы***, які быў вайскавіком, меў савецкую ваенную асьвету (але яму з увагі на брата, ніколі не надалі ніякай рангі). Ён ваяваў нават на паўночы ў Фінскай вайне, камандаваў ротай, батальёнам, а рангі ніякай ня меў. Гэта малады крытык, пісьменьнік, валодаў добра пяром. Тут, у нас на эміграцыі, ён памёр. Тады ён зрабіў пераклады паліцыйных падручнікаў на беларускую мову.

Так што паліцыя таксама перайшла на беларускую мову. Памятаю тоўстыя гэтыя падручнікі, Кушаль іх аднекуль дастаў. Такія не агульнага пашырэньня, а сакрэтнага характару.

Пасьля нейкага часу, калі немцаў пачалі біць на Ўсходзе, то яны сваю памылку ўбачылі ў стрымліваньні арганізацыі гэтай *Самааховы*, што стварала *Самапомач*. І тады зноў другія тры курсы афіцэраў паклікалі. Прашколіў Кушаль. І гэтак пачалася арганізацыя ***Беларускай Краёвай Абароны*** ў 1944 годзе.

***З. Пазьняк:*** — Значыць, калі на Ўсходзе немцы пачалі адступаць, то тады яны рашылі беларусаў зноў прыцягнуць да вайсковай справы, далі магчымасьць арганізацыі афіцэрскіх курсаў і Краёвай Абароны.

***А. Шукелойць:*** — Так. І ўжо тады сарганізавалі афіцэрскую школу для выхаваньня прафэсійных афіцэраў.

***З. Пазьняк:*** — Колькі афіцэраў у гэтай школе выхаваў Кушаль?

***А. Шукелойць:*** — Усіх разам — цэлы корпус (калі лічыць афіцэрскі). Я думаю, каля паўтысячы. А што да гэтай афіцэрскай школы, то тут у нас ёсьць некаторыя гадунцы афіцэрскай школы, напрыклад, у Канадзе ***Кастусь Акула***. Ён жа цэлую кніжку напісаў пра тую вайсковую дзейнасьць у час нямецкай акупацыі, асабліва апошнія гады.

У сувязі з гэтым перавыхаваньнем паліцыі пачалі змагацца за беларусізацыю паліцыі і ў раёнах, ня толькі ў Менску. Пачалі арганізоўваць. У некаторых гарадах добра павялося. Там у асноўным шмат папрацавалі такія людзі, як юрыст ***Калодка*** і іншыя. Шмат людзей у арганізацыі паліцыі перабіралі ад палякаў.

Вялікай справай, якая пры Кубэ была асягнута, сталася беларускае школьніцтва. У 1942-м годзе быў вялікі Зьезд настаўнікаў і інспэктараў. Усе школы перайшлі на беларускую мову. Пачалі рыхтаваць падручнікі. Некаторыя старыя падручнікі прыходзілася правіць адразу. Нейкі кароткі час мяне былі паслалі (калі я закончыў парадкаваць ЗАГС) у аддзел асьветы і там у такую

камісію перагляду савецкіх падручнікаў і дастасаваньня іх да беларускага школьніцтва. Гэта значыць, трэба было нейкія старонкі выкінуць, недзе нешта ўставіць і скарыстаць гэты падручнік.

Спачатку на гэты школьны аддзел угаварылі ксяндза Гадлеўскага, каб ён застаўся ў Беларусі — патрэбны чалавек — і даручылі яму школьніцтва. Апрача таго, што першыя пачаткі школьніцтва былі пры *Самапомачы* (яны й далей заставаліся пры Ермачэнку), то пасьля арганізавалі аддзел непасрэдна пры Кубэ (гэта значыць, пры Генэральным Камісарыяце). Там у вельмі шырокім маштабе была разгорнута школьная рэформа.

Прывяду адзін прыклад, у чым была рэальная сутнасьць школьніцтва ня толькі ў Менску, але й на правінцыі. Палітычныя вымогі нямецкага нацызму давалі магчымасьць для акупаваных тэрыторыяў ствараць толькі школы ці курсы прафэсійныя, у якіх бы можна было выхаваць патрэбных у працы работнікаў: сталяроў, муляроў і гэтак далей. Агульная адукацыя не прадугледжвалася (у форме гімназіі ці нейкай агульнаадукацыйнай школы). Але, ізноў жа, роля Кубэ, які глядзеў на гэта праз пальцы. Паўставала мноства сярэдніх агульнаадукацыйных школаў, якія насілі розныя назовы. У школы прышла моладзь у школьным веку.

Школы гэтыя баранілі моладзь ад вывазу ў Нямеччыну, на работы. Бо як у Польшчы было (як нам расказваў Родзька на тым першым нашым сходзе), што немцы ловяць і акружаюць на рынках ці пры выхадзе з касьцёлаў моладзь і адразу шлюць іх у фабрыкі і на розныя работы. Каб бараніцца ад гэтага ў нас на Беларусі — паўставала школьніцтва. У Баранавічах, напрыклад, было, здаецца (як я ўжо быў інспэктарам), пяць сярэдніх школаў. Усе яны былі агульнаадукацыйныя і мелі розныя назовы. Была школа сярэдняя медычная, начале яе быў доктар ***Мацьвей Смарычок***, ведамы на эміграцыі як *паэт* ***Бярозка***. (Дарэчы, сапраўднае ягонае імя Мітрафан. Мацьвеем ён стаўся ўжо за мяжой, на чужыне.)

Другая школа — гандлёвая. Кіраваў прафэсійны настаўнік з гандлёвай польскай вышэйшай асьветай Русак. Трэцяя школа была — мастацкая. Я яе візытаваў недзе у 1943-м ці 1944 годзе. Кіраўніком гэтай школы быў настаўнік мастацтва, настаўнік малюнку былой Баранавіцкай польскай гімназіі, нават паляк. Ён быў таксама дырэктарам музэю ў Баранавічах. Чацьвёртая школа — была агульнаадукацыйная, гэта былі так званыя „матуральныя курсы”. З гэтых курсаў у нас быў ведамы дзеяч (летась памёр) ***Васіль Русак***. З гандлёвай школы быў доктар ***Янка Запруднік*** (потым перайшоў на матуральныя курсы). З медычнай школы таксама (ён жыве тут) ***Васіль Шчэцька***. І гэтак далей. Такім спосабам вялося там, дзе была ўхоплена беларуская адміністрацыя ў горадзе. Апрача гэтага была йшчэ сярэдняя настаўніцкая школа (сярэднія настаўніцкія школы былі дазволеныя, сэмінарыі настаўніцкія). Так што ў горадзе ўся моладзь была ахоплена школьніцтвам. І ўсе школы былі прыкрытыя прафэсыйным назовам, але яны былі агульнаадукацыйныя. Гэта была вельмі вялікая справа.

У канцы ў немцаў выявілася патрэба ў людзях некаторых прафэсіяў з вышэйшай асьветай. І таму (па-мойму, у 43-м, ці нават у 42-м годзе) быў арганізаваны Медычны інстытут. Быў ён па за тэрыторыяй цывільнай адміністрацыі, у Магілёве. Але ён ў аснаўным меў вайсковы ўхіл. Патрэбныя былі лекары для вайсковых адзінак. З гэтага інстытуту йшчэ жыве на эміграцыі ў Аўстраліі ведамы дзеяч ***Бразоўскі***. Тут — ягоная дачка.

***З. Пазьняк:*** — Значыцца, Кубэ спрыяў агульнай беларускай адукацыі насуперак нацысцкім устаноўкам?

***А. Шукелойць:*** — Так. Усё ж відаць. Апрача гэтага, культурна-асьветная дзейнасьць разгарнулася даволі шырока. У больших гарадах з дапамогай Самапомачы паўсталі розныя тэатральныя гурткі, хоры. Менскі тэатр тады меў тры аддзелы: драматычны, опэрны (Музычны тэатр) і аддзел эстрады. Гэты эстрадны аддзел разьязджаў па гарадах Беларусі.

Так выглядала сітуацыя за часы адміністрацыі Кубэ.

***З. Пазьняк:*** — Пасьля глыбокіх гістарычных дасьледваньняў доктара ***Юркі Туронка***,

пагрунтаваных на фактах і дакумантах, і пасьля Вашых сьведчаньняў як сучасьніка і відавочцы, паўстае, дарэчы, вельмі няпростае пытаньне: як ацэньваць Вільгэльма Кубэ ў беларускай гісторыі? Бальшавікі, між іншым, жорстка „ацанілі” не забойцу эсэсаўца Годбэрга, а якраз цывільнага Кубэ, і надзвычай адмоўным чынам. Я лічу, што гэта таксама невыпадкова. Расейцы-сталіністы выкарыстоўвалі вайну, каб рукамі немцаў зьнішчаць беларусаў. Гэта асабліва выявілася ў 1944 годзе, калі мабілізавалі ў савецкае войска тысячы неабучаных беларускіх хлопцаў і пагналі бяз зброі ў непатрэбныя атакі пад нямецкія кулямёты, а самы стралялі ім у плечы. Я ўжо не кажу пра тое, як савецкія партызаны правакавалі немцаў на пацыфікацыі беларускага насельніцтва. А тут раптам Кубэ — высокапастаўлены немец, які спрыяе беларусам. Для саветаў — гэта двойчы вораг. Зрэшты, паколькі бальшавікі ўдзельнічылі ў забойстве Кубэ, то яны потым у сваёй прапагандзе ўсяляк стараліся апраўдаць забойства, паказаць „гераізм” саветаў і „злачыннасьць” Кубэ.

Праўда, грамадзкі стэрэатып адносінаў да Кубэ выпрацаваўся больш пад уплывам савецкага кінафільма „Гадзіньнік спыніўся апоўначы” (Беларусьфільм), выпушчанага ў 1950-х гадах. Там Кубэ паказаны пачварай, жорсткім, хітрым і ціхім забойцам, гэтакім „тэарэтыкам” сьмерці, ненавісьнікам людзей.

У фільме па загаду Кубэ расстрэльваюць малых дзетак, сам Кубэ перад расстрэлам раздае дзецям цукеркі, гладзіць па галоўцы, а потым гучаць стрэлы.

Дзеля гістарычнай дакладнасьці таксама скажу, што ролю Кубэ там выконваў рускі (такога даволі сярэдняга ўзроўню) акцёр Д. Арлоў (прысланы пасьля вайны на Беларусь ствараць тут рускі тэатар). Арлова я добра ведаў, будучы студэнтам Беларускага Дзяржаўнага Тэатральна-Мастацкага інстытута, калі Арлоў загадваў там катэдрай. Мала, відаць, было „прафэсараў”, якія выклікалі ў студэнтаў столькі жаху, антыпатыі і непрыхільнасьці, як гэты Арлоў, — настолькі непрыемны ён быў чалавек, і якому савецкі друк сьпяваў дыфірамбы.

У кінафільме, іграючы Кубэ, гэты арыгінал (прозьвішча „Арлоў” — ягоны псэўданім) сыграў дакладна самога сябе. Але з рэчаіснасьцю кінавобраз меў мала агульнага.

А рэчаіснасьць якраз ставіць штораз болей пытаньняў. Ці памятаеце Вы зьмест канфліктаў Кубэ з ваеннай адміністрацыяй?

***А. Шукелойць:*** — Я буду далей яшчэ гаварыць пра гэта.

У сувязі з тымі свабодамі, якія адчула беларуская інтэлігенцыя пры Кубэ, быў арганізаваны таксама ***Саюз Беларускай Моладзі***, які адыграў вялікую ролю.

Тут я хачу зрабіць папраўку таго, што ўсюды друкуецца. Думка пра Саюз Беларускай Моладзі ўзьнікла яшчэ ў 1941-м годзе. І першы Саюз Беларускай Моладзі ў Менску быў арганізаваны *доктарам* ***Надзеяй Абрамавай***, якая потым была кіраўнічкай жаночага аддзелу моладзі. Гэта вельмі інтэлігентная асоба, зь веданьнем моваў, з такім шляхецкім паходжаньнем. Яна арганізавала першы Саюз моладзі. Ёсьць яе фатаграфія. Фатаграфію гэту мае спадарыня ***Яніна Шабуня-Каханоўская*** (яны былі ў добрых дачыненьнях). Але пабачыўшы гэты вельмі ж такі дэманстратыўны беларускі рух, немцы гэтыя арганізацыі зачынілі. Так што арганізацыя моладзі стварылася і потым яе прылучылі да царквы, і там яна ў неразьвітым стане вегетавала.

Тое самае было і ў іншых мейсцах: у Вялейцы, Баранавічах і г.д.

Калі немцаў пабілі на Ўсходзе, яны далі магчымасьць зноў арганізаваць *Саюз Беларускай Моладзі*, дазволілі выхаваць інструктараў і нават дапамаглі ім зрабіць уніформы і надаць ім беларускі характар, пра які бальшавікі там крычаць, што „фашысцкай моладзі”.

Усё гэта адбывалася йшчэ пры Кубэ. Бомбу яму падклалі ў тэатры, дарэчы, якраз тады, калі ён выступаў на адкрыцьці зьезду *Беларускай Моладзі*. Гэта моладзь „другога выданьня”, ці як сказаць, — гэта ўсё адбылося пры Кубэ.

Уся гэтая дзейнасьць была бачна на Беларусі ўсім. На Беларусі, апрача цывільнай адміністрацыі Кубэ, як я ўжо казаў, яшчэ існавала СС і іхная адміністрацыя. Гэта значыць, СС,



*Першая арганізацыя „Саюзу Беларускай Моладзі" ў 1941 г. Першая зьлева ў другім радзе Надзея Абрамава, пасярэдзіне – айцец Уладзімер Фінкоўскі.*

вайсковая частка і іхны паліцыйны ворган ці той разьведчы орган — паліцыйная СД. Між гэтымі арганізацыямі ўзьнікалі канфлікты, якія давялі да таго, што з Кубэ сталася — да ягонага фізічнага зьнішчэньня, пра што мы ўжо гутарылі.

У гэтым жа больш-менш часе таксама хацелі фізічна зьнішчыць альбо паслаць у канцэнтрацыйны лягер і доктара Івана Ермачэнку, бо пад ягонай шыльдай Самапомачы шмат што адбывалася. Таму Ермачэнку, пра якога сягоньня не гаворыцца, гісторыя ацэніць, на маю думку, належна, на што ён заслужыў.

Іван Ермачэнка быў багаты чалавек, ён меў некаторыя матэрыяльныя магчымасьці, і таму, напрыклад, адзін з кіраўнікоў СД у Менску быў таксама зьняты і высланы. Невядома, ці трапіў ён у канцэнтрацыйны лягер, ці яго проста саслалі.

***З. Пазьняк:*** — Значыць, СД сачыла за беларускай дзейнасьцю і мела сваю агентуру?

***А. Шукелойць:*** — Ну пэўна, пэўна. СД — гэта агентура. Але адзін з гэтых палітычных афіцэраў, ***Шлегель*** — ведамае прозьвішча — быў у добрых дачыненьнях зь ***Ермачэнкам*** і з ***Іваноўскім***. І ён на гэта, што робіцца (на беларускую дзейнасьць), глядзеў скрозь пальцы. А як гэтыя даносы пайшлі ў Бэрлін, дык іх усіх прыбралі: Шлегеля, Ермачэнку, і забілі Кубэ, забілі ксяндза Гадлеўскага, Саковіча, бомбу падлажылі Антону Адамовічу, бомбу падлажылі інжэнеру Комару, старшыні горада, які прышоў на мейсца Іваноўскага. Гэта ўсё рабіла СС, гэты **фон Годбэрг** — сукін сын, ён да канца нават і не хаваўся.

***З. Пазьняк:*** — Фактычна, Годбэрг і СД арганізавалі вынішчэньне беларускай адміністрацыі. А пасьля забойства Кубэ на ягонае месца быў прызначаны Годбэрг.

***А. Шукелойць:*** — Так. (Далей я йшчэ аб гэтым буду гаварыць.) Так што, на маю думку, Годбэрг (генэрал СС) рыхтаваў для сябе дарогу. І таму яны мусілі зьнішчыць (апрача Кубэ) усіх ягоных супрацоўнікаў, якія гэтую беларускую працу на Беларусі прарабілі: гэта значыць, ***Гадлеўскага*** (школьніцтва), ***Іваноўскага*** (адміністрацыя), ***Саковіча*** (паліцыя). Саковіч з Кушалем пайшлі пратэставаць супраць таго, што немцы паляць вёскі, і Саковіч вельмі востра там выступіў. Гэта была прычына, што яго з Самапомачы пагналі. Выслалі

яго ў Ліду разам з ***Мараковым*** — школьным інспэктарам, і там іх забілі. Як мяркуюць – рукамі палякаў. Але, на маю думку, усе гэтыя забойствы, пачынаючы ад Саковіча, Іваноўскага, ксяндза Гадлеўскага, выгнаньне Ермачэнкі і гэтак далей — гэта ўсё рыхтавала і рабіла СС, і ня выключана, што ў некаторых выпадках — у супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі. Мая думка такая. Забойства Кубэ працерабіла дарогу для фон Годбэрга, які ачоліў Цывільную адміністрацыю (Генэральны Камісарыят).

Пасьля ўсяго гэтага прышлі зусім новыя людзі. Прышоў і Астроўскі ў гэтым часе. Школьніцтва зусім інакш павярнулі: пачалі гэтых дзяцей лавіць, высылаць у Нямеччыну. Ужо вельмі цяжка было бараніцца нават і ў Баранавічах. *Доктар* ***Смаршчок*** і ягоны заступнік у медычнай школе ***айцец Леў Гарошка*** мелі вельмі шмат прыкрасьцяў, а Смаршчка ўрэшце рэшт пасадзілі у канцэнтрацыйны лягер у Нямеччыне. Ён адзін з вязьняў канцэнтрацыйных лягераў.

***З. Пазьняк:*** — Ермачэнку выслалі?

***А. Шукелойць:*** — Загадалі выехаць, і ён выехаў у Прагу. Але толькі таму, што ён недзе засыпаў грашыма. Прычым нават да такога Ермачэнкі, вельмі багатага чалавека (найбагацейшы быў з эміграцыі ў Празе) прышылі, што ён, маўляў, крымінальнымі справамі займаецца, быццам бы харчы недзе прыхоўвае, пасылае ў Прагу. Вось так, каб спэцкаць чалавека. І пад гэтай спэцканай *„апініяй”* яго пазбыліся.

***З. Пазьняк:*** — Значыць, Цывільную адміністрацыю загарнуў фон Годбэрг і што пачалося?

***А. Шукелойць:*** — Як ён загарнуў адміністрацыю, пачалося тое, што было напачатку. Напрыклад: паклікалі Беларускую Краёвую Абарону, але яна ўжо ня мела магчымасьці ўсюды мабілізаваць беларускую моладзь. Лідчына, напрыклад, была выключана, фон Годбэрг Лідчыну перадаў палякам, польскай адміністрацыі. (Па-мойму, яшчэ некаторыя раёны каля Лідчыны, магчыма, Шчучынскі раён. Там былі такія, дзе была польская паліцыя і АК.) Становішча ўскладнілася, вымкнула з-пад кантролю.

Напрыклад, згаданае ўжо забойства Саковіча і Маракова, якіх выслалі зь Менску. Бо пісалі: што, маўляў, робіцца ў Лідчыне, трэба нейкі навесьці парадак. Там забіваюць людзей з адміністрацыі, цэлы час, бяскарна. Яны паехалі, і там іх абодвух перад касьцёлам забілі (нібыта палякі з АК, але ніхто ня быў злоўлены).

Я нядаўна йшчэ ў гутарцы з ***Барысам Рагулям*** успомніў гэты выпадак Саковіча і Маракова, бо там жа мы цяперака шукалі Саковіча магілу. Ён пахаваны ў Лідзе на праваслаўных могілках. Я нават вельмі прасіў Алесю Сёмуху і тады йшчэ яе мужа Юрку, каб яны туды паехалі. Яны выканалі маю просьбу, але магілы не знайшлі. Там поп вельмі нэгатыўна ставіўся. Затое ***Хведар Нюнька*** ўжо зь Вільні, паехаўшы другі раз, адшукаў гэтую магілу. Там цяпер жыве жонка Саковіча, выйшла-такі з падпольля.



(Фота Ж. Браўна, 1947 г.)

***Менск пасьля вайны.***

## *Астроўскі і Акінчыц*

***З. Пазьняк:*** — Якіх людзей паклікаў Годбэрг у беларускую адміністрацыю?

***А. Шукелойць:*** — Зьявіўся ***Астроўскі***. **Акінчыц** зьявіўся ў гэтым прыблізна часе і пачаў прывозіць сваіх людзей гэтых, выбраных зь нямецкага палону маладых беларускіх афіцэраў. На адпаведных курсах, недзе каля Бэрліну, іх перашкольваў і прысылаў на Беларусь. Прывозіў іх на Беларусь пад назвай „прапагандысты". Гэта мелі быць прапагандысты. І іх пачалі ўсоўваць усюды ў беларускія адміністрацыйныя ўстановы, ўсюды, дзе можна было.

Тая сітуацыя, якую стварыў беларускі актыў у час адміністрацыі Кубэ, была ня толькі нацыянальна сьведамая, але і нацыянальна з'арыентаваная на незалежнасьць. Дарэчы, у 1942-м годзе (па-мойму), ці ў 43-м, адбыўся вялікі Зьезд Самапомачы, на якім быў прыняты плян, як мела б выглядаць Беларусь у новай Эўропе. Гэта значыць — наша адміністрацыя, войска, школьніцтва і гэтак далей, і нашае супрацоўніцтва зь немцамі. Усё.

Гэты плян быў апрацаваны і зь ім Ермачэнка, Саковіч (здаецца) пайшлі і ўручылі яго Кубэ. І вось там ужо тады зразумелі, што гэта ёсьць, як карыстаючы з гэтай нямецкай акупацыі і адміністрацыі Кубэ, беларускі актыў зрабіў сабе пэрспэктыву і куды ён імкнецца. І тады Ермачэнку ўзялі на прыкмету, бо гэта ж пад кіраўніцтвам Ермачэнкі было, і Ермачэнка з гэтым прышоў.

***З. Пазьняк:*** — Адным словам, ён зрабіў гэтаксама, як Вы на апошнім мітынгу ў Ашмянах.

***А. Шукелойць:*** — (*Сьмяецца.*) І ў рэзультаце гэтага немцы за галаву ўзяліся: вось яно што. А Ермачэнку ўправілі мазгі і кажуць: мы цэлы час гаворым аб новай Эўропе. Усюды пішуць: новая Эўропа, новая Эўропа. А што ў гэтай „новай Эўропе" мае рабіць Беларусь? Аб гэтым ніхто нічога не гавора. Дык вось ён узяў і сказаў, плян прынёс.

У выніку гэтага ўсяго Ермачэнку пагналі, а *Самапомач*, фактычна, зьліквідавалі. Адабралі ад яе ўсё, яна засталася толькі арганізацыяй такой, як яна была ад самага пачатку, як яе стварыў Тумаш і доктар Антановіч. Гэта ў характары Чырвонага Крыжа. Яна мусіла толькі мець дапамаговую функцыю. Зьменены назоў: *Беларуская самапомач*. Назоў зьмянілі, і на старшыню паклікалі былога дэпутата польскага Сойму ***Юры Сабалеўскага***. На зьменены назоў ніхто цяпер не зьвяртае ўвагі, нашыя гэтыя „палітычныя дзеячы", на вялікі жаль. Я ў іх заўсёды пытаю: „Што вы такія слабыя былі зь лёгікай ў сярэдняй школе?" Ня ўмеюць думаць.

Неяк мы былі ў гасьцях у ***Генадзя Бураўкіна***. І там быў, па-мойму, міністар ***Краўчанка***, йшчэ нехта зь ягоных гэтых быў. Я кажу: „Слухайце, у вас лёгіка выкладалася ў сярэдніх школах, ці не?" Яны неяк так пераглянуліся.

***З. Пазьняк:*** — У іх выкладалася ідэалёгія. Але гэта розныя людзі.

***А. Шукелойць:*** — Але найдзіўней, што нашыя на эміграцыі — таксама. Ну ён ня ўмее прачытаць. Тут была *Самапомач*, пагналі Ермачэнку, зьнікла школьніцтва, войска, пакінулі за *Самапомачай* толькі дапамаговую функцыю, — і тут яны ня могуць з'арыентавацца, што адбылося.

А адбылося. Гэта вось цяпер выцягнулі той дакумант. На аснове гэтага дакуманту разагналі *Самапомач*, а некаторых пастралялі. Зьнішчылі. Гэта за тое, што запыталіся: якая ж роля прыпадзе Беларусі ў новай Эўропе? А мы маем плян, маўляў, наце, гляньце. Выскачылі з канопляў.

Гэта мой погляд. Ён ня ёсьць пацьверджаны нейкімі дакумантамі. Але ён можа быць пацьверджаны дакумантамі, калі людзі добра пашукаюць і прадумаюць добра тыя дакуманты, што знаходзяцца ў архівах. Так, напрыклад, хто пойдзе сьледам за доктарам Юры Туронкам, і пачне капацца ў архівах, то ён гэта ўсё там знойдзе, прадыскутуе і пераканаецца, што на мейсца Кубэ йшло СС з фон Годбэргам, і што гэтыя забойствы ўсе — гэта ёсьць іхняя задумка, іхняя справа, і у многіх выпадках — у супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі.

* * *

Цяпер я хацеў бы сказаць аб прыходзе фон Годбэрга і новай адміністрацыі.

На маю думку, тут рэалізаваўся клясычны сцэнар у палітычным жыцьці. На мейсца

адміністрацыі, якую ўзначальваў Кубэ, Ермачэнка як старшыня *Самапомачы*, Іваноўскі і іншыя прыходзіў фон Годбэрг, вяртаўся з Усходу германафіл Астроўскі. Астроўскі, дарэчы, быў у вельмі дрэнных дачыненьнях з Кубэ, і калі ён часам прыязджаў на Беларусь з вайсковай акупацыі, то ён стараўся, каб у Генэральным Камісарыяце пра гэта ня ведалі.

***З. Пазьняк:*** — А дзе быў Радаслаў Астроўскі ў той час?

***А. Шукелойць:*** — Ягоная цэнтраля была ў Смаленску. А потым, як саветы занялі Смаленск, дык яны пераехалі сюды. Астроўскі нейкі час, памойму, быў зусім без працы. А ў Смаленску (таксама Бранск, Арол) там адміністрацыю і паліцыю ўстанаўляў Астроўскі. І з дапамогай некалькіх чалавек, асабліва Касмовіча і Вітушкі.

Былі нават гутаркі такія, што калі б немцам удалося заняць Маскву, то Астроўскі быў бы кандыдатам на старшыню горада Масквы. Так пагаварвалася тады на Беларусі. І такая думка магла быць зусім рэальнай.

***З. Пазьняк:*** — Хто Астроўскага падтрымліваў зь нямецкай ваеннай адміністрацыі, на каго ён там абапіраўся?

***А. Шукелойць:*** — Гэта тыя генэралы, якія тут былі. Я там далёка ня памятаю, але нейкі быў генэрал, які займаўся адміністрацыяй. У час Тумаша, у пачатку, калі немцы прыйшлі ў Менск, ад імя нямецкай арміі быў такі Краатц. Ён прафэсійны вайсковы адміністратар быў. Гэта найвышэйшая фігура. А ў яго ўжо былі розныя людзі, афіцэры, якія супрацоўнічалі зь беларускай адміністрацыяй у розных дзялянках. Напрыклад, у дзялянцы асьветы, культуры, прапаганды і т.д. — быў доктар Куртц (пра якога гаварылася).

***З. Пазьняк:*** — Значыць, Астроўскага паклікаў фон Годбэрг са Смаленска ў Менск.

***А. Шукелойць:*** — Го, яго не паклікалі. Яго пагналі са Смаленска, бальшавікі ж прыйшлі. Так што чырвоная армія пагнала гэтых усіх людзей. Адзіная арганізацыя, якая захавала сваю адміністрацыйную адзінку, гэта так званая „смаленская СД". Яна, як ужо гаварылася, была арганізаваная з прафэсійных НКВД-працаўнікоў. І вельмі была суровая. Яна атрымала сваю кватэру там, на Ніжнім Рынку, на Ракаўскай вуліцы каля Жоўтай царквы.

***З. Пазьняк:*** — Але дзіўна выглядае, што паліцыйны ворган СС у Смаленску складаўся з расейскіх энкавэдзістаў.

***А. Шукелойць:*** — З расейскіх, у асноўным. Хаця там адзін быў мой знаёмы паляшук зь Пінска па прозьвішчу Альферчык.

Ён быццам бы працаваў (мне гаварылі) у польскай разьведцы, часта хадзіў праз мяжу, вельмі добра быў з'арыентаваны ў гэтых справах і таму ён адразу аказаўся „на сваім мейсцы".

Я зь ім пазнаёміўся йшчэ ў часы адміністрацыі Вэрмахта ў Менску. Неяк у нас скláліся нядрэнныя дачыненьні праз агульныя знаёмствы, і гэтыя знаёмствы мне потым шмат дапамагалі. Я, дзякуючы Альферчыку, з смаленскай СД (гэта вельмі рэдкія выпадкі былі) выцягнуў двух арыштаваных людзей. Адзін зь іх — мой сябра па тэатры ***Янка Ліманоўскі***, якога арыштавалі і туды ўсунулі па нейкім даносе. І другі — былы працаўнік Акадэміі Навук ***Калечыц***, які працаваў у мяне нейкі час ў музэі ў краязнаўчым аддзеле. Абодвух іх, па просьбе (з аднэй стараны, Іваноўскага і артыстаў тэатру, а з другой — па просьбе сям'і — жонкі і дзяцей) мне ўдалося выцягнуць адтуль са смаленскай СД. А там становішча было жахлівае, горшае, чым у НКВД. Там у падвале людзі сядзелі, а праз вокны, як дым, пара йшла, як праходзілі ля гэнага будынку.

***З. Пазьняк:*** — Гэтаксама, як у 30-я гады ў Менскім НКВД. Сымвал XX-га стагоддзя.

***А. Шукелойць:*** — Дык Альферчык гэты быў афіцэр у ранзе, здаецца, старшага лейтэнанта ці нават можа капітана. Потым на эміграцыі ён пайшоў працаваць да Ўласава і там быў. І паколькі, відаць, чалавек спрытны, то застаўся на эміграцыі. Тут яго таксама шукаюць, усё расшуквалі, дапытваліся. Але ня ведаю, ці знайшлі. Вось такі быў у Смаленску.

***З. Пазьняк:*** — Вернемся да таго, як Астроўскі прыехаў у Менск.

***А. Шукелойць:*** — Так, прыехаў у Менск пасьля ўсяго гэтага (забойства Іваноўскага і забойства Кубэ і той бомбы ў тэатры). Дарэчы, на ўрачыстай цывільнай паніхідзе (пасьля ўзрыву ў

тэатры) выступаў Кубэ і перакладчыкам быў Іваноўскі. Там, між іншым, на нямецкай мове Іваноўскі ляпнуў памылку, а потым сваю бараду толькі пагладзіў, і пайшло далей. Я ня памятаю, як гаварыў Кубэ, але Іваноўскі пераклаў, што *„вітаю вас, дарагія беларусы і гэтыя ахвяры"*. На зале так неяк людзі парухаліся. Потым абодвух іх зьнішчылі і прышоў Астроўскі.

Першы вялікі мітынг ягоны быў на пляцы Волі ў канцы 1943 года. Ён заняў пасаду, я думаю, нейкага прадстаўніка пры фон Годбэргу. Фон Годбэрг ініцыяваў Раду БЦР (Беларускую Цэнтральную Раду). Ёсьць дакумант, ён шмат у якіх кніжках цытуецца, што *„вось я паклікаю такую інстытуцыю, і на чале яе — Астроўскі"*. Гэта была намінацыя Астроўскага фон Годбэргам.

А далей ужо йшла справа арганізацыйная сваёй дарогай. Астроўскі арганізатар надзвычайны, вельмі добры, зь вялікай практыкай. Ён жа працаваў у час Першай Сусьветнай вайны і потым у розных гэтых *„паходах"*. Астроўскі быў у Грамадзе адной з галоўных фігураў. Потым — дырэктар гімназіі. Так што Астроўскі быў менаваны фон Годбэргам. Ён пачаў сваю арганізацыйную працу з таго, што стаў рыхтаваць Раду. Заступнікам паклікаў ***Міколу Шкялёнка***. Гэта малады адвакат, вельмі энэргічны, пасьля Віленскага ўнівэрсітэту спэцыяльна займаўся яшчэ гісторыяй. У яго вельмі прыгожыя артыкулы на гэтую тэму ёсьць. Чалавек ксяндза Гадлеўскага. Другая асоба ў Беларускім Фронце (калі разьбілася Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя ў Вільні на Беларускае Нацыянальнае Аб'яднаньне і Беларускі Народны Фронт). Апрача таго ён вельмі актыўны чалавек быў у нас, у Беларускай Незалежніцкай Партыі. Значыць Шкялёнак стаў разам з Астроўскім.

Тады туды прыйшоў ***Юры Сабалеўскі***, былы дэпутат Сэйму, перакананы антыбальшавік, як і Астроўскі. Хаця ён з Грамады, і нават расказваюць пра яго, што тады, калі Тарашкевіч пераязджаў ужо савецкую мяжу, дык яшчэ да яго пайшоў Сабалеўскі і казаў: *„Слухай, што ты робіш, куды ты едзеш!"* Адмаўляў яго. Але ўжо ў Тарашкевіча машына настроена была ў Савецкі саюз, і так ён паехаў на сваю пагібель.

Я з Сабалеўскім быў у добрых дачыненьнях, праўда, не ў такіх блізкіх. Ён быў вельмі духова моцнай фігурай. Моцная постаць. Па-мойму, ён нават татарскага паходжаньня, хаця праваслаўны.

***З. Пазьняк:*** — Годбэрг і Астроўскі пачалі падбіраць сваіх людзей. Ці маглі б Вы расказаць пра Акінчыца?

***А. Шукелойць:*** —Тое, што расказвалі мае сябры па эсэраўшчыне, Фабіян Акінчыц быў эсэрам, але расейскім эсэрам. У іх з намі былі



***Ул. Казлоўскі***

моцныя канфлікты, асабліва ў час Першай Сусьветнай вайны. І ён да нашых ніколі не далучыўся, не далучыўся і да Грамады *(БСГ)*.

Затое ў час незалежнай Польшчы ў заходняй Беларусі ён увайшоў у Грамаду (у Сялянска-Работніцкую). Як юрыст, адвакат, ён быў юрысконсультам Грамады. Гэта ягоны ход ад расейскай эсэраўшчыны налева.

Акінчыцы, гэта, здаецца, ёсьць недзе фальварак.

Словам, ён шляхецкага паходжаньня і каталіцкай веры быў. Хаця тое, што я ўжо бачыў, — гэта ня веруючы.

Калі адбываўся суд над Грамадой, група лідараў Грамады (Антон Луцкевіч, Астроўскі, Акінчыц і гэтак далей) пагадзіліся супрацоўнічаць з польскім урадам (перайсьці на супрацоўніцтва). Таму ў выніку гэтага працэсу розныя людзі атрымалі па некалькі гадоў турмы (Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і гэтак далей), а яны былі звольненыя ад турмы. І тады Акінчыц пачаў выдаваць пра-польскую газэту. Падабраў яшчэ людзей. Здаецца, Казлоўскі тады да яго належыў. Гэная беларуская пра-польская газэта нядоўга існавала, як заўсёды гэтыя газэты, што выходзяць за купленыя грошы, маюць кароткі век. Так і ў яго яна згінула.

А тут пачаў расьці ў Нямеччыне нацыянал-сацыялізм і Гітлер. Відаць „зьнюхаўшыся" зь нямецкай разьведкай, Акінчыц пачаў арганізоўваць адпаведную партыю. І стварыў Беларускую Нацыянал-Сацыялістычную Партыю. Казлоўскі як рэдактар пачаў выдаваць газэту, па-мойму, „Новы шлях". Гэта была ягоная акцыя ў заходняй Беларусі.

Перад самай вайной (перад бальшавіцкай акупацыяй) Акінчыц, ужо, відаць, як ведамы чалавек, перакінуўся ў Нямеччыну.

У пачатку нямецкай акупацыі яго тут не было. Але быў *Казлоўскі*. Магчыма, ужо трымаліся ў кантакце. І пачала гэта партыя зноў арганізоўвацца. Знайшлася маса людзей, сярод іх — некаторыя выдатныя дзеячы. Напрыклад, ***Булгак***, што потым быў дырэктарам тэатру. Наш ***Гуцька*** **(*Дудзіцкі*)** прымкнуў, ***Скарынчыкаў*** і яшчэ пару чалавек, але такіх, слаба думаючых людзей. Словам, партыя вырасла. Думалі, што яна пры немцах будзе жыць. Але тым часам немцы сказалі, што нацыянал-сацыялізм — гэта, маўляў, ёсьць „наша" нямецкае адкрыцьцё і „мы" ім ня з кім ня дзелімся. Таму гэтыя людзі так і засталіся „на бабах". Але да нас ужо ў Беларускую Незалежніцкую Партыю не ўступалі, былі асобна.

З такіх надзвычайных вестак у Менску можна ўспомніць, як забілі рэдактара „Менскай газэты" Казлоўскага (відаць, партызаны, бо ён такі даволі наіўны чалавек быў). Зноў жа, забойца Казлоўскага быў ва ўніформе 13-га Беларускага батальёну. 13-ы батальён меў форму СС, толькі што беларускія знакі — пятліцы — чырвоныя (у СС чорныя былі). Словам, тут таксама загадка.

Забойства Казлоўскага. Ксёндз Ігнатовіч, як заўсёды, „вырваў" адразу зь Менску, зайшоў да мяне, кажа: „Слухай, няхай яны мяне не шукаюць, я яго хаваць ня маю ніякіх падстаў, гэта чалавек ня веруючы і як такі ў сваёй пісаніне часта выступаў супраць каталіцкага касьцёлу".

Яго хавалі цывільным спосабам, вельмі сьціпла. Рэдакцыя газэты дастала дзьве грузавыя машыны. Мы на іх умясьціліся, і труна. Завезьлі на каталіцкія Кальварыйскія могілкі, занесьлі ў касьцёл. Булгак на сваёй дудцы, узьлезшы на хоры, выканаў некалькі сумных мэлёдыяў. (Булгак сварыўся вечна з артыстамі, і тыя зрабілі данос, што ён паляк і „на заканчэньне многіх тэатральных пастановак потым грае на сваей дудцы польскі гімн.) А ён кажа, што гэта ня польскі гімн, а славянскі, мы „славяне". Гэта цікавая гісторыя.

Гэты Шлегель у СД, да якога яны зрабілі данос, такі быў вясёлы чалавек, меў прэтэнзію, што ён на музыцы знаецца, на мастацтве. Дык ён склікаў камісію спэцыяльную і паклікалі Булгака, каб ён адыграў гэтыя мэлёды. Сярод гэтай камісіі былі нашыя выдатныя знатакі музыкі: ***Зубковіч***, ***Шчаглоў***. Адыгрываў першую, а тады другую, і Шлегель сказаў, што няпраўда, гэта ня тое самае ён іграе, што яму акцёры закідваюць. Бо, як вы ведаеце, на адным зьезьдзе „славянскіх" гэтых прадстаўніцтваў (магчыма, што ў Празе, там і беларусы прымалі ўдзел) была вынесеная пастанова, што ўсе гімны славянскіх народаў маюць быць на адным ляйт-матыве. Адзін ляйт-матыў. Мэлёдыя польская („Ешчэ Польска не згінэла"), украінская („Йшчэ нэ вмэрла Ўкраіна") і беларуская („Не пагаснуць зоркі ў небе") – гэта нібыта ёсьць вынік той пастановы.

Дарэчы, гэты Булгак, дырэктар Беларускага тэатра, быў родным братам ***Яна Булгака***, знакамітага фатографа. Яны абодва беларусы, іх абодвух прыцягнуў да працы, па-мойму, Іваноўскі.

***З. Пазьняк:*** — Дык што, Ян Булгак ў час нямецкай акупацыі таксама працаваў у беларускай адміністрацыі?

***А. Шукелойць:*** — Так, ён супрацоўнічаў там недзе ў адміністрацыі ці ў войску, але, так, так. А брат ягоны быў дырэктарам тэатру.

***З. Пазьняк:*** — Надзвычайна. Я некалькі гадоў (яшчэ ў 1970-х) працаваў над манаграфіяй пра *Яна Булгака*, сабраў матэрыял, пераЗьняў сотні ягоных фатаграфіяў у архівах і часопісах, а пра гэты факт нічога ня ведаў. У Варшаве я адшукаў магілу Яна Булгака на Павянзкоўскіх могілках. На помніку напісана, што называецца, бяз ценю сумненьня: *„Нэстор фотограф'і польскей"*. А ён за часы немцаў нават у адміністрацыі працаваў беларускай. Тады гэта быў сур'ёзны выбар.



(Фота З. Пазьняка)

***Магіла Яна Булгака на Паванзкоўскіх могілках у Варшаве, 2002 г.***

***А. Шукелойць:*** — Гэта вялікі беларускі фатограф, так. Мноства ягоных фатаграфіяў мае цяпер доктар ***Вітаўт Кіпель***, бо, па-мойму, Тумаш зь ім быў у вельмі блізкіх дачыненьнях, Тумаш і Абрамчык купілі ад Булгака шмат фатаграфіяў, цэлы альбом. Гэта ўласнасьць цяпер Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

***З. Пазьняк:*** — Вельмі цікава. Але вернемся да Акінчыца.

***А. Шукелойць:*** — Дык вось гэтага Казлоўскага пахавалі цывільным спосабам. Булгак (дырэктар) як сябра гэтай партыі адыграў некалькі мэлёдыяў, а потым яны над магілай ягонай паднялі рукі ў арыйскім разьвітаньні. Галоўную прамову гаварыў тады ці ні заступнік Гуцька (Дудзіцкі), які потым тут працаваў у нас на эміграцыі ў радыё і недзе зьнік.

Акінчыц яшчэ за часоў Вэрмахту прыехаў неяк адведаць Менск і Беларусь. Магчыма, што ў Менску ўжо была і цывільная адміністрацыя. Бо прыблізна ў гэтым самым часе прыехаў адведаць Менск і ксёндз Гадлеўскі. Саковіч (як старшыня менскай паліцыі ну і адзін з лідэраў Менскага актыву) зрабіў такі банкет-прыняцьце, у гонар ксяндза Гадлеўскага. Па гэтай лініі ёсьць нейкія сувязі Гадлеўскага з *Незалежніцкай Партыяй*, паколькі ягоны заступнік, ягоны чалавек — Шкялёнак — быў ва Ўправе. Гэтыя людзі Гадлеўскага вельмі высока цанілі.

Аднойчы Акінчыц пазнаў мяне, бо памятаў яшчэ з часоў Студэнцкага Саюзу, калі ён выступаў там з сваім братам аб нацыянал-сацыялізме, а я выступаў супраць яго. Хацеў застрэліць мяне ў час банкету, ужо цягнуў пісталет. Там людзі выпіўшыя кругом групкамі такімі гаварылі, а я там недзе стаяў. Але Саковіч на ўсё меў вока. Ён адразу яго за каршэль схапіў. Ня памятаю, ці ня выкінуў яго наагул. Бо ён прышоў зь нейкім немцам такім, старым мігрантам, што гаварыў па-расейску. Дык Саковіч кажа: „Вось жа гніль гэтая зьбіраецца, дзе б ты што ні хацеў зрабіць саліднага.*"*

А потым Акінчыца забілі. Што ён рабіў за немцамі? Акінчыц быў чыноўнікам нямецкага міністэрства (ня ведаю толькі, якое гэта міністэрства было, ці Замежных справаў, ці Прапаганды). І ён пераканаў немцаў, што найлепш было мець сваіх людзей на Ўсходзе, на занятых ўсходніх тэрыторыях, і што гэтых людзей трэба шукаць сярод беларускіх палонных у нямецкай арміі, перашкольваць іх і туды слаць, як „нам" адданых людзей, нават удзячных за тое,

што мы іх выцягнулі з палону, дзе ім пагражала сьмерць, і паставілі на працу.

***З. Пазьняк:*** — Значыць, Акінчыц, практычна, быў нямецкім агентам? Нават не агентам, а супрацоўнікам.

***А. Шукелойць:*** — Ня толькі быў, што быў, то так. І вось ён пачаў выводзіць з палону гэтых маладых афіцэраў, прашколіваць іх, надаў ім форму, што гэта ёсьць прапагандысты (так што гэта, відаць, было па лініі Міністэрства прапаганды, па лініі Гэбэльса, думаю, альбо нават і паліцыйнага міністэрства). Ён іх слаў на Беларусь, і там іх рассаджваў усюды: у Генэральны Камісарыят, у Самапомач, у Баранавічы, Вялейку і гэтак далей. Усюды немцы ведалі, што робіцца ў беларусаў. Ужо мелі свайго чалавека.

***З. Пазьняк:*** — Адным словам, выходзіць, што Акінчыц ствараў нямецкую агентуру ў беларускіх арганізацыях, засылаючы ў іх завербаваных беларусаў?

***А. Шукелойць:*** — Менавіта. Ствараў нямецкую агентуру на Беларусі зь беларусаў (бо там нямецкая ж агентура была, напэўна, Абвэра). Апрача гэтага ён злучаў іх у беларускія арганізацыі (сваіх агентаў, значыць).

***З. Пазьняк:*** — Ну, так, тыповая справа. Дакладна, як цяпер КГБ робіць пры Лукашэнку. Панаставралі „хартыяў" і „зуброў", і ўсялякіх „легіёнаў".

***А. Шукелойць:*** — Але. Гэта ведамая справа.

Тады аднаўляўся ***Саюз Беларускай Моладзі***, які, як я ўжо казаў, арганізавала ***Надзея Абрамава*** (інтэлігентная асоба, з вышэйшай асьветай). Але ня ёй далі галоўнае кіраўніцтва моладзі (калі ўжо арганізавалі), а далі *Ганьку*. А ***Ганько*** — гэта такі студэнт быў з Маладэчаншчыны. Ён паступіў на ўнівэрсітэт на медыцыну і атрымаў стыпэндыю ад горада Маладэчна, ці нейкай гміны. Ну і, зразумела, чалавек такі ў Беларускі Студэнцкі Саюз ужо не пайшоў. Гэта з тых людзей, якіх Акінчыц арганізаваў.

Іншая справа, што пасьля гэтага ўсяго многія зь іх засталіся добрымі дзеячамі на эміграцыі ў беларускіх нашых арганізацыях. А старшыня моладзі Ганько — гэта родны брат таго Міколы Ганько, што быў старшынёй Канадзкай арганізацыі беларусаў. Яны, гэтыя людзі, потым, так бы мовячы, сталі на правільную беларускую палітычную дарогу. Гэта зноў, асобная тэма, якую варта было б асэнсаваць.

Цэлая група гэтых людзей прышла ў рух. У палітычных рухах заўсёды ёсьць, па-першае, лідар. І ёсьць людзі, якія з гэтым лідэрам — адданая група. І потым прыходзяць звычайныя людзі. Такія, што з розных меркаваньняў. Адныя, што хочуць працу мець у сваёй прафэсіі, іншыя — што ім імпануе. Раптам, яны заўважылі: „Го, бачыце, як прыгожа выглядае гэтая беларуская мова, беларуская песьня, а я аб гэтым ня ведаў". З гэтага ўсяго творыцца тады вобраз адміністрацыі, якая кіруе такім рухам.

***З. Пазьняк*** — Гэтыя людзі, што заслаў Акінчыц, якую яны шкоду рабілі, ці зафіксаваная іхная шкодная праца?

***А. Шукелойць:*** — Ці ёсьць яна зафіксаваная, мне цяжка сказаць, бо я ня быў непасрэдна ў адміністрацыі. Мая адміністрацыйная функцыя была вельмі своеасаблівая: музэй, краязнаўства, ахова помнікаў і гэтак далей. Тут не палітычны кірунак. І таму я з гэтым не знаёмы. Але з таго, што я ведаю па лініі Беларускай Незалежніцкай Партыі, — гэта быў вельмі шкодны элемэнт. Вельмі шкодны.

***З. Пазьняк:*** — Як адбылося забойства Акінчыца? Хто забіў?

***А. Шукелойць:*** — Ёсьць таксама шмат пісаніны на гэтую тэму, і шмат няпраўдзівага. Адзін з сталых працаўнікоў рэдакцыі *„Менскай Газэты"* (гэта ***Алесь Матусевіч***) з сям'ёй пайшоў у партызаны ў нейкім часе. Тады ён у тых партызанах мусіў жа відаць нечым паказаць сябе. І даручылі яму забойства гэтага Акінчыца. І ня ён забіваў яго, ня ён страляў (як часам пішуць цяпер), але ён арганізаваў забойства: знайшоў там, сярод гэтай партызанскай швалі адпаведных людзей, якія прыехаўшы, забілі Акінчыца.

***З. Пазьняк:*** — Значыць, можна меркаваць, што гэтыя людзі (якія арганізоўвалі забойства Акінчыца) мелі патрыятычныя перакананьні?

***А. Шукелойць:*** — Можна. Ведамы чалавек зь

ведамай бібліятэкай, ягоная дачка цяпер працуе ў „Ніве”.

***З. Пазьняк:*** — Можна меркаваць, што гэтыя людзі ўсьведамлялі шкоду, якую Акінчыц нёс Беларускаму руху?

***А. Шукелойць:*** — Ага, так. І што тут ёсьць рука беларускага падпольля.

Але я не даканчыў адной рэчы, што да думаньня я хацеў вам даць. Забойства Казлоўскага. Я гаварыў, што гэта быў жаўнер, у форме 13-га Беларускага батальёну. Калі ён прышоў у рэдакцыю, зьвярнулі ўвагу, што ў яго мундзір неяк караткаватыя мае рукавы, што гэта не ягоны і што ён тут на калідоры робя. Тады Арсеньнева (працаўніца рэдакцыі) зьвярнулася да рэдактара Казлоўскага, каб ён выйшаў і даведаўся, што гэта за чалавек і чаго ён тут хоча. Казлоўскі выйшаў, а той пачаў у яго страляць. Многія з рэдакцыі пагналіся за ім. І адзін з працаўнікоў рэдакцыі (ня ведаю, ці прозьвішча гэтае патрэбнае, блізкі мой сябра йшчэ з гімназіі) яго злавіў у тлуме, як ён уцякаў, і там жа падскочыла, па-мойму, нямецкая паліцыя, яго забралі — і след ягоны прастыў.

Затое (падобнае, як з Адамовічам) гэтаму чалавеку, які яго злавіў, немцамі было сказана, каб ён неадкладна пакінуў Менск. І ён таксама на другі ці трэці дзень выехаў у Бэрлін да Адамовіча.

***З. Пазьняк:*** — Тая самая лёгіка, што і ў выпадку з Адамовічам? Выганялі беларускія адраджэнскія кадры, „чысьцілі” арганізацыі. Так?

***А. Шукелойць:*** — Падобная лёгіка. Так што думаць можна розна. Аб гэтым мала наагул гаворыцца, і мала хто пра тое ведае ўжо сягоньня. Але ёсьць над чым задумацца.

Зноў жа, я ня быў на паховінах Акінчыца, ня ведаю, як усё выглядала. Яго пахавалі на ваенных могілках, каля Даўгабродзкай вуліцы. Крыжа там не было ніякага, але існавала жалезным такім плоцікам абведзеная магіла.

***З. Пазьняк:*** — Вяртаемся яшчэ раз да апавяданьня пра Астроўскага.

***А. Шукелойць:*** — Астроўскі, як я ўжо гаварыў, прызначаны генэралам фон Годбэргам, распачаў сваю дзейнасьць. Стаў прызначаць людзей на розныя становішчы. Ён пачаў арганізоўваць урад БЦР, паклікаў міністраў зь ведамых тады дзеячоў, якія там былі. На асьвету (на школьны аддзел) пасьля забойства Гадлеўскага быў пакліканы такі *доктар* ***Скурат***, філёляг францускай філялёгіі, памёр у Канадзе. Аддзел культуры — ***Аўген Калубовіч***. (Я належыў да аддзелу краязнаўства ў



***Рэдакцыя „Менскай (Беларускай) газэты”, 1943 г. У першым радзе зьлева направа: Ул. Казлоўскі, Натальля Арсеньнева, Алесь Сінкевіч; другі рад: Уладзімер Кушаль (сын Ф. Кушаля), Антон Адамовіч, Мікола Караленка.***

гэтым аддзеле ў Міністэрстве культуры.) Тады быў вайсковы аддзел — ***Кушаль***. Гаспадарчы аддзел — ***Сымон Кандыбовіч***. Была *Самапомач (*зьмененая ўжо) з Сабалеўскім. Былога дэпутата Сэйму Сабалеўскага Астроўскі паклікаў на свайго заступніка.

***З. Пазьняк:*** — Словам, „Годбэргфэ-рэндэрунгэн”. Зьмена кадраў. Дзіўлюся толькі, што ў расейска-нямецкіх мэтадах на Беларусі нічога не мяняецца. Як некалі, так і цяпер. Годбэргі і акінчыцы. Толькі цяпер у ролі Акінчыца – Ганс Вік.

***А. Шукелойць:*** — Гэта клясычная палітычная форма, калі зьнішчана адна група людзей, якая працавала з Кубэ. Зьнішчаны Кубэ і тая група людзей, і на іхнае мейсца прышлі фон Годбэрг і ім пакліканыя асобы.

***З. Пазьняк:*** — Тыя людзі не былі ў падпарадкаваньні і пад уплывам Годбэрга, а гэта ўжо былі ягоныя стаўленьнікі.

***А. Шукелойць:*** — Розьніца тут у палітычнай нямецкай арыентацыі. На мейсца „Цывільфэрвальтунг (Цывільнай адміністрацыі)

прышло СС. Калі я быў яшчэ дырэктарам музэю, часта бываў у Генэральным Камісарыяце. Гэта ў доме на пляцы Волі. Ён застаўся, гэны дом, і цяпер.

Адміністрацыя Астроўскага і нямецкая адміністрацыя з генэралам СС фон Годбэргам сваім галоўным офісам мелі будынак недабудаваны, які цяпер дабудавалі – гэты, што рыхтаваўся на ЦК кампартыі. У ім цяпер, здаецца, адміністрацыя Лукашэнкі.

***З. Пазьняк:*** — Ён сам там сядзіць.

***А. Шукелойць:*** — Будынак ахоўвала СС. Быў аддзел зь нейкай татарскай групай, тых, што на сваіх эсэсаўскіх мундзірах мелі шчыты з паўмесяцам і зоркай.

Магчыма, што гэта былі калмыкі, зарганізаваныя з тых, што трапілі ў нямецкі палон, ці можа нават з тых, занятых тэрыторыяў. Так што ўжо ўваход туды быў вельмі складаны. Я там ужо быў потым толькі два разы, здаецца.

У гэтым часе, пасьля забойства Казлоўскага, на супрацоўнікаў напаў страх, і рэдакцыю *„Менскай Газэты"* перанесьлі ў Генэральны Камісарыят. І тады фармальным рэдактарам было нейкае прозьвішча чалавека, якога ніхто ня ведаў. А ўжо працавалі і рэдагавалі працаўнікі рэдакцыі.

Пара слоў пра форму працы Астроўскага. Ён рыхтаваўся, на належным узроўні вёў адміністрацыю. Ягоныя прамовы, якія ён меў сказаць, рыхтавала некалькі людзей. Гэта значыць, заўсёды зьвярталіся да розных аддзелаў, у тым ліку, да мяне, значыць што робіцца ў аддзеле краязнаўства, каб напісаць кароткі адзін сказ ці абзац, зь якога нехта (можа нават адвакат Шкялёнак, ці скарэй Калубовіч) арганізавалі яму цэлую прамову. І таму ягоныя прамовы былі на прафэсійна высокім узроўні, без вады. Было ўсё пастаўлена на сваім мейсцы.

У чым розьніца адміністрацыі пры Кубэ і пры Годбэргу? Дарэчы, раней я чуўся зусім самастойна, свабодна ў музэі. Усе казалі „дырэктар" — і ўсё.

Тут я ўжо быў падпарадкаваны аддзелу культуры, значыць Міністэрству культуры. Мяне мелі права недзе паслаць у школу зрабіць праграму і г.д. Мелі права мяне паклікаць, куды хочуць.

## БЦР

***А. Шукелойць:*** — У 1944 годзе меў адбыцца Другі Кангрэс БЦР (Беларускай Цэнтральнай Рады). Каб ён адбыўся, трэба было правесьці выбар дэлегатаў.

Арганізацыя Кангрэсу была даручана ***Яўхіму Кіпелю*** (гэта такі малады навуковец, хімік, які працаваў пры ўнівэрсітэце ў 1930-я гады і ў 1930-я гады як нацдэм быў арыштаваны і сасланы). Ён адбыў ссылку ў Сібіры, яму далі магчымасьць вызваліцца, але ня меў права вярнуцца на Беларусь і жыць у вялікіх гарадах. І ён жыў у Расеі недалёка ад Арла. Немцы занялі гэтую тэрыторыю, і Кіпель вярнуўся на Беларусь, з жонкай і сынком Вітаўтам.

Кіпель узяўся за арганізацыю Кангрэсу. Ня ведаю, хто там даў яму маю характарыстыку, але аднаго разу ён выклікае мяне і кажа, што патрэбны чалавек паехаць на Палесьсе, і тут ён мае весткі, што гэта найбольш падыходзіць для мяне.

Трэба было ехаць у Ганцавічы. А там, у Ганцавічах, ужо пярвей прасілі, каб нехта прыехаў. Я згадзіўся. Далі мне ахову, між іншым: трох хлопцаў з 13-га батальёна.

Мне даручана было забясьпечыць з гэтай акругі 25 дэлегатаў.

Я прыехаў туды і адразу пайшоў адведаць таго немца, што быў там галоўнай фігурай. Цікавы даволі чалавек, беларусаў добра ведаў. Ён быў сакратаром нямецкага кружка. Ён мяне павіншаваў з прыездам, што вось малады чалавек, у цывільным касьцюме, першы раз заехаў у Ганцавічы зь Менску. Бо толькі быў там перад гэтым Кушаль, які візытаваў вайсковыя аддзелы і, кажа, у браніраванай машыне ехаў з Слуцка.

Я там затрымаўся ў ***Сокал-Кутылоўскага***. Пра Сокал-Кутылоўскага я шмат чуў перад гэтым. Гэта вайсковы кіраўнік Слуцкага паўстаньня ў нейкім часе. У Ганцавічах мы зь ім праводзілі выбары дэлегатаў.

Прынцып выбараў. Кажуць, што быццам бы дэлегатаў прызначыў нехта. Няпраўда. Ня ведаю, як у іншых выпадках, але ў маім выпадку, у Ганцавічах, быў выбар. Выбары па прафэсійным характары. Настаўнікі выбралі сваіх людзей,

*Саюз Моладзі* выбраў, вайскавікі выбралі, работнікі чыгункі. Яны выбралі аднаго ўкраінца, дык мне шэф немец казаў, што ён мае спушчаны загад, што маюць быць толькі беларусы, і ня могуць быць іншай нацыянальнасьці. Але я бараніў таго ўкраінца і казаў, што ягоныя два сыны загінулі на чыгунцы, і ён сам быў чыгуначнік. Але потым немцы яго, здаецца, усё ж-такі не пусьцілі.

Я зрабіў гэтыя выбары разам з Сокал-Кутылоўскім і прыехаў у Менск незадоўга перад Кангрэсам, так што мне заставалася толькі адпачываць.

Яўхіму Кіпелю гэта ўсё вельмі спадабалася, і ён хацеў яшчэ мне даручыць нейкую прамову на Кангрэсе. Але я ўжо адмовіўся, кажу: „Слухайце, дзядзька, я ўжо і так змучаны гэтай паездкай, паехаў туды, дзе ніхто ня едзе, у Палесьсе".

Рыхтаваўся Кангрэс. Па лініі Незалежніцкай Партыі я даведаўся, што Кангрэс мае быць падарваны намі, каб мы аб гэтым ведалі, тыя, што будуць на Кангрэсе і каб былі ўсе падрыхтаваныя. Таму я ўжо далёка ня ўлазіў. Мне нейкую функцыю далі, бочную. Родзька ўваходзіў у гэты Ўрад Астроўскага як міністар нейкі там ад моладзі, ня памятаю чаго. Потым Родзька сказаў, што, на жаль, мы нічога зрабіць ня можам, таму што заграз у дарозе батальён Рагулі, які меў адыграць самую галоўную ролю. Батальён быў часткова конны, а цягнік на свой час не прышоў. І таму правесьці апэрацыю было немагчыма. А думалі Кангрэс цэлы захапіць і разагнаць, бо гэты Кангрэс быццам бы меў быць усанкцыянаваньнем нямецкай палітыкі ў Беларусі.

***З. Пазьняк:*** — Як кажуць, ёсьць Бог на небе. Во нарабілі б *„дзялоў"*.

***А. Шукелойць:*** — *(сьмяецца)* Але ў выніку гэтага ўсяго Кангрэс прыняў за аснову ***Акт 25 Сакавіка 1918 году***, абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Гэта пацьверджана ў пратаколе. Пратакол напісаў Леанід Галяк. Ягоны пратакол ёсьць найважнейшы. Бо ёсьць некалькі варыянтаў пратаколаў. Я ўважаю, што самы салідны варыянт — гэта пратакол Галяка, які быў сакратаром Кангрэсу.

***З. Пазьняк:*** — Прыняцьце за аснову Акту 25 Сакавіка — ці гэта пад узьдзеяньнем Родзькі здарылася?

***А. Шукелойць:*** — Я думаю, я думаю. Так. Ня ведаю, ці было яно ў праграме. Бо там ёсьць калізія: з аднаго боку, гаворыцца, што Беларуская Цэнтральная Рада пад старшынствам Астроўскага ёсьць галоўным прадстаўніцтвам беларускага народу. А з другога боку — Рада БНР, пацьвярджаецца Акт 25 Сакавіка. Тым часам ствараліся ўражаньне, што Акт 25 Сакавіка нібы працягвае прэзыдэнт Астроўскі.

***З. Пазьняк:*** — На першы павярхоўны погляд выглядае, што немцы тады рабілі тое самае, што цяпер рускі КГБ і АБСЭ зь немцам Гансам Вікам на чале зрабілі на Беларусі. Яны раскалолі Беларускі незалежніцкі рух.

***А. Шукелойць:*** — Фармальна так, але пытаньне больш складанае. На гэту тэму можна было б троха інакш гаварыць.

Рада БНР была прадстаўлена *Прэзыдэнтам* ***Захаркам*** на эміграцыі, у Празе. Да яго немцы зьвярталіся, каб ён узначаліў беларускі рух пад нямецкім кіраўніцтвам. І ён адмовіўся. Гэта ведама.

Сталася такая сітуацыя, што на эміграцыі ўсё ж-такі існавала Рада БНР (ці стрыжань Рады БНР) — гэта Захарка. Але немцам патрэбна была адміністрацыя на Беларусі. І вось гэту адміністрацыйную форму выконваў Астроўскі. Ён арганізаваў адміністрацыю зь немцамі. Спачатку — у Менску, пасьля паехаў разам зь нямецкім начальствам Вэрмахта на Ўсход і там арганізаваў адміністрацыю.

Усю адміністрацыю пачынаў арганізоўваць менавіта ён. І ў гэтым пытаньні істотна тое, што ўсё ж такі Астроўскі выканаў да пэўнай меры пазытыўную ролю, арганізуючы беларускую адміністрацыю зь немцамі. На гэта ніхто не хацеў ісьці. Яшчэ ў 1939-м ці 1940-м годзе, калі немцы шукалі кандыдатаў на адміністрацыю, яны хадзілі апытваць беларускіх дзеячоў, маўляў, хто вы думаеце тут найважнейшы ёсьць, хто мог бы ўзначаліць Беларускі рух і гэтак далей. Ну, кажуць, Гадлеўскі — фігура! Гэта ж германафіл ад нараджаньня. Кайзэру Вільгельму калісь

зрэдагаваў прывітаньне, і гэтак далей. Немцы слухаюць, запісваюць.

Акінчыц, кажуць, сукін сын, бо ён працаваў з расейцамі, зь беларусамі тады не хацеў працаваць. Пасьля працаваў з палякамі і, кажуць, гэта чалавек прадажны.

Немцы бяруць пад увагу. Астроўскі, вось таксама чалавек, які працаваў і там, і сям, і з палякамі, і з разьведкамі, і г.д. Урэшце рэшт выбіраюць — каго? Астроўскага і Акінчыца, а ксяндза Гадлеўскага (найбольшага германафіла) — забілі. Вось такі „парадак”.

***З. Пазьняк:*** — Тыпова акупанцкая псіхалёгія. Немцы баяліся моцнай беларускай асобы, якая магла б аб’яднаць нацыю. Ім патрэбныя былі марыянэткі.

***А. Шукелойць:*** — Выходзіць, так.

***З. Пазьняк:*** — Васіль Захарка не захацеў тварыць адміністрацыю і супрацоўнічаць зь немцамі. Гэта афіцыйная пазыцыя Рады БНР. А Астроўскі — гэта ўжо іншая зьява. Ён ня меў дачыненьня да Рады БНР і ня быў працягам яе палітыкі.

***А. Шукелойць:*** — Так, ня быў.

***З. Пазьняк:*** — Ён стварыў беларускую адміністрацыю, якая павінна была быць, бо йнакш была б чужая адміністрацыя, якая вынішчыла б беларусаў.

***А. Шукелойць:*** — Так, так.


№ 915

МАНДАТ

Шукелойць

зьяўляецца дэлегатам 2-га УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ у Менску 27. С. 1944 г.

ад Менску

Старшыня Арганізацыйна-Мандатнай Камісіі Кангрэсу

***Мандат на Кангрэс БЦР***

***З. Пазьняк:*** — Адміністрацыя была патрэбная, але не дзеля немцаў, а дзеля беларускай справы, дзеля незалежнай будучыні краіны.

***А. Шукелойць:*** — Але. Інакш была б чужая адміністрацыя. З аднэй стараны, у заходняй Беларусі — польская, дзе яна й была, а з другога боку — расейская. Таму мусіла быць палітычнае супрацоўніцтва зь немцамі дзеля незалежніцкай беларускай мэты.

***З. Пазьняк:*** — Тут няма сумненьня. Толькі хто гэта павінен быў рабіць? Я хачу зазначыць, што супрацоўніцтва — гэта была асобная палітыка Астроўскага і БЦР. БНР тут увогуле ні пры чым.

***А. Шукелойць:*** — Безумоўна. Але пры гэтай нагодзе я хачу йшчэ сказаць аб адным клясычным палітычным ходзе, як робіцца, і як у нас гэта зрабіў *Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык*.

Рада БНР не магла супрацоўнічаць зь нямецкай адміністрацыяй гітлераўскага тыпу. (Праўда, калі б гэта была дэмакратычная Нямеччына, то магчыма, што й магла б.)

Цяпер — іншая справа. Падобны выпадак быў у час „халоднай вайны”. Старшынёй Рады БНР быў Абрамчык. Амэрыканцы ціснуць: радыё, інстытут атрымаеце і гэтак далей. Трэба толькі перайсьці на пазыцыі так званага „непрадрашэнства”. Гэта значыць, што мы цяпер не разьбіраемся, што будзе пасьля таго, як мы павалім бальшавікоў. Трэба разам з расейцамі перамагчы бальшавікоў. Сягоньня, маўляў, трэба супрацоўнічаць з расейцамі, а потым, паваліўшы, разьбяромся.

***З. Пазьняк:*** — Вельмі заганная пазыцыя, інфантыльная і памылковая. І прарасейская, дарэчы.

***А. Шукелойць:*** — Заганная, так. Што робя Абрамчык? З групы студэнтаў-лювэнцаў стварае арганізацыю (ня памятаю, як яна называлася.) Узначаліў яе адзін хлопец з Баранавічаў, хімік, зь Лювэну. (Ён недзе ў Канадзе, магчыма, яшчэ жыве.) Такі ***Жыдко***. Арганізацыя мела свой назоў,

і грошы далі на часопіс. Тады Абрамчык кажа амэрыканцам: *„Па гэтай лініі будзе супрацоўнічаць наша арганізацыя.”*

Амэрыканцы тут запыталі таго-сяго, у нас запыталі:

— Вы чулі пра такую арганізацыю?

— Чулі!

— Салідная гэта арганізацыя?

— Вельмі салідная!

І тая арганізацыя па лініі *„*непрадрэшэнства*”* працуе, а Рада БНР зусім збоку. Рады БНР там няма. Рада БНР вядзе сваю палітыку, і Абрамчык арганізуе супрацоўніцтва ўкраінцаў, грузінаў, армянаў і гэтак далей, з чаго потым створаны быў так званы *„Парыжскі блёк”,* паралельна з расейцамі. Расейцы ўжо ў Парыжскі блёк не ўступаюць, іх там няма. Але пакуль Абрамчык мог гэта стварыць, ён мусіў адвесьці ад уцягваньня ў палітыку *„*непрадрашэнства*”* Раду БНР.

магутная сіла. Украінцы падтрымалі. Гэтак стварылі супраць бальшавізму *„Парыжскі блёк”*. Ён афіцыйна мае свой назоў, але папулярна гаварылася заўсёды пра *Парыжскі блёк*.

Але да таго часу, пакуль гэты блёк стварыўся і з гэтым блёкам ужо ўвайшлі ў супрацоўніцтва з амэрыканцамі зусім на іншых пазыцыях, то існавала такая во лювэнская група.

І такія рэчы ў палітыцы робяцца. Гэта ёсьць таксама клясычны ход.

Калі ідэалягічна нельга прыняць удзел у нейкім аб’едналым руху змаганьня з бальшавізмам у такой вялікай дзяржаве, як Савецкі саюз, тады творацца бочныя арганізацыі, якія ёсьць нашыя арганізацыі, і там нашыя людзі. Але яны часова пайшлі на выконваньне неўласьцівых для ўсяго кірунку функцыяў.

І таму Астроўскі не дурны чалавек. Пасьля таго, калі беларусы апынуліся на эміграцыі, ён ня меў ходу. Калі ўпала Нямеччына — БЦР ня мела



Менскі Гарадзкі Беларускі Тэатр

СТАЛЫ ПРОПУСК

у лёжу прэсы
на усе паказы і канцэрты

Сябру Цэнтральнага Ураду БКЗ
спадару ШУКЕЛАЙЦЮ

Заступнік С
і заг.Гар.а
СЯБРА БЦР

*Пропуск у тэатр*

Адразу яго падтрымалі грузіны, Джарданія, былы прэзыдэнт Грузіі, Цэрэтэлі, Цынцадзэ. Усё гэта міністры Грузінскай Народнай Рэспублікі. Армяне — Дашнак — падтрымаў. Гэта ж

ніякага руху. Яна йшчэ мела пэрспэктыву, калі савецкая армія падыходзіла сюды блізка. Йшчэ была форма існаваньня, йшчэ Кушаль арганізаваў брыгаду *„Беларусь”* і з гэтым войскам потым



***Беларускае Культурнае таварыства, 1944 г., Менск (Неафіцыйнае Міністэрства Культуры ў БЦР). Зьлева направа: Антон Шукелойць (аддзел краязнаўства), Юрка Віцьбіч (рэдактар газэты „Узвышша"), Яніна Каханоўская (Шабуня), Янка Ліманоўскі, Анішчык (заг. Аддзелу прапаганды).***

перайшоў на амэрыканскі бок. Была магчымасьць і для БЦР. А ўжо калі скончылася Нямеччына, Астроўскі (як прызначаны фон Годбэргам, генэралам СС) ходу ня меў. І таму Рада БЦР зрабіла паседжаньне (па-мойму, у 1945-м годзе) і разьвязалася. Скончыла сваю функцыю.

Частка працаўнікоў Рады БЦР, выдатных дзеячоў (як, скажам, ***Калубовіч*** — адзін з найбліжэйшых супрацоўнікаў Абрамчыка, ***Кабыш-Кандыбовіч*** — эканаміст) і цэлая група людзей адтуль перайшла сюды і прыняла ўдзел у аднаўленьні дзейнасьці Рады БНР. І ўсё было ў парадку. Аднавілі дзейнасьць Рады БНР (яна існавала, але набралі людзей). Але там (у савецах) ізноў пісалі наўмысную хлусьню ( а нашыя тут сядзяць, насы павешаўшы). Пісалі, што Рада БНР правалілася. І што Абрамчык нібыта яе нанова стварыў у 1947-м годзе.

Гэта няпраўда! Бо яна не правалілася. Рада ***аднавіла дзейнасьць***. *Мікола Абрамчык* і *Ларыса Геніюш* былі прызначаныя *Прэзыдэнтам Васілём Захаркам* прадаўжаць палітыку Рады БНР. Геніюш аказалася па тэй старане, у ГУЛАГу, але яна ўсяроўна ў нас, у Радзе БНР, лічылася заступнікам Абрамчыка, другой асобай.

Там было ўсё правільна зроблена: і з БНР, і з БЦР. Але потым ужо Беларуская Аўтакефальная царква перайшла да расейцаў, зьявіліся дзеячы русафільскага кірунку, зьявіліся асобы, што не маглі пагадзіцца, што Абрамчык раптам *„недзе ёсьць"*, а выйшаў на старшыню Рады БНР, на такую высокую годнасьць (а мусіў бы, маўляў, быць там, скажам, нейкі доктар Мікола Шчорс, ці інжэнер Касяк, ці цэлы шэраг іншых людзей). У выніку гэтага ўсяго нязгодныя аднавілі БЦР. Гэта ўжо тое, што зусім новае і паўстала на эміграцыі. І гэтая новая структура эміграцыйнага характару, БЦР, дзейнічала да гэтага часу.

***З. Пазьняк:*** — Удакладняю. Гэта, фактычна, ужо была новая структура, якую стварылі на эміграцыі некаторыя былыя прадстаўнікі. А ў



***Беларускае Культурнае таварыства, 1944 г., Менск (Неафіцыйнае Міністэрства Культуры ў БЦР). Зьлева направа: кампазытар Мікола Шчаглоў (Кулікові), Натальля Арсеньнева, Сэлех (намесьнік старшыні), Яўген Калубовіч (старшыня).***

рэальнасьці БЦР скончыла сваё існаваньне, калі афіцыйна і фармальна была распушчана.

***А. Шукелойць:*** — Так! Калі б БЦР на гэным закончылася, дык Астроўскаму ўсе даравалі б і прызналі б яму вялікую заслугу, што якраз ён у час нямецкай акупацыі, у гэныя цяжкія часы, прыняў функцыю тварыць беларускую адміністрацыю ў змаганьні з палякамі і расейцамі. Такая сітуацыя. Але зьявіліся людзі, якія *„палілі”* БНР, шмат каго блыталі, пачалі зноў ствараць БЦР, даказвалі Абрамчыку, што ён ёсьць *„непрэдрэшэнец”* і гэтак далей.

***З. Пазьняк:*** — Ад гэтага *„непрадрашэнства”* патыхала ў пэрспэктыве Расеяй, *„єдіной і неделімой”.*

***А. Шукелойць:*** — Ну дык гэта расейская штука была, якую падтрымоўвалі амэрыканцы.

***З. Пазьняк:*** — Дакладна, як цяперака на Беларусі немцы падтрымліваюць намэнклятурную *„апазыцыю”*: галоўнае, маўляў, правы чалавека і дэмакратыя. А будзе незалежная Беларусь, ці ня будзе, будуць беларускія школы, ці ня будуць, будзе дзяржаўная беларуская мова, ці ня будзе — гэта іх не цікавіць. Наадварот, ім лепш, хай усё ідзе пад Расею, менш клопату Нямеччыне. Такая вось *„дэмакратыя”* без Беларусі.

***А. Шукелойць:*** — Так, так. У генэрала фон Годбэрга, і ў вайсковай адміністрацыі ўсё было проста. Іх не цікавіла Беларусь. Калі там расеец ці паляк, ці летувіс і, скажам, сарганізаваў у паліцыі ўсё на ўзроўні, і тая паліцыя забясьпечвае для немцаў карыстаньне гэтым раёнам (гэта значыць — зьбіраць там харчы, патрэбнае мяса і гэтак далей), забяспечвае войска, — то і ўсё. Хай дзейнічае.

***З. Пазьняк:*** — А заадно — і беларусаў душыць.

***А. Шукелойць:*** — Так! Немцы гэтым не праймаліся.

***З. Пазьняк:*** — Ну, вядома. Ніхто ня будзе дбаць пра беларускія інтарэсы, калі ня будуць дбаць самы беларусы.

# Аднаўленьне дзейнасьці Рады БНР

***З. Пазьняк:*** — Гаворачы пра акупацыю, вернемся яшчэ да гісторыі аднаўленьня дзейнасьці Рады БНР.

***А. Шукелойць:*** — Спроба бальшавікоў зьліквідаваць Раду БНР у 1920-х гг. не ўдалася, дзеля таго што ў Бэрліне на тым зьезьдзе тады быў толькі Ўрад БНР. І гэты Ўрад (з ***Цьвікевічам*** на чале) там ***Пракулевіч***, ***Заяц*** і іншыя дзеячы згадзіліся ліквідаваць Урад і выехаць у савецкую Беларусь на працу. Там яны пару гадоў спачатку працавалі, а потым іх недзе ў 30-м годзе ўсіх арыштавалі, саслалі і потым зьнішчылі. Бальшавікі стараюцца гэты мамэнт у прапагандзе сваёй скарыстаць і паказаць яго так, што быццам бы была зьліквідавана Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Тым часам гэта не адпавядала праўдзе, таму што ў Празе надалей заставаўся *Прэзыдэнт Васіль Захарка*, і там заставаліся некаторыя сябры Рады.

Калі немцы вырашылі распачаць наступ на Савецкі саюз, яны (як я ўжо гаварыў) зьвярнуліся да Захаркі аб супрацоўніцтве. Захарка катэгарычна адмовіўся.

Тады паклікалі Радаслава Астроўскага, якога вайна застала на становішчы настаўніка матэматыкі ў Ліцманштаце (гэта ў Лодзі), і які згадзіўся. Што было потым — вядома.

Тым часам у Празе здароўе прэзыдэнта Захаркі пагоршвалася, і ён памёр. У момант ягонай сьмерці і паховінаў там прысутнічаў інжэнер Мікола Абрамчык, які быў у гэтым часе ў Нямеччыне (ў Бэрліне) старшынёй арганізаванага беларусамі Дапамаговага Камітэту.

Дзьве цэнтральныя беларускія арганізацыі былі ў Бэрліне ў гэтым часе. Гэта — *Беларускае Прадстаўніцтва*, інстытуцыя пры адным зь нямецкіх міністэрстваў (здаецца, прапаганды) і другая — гэта *Беларускі Дапамаговы Камітэт*. Старшынёй яго быў спачатку Абрамчык, а потым доктар ***Станіслаў Грынкевіч*** малодшы. Вось жа Абрамчык і доктар Грынкевіч паехалі ў Прагу на паховіны прэзыдэнта. Там таксама была праская беларуская эміграцыя.



(павялічана)

***Марка БНР***

Асабліва заслугоўвае на ўвагу *Ларыса Геніюш*. *Захарка* напісаў тэстамэнт, перадаючы пазыцыю і паўнамоцтвы старшыні Рады БНР спэцыяльным пасьведчаньнем, у якім упамінаецца інжэнер ***Мікола Абрамчык*** і ***Ларыса Геніюш***. У гэтакім стане пераемнасьць Рады БНР адбылася ў новае малодшае пакаленьне. Гэты спосаб — тэстамэнтальны — ён ня толькі характэрны для нас, гэтым спосабам карысталіся іншыя народы на эміграцыі, напрыклад, палякі. У іх пасьля таго прэзыдэнта, які быў на пачатку вайны, ужо зьмянілася аж нескалькі. Паўнамоцтвы пераходзілі з рук у рукі праз тэстамэнт.)

У гэтакім стане закансэрваванасьці Рада БНР і засталася. Атрымаўшы тэстамэнт, Абрамчык паехаў на Беларусь, каб там спаткацца з былымі старымі сябрамі, дзеячамі Рады БНР. Гэта было недзе ў 1942-м альбо ў 1943-м годзе. (Тут ёсьць на эміграцыі сын ягонага роднага брата, таксама Коля Абрамчык. Жыве ў Нью-Джэрзі.) Тады інжэнер Мікола Абрамчык прыязджаў нібы пад прэтэкстам адведаць сям'ю, значыць да іх дамоў.

Абрамчык адведаў таксама сям'ю свайго брата на Вялейшчыне, а потым паведаміў старых сяброў Рады БНР, што здарылася з Захаркам і якое становішча, што ён ёсьць ягоным наступнікам.

Вельмі часта ў нас узьнікаюць каля гэтага розныя пытаньні. Тым часам усё адбывалася ў Менску. У Менску ён адведаў доктара ***Янку Станкевіча***, які быў адным з дзеячоў старой Рады БНР, удзельнікам той ночы 25 Сакавіка, калі абвесьцілі Беларусь незалежнай дзяржавай. (Ён тады ў ліку віленскай той дэлегацыі з Луцкевічамі быў адным з дэлегатаў.)

Сам Янка Станкевіч *„перадаў”* мне Абрамчыка, каб пазнаёміць яго зь Менскам, з музэем, расказаць аб тым, што дзеецца на Беларусі ў час нямецкай акупацыі. Я думаю, што ён тады спаткаўся і зь іншымі дзеячамі, асабліва зь дзеячамі *Беларускай Незалежніцкай Партыі.*

Я забраў Абрамчыка да сябе, быў ён у мяне ў хаце кароткі час. У мяне тады былі ў хаце тры іконы, узятыя зь Менскага музэю, якія я ўважаў за найбольш дарагія, бо вельмі часта былі налёты, і адзін такі налёт разьбіў склад пры музэі – той дрывотнік, у якім было шмат усялякіх музэйных экспанатаў. Я трымаў гэтыя рэчы ў сябе.

Я паказаў яму гэтыя каштоўнасьці, расказаў аб тым, што адбываецца і якія пляны маюць немцы з эвакуацыяй розных культурных каштоўнасьцяў. Менска. Я прапанаваў яму дапамагчы дабрацца да станцыі, бо ён меў даволі цяжкія чамаданы. Ён папрасіў, каб я зь ім ня йшоў з увагі на тое, што ён быў у Менску нелегальна.

Ён такі чалавек быў невысокага росту, шчуплы, непрыкметны, і таму яму лягчэй было быць самому. Так ён адведаў Беларусь. Але ня гледзячы на ўсё, відаць, немцы гэта бачылі, ведалі, даведаліся, што ён магчыма прыняў прэзыдэнцкую функцыю ад Захаркі і таму, калі ён з Прагі вярнуўся тады ў Бэрлін, незадоўга яго арыштавалі і загадалі выехаць. Яго ці вывезьлі, ці ён сам мусіў выехаць у Францыю, дзе ён і жыў перад гэтым раней (да пачатку вайны) і дзе лічылася ягонае сталае мейсца.

Тут заўважу, што ў Парыж Мікола Абрамчык прыехаў з Прагі яшчэ перад вайной, разам зь ***Лявонам Рыдлеўскім***, вядомай асобай у беларускай палітыцы. Л. Рыдлеўскі быў эсэрам, удзельнічаў у Слуцкім Збройным Чыне, потым эміграваў на Захад. Закончыў *„інжэнерыю”* ў Празе. Ён быў паплечнікам і найбліжэйшым калегам М. Абрамчыка, сябрам Рады БНР.



(павялічана)

***Марка БНР***

У Францыі яны арганізавалі беларускую эміграцыю — ***Хаўрус беларускіх работнікаў***, і там пачалі выдаваць тады *„Рэха”.*

Так што тут трэба зьвярнуць увагу на дэзынфармацыю, якая шырылася тэндэнцыйна маскоўскімі бальшавікамі (а цяперака — гэбістамі), што Рада БНР скончыла сваё існаваньне ў 1925 годзе ў Бэрліне. Гэта ёсьць няпраўда.

Прытым ня толькі бальшавіцкія вучоныя-гісторыкі пішуць няпраўду, але таксама некаторыя і на эміграцыі. Вось, напрыклад, салідная кніжка ёсьць пра палажэньне ў БССР Любачкі (ён быў прафэсарам тут аднаго з унівэрсітэтаў, віцеблянін, напісаў у ангельскай мове кніжку). У яго таксама гэтая думка праводзіцца, і праводзілася Астроўскім, які вельмі добра ведаў гісторыю і становішча. Але для яго было выгадным (для Беларускай Цэнтральнай Рады), што яны ёсьць нібыта прадстаўніцтвам беларускага народу і што Рада БНР нібыта скончыла сваё існаваньне, калі быццам бы была ліквідаваная на аснове ўмовы ў Бэрліне (калі ўрад з Цьвікевічам на чале пераехаў у БССР).

Зацікаўленыя асобы і цяпер яшчэ працягваюць пісаць, што вось Абрамчык у 1947-м годзе нібыта *„аднавіў”* Раду БНР. Тут яшчэ раз паўтаруся, што



*Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык*

гэта ня так. Няпраўда. Абрамчык аднавіў ***дзейнасьць*** Рады БНР. Пераехаў урад Цьвікевіча, а Рада засталася, аб гэтым дакуманты ёсьць, і Захарка пісаў ад імя Рады БНР свае мэмарандумы, лісты розныя і г.д. Так што гэта хлусьня — пра самароспуск Рады.

***З. Пазьняк:*** — Гэта сьведама блыталі Ўрад з Радай.

***А. Шукелойць:*** — Пры тым нахабна так. Гэта ж зразумела: прапаганда мае свае брудныя прыёмы.

Такім парадкам у невялікай колькасьці людзей закансэрваваная Рада БНР надалей існавала. І толькі пасьля ўпадку Нямеччыны, калі на эміграцыі знайшліся былыя дзеячы Рады БНР тых часоў (як напрыклад, доктар ***Станіслаў Станкевіч***, ***Францішак Кушаль*** і г.д.), толькі тады Мікола Абрамчык пачаў аднаўляць дзейнасьць Рады.

Адразу пасьля вайны, у 1945-м, ці, можа, ў 1946-м годзе М. Абрамчык прыехаў у Нямеччыну (зноў жа нелегальна) з Францыі ва ўніформе капітана ангельскай арміі, затрымаўся ў адным зь беларускіх лягероў у Нямеччыне (здаецца, у Рэгінсбургу), паказаў свой тэстамэнт, расказаў гісторыю пераймання функцыяў і пачаў дзейнічаць, аднаўляць працу Рады БНР. Я тады прыязджаў і бачыўся зь ім тады ў Баварыі.

***З. Пазьняк:*** — А чаму ён быў у ангельскай уніформе?

***А. Шукелойць:*** — Бо нелегальна, тады ж толькі што скончылася вайна, існавалі акупацыйныя зоны, праезды не былі дазволеныя. Прыехаць з Францыі ў Нямеччыну свабодна было амаль немагчыма для цывільнага чалавека, і таму ён паклапаціўся і ў паразуменьні зь нейкімі нашымі афіцэрамі, што былі ў арміі Андэрса, у гэтым мундзіры прыехаў.

Думка, якая была ў Абрамчыка – цалкам аднавіць дзейнасьць Рады БНР. Ён паклікаў, па-першае, старых радных, што былі, старых дзеячоў з часоў Рады БНР на Беларусі. Другая група ў яго была — гэта былыя беларускія палітычныя дзеячы ў Польшчы. Зь іх вельмі высока цэненым быў былы дэпутат Сэйму ***Стагановіч***. І цэлы шэраг беларускіх дзеячоў з заходняй Беларусі.

Трэцяя група — гэта былі людзі з савецкай Беларусі, ведамыя дзеячы, якія там баранілі нацыянальныя інтарэсы. А гэта быў, у першую чаргу, Адамовіч. Абрамчык прызначыў сваіх двух заступнікаў: гэта якраз ***Стагановіч*** — першы, і другі заступнік — ***Антон Адамовіч*** (былы ўзвышэнец і былы вязень савецкіх турмаў і ссылкі).

Трэцяя група — гэта розныя тыя дзеячы, якія працавалі на высокіх пазыцыях у час Беларускай ССР, але якія выявілі свае патрыятычныя погляды. Да іх належыў таксама ***Кандыбовіч*** (гэта былы партыйны чалавек).

Адамовіч казаў, што як ён быў на ссылцы, дык там (калі ссыльныя спатыкаліся між сабой) яны пыталі: ну хто там на Беларусі яшчэ застаўся? Усе казалі, што яшчэ з нашых людзей ва ўрадзе сядзіць Кандыбовіч. Кандыбовіч — гэта настаўнік-случчак, добры эканаміст; у час нямецкай акупацыі быў загадчыкам Цэнтральнай Гандлёвай арганізацыі на Беларусі (была такая арганізацыя).

Чацьвёртая група людзей — моладзь, гэта тыя людзі, якія выхаваныя Кушалем. Гэта афіцэры, цэлая група маладых афіцэраў. Сярод іх — ***Віталь Кажан***, ***Барыс Рагуля***, ***Язэп Сажыч*** і гэтак далей. Гэта тыя людзі, якія ў час нямецкай акупацыі пасканчалі беларускія афіцэрскія курсы, былі на розных камандных пазыцыях у корпусе Беларускай Самааховы, а потым — у Беларускай Краёвай Абароне.

Яшчэ адна група, пятая — гэта тыя людзі, якія выявілі сябе беларускімі патрыётамі, якія былі ў рускай ссылцы, а потым былі падабраныя генэралам Андэрсам. Сярод іх галоўную ролю, вельмі важную (трэцім заступнікам, па-мойму, быў) адыгрываў ***Вінцэнт Жук-Грышкевіч***. І зь ім разам цэлая група афіцэраў з арміі Андэрса. (***Франціш Бартуль*** з гэтай групы і іншыя.)

Гэта і ёсьць тая эміграцыя, зь якой Абрамчык аднавіў ***дзейнасьць*** Рады БНР. І паколькі людзі разьехаліся па цэлым сьвеце (Амэрыка, Аўстралія, Англія, Бэльгія, Канада, Францыя) — яны стварылі беларускую эміграцыю, што

падтрымоўвала Раду БНР, таму што ва ўсіх гэтых краінах былі сябры Рады БНР, якіх Абрамчык паклікаў.

Далейшая шырокая дзейнасьць Рады БНР вам добра ведамая — (удзел у стварэньні ***Парыжскага Блёку***, палітычнай адзінкі, у якую ўвайшлі прадстаўніцтвы грузінаў, іхны Ўрад зь іхным былым прэзыдэнтам Джарданія, іхнымі міністрамі, армяне зь іхнай выдатнай палітычна-вайсковай арганізацыяй Дашнак-цюн, украінская Рада ўвайшла, Пятлюраўская група, у якой прэзыдэнтам спачатку быў Пятлюра,



*Прэзыдэнт Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч (рэпрадукцыя з карціны П. Міpановіча, алей)*

пасьля яго — Лявіцкі. (Ён памёр, па-мойму, у Польшчы.)

Тут, на эміграцыі, зьмяняліся таксама старшыні Ўкраінскай Рады і кіраўнікі арганізацяў іншых народаў, асабліва народаў Каўказу. Там вельмі высока былі пастаўленыя палітычныя дзеячы з тых часоў, калі каўказкія народы абвесьцілі незалежнасьць і змагаліся даволі доўга з савецкай Расеяй.

Парыжскі Блёк — гэта палітычнае ядро ўсіх дэмакратычных эміграцыяў незалежніцкіх народаў, што супроцьставілася расейскай шавіністычнай квазі-дэмакратычнай эміграцыі, на чале якой спачатку стаяў Керанскі з цэлым тым расейскім урадам (Цэрытэлі, Чарноў і г.д.).



***Князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі***

У нас на эміграцыі „астроўшчына”, што аднавілася пасьля самароспуску БЦР, выступіла супраць Рады БНР, стараліся весьці прапаганду, што Рада БНР стала быццам бы на пазыцыі „непрадрашэнства”. Няпраўда. Трэба ведаць гісторыю Парыжскага Блёку і вялікую заслугу Абрамчыка ў яго арганізацыі (блёк таму так называўся, што цэнтралі эміграцыі — грузінаў, армянаў, Паўночных каўказцаў і г.д. — былі ў гэтым часе ў Францыі). Абрамчык меў там з усімі непасрэдныя дачыненьні. Потым некаторыя зь іх пераехалі ў Амэрыку.

***З. Пазьняк:*** — Парыжскі блёк стаяў на пазыцыях ня толькі барацьбы з бальшавізмам, але і на прынцыпах незалежнасьці ўсіх дзяржаваў. Гэта абавязковая ўмова барацьбы з расейскім бальшавізмам, якая павінна была быць вызначана адразу.

***А. Шукелойць:*** — Так. Бо сярод расейскіх так званых „дэмакратычных” арганізацыяў усяроўна цэлы шэраг гэтых утварэньняў (скажам, расейская эсэраўшчына на чале з Віктарам Міхайлавічам Чарновым) стаялі на пазыцыях вялікадзяржаўнасьці, прыдумалі нейкую „сацыялістычную Раду новага Ўсходу”. Усяроўна цягнулі ў нейкі вялікі дзяржаўны арганізм, але быццам бы „злучаны”. Вось тое самае, што і цяпер спрабуе стварыць Масква ў розных формах.

***З. Пазьняк:*** — Ну так, гэта ўсё палітычныя хітрыкі: нешта прапанаваць рабіць разам з Расеяй і зацягнуць потым гэтыя дзяржавы ў расейскую пашчу.

***А. Шукелойць:*** — Ага, ага.

***З. Пазьняк:*** — Пра Ларысу Геніюш. Чаму Захарка яе прызначыў „дублёрам”, як гэта атрымалася.

***А. Шукелойць:*** — У нас некаторых рэчаў не разумеюць, таму што ў абставінах, якія ў тым часе былі (суровай нямецкай акупацыі, суровага нямецкага фашызму) усе гэтыя арганізацыі і цэлая дзейнасьць мусілі мець калі не падпольны характар, то такі напоўпадпольны. І дзеля гэтага ў такіх дачыненьнях падпольля нейкі праект, нейкую акцыю заўсёды, калі даручаецца выканаць нейкім людзям, то прызначаецца не адзін чалавек, а пераважна — двух, трох. Для страхоўкі. Як вострі прыклад — забойства рускага цара і гістрыя нашага земляка Грынявіцкага. Грынявіцкі ня першы быў, што кінуў бомбу. Кінуў бомбу там іншы чалавек, але тая бомба падарвала толькі царскую павозку, а цар застаўся жывым. Цар вылез з павозкі, каб паглядзець, што сталася, і толькі тады Грынявіцкі кінуў другую бомбу.

Гэта ёсьць такое правіла ў падпольным змаганьні. І дзеля гэтага Рада наша ў тыя часы карысталася такой формай. У тым тэстаманце быў

Абрамчык (энэргічны чалавек), і другая асоба — гэта Ларыса Геніюш. Яна была сакратаркай у В. Захаркі перад ягонай сьмерцяй. Абрамчык заўсёды лічыў, што Рада БНР дзейнічае і на Беларусі, у час суровага палажэньня Беларусі пад бальшавіцкім рэжымам. Ён лічыў, што Ларыса Геніюш ёсьць там ягоным заступнікам.

***З. Пазьняк:*** — Калі Ларысу Геніюш арыштавалі ў Празе чэшскія камуністы па загаду рускага НКВД, гэта ці не магло быць зьвязана з тым, што НКВД ведаў пра функцыю Ларысы Геніюш у Радзе БНР?




***Дом Рады БНР у Менску (выява на паштовай марцы БНР)***

***А. Шукелойць:*** — Ня выключана, што ведаў. Але ня гледзячы на гэта, Ларыса Геніюш трымалася надзвычайна і ў турме, і ў той цяжкай ссылцы. Нам першы пра яе расказаў князь ***Сьвятаполк-Мірскі***, які раней за ўсіх (яшчэ перад той адлігай Хрушчова) вярнуўся. Ён страціў там нагу, і вярнуўся з ГУЛАГу як былы палонны афіцэр аўстрыйскай арміі.

***З. Пазьняк:*** — Ён вярнуўся ў 1956-м годзе ў Аўстрыю, так?

***А. Шукелойць:*** — Ага. А потым ён пераехаў у Нямеччыну, у Мюнхэн (у Баварыі). Там ён з нашай эміграцыяй дзяліў лёс аж да сьмерці.

***З. Пазьняк:*** — Ці бачыў ён у ГУЛАГу Ларысу Геніюш?

***А. Шукелойць:*** — О, так, ён у ГУЛАГу сустракаўся з Ларысай Геніюш і расказваў пра ейную такую духовую моц. Нават цытаваў некаторыя вершы, пісаныя ёю там. Дарэчы, выдатна гаварыў па-беларуску. Князь казаў, што Ларыса Геніюш аб'ядноўвала і натхняла ўсіх у зоне, была сымвалам, сьцягам барацьбы для ўсіх: беларусаў, украінцаў, эстонцаў, палякаў. Мяркую, што яна, ведаючы пра сваё ўпаўнаважаньне на выкананьне абавязкаў Старшыні Рады БНР, трымалася гэтак моцна і гэтак годна.

Пасьля ўжо Рада БНР прымала ўдзел ва ўсіх гэтых праектах халоднай вайны. Гэта значыць, у *Інстытуце вывучэньня СССР*. Там вельмі важную ролю адыгрываў ***Антон Адамовіч***, ***Станіслаў Станкевіч***, ***Вінцэнт Жук-Грышкевіч***. Таксама ў радыё „Свабода" адразу ж Абрамчык (у паразуменьні з Амэрыканскім аддзелам прапаганды) арганізаваў ***Беларускі аддзел***.

***З. Пазьняк:*** — Ці стварэньне радыё „Свабода" было таксама ініцыятывай Міколы Абрамчыка?

***А. Шукелойць:*** — Так, Міколы Абрамчыка. І там сядзелі ўсе нашыя людзі (спачатку заступнікам Абрамчыка і першым дырэктарам радыё быў Жук-Грышкевіч). Там яшчэ было пару афіцэраў, па-мойму, сяброў Жук-Грышкевіча з арміі Андэрса. Ну і нашая моладзь, тыя, што пасканчалі ўнівэрсітэт у Лювэне і тыя, хто пераехаў зь Нямеччыны туды потым, напрыклад, ***Янка Ліманоўскі***, ***Барбара Вержбаловіч*** — ведамая сьпявачка, акторка беларускай опэры — з сваёй пляменьніцай Галінай. Цяпер яна мае прозьвішча Ганна Руднік. Спачатку радыё называлася *„Вызваленьне"*, потым перайменавалі на *„Свабода"*.

***З. Пазьняк:*** — Адным словам, радыё „Свабода" стваралася як адраджэнскае радыё Рады БНР і павінна было шырыць беларускія ідэі і ідэалы Сакавіка.

***А. Шукелойць:*** — Так, так. Шырыць ідэі беларускай свабоды і незалежнасьці ў супрацоўніцтве з амэрыканскай дзяржаўнай пазыцыяй.

***З. Пазьняк:*** — Добры быў пачатак. Але шкода, што цяпер, у такі пагрозьлівы і адказны час для незалежнасьці Беларусі, назіраецца ідэйны заняпад радыё. Замест адраджэнскай „Свабоды" (як павінна быць) гаворыць нейкая збочаная „Лібэрці". Разважаюць у эфіры пра сэкс Скарыны. Гэта трэба дадумацца! Ці там ужо ўвогуле няма нармальных людзей?

***А. Шукелойць:*** — Там, між іншым, працуе трох сяброў Рады БНР, паэт Сокалаў-Воюш, Алесь Лукашук...

***З. Пазьняк:*** — Сокалава-Воюша, дарэчы, толькі што выкінулі з радыё. Вызваляюцца месцы для іншых.

***А. Шукелойць:*** — Шкода. Вельмі шкода, што так ідзе.

***З. Пазьняк:*** — Дрэнны час на сьвеце. Дэмакратыя перажывае агульны ідэйна-маральны крызіс. Ідзе працэс дэградацыі каштоўнасьцяў. (Бо лібэралізм – гэта не дэмакратыя. Гэта, ведаеце, як рококо, дакладней, як маньерызм у мастацтве, калі рэнесанс вырадзіўся ў маньерызм.)

Бяда ў тым, што гэтыя лібэральна перакручаныя паняцьці ідуць на Беларусь яшчэ і праз гэбоўскую Расею. У пачварнай форме прытым.

Кадры на радыё набіраюць зь Беларусі. Сумняваюся, што яны (за выключэньнем якіх пару асобаў) ўспрымаюць сваю працу як місію дзеля Бацькаўшчыны. І гэта цяпер, калі, як па Караткевічу, — зьдзекуецца над ёю маскаль і *„нахабны разбэшчаны гун”.*

Але ня будзем больш пра цяпершчыну. Вернемся да Рады БНР і да больш духоўных тэмаў.

***А. Шукелойць:*** — Але. Тым часам аднаўленьне дзейнасьці Беларускай Аўтакефальнай царквы таксама было клопатам Міколы Абрамчыка. Бо, як ведама, тая герархія Беларускай Аўтакефальнай царквы, якая была на Беларусі адноўлена ў 1942-м годзе, выехаўшы на эміграцыю (ўся гэтая група япіскапаў разам з мітрапалітам Панцелеем і архіепіскапам Фелафеем) улілася ў расейскую зарубежную царкву. Беларуская эміграцыя засталася без сваёй царквы. І тут ізноў інжэнер Абрамчык (ужо будучы старшынёй Рады БНР) прыняў захады, каб аднавіць дзейнасьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Тут ён у кантакце з украінцамі, з украінскай Радай, з Украінскай Аўтакефальнай царквой арганізаваў цэлы шэраг сустрэчаў, у якіх прымаў ўдзел створаны Урад БНР.



***Са сьцягам у руках***

# Аўтакефалія

***З. Пазьняк:*** — Як утварылася Беларуская Аўтакефальная царква ў 1942 годзе? Якія былі дзеяньні, дзеячы, як гэта рабілася і што вы канкрэтна самы бачылі ў той час?

***А. Шукелойць:*** — Я думаю, што Рада БНР у Першую Сусьветную вайну мела на ўвазе аднаўленьне дзейнасьці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Таксама, як і стварэньне беларускай адміністрацыі каталіцкай царквы і свабоды для іншых веравызнаньняў. У сувязі з гэтым, ужо пры бальшавіках (гэта значыць у Беларускай ССР, на пачатку ейнага існаваньня, у часы так званага НЭПу і беларусізацыі) была адноўленая Беларуская Аўтакефальная царква зь мітрапалітам Мэльсіхадэкам на чале. Было некалькі япіскапаў.

Незадоўга пасьля гэтага аднаўленьня бальшавікі (бачачы небясьпеку для Расейскай праваслаўнай царквы) арыштавалі мітрапаліта Мэльсіхадэка і царкоўных дзеячоў, асабліва япіскапаў, а потым і сьвятарства. Гэтак ужо недзе ў канцы 30-х гадоў упала гэтая Аўтакефальная царква ў савецкай Беларусі.

Да прыходу немцаў на тэрыторыі БССР не было ніякай царкоўнай арганізацыі, не было легальна адчыненых цэркваў. У Менску не было ні адной дзейнай праваслаўнай, ані каталіцкай царквы. (Гэта значыць, перад 1941-м годам.)

Немцы ў Менск прывезьлі аднаго праваслаўнага „бацюшку” — Уладзімера (Валадзімера) Фінкоўскага (маладога сьвятара, па паходжаньні — зь беларускай праваслаўнай сям’і на Ашмяншчыне, з Гальшанаў). Ягоная цётка, а таксама дачка цёткі (ведамыя мне йшчэ з часоў майго перабываньня ў школьніцтве) абедзьве былі настаўніцамі. Так што ведамая беларуская сям’я (праўда, з такім расейскім душком). Вось гэты айцец Фінкоўскі і стаў першым праваслаўным сьвятаром у Менску.

У Менску, недзе на пэрыфэрыі, былі чатыры манашкі, якіх бальшавікі не саслалі. Яны ім былі патрэбныя (шылі коўдры для бальшавіцкіх камісараў). Вось гэтыя манашкі і прыйшлі ў сваю царкву, што за пляцам Волі..

***З. Пазьняк:*** — Царква знаходзілася на цяперашняй вуліцы Інтэрнацыянальнай (раней, у 17-м стагоддзі — Зборавая, пры расейцах у 19-м стагоддзі — Прэабражэнская). Гэтая царква называлася таксама Прэабражэнская. Пры цары яна была перарobленая з былога Бенедыктынскага касьцёла кляштару Бенедыктынак.

У 1978 г. мне акурат удалося зрабіць археалягічныя раскопкі гэтага кляштару, які ў 1960-м годзе ўзарвалі саветы.

***А. Шукелойць:*** — Так, гэта помнік гісторыі. Манашкі вярнуліся тады ў гэтую царкву. Яна была ня вельмі вялікая, адна такая заля, якая скарыстоўвалася для нейкага спартовага клюбу, і дзеля гэтага тут нічога ня трэба было спэцыяльна рабіць. Проста прышлі ў гэтую залю. Там збудавалі часовы іканастас, атрымаўшы іконы зь Беларускага музэю. Гэта тады мяне йшчэ там не было, кіраўніком тады быў Габрыель Віер, які ім выдаў патрэбныя іконы і патрэбны ўтвар (дараносіцы, дарахавальніцы і інш.).

Вось гэты айцец ***Уладзімер Фінкоўскі*** і пачаў тут сваю місійную працу з тымі чатырмя манашкамі.

***З. Пазьняк:*** — У якой мове пачаў?

***А. Шукелойць:*** — Па-мойму, у беларускай мове. Адміністрацыя (на чале з доктарам Тумашам) тады ўжо ў аснаўным была беларуская, так што ў царкве гучэла царкоўнаславянская мова, а ў якой ён мове пропаведзі гаварыў... Шчыра кажучы, я там ня быў і ня чуў. Магу толькі меркаваць.

Палажэньне ў Менску было такое, што засталіся толькі дзьве царквы (наагул цэрквы былі моцна зьнішчаныя). Так быў падарваны на пляцы Волі Катэдральны сабор (у 1936 г.), другі сабор Чыгуначны, за Домам ураду, быў падарваны таксама. Вельмі ў дрэнным стане, перарobленая на чатыры паверхі, была *Жоўтая* так званая царква на Ніжнім Рынку.

Словам, палажэньне было даволі дрэннае для праваслаўных, і тады горад адступіў для праваслаўнай царквы будынак былога Францішканскага каталіцкага манастыра і будынак касьцёла Бэрнардынак, які скарыстоўваецца цяпер як Катэдральны сабор.

Пасьля незадоўга прыехала ў Менск група маладых праваслаўных сьвятароў, гадунцоў Варшаўскай духоўнай акадэміі. Вось такім першым быў айцец ***Іаан Кушнер***, што заняў царкву на Вайсковых могілках. Вельмі сімпатычны сьвятар. Потым недзе ў 1943-м ці 1942-м ён наехаў на міну і загінуў.

Другі прыехаў айцец ***Мікалай Лапіцкі***, які заняў Чыгуначную капліцу (Чыгуначная царкоўка малая). Чыгуначнікі мелі невялікую царкву, памойму, нават дзераўляную, на пляцы, што між унівэрсітэтам і чыгункай.

старая беларуская царква сьвятога Пятра і Паўла.) І туды прыехаў таксама з заходняй Беларусі айцец ***Іосіф Балай*** — вельмі стары чалавек, йшчэ з царскай школы, вельмі добры прамоўца. І ў яго сакратаром быў ***Баравы*** — той ведамы царкоўны дзеяч, прафэсар, які цяпер яшчэ можа й жыве. (Які працаваў у Маскве. Ягоны сын у Менску займаецца рэстаўрацыяй помнікаў гісторыі і архітэктуры.) Гэты Баравы быў тады яшчэ нежанаты, я яго ведаў. Такое становішча было. Царкву на Старажоўскіх могілках таксама пачалі аднаўляць.




(Фота З. Пазьняка)

***Беларуская аўтакефальная царква ў Кліўлендзе (ЗША), 1996 г.***

Так што былі ўжо тры царквы: Прэабражэнская, царква на Вайсковых могілках на Даўгабродзкай вуліцы (яна была ў даволі добрым стане, там нічога перарабляць ня трэба было, быў нават захаваны іканастас) і тая Чыгуначная.

Іншыя будынкі царкоўныя прыходзілася аднаўляць (перарабляць). Наступным будынкам, які рыхтавалі для карыстаньня — гэта была Жоўтая царква на Ракаўскай вуліцы. (Вялікая

Сярод менскай адміністрацыі аказалася паважная група маладых людзей, праваслаўных, з вышэйшай асьветай, такіх, як суддзі, напрыклад, ***Леанід Галяк***, ***Аркадзь Арэхва***, ***Юльян Саковіч***, інжэнер ***Іван Касяк*** і гэтак далей. Гэтыя маладыя людзі пачалі рабіць захады, каб аднавіць дзейнасьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

У манастыры ў Жыровіцах сядзеў стары епіскап Панцелеймон. За польскіх часоў ён не

хацеў прызнаць Польскай аўтакефальнай царквы, разьлічваў на падпарадкаваньне расейскай царкве, і таму яго саслалі ў Жыровіцкі манастыр. Палякі саслалі. Цяпер яго адтуль выцягнулі, бо адзіны епіскап быў. Быў, праўда, яшчэ адзін у Горадні, але Горадня тады належыла не да беларускай адміністрацыі, а непасрэдна да нямецкай.

Пачалі раздумвацца, як аднавіць аўтакефальную царкву. Было двох такіх манахаў-беларусаў. Адзін закончыўшы Варшаўскі ўнівэрсітэт, паходзіў зь Вялейшчыны, прозьвішча ***Нарко***. Потым стаўся ***Фелафей***. (Фолётэуш папольску). Фелафей ужо быў раней, яго за польскіх часоў пасьвяцілі ў манахі. Ён быў настаяцелем праваслаўнай царквы, па-мойму, ў Львове.

Другі быў таксама манах з Наваградчыны, здаецца, айцец Мартас. Стараньнем доктара Шчорса, што быў старшынёй Беларускага камітэту ў Варшаве, іншых праваслаўных беларусаў (адваката Шкялёнка, доктара Войтэнкі) былі зробленыя захады перад Польскім мітрапалітам (які пазытыўна ставіўся да беларусаў), каб хіратанізаваць двух гэтых манахаў і гэтым дапамагчы ў стварэньні беларускай царкоўнай адміністрацыі дзеля аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы.

Мітрапаліт Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (здаецца, Дзіянісій) хіратанізаваў гэтых двух манахаў. Яны прыехалі ў Менск. Фелафей Нарко асеў у Менску ў Прэабражэнскую царкву, а другі, Мартас, — у Наваградку.

Такім парадкам на тэрыторыі Беларусі знайшлося двух маладых япіскапаў-беларусаў у групе гадунцоў Варшаўскай духоўнай акадэміі, сьведамых беларусаў, зь веданьнем мовы (мову ў іх выкладаў доктар Янка Станкевіч).

Пачаліся захады перад нямецкай адміністрацыяй, гэта значыць — перад Кубэ. Кубэ даў дазвол. Там, па-мойму, гэтымі справамі непасрэдна займаўся ня Кубэ, а нейкі адзін з адміністрацыі, здаецца, доктар Юрда. Ён даў дазвол, і пачаліся рыхтаваньні дзеля аднаўленьня дзейнасьці Аўтакефальнай царквы. Усё гэта было арганізавана, адбыўся вялікі зьезд у 1942-м годзе.

Паколькі мітрапаліт Панцелеймон быў супраць, маладая група беларускіх дзеячоў (асаблівую актыўнасьць выказалі ***Саковіч*** і ***Касяк***) гэтага Панцелеймона адправілі ў манастыр, недзе ў Ляды (ці ня ў Віцебшчыне). Пад кіраўніцтвам уладыкі Фелафея Нарко (які ўзначаліў усё) адбыўся гэты вялікі зьезд сьвятарства і праваслаўных дзеячоў у Прэабражэнскай царкве, які абвесьціў аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай царквы. (На працягу, мусіць, трох дзён былі нарады, розныя рэфэраты, чытаньні).

***З. Пазьняк:*** — Пытаньне: Касяк і Саковіч адправілі Панцелеймона ў Ляды. Як яны гэта зрабілі?

***А. Шукелойць:*** — Гэта дзякуючы іхным стараньням, паколькі ён не згаджаўся на аднаўленьне аўтакефаліі. Я думаю, што немцы яго адправілі туды. А Касяк і Саковіч дапамаглі, каб адправілі.

Гэтыя падзеі ўсе мне добра ведамыя. Меў туды пайсьці прывітаць аднаўленьне аўтакефаліі ксёндз айцец Гадлеўскі і, магчыма, Кушаль. Тым часам, паколькі там у дыскусіі часта гаварылася, што аднаўленьне аўтакефаліі гэта вось, можа быць, акцыя каталікоў, дык там гэтыя старэйшыя нашы дзеячы адыйшлі ўбок. Але пасьля таго, як аўтакефалія была абвешчана, тады нашыя калегі (Галяк, Арэхва, Саковіч) кажуць, што ўсё ж каталікі мусілі б іх прывітаць і спадарыня Галяк (жонка Галяка) прыбегла да мяне ў музэй, каб я неадкладна зьявіўся да ксяндза Гадлеўскага (ён тады жыў на вуліцы Гаруна — цяпер Камсамольская) і адтуль накіраваўся на прывітаньне гэтага зьезду з нагоды абвешчаньня аўтакефаліі.

Я тады быў у неадпаведнай вопратцы (марынарка і гальштук чорныя, але порткі — галіфэ). Гэтак я зьявіцца не хацеў, а тут дахаты няма часу йсьці, таму я пабег скарэй да ксяндза Гадлеўскага. Той даў мне свае порткі чорныя і чаравікі. І так нас трох сабралася: Язэп Найдзюк, я і яшчэ адзін манах быў, прывезены ксяндзом Глякоўскім у Менск, францішканец Станіслаў Васькевіч, здаецца. Думаю, што ліст прывітальны напісаў Гадлеўскі, я ня меў часу разглядаць яго, Найдзюк ужо прачытаў яго, пэўна, пару разоў. Так мы накіраваліся ў Прэабражэнскую царкву. Нас

там ўжо чакалі. Мы ўвайшлі з падворку, уклаліся перад саборам. Найдзюк прачытаў прывітаньне ад беларусаў-каталікоў, уручылі яго Прэзыдыюму, уладыку архіепіскапу Фелафею і пайшлі. Вось гэтак і адбылося.

***З. Пазьняк:*** — Хто стаў першым мітрапалітам?

***А. Шукелойць:*** — Заставаўся той жа самы Панцелеймон. Ужо падышлі бальшавікі пад Віцебск. (Ён там і сядзеў, ня быў на гэтым вялікім Саборы). Ён лічыўся мітрапалітам, бо найвышэйшай рангі. Але калі ўжо бальшавікі падыйшлі блізка, тады тут зрабілі захады перад нямецкімі ўладамі, што бальшавікі могуць заняць гэтыя Ляды і яго там схопяць, а ён антыбальшавік. Дык паехалі яго перавезьлі.

А тут тады ў Прэабражэнскай царкве служыў уладыка Фелафей Нарко. Ён з вышэйшай асьветай чалавек, вучыўся за мяжой, у Грэцыі, інтэлігентны чалавек, прыстойны, вельмі прыгожа вёў літургію, царкоўныя службы. І царква поўнілася людзьмі. Хор быў вельмі прыгожы, таму што ў гэтым хоры дараблялі сабе крыху да свайго жыцьця артысты Беларускага опэрнага тэатру.

***З. Пазьняк:*** — І потым, калі прышлі бальшавікі ў 1944-м годзе і ўступілі ў Менск, які быў лёс Праваслаўнай Аўтакефальнай царквы і сьвятароў?

***А. Шукелойць:*** — Усе гэтыя актыўныя дзеячы, уладыка Фелафей і ўся герархія (за гэты час былі хіратанізаваныя пяць ці шэсьць япіскапаў) разам з эвакуацыяй Менска выехалі цягніком на эміграцыю. На эміграцыі ў Нямеччыне яны трымаліся разам, а потым вырашылі ўвайсьці як аўтаномная адзінка (так яны думалі) ў Расейскую зарубежную праваслаўную царкву. Але гэтая аўтаномія скончылася. Там Панцелеймон быў на сваім мейсцы, на сваім кані, і казаў: „Пераржылі палякоў, пераражывём і касякоў.” Так што і палякаў, і беларускіх нацыяналістых, што аднаўлялі аўтакефальную царкву, ён пераржыў.

Частка нашых людзей не хацела падпарадкавацца перакідваньню Панцелеймона. І пачаліся зноў захады дзеля стварэньня герархіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. У гэтым заслуга двух сьвятароў, якія не падпарадкаваліся — айцец ***Хфедар Данілюк*** (ён жа былы афіцэр Слуцкага паўстаньня) і айцец ***Сьцяпан Войтэнка*** (ведамы дзеяч з заходняй Беларусі). Тады пачаліся захады з боку Міколы Абрамчыка перад Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквой дзеля аднаўленьня


(Фота З. Пазьняка)

***Беларуская аўтакефальная царква ў Брукліне на „Атлянтык Эвеню”, 401; 1999 г.***

Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай царквы. Украінцы дазволілі аднаму са сваіх япіскапаў адыйсьці да беларусаў — уладыка ***Сергій*** адыйшоў. (Потым выехаў у Аўстралію і там памёр.) Быў хіратанізаваны адзін з праскіх гадунцоў інжэнер ***Уладзімер Тамашчык***, які прыняў імя Васіля.

Першую аўтакефальную службу Божую ў Амэрыцы адслужыў у Брукліне айцец ***Хведар Данілюк***. Я быў на гэтай першай службе ў такіх сьціплых умовах так званай „Беларускай хаткі” ў Брукліне. ■

# ДАРОГА Ў ЧУЖЫНУ

## *Эўропа*

***А. Шукелойць:*** — Незадоўга пасяля заканчэньня Кангрэсу прышлося эвакуавацца. Чырвоная армія даволі блізка падышла пад Менск. У горадзе ўжо былі чутныя стрэлы. Старшыня Менску інжэнер Комар і старшыня *Самапомачы* былы дэпутат Сабалеўскі арганізавалі ў паразуменьні зь немцамі таварны цягнік. Было сказана працаўнікам гораду, што хто хоча, можа ехаць у эміграцыю-эвакуацыю. Часу было вельмі мала, людзі бралі толькі найбольш неабходнае. Я яшчэ пасьпеў схадзіць ў Генэральны Камісарыят і атрымаць грошы, каб аплаціць зарплату працаўнікам музэю і працаўнікам аддзелу краязнаўства *Беларускага культурнага таварыства* на тры месяцы наперад. З гэтых людзей, зразумела, частка засталася. У тым ліку і найбліжэйшы мой супрацоўнік у музэі мастак Віер. Праўдападобна, што ён ужо перад гэтым меў кантакт з партызанамі, таму не баяўся заставацца.

Ноч мы ўжо начавалі ў будынку Беларускай Цэнтральнай Рады (цяперашні будынак Нацыянальнай бібліятэкі на вуліцы тады Ігнатоўскага, цяпер, здаецца, Чырвонаармейская). Назаўтра пачалі грузіцца ў цягнік. Цягнік стаяў на Таварнай станцыі. Потым ад'ехалі.

Дарога ўжо была небясьпечнай. Даехалі мы да Баранавічаў. Станцыя была разьбітая. Я пасьпеў яшчэ зайсьці да майго калегі і апошняга старшыні Беларускага Студэнцкага Саюзу, які нейкі час працаваў са мной у музэі, доктара Ўсевалада Караля, каб яму перадаць дакумант, які даваў яму прывілеі выехаць зь Беларусі, такі самы, які мелі мы. Доктар Кароль раздумваўся яшчэ, урэшце рэшт вырашыў застацца. Ён атрымаў 25 гадоў, і дзякуючы той амністыі, якую праводзіў Хрушчоў, па-мойму, быў раней зволнены. Працаваў потым лекарам (хірургам-гінеколягам) у Баранавічах і там памёр.

Так мы паехалі далей. Мінуўшы Ліду, наш цягнік наехаў на міну. Міна гэта падарвала некалькі вагонаў, было шмат забітых, па-мойму, трыццаць зь нечым асобаў, шмат параненых. Цягнік быў вельмі вялікі. Там ужо да нашых вагонаў да нашага цягніка далучылі яшчэ нейкія вагоны са Смаленска, расейскіх нейкіх вайсковых адзінак. Наперадзе таксама былі вагоны з моладзяй (Саюз Беларускай Моладзі). Розных людзей забіралі ў гэты цягнік. Цягнік аграмадны. Паколькі міны зьнішчылі ня толькі вагоны і людзей, але і парвалі дарогу, то мусілі прыехаць спэцыяльныя цягнікі расьцягнуць гэты наш цягнік, направіць дарогу, сьцягнуць тыя вагоны, якія ня можна было направіць, людзей некаторых адвезьці ў шпіталь, некаторых пахаваць на мейсцы.

Разам з намі ехала на эміграцыю кіраўніцтва Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Так што сьвятароў было таксама дастаткова. Ехалі і лекары, асабліва вельмі заслужаны грамадзкі дзеяч сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, які потым з Дальвіца (як заступнік камэнданта таго дэсанту, кіраванага Вітушкам) быў скінуты на Беларусь, — гэта доктар ***Глеб Багдановіч***, сын былога польскага сэнатара Вячаслава Багдановіча. Вось жа доктар Багдановіч (тады ўжо вайсковы лекар Беларускай Краёвай Абароны) заняўся гэтымі раненымі. Нешта дзень мы там чакалі, цягнік рушыў далей, мы прыехалі ў Беласток. У Беластоку былі коратка і накіраваліся ў Кёнігсбэрг. Там мы нейкі час затрымаліся, начавалі, прызначылі нам на начлег нейкую сьвятыню (касьцёл). Потым паехалі ў Бэрлін.

Ехаў з намі таксама старшыня Менску ***Анатоль Комар*** з жонкай і сакратаркай (той самай, што знайшла падкладзеную міну і ўратавала Комару жыцьцё). Дарэчы, гэтая акалічнасьць дала падставу для плётак, некаторыя выдумвалі, што Комар едзе з двумя жонкамі. Але гэта няпраўда. Глупства.

Анатоль Комар быў вельмі прыстойным чалавекам. Пазьней ён зьмяніў прозьвішча на *„Ромар"*. Памёр і пахаваны ў француcкай частцы Канады. Стары нацдэм. Вядомая асоба.

Па дарозе ад нас альбо адлучаліся нейкія людзі, альбо далучаліся. Як ехалі праз Варшаву, некалькі асобаў ужо высела (напрыклад, доктар Антановіч, лекар, які арганізаваў Беларускі Чырвоны Крыж). Ён вышаў і цэлы шэраг людзей, тых, што былі прыехалі з Польшчы і якія Польшчу ведалі. У тым вучоных доктар Рыгэль, гісторык, ведамае прозьвішча. (Хацеў жаніцца з аднэй беларускай, таксама ведамае прозьвішча — ***Анэляй Катковіч***. Потым яна была на ссылцы, вярнулася, памерла па-мойму, у Варшаве.) І ён, гэты Рыгэль, меў намер падрыхтаваць кнігу *„Псіхалёгія*



***Гэхштат (Гёхштэдт). Замак, куды ў 1944 г. былі зьвезеныя зборы і экспанаты Беларускага музэю ў Менску.***

*беларускага народу”,* здаецца. Розныя тэмы з розных дзялянак беларускай навукі, мастацтва, гаспадаркі, эканоміі мелі пісаць розныя спэцыялісты-беларусы. Я ў яго меў быць сакратаром, таму з Варшавы ён для мяне падрыхтаваў мейсца ў эміграцыі.

ліку і некаторыя нашыя людзі (такія з культурніцкім ухілам ехалі нейкія). Гэты брат Пушчы ехаў і яшчэ зь ім нейкі актор ехаў, казу везьлі з сабой. І так яны вылезьлі тут недзе з гэтай казой і падаліся ў сваю дарогу (польскую мову ведалі). Потым аказаліся ў Чэхіі.

Прыехаўшы ў Бэрлін, там ужо кожны пасвоему арыентаваўся. Там заставалася Рада БЦР, Урад ейны, міністры. Я быў падпарадкаваны Міністэрству культуры. Гэта пад кіраваньнем ***Аўгена Калубовіча*** (потым *„*Каханоўскі*”* на эміграцыі). Але я меў ужо прызначэньне адразу, дзеля таго што паспрыяў адзін зь нямецкіх

Я паехаў у Радзьбор (Радзьбуж па-польску), цяпер у межах Польшчы такі старажытны гарадок, які ня меў ніякіх вайсковых аб’ектаў. Там затое былі зьвезеныя з Украіны, Беларусі і, відаць, можа і з занятых тэрыторыяў Расеі розныя бібліятэкі, архівы, музэі. Зь імі прыехалі некаторыя людзі, што там працавалі пры гэтых


(Выкадроўка)

*Скульптура (бюст) Максіма Багдановіча працы Аляксандра Грубэ (танаваны гіпс), якая знаходзілася ў Беларускім Культурным таварыстве (Дом Рады БНР). Пасьля вайны не захавалася.*



*А. Шукелойць, 2-я палова 1940-х.*

навуковых інстытуцыях. У тым ліку там былі і некаторыя вывезеныя часткі цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі Навук. Музэй наш быў вывезены ў Баварыю ў мястэчка Гэхштат.

Музэй быў перавезены ў частку Баварыі, што называецца Швабія (Швабішэ лянд), ейным галоўным горадам ёсьць Аўсбург, а гэта між Аўсбургам і Тылінганам, невялікае такое мястэчка, што называлася Гэхштат на Дунаю. Там былі зьвезеныя розныя музэі, і пры тых музэях працавалі працаўнікі (скажам, я ведаю, што былі з Украіны, іх перавезьлі туды). Так што я туды пераехаў таксама ўжо пасьля таго, як была занятая Польшча і частка Нямеччыны. Прыехаўшы ў Гэхштат, я зьявіўся ў замак Шлёс на працу, але там ужо на працу не прымалі. Тады я спаткаўся там з той рыжскай немкай, якая пасьля мяне была загадчыцай музэю ад Генэральнага Камісарыяту.

Дык вось у гэтым Гэхштаце далі мне мейсца жыць недалёка ад мястэчка ў лягеры, дзе былі розныя вучоныя, у асноўным група тых, што працавалі для нямецкай прапаганды, для арганізацыі вывазу, што займаліся бібліятэкамі, музэямі, архівамі, і асабліва іх эвакуацыяй, ды рабункам. Адначасна яны займаліся і прапагандай, вывучэньнем СССР. І вось там, у гэтым лягеры, сядзела група вучоных расейцаў, украінцаў, якія вывучалі праблемы савецкай палітыкі, бяручы пад увагу цяперашні стан. Кіраўніком гэтага ўсяго быў адзін вучоны, лекар-псіхоляг, былы дырэктар фізкультурнага інстытуту, украінец. Ён паходзіў, па-мойму, з савецкіх палонных і быў раней ці не ў штабе аднаго з маршалаў, тых, што наступалі на Ўкраіне.

Пры гэтай во групе вучоных і далі мне мейсца. Я быў доўгі час у кантакце з тым доктарам Рыгэлем. Тым часам гэты Рыгэль ізноў быў пакліканы ў армію, на фронт, і так ён там і загінуў. І той ягоны плян ня быў зрэалізаваны.

Цэлы шэраг працаў, якія мне прыслалі вучоныя, былі падрыхтаваныя да друку. Гэта, скажам, пра мову — доктара ***Янкі Станкевіча***; з гістрорыі Беларусі — ***Шкялёнка***, з псіхалёгіі — доктара ***Станіслава Станкевіча*** старшага (таго дацэнта медыцыны, якога потым бальшавікі арыштавалі і зьнішчылі недзе), з архітэктуры — інжэнера ***Івана Касяка***, з музыкі — ***Куліковіча***. Я таксама на хуткую руку падрыхтаваў артыкул зь беларускай геаграфіі і этнаграфіі. Гэты матэрыял застаўся пры архівах гэтай арганізацыі і да сёньняшняга дня, відаць.

Некаторыя чарнавікі тых артыкулаў засталіся са мной, потым, як я выязджаў, я іх вярнуў аўтарам. Гэта значыць, артыкул доктара Янкі Станкевіча, ён потым яго друкаваў, па-мойму, у нейкім з сваіх часопісаў; Куліковіча (Шчаглова) аб музыцы і інш. Яны потым былі надрукаваныя ў розных выданьнях.

Будучы ў Англіі, я бачыў таксама адзін з чарнавікоў інжэнера-архітэктара Івана Касяка, відаць, ён трапіў з часткай майго архіву, што я перадаў Абрамчыку, а Абрамчык перадаў у бібліатэку Скарыны ў Лёндане.

Вось такая была праца мая. Там, у гэтым Гэхштаце, я дасседзеў аж да таго часу, калі ўжо бальшавікі падышлі блізка да Радзібору. Саветы ўжо пачалі падходзіць пад Кракаў. Тут паявіліся грузавікі эвакуацыі канцэнтрацыйных лягераў, відаць, з найбліжэйшага каля Кракава Асьвенціма. Словам, сярод гэтых маіх сужыльцаў-вучоных, што працавалі для прапаганды, павеяла такім страхам: а што будзе з намі? Бо ніхто нічога не гавора, усе сядзяць, па-старому працуюць. Зьвярнуліся да нямецкіх шэфаў, і аднаго разу з Бэрліну прыехаў вельмі высокі чыноўнік зь Міністэрства прапаганды, магчыма, заступнік міністра (так прынамсі казалі) і зрабіў даклад аб

сучасным становішчы Нямеччыны. Ён гаварыў, што „мы" (гэта значыць, яны) вайну прайгралі, гэта ўжо ўсім бачна, але ў іх, маўляў, яшчэ ёсьць надзея. „Мы" рыхтуем аружжа, якое, калі здолеем скарыстаць (калі пасьпеем скарыстаць), дапаможа „нам" вярнуцца на свае старыя пазыцыі. А калі не, то „вы" (гэта значыць, мы) падзеліце наш лёс.

Выслухаўшы гэты даклад таго высокапастаўленага палітычнага дзеяча, я спакаваў чамаданы і думаю сабе: „Вашага лёсу я дзяліць не зьбіраюся." І адным з апошніх цягнікоў, разам зь Ліманоўскім, праз Уроцлаў (тады Брэслаў) паехаў у Бэрлін.

А гэтыя вучоныя, што там засталіся, якім, магчыма, некаторым імпанавала, што будуць дзяліць лёс з так высокапастаўленымі людзьмі, засталіся ў іхнае распараджэньне і, як да мяне потым даходзілі весткі, сапраўды падзялілі іхны лёс у турмах, разам з нацыстамі пры амэрыканскай акупацыі.

## Амэрыка

***А. Шукелойць:*** — У Амэрыку мы пераязджалі на караблёх, якія былі падрыхтаваныя для амэрыканскага войска ў час вайны. Гэтых караблёў амэрыканцы мелі вельмі шмат, (так званыя „транспарты"). Гэтыя „транспарты" былі скарыстаныя для перавозкі ў Амэрыку так званых „пераселеных людзей", новай эміграцыі.

У Амэрыку я прыехаў у Бостан, з Бостану пераехаў цягнікам у Нью-Ёрк. Тут для мяне была падрыхтаваная ўжо кватэра, бо кожны, хто сюды ехаў, ён усё ж кіраваўся тымі самымі прынцыпамі, якія былі ў Амэрыцы, якія ёсьць цяпер. Трэба было мець апекуна (спонсара), запэўненае памешканьне і працу. Тады гэта было даволі свабодна. „Спонсары" былі пераважна нашыя людзі, з нашай хвалі эміграцыі, якія прыехалі на год ці на два раней, маючы сямейныя кантакты з Амэрыкай. Напрыклад, мой спонсар доктар Янка Станкевіч пераехаў раней, бо тут ягоны брат родны быў у Амэрыцы.

Кожны стараўся ўладзіцца недзе адразу на


(выкадроўка)

***Янка Станкевіч. 1938 г.***

працу, бо мы дапамогі ніякай ня мелі. Так што трэба было адразу йсьці працаваць. Працаваць людзі ішлі пераважна на фабрыкі альбо ў нейкія, скажам, кафэтэрыі, на кухні, на самыя цяжкія і брудныя работы. Пасьля году ці двух ужо людзі апаноўвалі ангельскую мову і стараліся перакваліфікоўвацца на розныя працы альбо (калі на фабрыцы) на прафэсійныя заняткі, альбо шукалі працы „вайт калар" (белага каўнера) — значыць, інтэлігенцыі.

Наша хваля (пераважна) мела магчымасьць уладжвацца настаўнікамі, бо было зацікаўленьне расейскай мовай. Можна было атрымаць працу бібліятэкару, лекару (але з былога Савецкага саюза яны не карысталіся такімі правамі, як, скажам, лекары зь нейкай некамуністычнай дзяржавы перад вайной, і таму йшлі працаваць пераважна ў лябараторыі).

Я нейкі час працаваў на фабрыцы, а потым перайшоў на працу ў вялікую краму вопраткі. Там той гаспадар, уласьнік магазінаў, запрапанаваў, што ім патрэбны чалавек на прыёме тавару. Калі б я хацеў застацца на сталую працу ў іх, то ён пашле мяне на курсы пры вышэйшай школе, якая рыхтуе розных працаўнікоў прадукцыі тавараў для вопраткі і таксама спэцыялістых па праектах вопраткі, спэцыялістых па мастацкім афармленьні крамаў. Прыём тавару — гэта такая




*Заля ў беларускім культурным цэнтры „Полацк" у Кліўлендзе (ЗША), 2000 г.*

спэцыяльнасьць з галіны фасону, самая, можа, і нудная, пагрунтаваная на хіміі, але яна давала магчымасьць працы на ўзроўні інтэлігента. Таму я потым, закончыўшы той курс, адпрацаваў больш за 20 гадоў у гэтай краме на прыёме тавараў. Адтуль выйшаў на пэнсію.

Адначасна з гэтай працай для куска хлеба трэба было прымаць актыўны ўдзел у арганізацыйным жыцьці беларускай эміграцыі. Як ведама, да нашай хвалі эміграцыі, што прыехала пасьля Другой Сусьветнай вайны, тут беларуская ранейшая эміграцыя не была сарганізаваная ў самастойныя арганізацыі.

Для нашай хвалі эміграцыі належылі, можна сказаць, пачаткі грамадзка-палітычнага і рэлігійнага жыцьця беларускай эміграцыі. Па палітычнай лініі была прадоўжаная праца Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Легальнай часткай гэтай працы былі грамадзкія арганізацыі, гэта найперш — ***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*** (як амэрыканская арганізацыя, заснаваная ў 1949 годзе з сваімі аддзеламі ў розных гарадах, дзе асела беларуская эміграцыя: Кліўленд, Чыкага, штат Нью-Джэрзі, Нью-Брансьвік, Бостан, Вашынгтон. Таксама была адноўлена Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная царква.

Першыя прыходы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы паўсталі ў Нью-Ёрку, у Кліўлендзе, Нью-Джэрзі, Нью-Брансьвіку, у Канадзе ды Аўстраліі.

Беларускія вучоныя і мастакі сарганізавалі таксама Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, навуковую арганізацыю, якая ладзіла рэфэраты на навуковую тэму, а сябры гэтай арганізацыі вывучалі розныя галіны беларускай рэчаіснасьці ў тыя часы: гаспадарку, культуру, мастацтва, выдавалі кнігі (і цяпер выдаюць).

Апрача гэтага было сарганізавана цэлы шэраг дапамаговых арганізацыяў, якія займаліся зборам грошай і таксама вопраткі і высылалі для тых эмігрантаў зь Беларусі, якія засталіся ў Нямеччыне і ў іншых дзяржавах Эўропы, а пасьля (калі была магчымасьць) высылалі таксама для тых, што вярнуліся з савецкіх турмаў і лягероў на Бацькаўшчыну.

# Пра габрэяў

***З. Пазьняк:*** — Цікава было даведацца па ходу нашай гаворкі пра сутнасьць і канкрэтныя факты дачыненьняў да габрэйскага насельніцтва ў міжваенны пэрыяд у Польшчы і потым, за часы гітлераўскай акупацыі на Беларусі. Тым больш, што бальшавіцкая і кагэбоўская прапаганда спэцыяльна ўсё перакручвала. Добра было б вярнуцца да таго, пра што мы ўжо гаварылі раней і высьветліць некаторыя малавядомыя аспэкты больш падрабязна.

***А. Шукелойць:*** — Тут я хачу тады спачатку ўспомніць пра нацыянальныя адносіны ў міжваеннай Польшчы. Нашыя палітычныя арганізацыі *Грамада* і *Хадэцыя* існавалі, так бы мовячы, ва ўмоўна дэмакратычнай Польшчы. У выбарах выступалі супольна ў блёку нацыянальных меншыняў. І блёк нацыянальных меншыняў праводзіў працу і выбары ў Сойм і выбары самаўраду. У Вільні, напрыклад, на выбарах ў Гарадзкую Раду ў супольнай лісьце з габрэямі былі беларусы. Ад беларусаў быў там на адным з пачатковых нумароў ведамы ў Вільні дзеяч доктар ***Баляслаў Грабінскі***, хадэк.

Другое, аб чым трэба яшчэ гаварыць, гэта аб рыхтаваньні габрэямі моладзі, якая ехала ў Палестыну, дзе выкуплялі для іх зямлю і арганізоўвалі кібуцы. У падрыхтоўцы гэтай моладзі прымалі ўдзел беларускія спэцыялісты. (Я пра гэта ўжо адзначаў раней.) Трэцяе, аб чым я хацеў бы ўспомніць, што ў час той Польшчы на Віленскім ўнівэрсітэце габрэяў трактавалі гэтаксама дрэнна, як і беларусаў („нумэрус кляўзус", „нумэрус нулюс" і г.д.). Так што мы мелі аднолькавыя там тады „правы".

Тое, што нацыяналістычная польская моладзь дамагалася асобных лавак для габрэйскай моладзі ва ўнівэрсітэцкіх аўдыторыях, выклікала бурныя сутычкі беларускіх і габрэйскіх студэнтаў з польскімі шавіністамі. Дайшло да таго, што ўнівэрсітэт на нейкі час быў зачынены. Так што ў гэтым часе ў нас вельмі такое блізкае ўзаемапаразуменьне было з габрэйскім насельніцтвам Вільні.

***З. Пазьняк:*** — Чаму абмяжоўвалі некаторыя прадметы для беларусаў і габрэяў, напрыклад, медыцыну? Чаму баяліся, каб беларусы паступалі на медыцыну?

***А. Шукелойць:*** — Медыцына дае незалежную прафэсію. Хаця ў гэтым часе ўжо таксама не давалі працы на Беларусі. І таму беларускія студэнты, скончыўшыя медыцыну (вось ведамыя нашы дзеячы: доктар ***Мікола Шчорс***, які нават быў два гады старшынём Студэнцкага Саюзу і доктар ***Вітаўт Тумаш***), яны ў заходняй Беларусі працы не знайшлі, мусілі выехаць у Польшчу. Такое было становішча.

Ужо на эміграцыі, калі мы на гэту тэму гаварылі з Міколам Шчорсам (я зь ім заўсёды быў у вельмі добрых дачыненьнях), ён мне казаў (калі я ўспомніў пра гэты „нумэрас кляўзус"): „Польскіх студэнтаў, якія хацелі на гвалт стацца лекарамі, але



***Баляслаў Грабінскі (хадэцыя)***

не паступілі ва ўнівэрсітэты ў Польшчы, дык іх прымалі вельмі лёгка на Віленскім унівэрсітэце. І разьмяркоўвалі іх на Беларусь".

***З. Пазьняк:*** — Значыць, гэта была звычайная асімілятарская палітыка.

***А. Шукелойць:*** — Так. Гэта тое, што было перад вайной.

Часы нямецкай акупацыі. Я гаварыў пры іншай нагодзе, што на першым тым нелегальным сходзе ў Менску, які адбыўся ў 1941-м годзе ў кабінэце Антона Адамовіча ў гарадзкой Управе, абмяркоўвалася таксама дачыненьне да жыдоў. Было прынята, што пры ўсялякай магчымасьці, дзе толькі можна, супроцьстаўляцца нямецкай палітыцы ў дачыненьні да габрэяў і дапамагаць ім у здабываньні так званых „арыйскіх папераў". І гэта было потым пры розных нагодах роблена. Атрымаўшы „арыйскія паперы", чалавек меў магчымасьць працаваць на розных пасадах, а часта – і захаваць сваё жыцьцё.

У час, скажам, калі старшынёй управы Менску быў прафэсар Іваноўскі, загадчыкам электраэнэргіі быў інжэнер-габрэй. Прафэсар Іваноўскі якраз паклікаў мяне, папрасіў, каб ягоную жонку прыняць на працу ў музэй. Што я і зрабіў. Была яна вымаганы час, здаецца, паўгоду, ці што. А потым атрымала належныя арыйскія паперы і ўжо свабодна сабе жылі ў горадзе да канца акупацыі.

І так шмат-шмат нашых ведамых дзеячоў дапамагалі ў час нямецкай акупацыі жыдам. У прафэсара Іваноўскага, потым у ягоным фальварку на Лідчыне, у Лябёдцы, таксама перахоўвывалі габрэяў. Тут у нас, у Нью-Ёрку, доктар Янка Станкевіч ужо перад сьмерцяй атрымаў такі ліст падзякі ад ведамага жыдоўскага дзеяча, вельмі спрытнага, які ў час нямецкай акупацыі стварыў цэлую арганізацыю, падпарадкаваную ня Менску, але Вільні ці Рызе.

***З. Пазьняк:*** — Адміністрацыі Остлянду, значыць.

***А. Шукелойць:*** — Магчыма. І з гэтай арганізацыяй дзеяў на цэлую прастору. Арганізацыя мела нейкі характар такой прапагандовай службы.

***З. Пазьняк:*** — Як прозьвішча таго дзеяча?

***А. Шукелойць:*** — Яго прозьвішча было зьмененае, па-мойму, нешта, калі я не памыляюся, Заксаў. Шырэй аб ім ёсьць ва ўспамінах суддзі Леаніда Галяка ў перашай частцы. Там ён успамінае, што колькі ні пытаў немцаў, дык ніхто не сказаў яму, што гэта за арганізацыя. Ніхто ня ведаў. Значыць, выглядае, што ён сам стварыў арганізацыю і зь ёй дзейнічаў. Быў у нямецкай уніформе, і сваіх людзей, супрацоўнікаў, таксама апрануў у нямецкія уніформы. Вельмі спрытны хлопец быў, вельмі спрытны. Раздаваў дазволы на праезд чыгункай, скажам. У час вайны даволі цяжка было дастаць дазвол. Магчыма, што недзе ў мяне захаваўся нават нейкі дакумант, выдадзены ім у паездку.

Апрача гэтага вялікую дапамогу арганізавалі для габрэйскіх дзяцей. У Менску было, нешта, тры групы, дзевяць ці дзесяць такіх „дзецдомаў". Старшынём гэтай цэлай сістэмы быў ведамы потым на эміграцыі дзеяч ***Якуб Рэпэцкі*** (ужо не жыве, памёр у Канадзе). Ён быў загадчыкам гэтых дамоў. Заўсёды набіралася шмат габрэйскай дзетвары, якую бацькі высылалі на горад у розныя цэрквы, дзе іх потым падбіралі ў гэтыя дзіцячыя дамы. З гэтых дамоў потым дзяцей адпраўлялі на правінцыю, у розныя часткі Беларусі. Там лягчэй было з утрыманьнем.

***З. Пазьняк:*** — Куды іх адсылалі, у сем'і?

***А. Шукелойць:*** — Адсылалі, так. Ад мяне, напрыклад, забірала заўсёды такая інспэктар у Вялейцы, інжэнер ***Ганна Сухая***. Яна іх адвозіла і там недзе расьпіхвала, дзе, я ня ведаю. У кожным разе, гэтыя дзеці выхоўваліся ці перахоўваліся ў нашых беларускіх сем'ях.

З правінцыі прывозілі ў Менск розныя харчы (гэта па лініі Самапомачы), а зь Менску вывозілі габрэйскіх дзетак. Так што такім парадкам дапамагалі.

***З. Пазьняк:*** — Ці ведалі пра гэта ва Ўправе? Хто гэтым кіраваў?

***А.Шукелойць:*** — Іваноўскі ведаў і кіраваў таемна ад немцаў. У яго ў самога, я ўжо казаў, ў фальварку дзьве асобы габрэйскія перахоўваліся, і ва Ўправе габрэі працавалі.

***З. Пазьняк:*** — Вацлаў Іваноўскі — вядомы беларускі дзяяч (пісаў пад псэўданімам ***Вацюк Тройца***). Яшчэ да Першай Сусьветнай вайны



*А. Шукелойць, 1970-я гг.*

ўдзельнічаў у беларускім культурніцкім руху. Якое ягонае паходжаньне?

***А.Шукелойць:*** — Іваноўскі, гэта быў стары наш дзеяч. Гэта шляхціц сярэдняга ўзроўню, зь Лідчыны, іхны маёнтак Лябёдка. Іх трох братоў было. Кожны зь іх выбраў іншую нацыянальнасьць. Старэйшы стаў палякам, сярэдні Вацлаў — беларусам, а малодшы, Тадэй, стаўся літоўцам.

Наш, той беларус Іваноўскі, яшчэ як студэнт Палітэхнічнага інстытуту ў Пецярбургу быў адным з тых, што арганізоўвалі першыя беларускія арганізацыі. Менавіта: Беларскую Рэвалюцыйную Грамаду, а потым — Беларускую Сацыялістычную Грамаду (БСГ).

Найбольшая ягоная заслуга — гэта арганізацыя перашага беларускага выдавецтва ў Пецярбургу — ***„Загляне сонца і ў наша ваконца”***, якога Іваноўскі быў старшыня.

Шмат якія маткі габрэйкі, што мелі магчымасьць выйсьці з горада, аддавалі сваіх дзяцей суседкам, казалі: „Вось ты забяры маё дзіцё, можа табе ўдасца перахаваць яго.” Так што былі і гэтакія дзеці.

Некаторыя, якія ведалі, што яны габрэі, то, відаць, пасьля вайны вярнуліся да сваіх, а некаторыя так і засталіся.

Зразумела, што, з габрэйскага пункту гледжаньня, гэта можна было па-рознаму тлумачыць, бо ж гэтыя дзеці маглі ўжо і не вярнуцца да габрэйства, але з пункту гледжаньня гуманнасьці, тое, што выконвалі тады нашыя людзі, гэта была вялікая ахвярнасьць. За гэта маглі налажыць галавой. Немцы, калі б даведаліся, — не цырымоніліся б.

Тое, што нам там закіды робяць, то закіды гэтыя не габрэйскага паходжаньня, а маскоўскага. Гэта старая традыцыя ў іх, каб падняць антысэмітызм на Беларусі. Нават калі глядзець у гістарычным аспэкце, то заўсёды Масква нешта прыдумвала такое. Быў некалі выдуманы нават адзін сьвяты такі, што „убіенны жыдамі”, казалі.

Наш прыезд у Амэрыку ня выклікаў ніякай варожасьці з боку габрэйскага насельніцтва. Наадварот — прыхільнасьць. І ведамы габрэйскі дзеяч у нью-ёркскіх колах *доктар* ***Ліхтэн*** (прафэсар нью-ёркскага ўнівэрсітэту) першы прышоў да нас і сказаў, што ён гатовы зрабіць рэфэрат і расказаць там аб стаўленьні габрэяў да беларусаў з увагі на тое, што ў час вайны мы ўсе паводзілі сябе на шмат лепшым узроўні, чым іншыя народы, акупаваныя нямецкай нацыстоўскай арміяй. Ён потым вельмі шмат нам дапамагаў. Ён падпісаў, дарэчы, хартыю Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, у дужа блізкіх дачыненьнях з Тумашам быў, са мной таксама. Ён заўсёды нас запрашаў на розныя габрэйскія імпрэзы, на банкеты ведамых тут дапамаговых габрэйскіх арганізацыяў. Я асабіста быў на банкеце ў Міноры (дапамаговая арганізацыя). Разам з Тумашам былі таксама на розных мітынгах, выбарах і іншых габрэйскіх мерапрыемствах.

Доктар Ліхтэн потым выехаў у Эўропу і там апошняе, што я ведаю (мне расказваў біскуп Чэслаў Сіповіч), Ліхтэн прадстаўляў Ізраіль пры Ватыкане. Тады яшчэ дыпляматычных дачыненьняў не было, але Ізраіль меў там наглядальніка.

Другой асобай, што выканаў вялікую ролю для нас, — гэта сэнатар ад Нью-Ёрку ***Якуб (Джэкаб) Джэвіц***. Ён заўсёды арганізоўваў з нагоды 25 Сакавіка малітву ў Сэнаце. На адчыненьне паседжаньня Сэнату заўсёды ехала дэлегацыя зь Нью-Ёрку з уладыкам Васілём — архіепіскапам Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Уладыка Васіль адчыняў малітвай паседжаньне Сэнату. Даслоўна 25 Сакавіка альбо (калі не выпадала 25 сакавіка) — у нейкі дзень, блізкі да 25-га. Малітвы Ўладыкі Васіля і прамовы Джэвіца надрукаваныя ў справаздачах Кангрэсу ЗША.


(выкадроўка)

***Станіслаў Станкевіч. 1938 г.***

Зь дзеячоў нашага гораду вельмі прыхільна ставіўся ***Кач*** (з паходжаньня нават па бацькох — беларускага). Ён Кох пішацца, але па-ангельску чытаецца Кач. Ён яшчэ жыве, такі жыццярадасны. Ён заўсёды з нагоды 25 Сакавіка выдаваў праклямацыю ад горада і бываў на нашым сьвяткаваньні.

***З. Пазьняк:*** — Якое становішча ён займаў?

***А. Шукелойць:*** — Ён быў маёрам (мэрам) гораду Нью-Ёрку. Ён вельмі вясёлы чалавек. Ён і цяпер яшчэ выступае часта.

Тады суды ішлі паміж штатам Нью-Ёрк і Нью-Джэрзі за тую выспу, дзе стаіць статуя Свабоды.

***З. Пазьняк:*** — Так, 50 гадоў судзіліся.

***А. Шукелойць:*** — Здаецца, і цяпер яшчэ суды ідуць. Але быў такі мамэнт за часоў Кача, што Нью-Ёрк выйграў. Ён тады журналістам сказаў, што суд выйгралі, і гэтая статуя Свабоды як стаяла задам да Нью-Джэрзі, так і будзе стаяць.

Цяпер, дарэчы, на мэра гораду ішоў наш прыяцель ***Грын***. Ён таксама ў нас на сьвяткаваньні 25 Сакавіка бываў. Гэта багатая габрэйская сям'я, да іх належаць вялікія крамы прадуктовага характару.

Тады, калі ён быў у Кангрэсе, у нас склаліся добрыя дачыненьні. Потым ён выбыў, і з таго часу кантактаў няма.

Гэтыя дачыненьні беларускай эміграцыі і габрэйскіх дзеячоў у Амэрыцы ці амэрыканскіх палітычных дзеячоў габрэйскага паходжаньня так неяк сталі непакоіць Маскву. І расейцы пачалі рабіць захады супраць дзеячоў беларускай эміграцыі, супраць прафэсара Адамовіча, доктара Станіслава Станкевіча. Гэта дзьве асноўныя асобы ў час халоднай вайны ў змаганьні з бальшавіцтвам па лініі Інстытуту вывучэньня СССР. Там старшынёй бываў пераважна доктар Станіслаў Станкевіч. Заўсёды на зьезды Інстытуту ў Эўропу езьдзіў Адамовіч.

Мела значэньне таксама радыё, здабытае ў час халоднай вайны, яно было адраджэнскім. Апрача гэтага — дачыненьні беларускай эміграцыі з палітычным Вашынгтонам.

Усё гэта выклікала ў Маскве такую злосьць, і

пачалі востра выступаць супраць беларускай эміграцыі, даказваючы, што цэлы шэраг нашых дзеячоў актыўна супрацоўнічаў зь немцамі. Пачалася пісаніна. Былі спэцыяльна нанятыя людзі, якія прыязджалі ў Нью-Ёрк і ваколіцы, у беларускія калёніі эміграцыі. Вялі гутаркі на тэмы сучаснай гісторыі, удаючы, што яны гісторыкі. Зьявіўся такі „вучоны" юрыст, наняты бальшавікамі, Лофтус, які цэлую кніжку на гэтую тэму напісаў. Кніжка шырока тут разыходзілася ў Амэрыцы, таксама ў Эўропе. На кніжку паклікалася потым бальшавіцкая прапаганда. І так яшчэ мацней білі па эміграцыі.

***З. Пазьняк:*** — Але кніжку Лофтуса ў вучоным сьвеце ніхто сур'ёзна не ўспрымае, бо разабраліся, што гэта фальсіфікацыя. На яе ніхто не спасылаецца. Хіба што самыя адсталыя прапагандысты.

***А. Шукелойць:*** — Так. Але ж антыбеларуская прапаганда йдзе, а ў Беларусі нават сёньня. Выдумваюць неіснуючы антысемітызм там, дзе наадварот, беларусы ратавалі людзей.

Супраць кніжкі гэтых гісторыкаў, што былі нанятыя Масквой, быў цэлы шэраг паважных артыкулаў. Пісалі доктар Тумаш, Адамовіч, Станкевіч, Запруднік — гэта дзеячы таго Інстытуту вывучэньня СССР, цэнтраля яго была ў Мюнхэне, і там выдавалася спэцыяльна мноства артыкулаў. Мне здаецца, наш аддзел у гэтым Інстытуце выдаў ці ня 10 зборнікаў. Зборнікі перакладаліся на ангельскую мову.

***З. Пазьняк:*** — Што гэта за гісторыя з Гутырчыкам падымалася?

***А. Шукелойць:*** — Гэта таксама выдуманая гісторыя. У Маскве выдуманая, а сюды яна спушчаная, відаць, разам з грашыма, на ахвотных заняцца.

Быў лягер у Калдычэве. Гэты лягер у асноўным быў для злоўленых партызанаў. І потым для тых, што мелі сувязь з партызанамі. Так што туды траплялі часта і нашыя хлопцы і дзяўчаты, якіх падазравалі, што яны маюць сувязь з партызанамі. Там, у Калдычэве (недзе каля Баранавічаў) былі таксама габрэі, такія, што ня з гета, а недзе зь іншых мяйсцовасьцяў (спэцыялісты ўсялякія, што засталіся).

Кушаль нейкі час быў вайсковым інспэктарам. І вось, як інспэктар, ён адведаў гэты лягер у Калдычэве дзеля таго, што адзін з нашых зьвязаў ахоўваў тую тэрыторыю. Гэта значыць — ад партызанаў. Зьвяз беларускі, 13-га, па-мойму, батальёна, ці рота там нейкая 13-га батальёна. Яны ахоўвалі тэрыторыю навонкі.

На Кушаля тое Калдычэва зрабіла вельмі дрэннае ўражаньне. Ён быў там усярэдзіне. Немцы ўсярэдзіне кіравалі ўсім гэтым. І там немец адзін разам з Кушалем ішоў па калідоры і лупіў там гэтых вязьняў. Словам, біў іх пры Кушалі. На Кушаля ўсё гэта вельмі дрэнна падзейнічала.

У адну бурную ноч (была навальніца і дождж) габрэі з гэтага лягеру разрэзалі драты і ўцяклі. Даслоўна — ўсе ўцяклі. Гутырчык быў у тым лягеры адным з падафіцэраў у роце 13-га батальёна. І таму потым яму прышылі, што гэта ён быў адным з ахоўнікаў гэтага лягеру. Ніхто не шукаў больш ахоўнікаў, толькі якраз яго. Бо ж ахоўвала гэты лягер вялікая колькасьць людзей. Але ніхто больш не шукаў, і таму гэта вельмі падазроная справа была.

Цяпер другая (лягічна беручы) справа: хто гэтым габрэям перадаў інструмэнты, каб перасекчы дрот. Скуль яны маглі мець гэта ўсё? Цікава. Зь неба ж не звалілася. Трэба было прынесьці ці перадаць.

Цяпер трэцяе пытаньне: няўжо гэты батальён такі дурны быў, што ня мог палавіць гэтых людзей? Гэта ж сотня людзей уцякала. Не адзін, ня 10 і ня 20. Але каля сотні. Няўжо яны так моцна спалі ў тую ноч, што такое? Усё гэта, калі лягічна передумаць, то відаць ніткі, якімі сшытая цэлая справа.

Нічога праўдзівага ў гэтым няма. Усё выглядала інакш. Беларускія жаўнеры гэтага самага 13-га батальёну перадалі інструмэнты, якімі трэба было разрэзаць дрот, і вязьні гэтымі інструмэнтамі, скарыстаўшы начную навальніцу, разрэзалі дрот і ўцяклі, разьбегліся. Ніхто іх не лавіў. Вось як.

***З. Пазьняк:*** — Рота іх проста выпусьціла?

***А. Шукелойць:*** — Выпусьціла. Ніхто іх не лавіў. Не гаворыцца, што „выпусьціла", бо тады б цэлую роту немцы расстралялі. Вось гэта тое, што

мне расказваў Кушаль. На мой розум, таксама гэтак выглядае.

Але мала таго. Тады, калі гэтую справу з Гутырчыкам стварылі, тады была халодная вайна. І беларусы прымалі ў ёй вельмі актыўны ўдзел, асабліва Адамовіч, Станкевіч. І таму тут быў ціск на эміграцыю з боку Масквы і КГБ. Але што справядліва, гэта тое, што ў Гутырчыка ў выніку суду адабралі амэрыканскае грамадзянства. Таму што ён, як ехаў у Амэрыку, не сказаў, што ёсьць вайсковым чалавекам, што служыў у войску (закон ёсьць такі). Гутырчык салгаў аб гэтым. Гэтая „калдычаўская" справа ў судовым рашэньні была ні пры чым.

***З. Пазьняк:*** — А як яны яму прышылі справу? Адкуль гэтага Гутырчыка НКВД знайшло? Як гэта атрымалася?

***А. Шукелойць:*** — Тут падаслалі такога чалавека, які ўдаваў, што ён гісторык. Прозьвішча ягонае, магчыма, ведае Янка Запруднік, ён зь ім спатыкаўся. Няведама, што гэта за чалавек быў. Ці гэта з разьведкі габрэйскай, ці з савецкай разьведкі. Словам, ён удаваў, што ёсьць гісторык, прыехаў з Францыі быццам і зьбірае матэрыялы пра становішча беларусаў у час 2-й Сусьветнай вайны. Былі людзі, што яму пра ўсё расказвалі. Ён вельмі мала быў тут, у Нью-Ёрку. Ня ведаю, ці зь кім тут спатыкаўся. Са мной не спатыкаўся, хаця мог бы спаткацца, бо я старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Ці, скажам, мог бы спаткацца з Вітаўтам Кіпелем (старшыня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва), але Кіпель яго ня ведае. Выняткова ён быў, па-мойму, на радыё ў Запрудніка. Але найбольш праседжваў у Саўт-Рывэры, бо даведаўся, што там пахаваны якраз прэзыдэнт Астроўскі, і што там, відаць, асела беларуская эміграцыя, якая супрацоўнічала з Астроўскім. І таму ён там у іх сядзеў. Цэлы час прыходзіў у Беларускі цэнтар, у той іхны клюб, выпіваў разам. І там пазнаёміўся, відаць, з Гутырчыкам, які любіў выпіць, і таксама расказваць сам аб сабе, павыхваляцца. Так стварылі гэтую справу.

Сапраўднасьць была іншай, і нашыя дачыненьні з габрэямі ў Амэрыцы склаліся на грунце якраз гэтай супольнай рэчаіснасьці. Савецкая прапаганда зрабіла свой адмоўны ўплыў найбольш ў СССР. Тут жа яна ня дзейнічала. Я ўжо казаў пра доктара Ліхтэна, а ён жа быў дырэктарам „Антыдыфэмэйшан ліг" (арганізацыя, якая мае заданьне выкрываць і змагацца з антысэмітызмам). Доктар Ліхтэн выявіў ахвоту спаткацца зь беларускай эміграцыяй, зрабіць даклад, дзеля таго што ён яшчэ ў час нямецкай акупацыі спэцыяльна вывучаў пытаньне акупацыі на Беларусі і напісаў нават на гэту тэму дасьледчыцкую працу. Так што ёсьць ягоная праца ў ангельскай мове аб становішчы на Беларусі ў час нямецкай акупацыі. Праца выйшла раней, чым у 50-х гадах. Бо ў 50-х гадах мы прыехалі. Я меў яе асобным выданьнем.

Далей ён з намі актыўна супрацоўнічаў. Шмат дапамагаў. Ён быў адным з тых, хто пры дапамозе іншага прыяцеля-габрэя, які працаваў у бібліятэцы заступнікам загадчыка славістычнага аддзелу (Бэрнштайн), дапамог арганізаваць першую нашую вялікую выстаўку ў Публічнай бібліятэцы на 5-й эвеню і 42-й вуліцы. Былі мы таксама на ўнівэрсітэце, які тут маюць габрэі, на выпуску вучоных-дактароў і на цэлым шэрагу іншых габрэйскіх мерапрыемстваў.

Словам, доктар Ліхтан уводзіў нас у амэрыканскае жыцьцё. Адной з такіх цікавых малаведамых акцыяў дзеля ўдзелу ў халоднай вайне была сустрэча беларускай і габрэйскай інтэлігенцыі ў спадарства Русакоў у Брукліне. Там тады ад імя арганізацыі, якая мела прыняць актыўны ўдзел у халоднай вайне, з намі сустрэўся такі фон Левін (Леван чытаецца, Левін пішацца). Пасьля гэтага цэлая група нашай інтэлігенцыі з Адамовічам, Станкевічам, тады тут быў яшчэ прафэсар Дарашэвіч, прыняла ўдзел у арганізацыі Навуковага Інстытуту вывучэньня СССР у Нямеччыне і радыё „Свабода". Так што мы цэлы час мелі добрыя дачыненьні з габрэямі ў нашай палітычнай дзейнасьці супраць бальшавіцкіх акупантаў.

***З. Пазьняк:*** — Гэта адказ на нашыя добрыя адносіны?

***А. Шукелойць:*** — Правільней сказаць, што гэта вынік беларуска-габрэйскіх добрых адносінаў, якія існавалі здаўна.

# Доля

***З. Пазьняк:*** — Як бы хто ні думаў, ні меркаваў, а дачыненьні да габрэяў у часы 2-й Сусьветнай вайны сталі для большыні ўдзельнікаў канфлікту выпрабаваньнем на чалавечнасьць.

Увесь сьвет, які змагаўся з фашызмам, ратаваў жыдоў. Знайшліся таксама такія, што падтрымалі гітлераўскую палітыку вынішчэньня, гублялі людзкое аблічча. Гэтак жа, як пазбаўляліся аблічча чалавека энкавэдзісцкія забойцы беларусаў у Курапатах.

У камуністычна-фашыстоўскай бойні, якую ўчынілі расейцы разам зь немцамі ў ХХ-м стагоддзі, беларусы засталіся людзьмі, захавалі твар. Беларусы страцілі тры мільёны забітымі, набылі Курапаты і Хатынь, але ня здолелі нават асэнсаваць як трэба свой галакост.

І таму, па ўсім відаць, нас яшчэ доўга чакае цяжкая доля.

* * *

***З. Пазьняк:*** — Што трэба, на ваш погляд, рабіць, каб палепшыць долю беларускай нацыі?

***А. Шукелойць:*** — На гэта няпроста адказаць адным словам, бо народ наш і Бацькаўшчына ёсьць цяпер у вялікім нацыянальным занядбаньні.

***З. Пазьняк:*** — Як думаеце, чаму мы ўвесь час апускаемся да занядбаньня? Чаму трацім эліту нацыі? Чаму нашы непрыяцелі, нават менш культурныя, менш кемлівыя, заўсёды выглядаюць лепш за беларусаў у нацыянальнай барацьбе? Адкуль гэтае інфантыльнае чаканьне добрых дзядзькаў, што ўсё зробяць і ўсё дадуць?

Глянем хоць бы на нашу гісторыю за апошнія 200 гадоў. Напалеён не зьбіраўся пашыраць вайну на ўсход. *„Яе межамі,* — пісаў ён, — *будуць Менск і Смаленск. Тут я спынюся... і займуся арганізацыяй Літоўскай дзяржавы.”*

Ну чым ня добры дзядзька? Адновіць нам дзяржаву. А потым, калі напалеёнаўскія пляны зьмяніліся, беларусы (ліцьвіны) сталі адзін супраць другога пад чужымі сьцягамі з абодвух бакоў пад Барадзіно. У выніку — атрымалі агульнае вынішчэньне і расейскую „цёмную ноч”.

У нашым друку ўжо пісалі (Валеры Буйвал) [3] пра сымболіку карціны *Антуана-Жана Гро „Напалеён у бітве пад Эйлаў”.* Паслухайце, што піша пра сюжэт мастацтвазнавец: *„Імпэратар аб’яжджае на кані поле бітвы. Сьнег засыпае груды трупаў. Паранены чалавек у расейскім мундзіры няўклюдна паўзе і цягне руку да пераможцы. Нехта са сьвіты пераказаў потым гэты эпізод жывапісцу. Паранены казаў Банапарту, што хацеў бы служыць у ягоным войску. Казаў, што ён ліцьвін, мабілізаваны маскоўцамі на абарону іхняй імпэрыі. Цяпер кожны экскурсавод па Луўру расказвае перад карцінай пра „літоўца”* (вядома ж, паводле ўсіх крыніцаў – „Lituanien”). Беларус на чужой вайне, за чужыя інтарэсы, у чужым мундзіры, а ў дадатак яшчэ пад чужым імем – і так 200 гадоў пасьля згубы сваёй дзяржавы*”.*

А вось другая карцінка, трошкі пазьнейшая: *„видишь, стоит изможден лихорадкою высокорослый больной белорус...”* і г.д. Той, хто заканчваў савецкую школу за часы СССР, ведае гэтую білеберду (з расейскага паэта А. Някрасава), што прыклейвалі на ўвесь народ.

Амаль два стагоддзі акупанты зьнішчалі (вывозілі, забівалі, расстрэльвалі, рэпрэсавалі) беларускую шляхту, шляхецкую моладзь і інтэлігенцыю. Сталін завяршыў гэты працэс, а за адно зьнішчыў і сялянства, каб і адтуль не расло.

У выніку беларусы засталіся без зямлі, без уласнасьці і без нацыянальнай эліты, а дзяржава (умоўная, вядома), пасьля таго, як забралі Вільню, — апынулася без сталіцы. Нацыя без галоўнага горада. Культура бяз цэнтра.

***А. Шукелойць:*** — Наконт Вільні, то я не магу надзівіцца, як гэта такое магло стацца. Зразумела, што тут расейская палітыка, накіраваная супраць Беларусі і Польшчы – ліквідаваць культурна кансалідуючае значэньне Вільні, каб падрэзаць жылы, дык аддалі тым, якія ніякага дачыненьня да культуры Вільні ня маюць.

Нядаўна я чытаў дыскусію пра Вільню. Спрачаліся там нейкія ў Менску, маўляў, чаму гэта апошнім часам Вільня так моцна ўпала.

***З. Пазьняк:*** — Гэта праўда, Вільня пакідае цяпер уражаньне пустога малалюднага

правінцыйнага горада. Горад нібы заснуў, нейкі шэры соцыюм. Поўнасьцю страціўся сьвяточны віленскі дух. Нуда і соннасьць, і людзі, нібы не гарадзкія. Гэта вынік таго, што рэзка адсеклі Вільню ад Беларусі. Пабудавалі „жалезную заслону", мяжу там, дзе яе ніколі не было.

Заснавалі і паўтысячагоддзя будавалі і разьвівалі Вільню беларусы. (Дарэчы, старажытныя балты ня мелі гарадоў, і да канца XIV-га стагоддзя былі паганцамі.) Потым (з XVIII стагоддзя) пэўны ўклад зрабілі палякі і жыды; у апошні перадваенны час уплывала афіцыйная




***Жнівень 1991 г. Беларуская нацыянальная рэвалюцыя***

***А. Шукелойць:*** — Во-во. І яны, значыць, спрачаюцца, чаму так сталася. Так ні да чаго і не дагаварыліся. Ніхто не захацеў глянуць у корань, якія ж культуры стварылі Вільню і якія культуры, адпаведна, жывяцца з гэтага горада.

На пачатак XX-га стагоддзя Вільня адлюстроўвала культуру і была культурным цэнтрам для 60 мільёнаў людзей: гэта беларусаў (15 мільёнаў), палякаў (30 мільёнаў) і жыдоў (15 мільёнаў).

польская культура. Але ў аснове сваёй (па насельніцтву, укладзе жыцьця і ў традыцыях) Вільня заставалася горадам беларускім і гэтак трымалася ў сьведамасьці ўсіх беларусаў. У гэты ж самы час Вільня была культурным і навуковым цэнтрам сусьветнага жыдоўства. І пакуль гэтыя народы (гэта значыць беларусы, жыды і палякі) мелі доступ і дзеялі ў Вільні, Вільня духоўна і культурна жыла.

Цяпер жа атрымалася, што Вільня дасталася



(Фота А. Сільвановіча)

*Прэзыдэнт Мікола Абрамчык выступае пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. 1960 г.*

нешматлікаму народу, які ніякага культурнага ўкладу ў Вільню не зрабіў. Не было нават заўважнай этнічнай прысутнасьці цяперашніх летувісаў (ці гістарычнай Жмудзі) ў Вільні, бо Вільня ад пачатку заснаваная крывічамі знаходзіцца на беларускай этнічнай тэрыторыі. Вільня для цяперашніх летувісаў — культурна чужы горад, і штучна тут нічым не дапаможаш, культурнае жыцьцё віраваць ня будзе, бо няма для яго гістарычных культурных каранёў. Вось у чым прычына правінцыялізацыі і заняпаду Вільні.

***З. Пазьняк:*** — Так, сапраўды. Можна назваць Вільню Вільнюсам, касьцёл Пятра і Паўлы касьцёлам Пятраса і Паолы, касьцёл Яна – касьцёлам Ёнаса і г.д. Але па сутнасьці ад гэтага нічога не зьмяняецца ў культурным сэнсе. Як толькі зірнеш у гісторыю культуры Вільні, то ўсё рассыпаецца, ня знойдзеш там ні Пятраса, ні Ёнаса, бо ў сярэднявеччы нават пісьмовай мовы летувіскай не існавала, а адпаведна – нічога не было на ёй і напісана.

Я ня схільны перабольшваць долю габрэйства і палякаў у культуры Вільні. Гэта былі ўсё ж часовыя ўплывы. Вільня для беларусаў, як пісаў ***Уладзімер Жылка***, — *„крывіцкая Мэкка”*. Але Вільня – сапраўды ўнікальная зьява ў культуры. Вільня, на добры лад, павінна б была цяпер набыць статус вольнага полікультурнага горада са сваім адмысловым самакіраваньнем, бюджэтам (дапамога міжнародных фондаў) і палажэньнем, якія гарантавалі б разьвіцьцё этнічных культураў і моваў Вільні.

Якраз складваюцца добрыя ўмовы, бо Летува ўступіла ў Эўразьвяз і павінна прытрымлівацца эўрапейскіх дэмакратычных стандартаў у культурнай палітыцы (асабліва ў Вільні і на Віленшчыне).

Павінен сказаць, што яшчэ з часоў *„Саюдзіса”* маю вельмі добрыя адносіны зь летувіскімі дэмакратамі (мы падтрымлівалі іх у крытычных момантах незалежнасьці Летувы) і ведаю, што ў цэлым яны прыхільна настроеныя да полікультурнай аўтаноміі Вільні і разумеюць становішча. Аднак ініцыятыва, вядома ж, павінна зыходзіць ад зацікаўленых грамадзтваў.

Трэба спакойна, без эмоцыяў разумець відавочнае, што Вільню немагчыма выкрасьліць зь беларускай гісторыі і культуры. Яна заўсёды была і будзе ў беларускай сьведамасьці, пакуль існуе Беларусь. І заўсёды будзе ўзьнікаць настальгія і жаданьне вярнуць страчанае. Такая ёсьць праўда, якую разумеюць у Беларусі і ў Летуве, і пра якую стараюцца прамаўчаць. Але я лічу, што лепш пра яе гаварыць і шукаць сучаснае дэмакратычнае разьвязаньне.

***А. Шукелойць:*** — Калі разглядаць беларускую нацыю ў культурна-гістарычным абсягу, як адзіны арганізм, то Вільня гэта ёсьць галава. Хоць роля Менска ў аднаўленьні і станаўленьні беларускай дзяржаўнасьці вельмі вялікая.

***З. Пазьняк:*** — Фармальна гэтаму моцна паспрыялі абставіны 1-й Сусьветнай вайны. Якраз у гэты час Менск палітычна ўзвысіўся.

Ёсьць адзін аспэкт у гэтым пытаньні, які я хацеў бы ўдакладніць. Лёс роду ***Луцкевічаў.***

***А. Шукелойць:*** — Менская частка жыцьця Луцкевічаў неяк мала дасьледваная. А тут шмат цікавага. Гэта гэрбавая шляхта. Жылі ў Менску здаўна. Бацька братоў Луцкевічаў, якога звалі ***Ян***, удзельнічаў у паўстаньні ***Кастуся Каліноўскага***. Пасьля здушэньня паўстаньня, яму неяк удалося пазьбегнуць рэпрэсіяў і замаскавацца. Служыў у расейскім войску. Пахаваны ў Менску на ***Кальварыі***. Помнік падпісаны па-польску, дзе сказана, што ***Ян Луцкевіч*** быў афіцэрам расейскага войска.

***З. Пазьняк:*** — Гэта, здаецца, як ісьці да касьцёла, то зь левага боку.

***А. Шукелойць:*** — Так. Дамы Луцкевічаў (іх было два, стары і новы) стаялі на вуліцы *Хрышчэнскай,* унізе, каля Сьвіслачы. З другога боку на гэтай вуліцы стаяў дамок ***Янкі Купалы***. У 1944-м, калі вярталіся саветы, увесь бок вуліцы, дзе стаяў дом Купалы, згарэў. Дамы Луцкевічаў ацалелі, але пасьля вайны саветы іх разбурылі.

У Яна Луцкевіча было пяцёра дзяцей: сыны ***Іван***, ***Антон***, ***Стэфан***, дочкі ***Амілія*** *(Эмілія)* і ***Вікторыя***, якая памерла ў два гады.

Жонка *Яна Луцкевіча*, ***Зоф'я***, была з роду ***Лычкоўскіх***, вельмі прыгожая жанчына (як відаць на фатаграфіі яшчэ XIX стагоддзя).

*Стэфан* быў лекарам. Выглядаў вельмі



***Сям'я Луцкевічаў. 1905 г. Стаяць: Кастусь Шпакоўскі (далёкі сваяк), Амілія (Эмілія) Луцкевіч (Шабуня), Антон Луцкевіч; сядзяць: Зоф'я Луцкевіч, Дзіня (далёкая сваячка, бона), Іван Луцкевіч***

шляхетным чалавекам, праўда, цікавіўся больш паляваньнем, сваёй прафэсіяй і сьвецкім жыцьцём. У беларускім руху не адзначыўся.

У 1930-х гадах, калі Купала рабіў сабе „харакіры" (парэзаў жывот), то першы, хто ратаваў яго, быў якраз Стэфан Луцкевіч, які яго агледзеў, выклікаў хуткую дапамогу, і Купалу адвезьлі ў шпіталь.

*Амілія Луцкевіч* закончыла Інстытут шляхетных дзяўчат у Беластоку. Выдатна валодала французкай і нямецкай мовамі. Акрамя таго размаўляла па-польску, па-расейску і, вядома, па-беларуску. Яна выйшла замуж за ***Аляксандра Апалінаравіча Шабуню***, маёнтак якога, *Шаромысьль*, быў пад *Мар'інай Горкай*. ***Шабуні*** – гэта моцная беларуская гэрбавая шляхта (гэрб «Бабёр на камені»), удзельнічалі ў беларускім вызвольным і рэвалюцыйным руху. Асабліва родны брат Аляксандра і дзядзька спадарыні ***Яніны Шабуні-Каханоўскай – Антон Шабуня***.

Дачка спадарыні *Яніны Каханоўскай*, ***Юля***, на эміграцыі выйшла замуж за ўкраінца ***Паўло Андрусішына***. Іхныя дзеці, сыны ***Юрка*** і ***Багдан*** (беларускі сьпявак *Данчык*), маюць паходжаньне па жаночай лініі з роду Луцкевічаў. Такая вось гісторыя.

Дарэчы, дом у Ракуцёўшчыне, дзе бываў ***Максім Багдановіч*** – гэта фальварак Луцкевічаў. Мелі яго па жаночай лініі. Нядаўна на Беларусі гэты дом спалілі.

***З. Пазьняк:*** — Так, гнюсная і подлая вайна. Але вернемся да галоўнай тэмы пра лёс будучыні Беларусі.

Бяда ня толькі ў тым, што страцілі сталіцу. Гора яшчэ ў тым, што, калі казаць коратка і вобразна, на працягу ўсяго паднявольнага пэрыяду пасьля страты дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага беларус, „измождён лихорадкою", не даваў падняцца і ўстаць раненаму беларусу з карціны Антуана Жана Гро.

Было, што сяляне здавалі інсургентаў Каліноўскага ў рукі царскіх сатрапаў. (Тады расейцы згнаілі ў Сібіры цэлае пакаленьне шляхецкай моладзі). А ў 1930-я гады, у часы сталінскага тэрору і рэпрэсіяў, „измождённый" падняўся з-пад плоту і навучыўся ня толькі пісаць даносы на лепшых, але й забіваць сваіх.



***Амілія Шабуня (Луцкевіч) з малой Янінай Шабуняй (Каханоўскай). 1911 г.***



(Фота 1880-х гг.)

***Зоф'я Луцкевіч (з дому Лычкоўская). Маці братоў Луцкевічаў***

Вось дзе фэномэн. Праблема чужой галавы.

Так выглядае пытаньне ў абвостранай інтэрпрэтацыі. Што трэба, каб здабыць нармальную долю Беларусі, калі такое кароткае ёсьць жыцьцё, што не хапіла цэлага ХХ-га стагоддзя?

***А. Шукелойць:*** — Вось жа з пытаньня вынікае адказ, як з дзеяньня – супроцьдзеяньне. ***Трэба адрадзіць эліту нацыі. І найперш трэба ўзгадаваць духоўна моцных асобаў.***

Мусяць быць духова моцныя людзі, што бяруць адказнасьць. Яны пойдуць і павядуць. Вось жа, скажам, *Тамаш Грыб*, ці доктар *Мікола Чарнэцкі*, ці *Юльян Саковіч* – моц. Турмы і страхі не зламалі Саковіча. А багаты на той час чалавек, ня парабак, ня з лапцяў прышоў у палітыку. (У сваім фальварку Балдыры меў абшары зямлі і лесу, трымалі 52 каровы.)

Дарэчы, ня толькі арганізацыя беларускай паліцыі, але й вайсковыя адзінкі – таксама ягоная праца. Ну й *Кушаль*, вядома, ствараў. Але Кушаль больш як вайскавік-спэцыяліст.

Саковіч і ў савецкіх партызанах закладваў беларускае падпольле (не інфармуючы немцаў), за што, відаць, яго пад забойства і падвялі.

Духовая моц асобы ёсьць найважнейшая якасьць і найбольшая каштоўнасьць у палітычным змаганьні. Калі моцных індывідуальнасьцяў няма, то грошы партыю не падымуць. Хутчэй загубяць (тым больш, калі дармовыя). Грошы патрэбныя для выхаваньня новага пакаленьня. Найперш, гэта справа арганізацыі розных легальных гурткоў і таварыстваў у вучэльнях і ўвогуле – ў грамадзтве, бо маладая асоба выхоўваецца ня толькі ў сям'і ды школе, але й асяроддзем.

У цяперашніх умовах, якія на Беларусі, гэта вельмі цяжка, але не бяда, не найгорш, ня трэба апускаць рукі. Бо вядома і засьведчана ня раз, што пры дабрабыце ды задаволенасьці гіне духовая сіла. Дабрабыт і задаволенасьць у грамадзтве разьядаюць пакаленьне, мізэрнее дух. Крочыць маса абываццеляў і любуецца сабой.

***З. Пазьняк:*** — Беднасьць і галеча ператвараюць чалавека ў нявольніка. Ён не разьвіваецца.



*Беларуская дэманстрацыя каля ААН, 1997 г. Нью-Ёрк*

***А. Шукелойць:*** — І гэта праўда. Трэба змагацца з прычынамі галечы і дапамагаць духоваму разьвіцьцю. Дзеля гэтага паклікана эліта. Найперш там не павінна быць заспакаеньня.

Вось у Польшчы ў 30-я гады старая загартаваная польская інтэлігенцыя, што паскакаць. А вось вынік. Немцы стукнулі – і ўсё пасыпалася. Тых палякаў, што ў 1920-м гналі бальшавікоў з-пад Варшавы, аж пыл курэў, ужо не было, а моладзь здрабнела. Гэтак я ўважаю.

Але вярнуся да пытаньня пра долю. Ведаеце, ліха ходзе і ня сьпіць. І вось думаю, што рабіць


(Фота А. Сільвановіча)

***На беларускай выставе ў Беларускім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі), 1998 г.***

здабыла незалежнасьць, — адыходзіла. Што адбывалася ў гэты час у школах – ніхто не цікавіўся ўсур'ёз і ня думаў. А трэба было спэцыяльна „ствараць людзей", арганізоўваць умовы для росту асобаў.

Былі, вядома, розныя суполкі, інтарэсы. Клеілі ды выстрыгалі, плавалі на лодках, хадзілі ў турпаходы, танцы, выпіць, пасьмяяцца, пагуляць, пабавіцца ды часу сьцерці. Гэтакая арганізацыя паводзінаў нічога не дае для фармаваньня маладой асобы, а часам нават шкодзіць.

***З. Пазьняк:*** — О, так. Я называю гэта культурнай формай актыўнага гультайства, спажываньне жыцьця. Набытак невялікі.

***А. Шукелойць:*** — Хоць маладому трэба й тады, калі Беларусь (ня дай Божа) страціла б незалежнасьць.

Ёсьць шмат прыкладаў, адпаведных беларускай долі, у нашых суседзяў. Найперш – у палякаў. У часы паўстаньня 1830 года палітычныя колы Польшчы выкарысталі паэта (дарэчы, нашага земляка-беларуса) ***Юльяна Нямцэвіча***, сябра і дарадцу (ад'ютанта) Касьцюшкі. З дыпляматычным даручэньнем яго паслалі ў Англію. У Англіі яму сказалі, што справа Польшчы ёсьць унутранай справай Расеі, і Англія ва ўнутраныя справы іншай дзяржавы ўмешвацца ня будзе. І з гэтым Нямцэвіч вярнуўся.

Нашае становішча сёньня падобнае. Так выглядае, што Захад гатовы быў бы нас здаць Маскве.

І што рабіць у такім выпадку? Заўсёды трэба мець на ўвазе адпаведную дзейнасьць у двух кірунках. Першае, у самой нашай краіне, каб нас ня зьнішчылі зусім.

***Мы мусім захаваць дух змаганьня.*** Дух змаганьня! Мы можам шмат што страціць: і дзяржаву, і маёмасьць, і школу, — але дух змаганьня мы мусім захаваць. І калі мы патрафім утрымаць дух змаганьня на Беларусі, дух незалежнай дзяржавы, дух народу, — мы будзем мець будучыню. Утрымаць яго ў неспрыяльных варунках ёсьць асноўнае наша заданьне.

Як гэта рабіць, якім чынам, як утрымаць нашыя арганізацыі, гурткі, школы, ініцыятывы, сям'ю і г.д. – гэта ўжо іншае пытаньне. Але калі ня будзе беларускага духу змаганьня, супраціўленьня і беларускага стварэньня, то шмат што страцім і нічога не дасягнем. Маючы дух змаганьня, захаваем мову.

***З. Пазьняк:*** — Ведаеце, пра дух змаганьня вы трапілі ў кропку. У гэтым уся й бяда, што дух змаганьня аслабеў. Я думаў, чаму так сталася. І прыходжу да высновы, што прычына – расейскі генацыд за саветамі. Беларускія нацыянальныя вярхі былі фізічна зьнішчаныя. Засталіся нізы. Маштабы вынішчэньня былі такімі вялікімі, мэтадычнымі і працяглымі, што выклікалі зацяжную катастрофу беларускай нацыі, якая ня скончылася і сёньня. Парушылася структурная сувязь паміж пластамі і пакаленьнямі людзей, паламалася гармонія цэлага. Калгасны прыгон на вёсцы ў спалучэньні з русіфікацыяй у гарадах дэфармаваў беларускі дух.

І тут я сьведама згушчаю фарбы, каб лепш бачыць. У 60-80-х гадах у сувязі з масавым перасяленьнем (дакладней, уцёкамі) насельніцтва калгаснай вёскі ў гарады (і гэта, ня гледзячы на інстытут прапіскі) адбылася „калхозізацыя" мэнтальнасьці грамадзтва, якая дайшла да абсурду, калі калгасьнік, ненавісьнік незалежнасьці і беларушчыны, стаў прэзыдэнтам краіны. Пра які дух змаганьня тут можна было гаварыць?

Змаганьне і па сёньняшні дзень ёсьць у Беларусі выбарачнай справай, выключэньнем з правіла, здабыткам мяншыні. Яно не набывае масавага характару. Бо не змагаюцца людзі, якія ня маюць і ня мелі свайго, нават думак.

І вось тут, сапраўды, прадоўжыць шлях можа толькі нацыянальная асьвета і новае пакаленьне, якое адновіць дух змаганьня. Але кожнае страчанае пакаленьне адкідвае ўсіх назад.

***А. Шукелойць:*** — Калі згоршыцца сітуацыя, трэба будзе ўдакладніць тактыку. Я ўважаю, што стварэньне арганізацыяў строга нелегальных было б на сёньняшні дзень не карысным, бо нават КГБ, нават чужынцы будуць тады замест праўдзівых тварыць розныя фальшывыя нелегальныя арганізацыі, каб гэтакім спосабам сьцягваць моладзь на дарогу, ня шкодную для панявольваючай дзяржавы, а з другога боку – кампрамэтаваць наш рух.

***З. Пазьняк:*** — Стварэньне арганізацыяў і друкаў пад кантролем КГБ цяпер вельмі распаўсюджаны прыём. Я б сказаў нават, што моладзь яны паралізуюць. Мы шмат трацім.

***А. Шукелойць:*** — Таму трэба было б шукаць магчымасьцяў і спосабаў супрацьдзеяньня. Але ў кожным разе трэба мець перад вачыма адно – мы мусім утрымаць дух беларускага народа ў ягоным змаганьні за незалежную Беларускую дзяржаву. Гэта на Бацькаўшчыне.

З другога боку, мы мусім трымаць беларускае імя навонкі. Каб часам ня сьцерлі нас. Калі б нават Беларусь перастала існаваць як дзяржава, але ўсяроўна яна павінна быць у нашай памяці, у памяці нашых арганізацыяў за мяжой, у змаганьні за незалежнасьць нашай краіны, каб яна цэлы час была на ўвазе ўсяго сьвету. Бо ўсё ж такі, як бы ні было, гэтыя 12 гадоў незалежнасьці Беларусі шмат зрабілі для будучыні беларускага народу. Нас прызналі дзясяткі дзяржаваў. Мы маем сярод іх прыяцелеў і прыхільнікаў. І трэба за ўсялякую цану гэтую сімпатыю да нашага народу і нашай дзяржавы (калі яна нават і страціць незалежнасьць) утрымаць у вольным сьвеце.

***З. Пазьняк:*** — Паводле сказанага, хочацца зьвярнуць увагу, што нашыя непрыяцелі (і былыя расейцы-бальшавікі, і цяперашнія расейцы-гэбісты) выдатна гэта разумеюць. Заўважце: унутраная палітыка накіраваная на тое, каб крок за крокам пазьнішчаць усе беларускія



***Натальля Арсеньнева (рэпрадукцыя з карціны П. Мірановіча, алей)***

арганізацыі, усе асяродкі, дзе выхоўваецца беларускі дух і беларуская сьведамасьць, дзе вывучаюць гісторыю і культуру. Апошнім часам зьнішчылі знакаміты Беларускі Гуманітарны ліцэй у Менску. Адбываецца зачыненьне апошніх беларускіх школаў, арганізацыяў, не дапускаецца стварэньне іншых арганізацыяў. Акурат гэтаксама ў 1930-х гадах у акупаванай заходняй Беларусі рабілі тагачасныя польскія ўлады. Да 1939 года там пазачынялі і ліквідавалі, практычна, усе беларускія арганізацыі.

Міжнародны аспэкт. Наша гісторыя ХХ-га стагоддзя склалася так, што мы, беларусы, гэтак жа, як і палякі, ці жыды,ператварыліся ў сусьветную нацыю. Трэба ўсьвядоміць гэта. Мы жывём на ўсіх кантынентах. І прычына такая ж, што і ў іншых. Акупацыя, антынацыянальны рэжым, перасьлед, несвабодная Бацькаўшчына.

Расейцы-бальшавікі ўвесь час стараліся зьнішчыць палітычную беларускую эміграцыю. Добра вядомыя іхныя наскокі і дзейнасьць за мяжой у асяроддзі беларусаў. Цяпер Масква зноў шле сюды сваіх цемнякоў, вярбуе, стварае ўжо свае кантралюемыя праз КГБ асяродкі у Эўропе. У Амэрыцы яны нават вырабляюць свае друкі, дзе бэсьцяць Раду БНР і беларускае Адраджэньне. (Газэту „Беларус", напрыклад, называюць „рэліктавым антыкамунізмам" і „невылечнай русафобіяй". Знаёмая тэрміналёгія.) І гэта ў той час, калі на Беларусі ліквідуюць беларускія школы, часопісы, мову, друк, арганізацыі, зьнішчаюць усё беларускае. Гэта праявы далёкаідучай палітыкі. У Маскве думаюць наперад пра той час, калі ўжо захопяць Беларусь і каб тады не было каму тут, за мяжой, бараніць нашу краіну і незалежнасьць.

Калі прааналізаваць беларускую барацьбу з расейскім гэбізмам, то нашыя непрыяцелі цяпер ідуць наперадзе. Яны пралічваюць наперад нашыя патрэбы і дзеяньні ў змаганьні за нацыянальнае выжываньне, робяць перашкоды і нават прэвентыўныя захады.

Але істотна, каб якраз мы былі больш прадбачлівымі і больш ініцыятыўнымі.

***А. Шукелойць:*** — Прынцыпы і посьпех усялякай змагарнай дзейнасьці палягаюць на дынаміцы. Мы мусім ісьці наперадзе. Трэба пераганяць, жыць па правілах прыроднага разьвіцьця. Інакш – гора. Максім Багдановіч пісаў: *„Супраць цячэньня вады можа толькі жывое паплыць. Хвалі ж ракі заўсягды цягнуць тое, што скончыла жыць."*

Вы кажаце, што цяпер на Беларусі сьпяшаюцца зачыняць рэшту беларускіх арганізацыяў, дабіваюць беларускую школу. Дык гэта ж ведамая справа для чаго робіцца. Каб потым пры захопе Беларусі ня трэба было зачыняць гэта самым расейцам і не выклікаць незадаволенасьці супраць сябе. Акупацыя ўжо даўно робіцца рукамі Лукашэнкі. Маскоўцы хочуць прыйсьці на падрыхтаваную пляцоўку. І тады Лукашэнка, між іншым, ім ужо не патрэбны. Відаць, проста ліквідуюць яго.

***З. Пазьняк:*** — Ліквідуюць, калі забяруць ягоныя грошы, сакрэтны „бюджэт". Расейская цяперашняя ўлада – гэта гэбоўская мафія. Грошы для іх – і ўлада, і дзяржава, і палітыка. Яны пасьлядоўна праводзяць акупацыйныя дзеяньні ў Беларусі рукамі сваёй крэатуры – Лукашэнкі, навязалі яму бясконцы гандаль зь імі за сваю

скуру (хоць у рэальнасьці справа йдзе за Беларусь). Вось ён і гандлюецца.

Гаворачы пра беларускую долю, мы маем на ўвазе, што кожны беларус у залежнасьці ад яе мецьме і сваю чалавечую долю. І мы з вамі таксама.

Ці не ўзьнікалі ў вас думкі, што можна б было неяк усё зрабіць інакш? Бо найцяжэй для душы – на чужыне. Ну, скажам, можа ня варта было эвакуавацца зь Менску? Вы ж нават у гарадзкой адміністрацыі не былі, кіравалі музэем, культурнай установай. Шмат хто застаўся, некаторыя нават вярнуліся.

***А. Шукелойць:*** — Маё рашэньне аб эвакуацыі на Захад было правільным. Я быў арыштаваны НКВД у першыя дні вайны і потым уцёк з турмы. Гэтага бальшавікам было б дастаткова, каб, што называецца, радыкальна вызначыць мой лёс. Астатняе дадалі б, што хацелі: і музэй, і Беларускі Студэнцкі Саюз, і нават аднаўленьне касьцёлаў пад акупацыяй.

Мы добра бачылі, што расейскія бальшавікі зьнішчалі ўсіх актыўных, сьведамых беларусаў, і ў першую чаргу – беларускіх дзеячоў усіх накірункаў, асабліва палітычнай арыентацыі, адрознай ад бальшавіцкай. Мы ўжо мелі вопыт 30-х гадоў. Памяталі, што сталася з Тарашкевічам, Цьвікевічам, Ластоўскім, Рак-Міхайлоўскім, Аляхновічам, Янам Пазьняком і іншымі.

Тыя беларускія дзеячы, што засталіся ў Менску ў 1944 годзе (і тыя, што вярнуліся пазьней), з прыходам расейцаў і „чырвонай арміі" былі арыштаваныя, сасланыя ў Сібір (дзе загінулі), альбо былі расстраляныя. І такіх наіўных людзей было шмат.

***З. Пазьняк:*** — Наіўнасьць – гэта нейкі фэномэн у тых людзей, нейкае дзіўнае неадчуваньне небясьпекі пры добрым веданьні маскоўцаў і мэтадаў НКВД. Мне расказваў доктар Кіпель пра такога ***Міхаіла Пугачова***, які кіраваў аддзелам Беларускай Краёвай Абароны, а на Захадзе перайшоў да ўласаўцаў. Потым, калі паўстала пытаньне аб дэпартацыі і аб выбары шляху, то жонка ягоная – расейка – угаварыла яго вярнуцца ў СССР, маўляў, нічога ня станецца, табе „прасьцят" і г.д. Пугачоў вярнуўся, і бальшавікі яго зьнішчылі.

***А. Шукелойць:*** — Наконт жонкі не скажу, ня чуў, але Пугачова ведаў. Ягоны лёс дрэнны. Ён вярнуўся, бальшавікі яго схапілі і павешалі ў Віцебску.

Пугачоў быў капітанам „чырвонай арміі", здаецца, нават расеяц. Ён застаўся ў Менску ў 1941-м, і ўвесь час быў заступнікам начальніка менскай паліцыі. Потым кіраваў адным з батальёнаў БКА. Дарэчы, быў вельмі прыстойным, сур'ёзным чалавекам, добра адносіўся да беларусаў, супрацоўнічаў з намі.

***З. Пазьняк:*** — На якой мове супрацоўнічаў, між іншым?

***А. Шукелойць:*** — Па-беларуску, вядома. Ведаў. Расейскай жа мовы тады не было. Усе каманды вайсковыя, усё — па-беларуску.

***З. Пазьняк:*** — Не выглядае, каб такі чалавек быў слабога характару і паддаўся на ўгаворы. Сумная гісторыя.

Мне, дарэчы, гэта нагадвае чамусьці прапаганду вакол маёй асобы. Пішуць, не хаваючыся: „кулю яму, кулю", „кто пульнёт?" і г.д. („Свабодные новости", „БДГ", „Московские новости" і інш.)

І ў той жа час рэдактар іншай (беларускай) газэты піша і пацьвельваецца пры гэтым: „Прыязджайце, Зянон Станіслававіч, чакаем, будзем разам працаваць для Беларусі". Маўляў, нічога вам не пагражае, „мы высьвятлялі ў памежнай службе".

***А. Шукелойць:*** — Го! Вам нельга ехаць. Я ўвогуле дзіўлюся, чаму яны вас яшчэ не забілі.

***З. Пазьняк:*** — Гм... Дзякуй, на добрым слове, спадар Шукелойць. Можа, паплюйце. Тры разы.

***А. Шукелойць:*** — (*Сьмяецца.*) Не, ну дык жа ж праўда, — павінны б былі забіць. Гэта ж Масква.

***З. Пазьняк:*** — Відаць, яны пайшлі цяпер іншай дарогай. Топчуць імя.

Дарэчы, у 1996 годзе ім хацелася тое зрабіць. (Тое, пра што вы кажаце.) Ды не атрымалася. Я ня стаў чакаць. Ад'ехаў. Але гэтае іхнае „хаценьне" трэба мець на ўвазе. Памятаеце, як зьнішчылі майго сябра ***Вячаслава Чарнавола*** на Ўкраіне. Між іншым, я яго перасьцерагаў. І ён гэта разумеў...

Ведаеце, гэтае „кулю, кулю" – не такі ўжо ў іх

творчы экспромт. Калі нешта чаўпецца, то ў жыцьці здараецца шмат дзіўных выпадкаў і супадзеньняў.

Нядаўна адзін з сваякоў ***Сяргея Навумчыка*** ехаў у цягніку і разгаварыўся ў купэ са спадарожнікам у цывільным, які аказаўся высокім афіцэрам адной са службаў. Слова за слова, кілішак за кілішкам – даткнуліся тэмы „Пазьняка-Навумчыка*”*.

— Да, слышал, знаю, — сказаў субяседнік сваяка. – Это дело серьёзное. Весьма, я бы сказал. Приказано задержать при любых обстоятельствах при пересечении границы и в случае бегства – стрелять на поражение.

Пазнаеце почырк? Генэральскае думаньне, як у Чачэніі: „Схватить и уничтожить*”*. Гэта нават не Лукашэнка.

***А. Шукелойць:*** — Ну, ведамая справа. Увогуле, у вашай справе, я думаю, вырашае Масква. Лукашэнка тут пешка. Хоць ёсьць там і ягоныя распаражэньні на мяжы затрымаць, і ў газэтах пісалі там, і крымінальныя справы пазаводзілі на вас, але стаіць за гэтым Масква. Не сумняваюся. Тут яе інтэрас. Ім Беларусь трэба забраць. А вы ім перашкодзілі і прадаўжаеце перашкаджаць. Вам у Расею таксама нельга ехаць. Мусіць быць адказнасьць за адраджэнскую справу.

***З. Пазьняк:*** — Ведаеце, кажуць, што беларуская шырокая апатыя і беларускае шырокае цярпеньне бясконцыя, як Сусьвет. Таму вельмі цяжка набраць крытычную масу. Але яна расьце. Шырыцца, як тарфяны пажар пад зямлёй. Набіраецца сіла. І мне радасна яе адчуваць. Мы вернемся. Не сумняваюся ў гэтым. Йшчэ паскача *Пагоня па полі Крапіўным.*

***А. Шукелойць:*** — От, скажыце, што сталася! Змагацца трэба, безумоўна, лупіць па іх. Усё ж відаць, каб цябе воўк... Драматычная пара для Беларусі. Шкода, што супала зь ёй мая старасьць. А то я хацеў бы яшчэ паехаць на Бацькаўшчыну, павыступаў бы, падыскутавалі б. Я, ведаеце, люблю, мяне рэплікамі ды крыкамі не саб’еш.

***З. Пазьняк:*** — Ну, так. „А прайдзёмце-ка, галубчык, з намі*”*. І рэплікаў ня трэба.

***А. Шукелойць:*** — Го-о, ліха матары!



***Са Сьцягам***

# ПАСЬЛЯСЛОЎЕ

Здавалася б, няма неабходнасьці ў пасьляслоўі ці ў тлумачэньні таго, што сказана. І тым ня менш, зыходзячы ня тое што з разуменьня чалавечай прыроды, а хутчэй зь веданьня прапагандысцкіх мэтадаў вялікадзяржаўнай расейскай палітыкі, якая на новым узроўні доўжыцца ў межах былой савецкай імпэрыі, варта сказаць яшчэ раз пра нязвыклую для палітызаванай сьведамасьці сітуацыю.

Беларусы-адраджэнцы розных сьветапоглядаў, розных партыяў і накірункаў супрацоўнічалі пад акупацыямі між сабой, і працавалі ў адно — дзеля волі і незалежнасьці Беларусі. Беларусь была для іх — найвышэйшым. Іх аб'ядноўвала агульнае беларускае перакананьне, разуменьне таго, што пад акупацыяй не існуе „сацыялістаў", „кансэрватараў" ці „дэмакратаў". Партыйныя дактрыны тут ня маюць значэньня, бо яны нерэальныя, неажыцьцяўляльныя, пакуль несвабодная, акупаваная Бацькаўшчына.

Найперш трэба здабыць незалежнасьць, павінна быць вольная Айчына і свая дзяржава. Толькі тады ўзьнікае сэнс у дэмакратыі і зьмест у партыйнай сістэме. Тыпова і заканамерна, што адраджэнец Антон Шукелойць — пасьлядоўнік сялянскага сацыялізму (СР), непрыхільнік камунізму, прыяцель габрэяў, дабрадзеец хадэкаў і пабожны каталік — знаходзіў паразуменьне з усімі дзеля шчасьця вольнай Беларусі.

Расейская камуністычная ўлада ў СССР базавала сваю ідэалягічную палітыку на цярпеньнях і перамозе ў 2-й Сусьветнай вайне. Прапаганда давала вывернуты, аднабаковы і ў шмат якіх аспэктах сфальшаваны вобраз вайны. У людзей выхоўваўся жах перад вайной з Захаду, каб яны трымаліся за савецкую ўладу, за СССР і акупацыю КПСС, як за панацэю ад гэтага жаху, зь якога і нарадзілася савецкая псіхалёгія – *„абы вайны не было"*.

Усё беларускае, вольнае, нацыянальнае, што не ішло тады поруч з савецкай палітыкай (у тым ліку і размова па-беларуску) аб'яўлялася „нацысцкім", „фашысцкім", а беларускія дзеячы і змагары – „здраднікамі Радзімы", „прыслужнікамі фашыстаў".

Тут выяўлялася цынічная мэтодыка прапагандысцкай вайны супраць беларускай нацыі.

Фактам ёсьць тое, што гэтая прапаганда і перакручваньне падзеяў і ацэнак 2-й Сусьветнай вайны атруціла галовы цэлым пакаленьням беларусаў. Вынікі яе трываюць па сёньняшні дзень.

У адным з інтэрв'ю доктар ***Юры Туронак*** папулярна растлумачыў гэтакім людзям, што „калябарацыяй называюць супрацоўніцтва з ворагам на шкоду сваёй дзяржаве і народу. Але ***асноўнай мэтай беларускіх нацыянальных дзеячоў было стварэньне перадумоваў для аднаўленьня ў спрыяльны момант ліквідаванай бальшавікамі дзяржаўнасьці***. Першачарговай задачай лічылася абуджэньне нацыянальнай сьведамасьці народу, арганізацыя беларускай адміністрацыі і войска. Такія памкненьні былі непрыймальнымі для Савецкага саюзу, яны ігнараваліся ягонымі саюзьнікамі – ЗША і Вялікай Брытаніяй, а таксама польскім эміграцыйным урадам, зацікаўленым ў аднаўленьні Рыскай дамовы і ў падзеле Беларусі.

Спробы нацыянальных дзеячоў аднавіць нацыянальную дзяржаву, якая павінна была забясьпечыць інтарэсы беларускага народу, ніяк нельга лічыць калябарацыяй у вышэй акрэсьленым сэнсе. Іхняе стаўленьне да Нямеччыны можа трактавацца як нармальнае супрацоўніцтва ў галіне палітыкі. Такое супрацоўніцтва было ж прыймальным для СССР у 1939-41 гг., калі яно адпавядала ягоным інтарэсам."[4]

Калябарантамі былі якраз шматлікія беларускія кіруючыя камуністы, гэтыя малафеевы ды машэравы, сакаловы ды сьлюньковы, якія нішчылі беларускую мову, школу, ідэі свабоды і прадавалі Беларусь Маскве. Нават на мове размаўлялі маскоўскай.

Факты паказваюць, што беларускія адраджэнскія дзеячы і супраціўленцы ня толькі

палітычна супрацоўнічалі зь немцамі дзеля Беларусі, але адначасна і змагаліся зь імі, пра што сьведчыць стварэньне беларускага падпольля („Незалежніцкай Партыі”), ратаваньне габрэяў, закладваньне (незалежна ад немцаў) беларускай агентуры ў савецкіх партызанах і нямецкай СД, супраціўленьне нямецкай пацыфікацыі беларускага насельніцтва і інш. Пра гэта сьведчыць таксама і зьнішчэньне нямецкімі органамі беларускіх дзеячоў, якія супрацоўнічалі зь немцамі, бо СД і СС, безумоўна, здагадваліся і, верагодна, што ведалі пра існаваньне беларускага нацыянальнага падпольля.

Дзейнасьць беларускіх адраджэнцаў за часы нямецка-фашыстоўскай акупацыі – гэта быў высокі і складаны ўзровень дзейнасьці. Іхняя справа была сапраўдным подзьвігам дзеля Беларусі. Шлях іхны усланы ахвярамі і адзначаны героямі.

Я размаўляў з дзясяткамі гэтых людзей – беларускімі афіцэрамі, жаўнерамі, навукоўцамі і культурна-асьветнымі дзеячамі. І усе яны адзначаюць, што ў акупацыйны пэрыяд 1941—1944 гг, на Беларусі быў самы высокі ўздым нацыянальнай адраджэнскай актыўнасьці і беларускай лучнасьці змагароў, асабліва сярод моладзі.

* * *

Нічога ня мусіць зьнікнуць бясследна і нічога ня згіне ў памяці людзей, што асьвечана любовяй да народу і роднай зямлі. Існуе вышэйшая справядлівасць, і рана ці позна – яна мусіць адкрыцца дзеля працягу праўды.

Ідэалёгія беларускага Адраджэньня існуе ў партыях і ўзвышаецца над партыямі. Бо Адраджэньне для адраджэнцаў – гэта пасьвячэньне для Беларусі. Наша гісторыя пацьвердзіла існаваньне такой рэальнасьці. Наша жыцьцё выявіла такіх людзей.

* * *

— Ну, што чуваць на Беларусі? – кожны раз пытае мяне Антон Шукелойць, як прыязджаю з Варшавы. Ці жыве Беларусь?

— Жыве Беларусь! І будзе жыць! ■

***(Нью-Ёрк, кастрычнік 2001 – верасень 2003 гг.)***



***Пагоня***

# СПАСЫЛКІ

1 *Стар. 8.* Парсіваль, — *„Беларускія Ведамасьці”*, — 2001-2002, №1(41)

2 *Стар. 73.*

WEISSRUTHENIEN

Land an den Flüssen, des Krieges Not
Hielt dich zerfleischend umfangen;
Dein Acker blieb leer, es wuchs dir kein Brot,
Der Samann und Schnitter blieb immer der Tod –
Nun ist er nach Osten gegangen.
Du aber liegst noch im Frühlingswind,
Erzitternd im Wechsel der Zeiten;
In deinen Fluren schafft Weib und Kind,
Der Mann führt den Pflug, das Leben beginnt,
Der Zukunft den Grund zu bereiten.
In deine Wälder fällt Sonnenschein
Und goldener Glanz in die Triften,
Ein leises Lächeln stellt wieder sich ein
Und wärmt und fliesst in die Seelen hinein,
Die Menschen des Leids zu entgiften.
Wenn ich in fernere Tage schau,
Dann seh ich dich strahlend erwachen;
In allem Scharfen auf Gott vertrau,
Dann wächst aus dem Volk, aus Flur und Au‘
Von selbst das glückliche Lachen.
Und wir aus dem Reich, wir helfen dir gern
Den Faden des Glückes zu spinnen;
Damit auch dies Land, der Heimat so fern,
Vertrauend auf Deutschland und seinen Stern,
Kann Brot und Freude gewinnen.

**Karl Kurz**

*(Minsker Zeitung, — 1942, 14-15 Juni)*

*Пераклад*

БЕЛАРУСІ

Краю між рэкаў, ваенны пажар
Цябе ахапіў і трымае.
Ня даў табе хлеба твой шэры папар,
Аратаму й жнеям быў плёнам злы чар, —
Чар сьмерці, што сэрца ня мае...
На ўсход адыйшла яна... Ветры вясны
Табой страсанулі... у полі
Зноў песьцяць зямлю тваю рукі жанчын,
Жыцьцё расьцьвітае, нарог баразьніць
Ральлю пад шчасьлівую долю.
У лясах тваіх сонца праменьне пляце
І золата сьцеле ў хваінах.

Зноў ціхай вясною сьмяецца твой дзень,
І грэе настылыя душы людзей,
Атрутыя злом успамінаў.
Стаю, пазіраю ў прышласьці даль,
І бачу тваё расцьвітаньне.
І бачу, як творыш ты, чую амаль,
Як сэрцы народу твайго, як ральля, —
Сьмяюцца і радасьцяй зьзяюць.
А мы із Нямеччыны ў новыя дні
Ткаць шчасьце табе дапаможам,
Бы ўрэшце і ў гэтым, далёкім краі,
Што зь верай пры нашым народзе стаіць,
Досыць радасьці й хлеба меў кожны.

**Карл Курц**

*(? Беларуская газэта ў Беластоку, 1942, 19 ліпеня)*
Передрук тэкстаў з архіву А. Шукелойця.

[3] *Стар. 121.* Валеры Буйвал. А дзе ж тыя ваяры? – *„*Беларускія Ведамасьці*"*, — 2002, №5(45), с.4-5

[4] *Стар. 134.* *„*Наша Ніва*"*, — 2002, 15 сакавіка.

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

# ІЛЮСТРАЦЫІ

*23. Са сьцягам у руках. (фота А. Сільвановіча)*
*24. Група студэнтаў гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсітэту (1936—1938 гг.), што належылі да „Беларускага Студэнцкага Саюзу”. Зьлева направа 1-ы рад: Валянціна Пашкевіч (Жукоўская), Марыя Мілюць, прафэсар Эрвін Кашмідар, Эма Залкінд (гісторык, габрэйка), доктар Янка Станкевіч (лектар беларускай мовы). 2-гі рад: Антон Шукелойць, Марыя Войтанка, Янка Хвораст (філёляг), Анэля Каткевіч (гісторык), Станіслаў Станкевіч, Мар'ян Пяцюкевіч (этнограф).*
*25. Вільня. 2001 г. Базылянскія муры (фота З. Пазьняка)*
*26. Вільня. 2001 г. Вулачка (фота З. Пазьняка)*
*27. Ксёндз Адам Станкевіч*
*28. Мікола Чарнэцкі. 1938 г. (выкадроўка)*
*29. Антон Луцкевіч (выкадроўка)*
*30. Група беларускіх эсэраў. 1938 г. Зьлева направа: Аляксандар (Аляксандравіч) Барановіч (студэнт права), інжэнер Сяргей Бусел, Антон Шукелойць, Аўген Аніська (студэнт права, рэдактар „Золаку”), доктар Мікола Чарнэцкі (доктар гісторыі Карлаўскага ўнівэрсітэту ў Празе; пасьля Тамаша Грыба – лідэр беларускіх эсэраў і ідэоляг), доктар Мітрафан (Мацьвей) Смаршчок (на эміграцыі – паэт Анатоль Бярозка; жыве ў ЗША ў штаце Мініапаліс).*
*31. Панарама Вільні. 2001 г. (фота З. Пазьняка)*
*32. Савецкі прафсаюзны білет А. Шукелойця.*
*33. Савецкі ваенны білет А. Шукелойця*
*34. Антон Адамовіч, красавік 1991 г. (фота З. Пазьняка)*
*35. У двары старога Менска. 1942 г. Зьезд „Самапомачы”. Рада „Самапомачы”*
*36. Францішак Кушаль (здымак на эміграцыі)*
*37. Натальля Арсеньнева. 1943 г.*
*38. Ля Беларускага музэю ў Менску, 1943 г. Зьлева направа: Лявон Луцкевіч, Леанід Кароль (пахаваны ў Вільні), Дзіма Сямёнаў, Антон Шукелойць (дырэктар), вартаўнік музэю Станіслаў Пісьлевіч (перахоўваў беларускія абразы ў дрывотніку, калі бальшавікі выкінулі іх з музэю перад вайной), Усевалад Кароль.*
*39. Пасьведчаньне загадчыка Менскага Гістарычнага Музэю, 1941 г.*
*40. Касьцёл Сымона і Алены („Чырвоны касьцёл”) за часы нямецкай акупацыі.*
*41. Янка Ліманоўскі, 1944 г. (выкадроўка)*
*42. Менск, 1941-1943 гг. Бернардынскія муры і гандлёвыя крамы (фота Г. Куртца)*
*43. Менск, 1941-1944 гг. Опэрны тэатр (Паводле М. Керзіна — „рэпліка Калізэю”).*
*44-45. „Аўсвайс” А. Шукелойця, 1944 г.*
*46. Вінцэнт Гадлеўскі (выкадроўка)*
*47. Юльян Саковіч, 1942 г. (выкадроўка)*
*48. Першая арганізацыя „Саюзу Беларускай Моладзі” ў 1941 г. Першая зьлева ў другім радзе Надзея Абрамава, пасярэдзіне – айцец Уладзімер Фінкоўскі.*
*49. Менск пасьля вайны. (Фота Ж. Браўна, 1947 г.)*
*50. Ул. Казлоўскі*
*51. Магіла Яна Булгака на Паванзкоўскіх могілках у Варшаве, 2002 г. (фота З. Пазьняка)*
*52. Рэдакцыя „Менскай (Беларускай) газэты”, 1943 г. У першым радзе зьлева направа: Ул. Казлоўскі, Натальля Арсеньнева, Алесь Сінкевіч; другі рад: Уладзімер Кушаль (сын Ф. Кушаля), Антон Адамовіч, Мікола Караленка.*
*53. Мандат на Кангрэс БЦР*
*54. Пропуск у тэатр*
*55-56. Беларускае Культурнае таварыства, 1944 г., Менск (Неафіцыйнае Міністэрства Культуры ў БЦР). Здымак 1, зьлева направа: Антон Шукелойць (аддзел краязнаўства), Юрка Віцьбіч (рэдактар газэты „Узвышша”), Яніна Каханоўская (Шабуня), Янка Ліманоўскі,*

*Анішчык (заг. Аддзелу прапаганды). Здымак 2: кампазытар Мікола Шчаглоў (Куліковіч), Натальля Арсеньнева, Сэлех (намесьнік старшыні), Яўген Калубовіч (старшыня).*

57. *Марка БНР (павялічана)*
58. *Марка БНР (павялічана)*
59. *Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык*
60. *Ларыса Геніюш (1940-я гг.)*
61. *Парыж ноччу, 1998 г. (фота З. Пазьняка)*
62. *Прэзыдэнт Рады БНР Вінцэнт Жук-Грышкевіч (рэпрадукцыя з карціны П. Мірановіча, алей)*
63. *Князь Базыль Сьвятаполк-Мірскі*
64. *Дом Рады БНР у Менску (выява на паштовай марцы БНР)*
65. *Са сьцягам у руках. (фота З. Пазьняка)*
66. *Беларуская аўтакефальная царква ў Кліўлендзе (ЗША), 1996 г. (фота З. Пазьняка)*
67. *Беларуская аўтакефальная царква ў Брукліне на „Атлянтык Эвеню", 401; 1999 г. (фота З. Пазьняка)*
68. *Гэхштат (Гёхштэдт). Замак, куды ў 1944 годзе былі зьвезеныя зборы і экспанаты Беларускага музэю ў Менску.*
69. *Скульптура (бюст) Максіма Багдановіча працы Аляксандра Грубэ (танаваны гіпс), якая знаходзілася ў Беларускім Культурным таварыстве (Дом Рады БНР). Пасьля вайны не захавалася. (Выкадроўка)*
70. *А. Шукелойць, 2-я палова 1940-х.*
71. *Янка Станкевіч (1938 г., выкадроўка)*
72. *Заля ў беларускім культурным цэнтры „Полацк" у Кліўлендзе (ЗША), 2000 г. (фота З. Пазьняка)*
73. *Баляслаў Грабінскі (хадэцыя)*
74. *А. Шукелойць, 1970-я гг.*
75. *Станіслаў Станкевіч (1938 г., выкадроўка)*
76. *А. Шукелойць, 2002 г. (фота З. Пазьняка)*
77. *Беларуская дэманстрацыя ў Нью-Ёрку, 1998 г. (фота З. Пазьняка)*
78. *Жнівень 1991 г. Беларуская нацыянальная рэвалюцыя (фота Ул. Кармілкіна)*
79. *Прэзыдэнт Мікола Абрамчык выступае пад Бел-Чырвона-Белым Сьцягам. 1960 г. (фота А. Сільвановіча)*
80. *Сям'я Луцкевічаў. 1905 г. Стаяць: Кастусь Шпакоўскі (далёкі сваяк), Амілія (Эмілія) Луцкевіч (Шабуня), Антон Луцкевіч; сядзяць: Зоф'я Луцкевіч, Дзіня (далёкая сваячка, бона), Іван Луцкевіч*
81. *Амілія Шабуня (Луцкевіч) з малой Янінай Шабуняй (Каханоўскай). 1911 г.*
82. *Зоф'я Луцкевіч (з дому Лычкоўская). Маці братоў Луцкевічаў. (Фота 1880-х гг.)*
83. *Беларуская дэманстрацыя каля ААН, 1997 г. Нью-Ёрк*
84. *На беларускай выставе ў Беларускім Цэнтры ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі), 1998 г.. (Фота А. Сільвановіча)*
85. *Натальля Арсеньнева (рэпрадукцыя з карціны П. Мірановіча, алей)*
86. *Са Сьцягам (фота З. Пазьняка)*
87. *Пагоня*
88. *З групай новай эміграцыі*
89. *Родны парог (выкадроўка і рэстаўрацыя)*

# ЗЬМЕСТ

УДК 947.6
П 12

Пазьняк Зянон Станіслававіч, кандыдат мастацтвазнаўства

Культурна-асьветніцкае выданьне

*Надрукавана на сродкі аўтара, удзельнікаў кнігі і дабразычліўцаў у Амэрыцы*

**Пазьняк Зянон**
Гутаркі з Антонам Шукелойцем, – „Беларускія Ведамасьці”, Варшава; Таварыства Беларускай культуры ў Летуве, Вільня, 2003. – 144 с.: іл.
ISBN 9955-9337-8-х
УДК 947.6 П 12

Гутаркі з Антонам Шукелойцем, запісаныя ў форме ўспамінаў і развагаў. Кніга для шырокага кола чытачоў.



Запіс гутарак, рэдакцыя тэксту, падрыхтоўка да друку, мастацкі макет, вокладка, фатаграфіі і падбор ілюстрацыяў: *Зянон Пазьняк*
Сьпісваньне з аўдыёзапісу, кампутарны набор і карэктура: *Галіна Палачаніна*
Кампутарны склад па макету: *Робэрт Стаховіч*
Друк: Друкарня „АРО”, Варшава
Наклад: 1150 асоб.
Аддрукавана ў сьнежні 2003 г. у Варшаве.
Папера крэйдавая, фармат 68х86см
Ум. друк. арк.: 13,1
Ул. выдавецкіх арк.: 9
„Беларускія Ведамасьці”, Варшава 02-017, вул. Ерусалімскія алеі, 125/127
Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, Вільня 2004, вул. Жыгімонта, 12 – 3

**ISBN 9955-9337-8-х**